Вечная тревога, труд, борьба, лишения — вот необходимые условия, из которых не должен сметь думать выйти хоть на секунду ни один человек...

*Леў Талстой*

## ПАЧАТАК 80-Х ГАДОЎ

### 2 гадзіны ночы

*Ён зараз быў зусім не такі, якім звычайна бываў удзень.*

*Рэдкія неонавыя агні ліхтароў, што высока віселі на сагнутых уверсе жалезабетонных слупах, слабым малочным святлом ліліся на прыціснутую і прыхаваную бетонам, асфальтам, будынінамі зямлю,— на многія вёрсты, як уздоўж, так і ўпоперак, высвечваючы ў паўзмроку няяркія абрысы шматпавярховых гмахаў, ля якіх цямнелі глухія яміны двароў, дзе зараз стаялі голыя, без лісця, дрэвы. Гэткім жа роўным малочным святлом былі заліты пустыя плошчы з адзінокімі помнікамі, круглыя тумбы ля скрыжаванняў вуліц — на каляровых рэкламных лістах, што былі наклеены на тумбах, красаваліся вусаценькія, з настырнымі пукатымі вачыма хлопцы і дзяўчаткі з распушчанымі валасамі, у руках яны трымалі гітары... У пустых газетных кіёсках гарэлі лямпачкі, свяціліся вітрыны магазінаў з чырвона-жоўта-зялёнымі неонавымі літарамі над дзвярыма, а то і над дахам якога дома. Лілося рэдкае святло і ля доўгіх цагляных ці бетонных агароджаў, за якімі ў маўклівай дрымоце застылі ў цэхах, як і ў шматлікіх складах, станкі, як простыя, так і з праграмным кіраваннем, рухавікі, малыя і вялікія, шматтонныя прэсы і нават доўгая-доўгая стужка ўсясільнага канвеера — усё гэта зараз, без святла і людзей, здаецца нерэальным, неіснуючым нават.*

*Ля скрыжаванняў вуліц дзе-нідзе стаялі купкамі таксі з зялёнымі вочкамі, калі-нікалі ля гэтай купкі паяўлялася чалавечая постаць, і тады адна з машын зрывалася і плыла ў бледна-малочным святле — уздоўж маўклівых будынін, агароджаў, рэкламных агнёў, перасякаючы пустыя плошчы, абганяючы рэдкую постаць з паднятым каўняром паліто ці плашча, амаль не прыпыняючыся на пустых скрыжаваннях вуліц, дзе раўнамерна паміргвалі зараз жаўтавокія светафоры. Нарэшце дзесьці ля слаба асветленага пад'езда таксі спынялася і, выпусціўшы чалавека, гайдануўшыся, зноў плыло да адной з тых родных купак, якія былі раскіданы ў розных месцах усяго гэтага маўкліва-непарушнага, што застыла ў дрымоце.*

*Толькі ў аэрапорце і зараз вялікія вастраносыя машыны з нізка распластанымі над бетонам крыламі, нечым нагадваючы рыб у вадзе, нетаропка перакочваліся то да людна асветленага будынка, то ад яго на ўзлётную палосу. Там яны са злым і магутным рокатам пачыналі імклівы разбег, і вось — іх нос падымаўся ўгору, неверагодна вялікая машына адрывалася ад бетону, і зараз усё было амаль гэтак жа, як і ў той старой кнізе, дзе гаворыцца пра духа божага, што лётае над зямлёй і водамі.*

*Падміргваючы чырвонымі агнямі, машына хутка раставала ў цемры за нябачнымі воблакамі, над якімі па-незямному зырка і ярка гарэлі шматлікія зоркі. Людзі, што сядзелі ў машыне, даўно звыкліся з такімі палётамі, і таму хто — глядзеў ва ілюмінатар, стараючыся ўгледзець знаёмую густую сетачку агнёў, а хто — спакойна ўладкоўваўся спаць, зусім не здзіўляючыся самаму галоўнаму: як гэта халоднае бяздушнае жалеза можа несці самое сябе за тысячы вёрст, разам з «духам божым» у прыдачу...*

*А ля аэрапорта ў гэты час з той жа нябачнай цемры хутка паказаліся такія ж вялізныя машыны, што садзіліся на ўзлётную палосу і, памалу прыпыняючы свой бег, падрульвалі да ярка асветленай будыніны, да такіх жа вялікіх вастраносых машын, якія асобным цёмным касяком застылі ў паўзмроку, гатовыя ў любую хвіліну сарвацца з месца, каб яшчэ адной няўлоўнай ніткаю звязаць Яго з такім жа родным маўкліва-непарушным сярод ночы, што гэтак жа раскінулася на ціхай зямлі недзе за сотні ці тысячы вёрст адгэтуль,— на поўдзень*

ці на поўнач, на ўсход ці на захад — няважна дзе, галоўнае, што ўсе Яны, падобныя адзін на аднаго, былі звязаны між сабою ў штосьці адзінае і суцэльнае.

І таму, як і ў аэрапорце, на чыгуначным вакзале тоўпіліся людзі, многія спалі, хто як: на сядзеннях доўгіх лавак, адкінуўшы галаву, прыадкрыўшы рот, паклаўшы галаву на плячо малазнаёмага суседа, а то, каму не хапіла месца, проста прымасціўшыся на падлозе ля клункаў, некаторыя сонна хадзілі сярод нязвыкла нерухомых людзей,— і ва ўсім гэтым было зараз штосьці ад цыганскага жыцця, раскіданага, незразумелага ў сваёй незавершанасці, як і заўсёды здаецца незавершаным тое, сэнсу чаго мы не ведаем.

Раз-пораз нябачны дынамік з нейкім металічным акцэнтам пачынаў гаварыць, і тады многія людзі варушыліся хутчэй, бралі ў рукі чамаданы, сеткі, сумкі, партфелі і паслухмяна ішлі да перона, дзе ўжо цямнеў у неонавым святле доўгі-доўгі цягнік.

Гэткі ж голас з металічным акцэнтам разносіўся і над вялізнай пусткаю, дзе было густое спляценне чыгуначных рэек,— на сарціровачнай станцыі. Было неяк дзіўна чуць магутнае, невядома каму адрасаванае ў гэтай пустэчы і цемені: «Іваноў, каму кажу: падгані вагоны на шосты пуць. Чуеш, Іваноў?» І вось — далёкі свісток, нечае магутнае чмыханне, перастук колаў, і аднекуль з цемры, як ні дзіўна, выпаўзаюць вагоны, адны — справа, другія — злева... Яны счэпліваюцца ў доўгія ланцугі, якія тут жа хутка панясуцца па роўных, бліскучых пад святлом поўні рэйках некуды далей,— праразаючы прыцемак рэзкім гудком, напаўняючы маўклівую нерухомую прастору гулам і перастукам.

Амаль гэтак жа, як і другія доўгія ланцугі, напоўненыя зараз соннымі нерухомымі людзьмі,— яны рашуча і хутка імчалі да тых жа вакзалаў...

Так, Ён не быў безжыццёвы, у ім струменіліся тыя слабыя нябачныя токі, якія падтрымлівалі ягоны сон.

Раз-пораз з шыпеннем, паліваючы асфальт вадою і тут жа падмятаючы яго, кацілі машыны, асветленыя ліхтарамі, якія былі часова падвешаны да трамвайных дратоў, людзі рамантавалі трамвайныя пуці, гудзелі ярка асветленыя цэхі некаторых заводаў, дзе нават і зараз у высокіх печах за тоўстымі керамічнымі сценамі вогненнымі языкамі плавілася руда ці тое ж шкло, свяціліся вокны бальніц, пажарных, раўнамерна памігва-

*лі сігнальныя лямпачкі на розных кантрольна-размеркавальных пультах электрагазаводазабеспячэння.*

*І Першая вялікая электронна-вылічальная машына працавала цяпер, як і днём, штосекундна складваючы, адымаючы, памнажаючы мільённыя камбінацыі лічбаў, рашаючы задачы найлепшай работы станкоў, рухавікоў, грузавікоў і, дарэчы, усяго таго, што звязана са станкамі, рухавікамі, машынамі: найаптымальнейшых праектаў новых машын і станкоў, новых цэхаў і заводаў...*

*І ўсё гэта — для больш рытмічнага і больш хуткага руху стужкі Галоўнага канвеера, з дапамогаю якога як днём, так і зараз, ноччу, Першая вялікая электронна-вылічальная машына падрыхтоўвала тую складаную і магутную матэрыяльна-тэхнічную базу, на аснове якой з дапамогаю чалавечых рук Яна магла стварыць больш самастойную і больш дасканалую Другую вялікую электронна-вылічальную машыну, якая сама ў сабе будзе знаходзіць непаладкі, сама сабе будзе планаваць тэмы і аб'ёмы, згодна сваёй машыннай логіцы.*

*І між усім гэтым, што непарушна раскінулася на зямлі на многія вёрсты, падтрымліваючы цішыню і парадак, зрэдку адна за другою кружылі і кружылі па даўно распрацаваных маршрутах міліцэйскія «уазікі» з мігалкамі наверсе, звязаныя між сабою нябачнымі сігналамі ў адзіную сістэму, як было зараз звязана між сабою ўсё тое, што цяпер застыла на зямлі ў чаканні раніцы.*

Праз незавешанае акно Макрыцкі бачыць далёкую халодную поўню,— незямное жаўтавата-бледнае святло ліецца на нізкія хмары, што слаяцца над недалёкім скверам. І поўня, і непарушныя хмары, як і абрысы скверу,— усё нязвыкла застылае, як на малюнку... Ноч відная, якраз тая вясенняя ноч, якая некалі весяліла хмельнай лёгкай радасцю, да якой абавязкова прымешваўся сум па нечым страчаным, што вот-вот, зараз жа, праходзіць беззваротна побач, а ты нічога не робіш і зрабіць не можаш, толькі адзінае, што можаш — стаяць на мосце ў святле поўні, глядзець на цёмную плыткую ваду пад нагамі і, слухаючы яе глухое булькатанне, з болем адчуваць няспынны беззваротны бег не часу, не свайго ці чужога жыцця, а чагосьці іншага, што, здаецца, стаіць па-над жыццём і часам і да чаго далу-

чаешся тым новым, дагэтуль нязнаным пачуццём, якое на кароткі шчаслівы міг паяўляецца ў маладосці і потым ужо знікае.

Як даўно гэта было! І якія дзіўныя салодкія тады былі ночы!

Зараз нічога ў Макрыцкага не баліць, думаецца ясна і проста, так і сярод белага дня не думаецца. Адчуванне, што і не спаў зусім, а вот толькі што, як з другога свету, трапіў у аднапакаёвую кватэру і цяпер са здзіўленнем мог пытаць у каго хочаш, толькі не ў сябе: дзе ён, што яму тут трэба?

Быццам і не было ў яго тых далёкіх цёмных густых начэй, калі стаяў з дзеўчынёхаю на мосце і слухаў глухое бульканне талай вады, бачыў бліскучую рухомую палоску,— як чагосьці жывога, што білася і білася між бетонных слупоў — глыбока, да болю, удыхаючы халаднаватае вільготнае пахкае паветра, ён усім целам адчуваў гэты вясновы рух усяго жывога: травы, якая недзе з сілаю прадзіралася з яшчэ халоднай зямлі да доўгачаканага святла і цяпла, шматлікіх мурашак і казюрак, тых малых і вялікіх птушак, якія прыляцелі з выраю і, відаць, гэтаксама, як і ён, застылі ў чаканні чагосьці, не толькі ранішняга святла і цяпла, а і чагосьці большага, бо там, у цёплым і далёкім выраі, усяго гэтага было ўдосталь: і цяпла і святла, ды вось штосьці сарвала птушак і прымусіла ляцець сюды, да гэтага яшчэ не прагрэтага сонцам краю. І хоць усё, што Макрыцкі тады бачыў, чуў і адчуваў, аб'ядноўвалася цяплом гарачай дзявочай далоні, усё ж яму тады здавалася, што ўсё гэта — толькі напамін на большае, што павінна хутка быць. І таму нават цяпло дзявочай далоні было не вяршыняю шчасця, а — перашкодаю, цераз якую з сілаю, ломячы ў сабе штосьці, трэ было пераступіць...

Як даўно гэта было!

Цяпер жа быццам навечна застыла ўсё пад маўклівым небам.

Так бывала не раз у Макрыцкага,— відаць, то надыходзіла тая пакутлівая пара, калі нечакана разумееш, што трэба пытаць не ў людзей, а ў сябе: а ці тое ты робіш?

І ўсё пачынаецца не з разважлівага пытання,— проста аднойчы ўсё, што робіць дагэтуль чалавек, стае

чужым і нямілым, з незразумелай нават агідаю думаецца пра свой штодзённы занятак, які дагэтуль цікавіў і даваў радасць. І жыццё сваё стае тады такім малазначным, што аж палохаешся.

Відаць, то нешта адмірае ў душы...

Цяпер было ўсё тое, што і раней, з той толькі розніцай, што ўсё пачалося з нечаканых начных пабудак, калі навакольны свет адчуваўся зусім не так, як раніцай у час скрозьсоннага надзвычай рэзкага і гулкага гудзення машын, ад якога незадаволена расплюшчваеш вочы і бачыш на століі сценах водбліскі яркага асляпляльна-фіялетавага ззяння, што з шыпеннем і трэскам сыплецца з тралейбусных дуг. Ды, у рэшце рэшт, нават і днём, як бы там ні было, але і днём было не так, бо тады перад табой штохвілінна штосьці маячыла,— нечы твар, нечыя вочы ці той жа прыбор, у якім трэ было знайсці прычыну непаладак, той жа паяльнік з вечным пахам каніфолі, тая ж выратавальная адвёртка,— нешта чулася, магчыма, нават і непатрэбнае, але якім бы яно ні было, яно — існавала, нікуды ад гэтага не падзенешся, і высокай надзейнай сцяною адгароджвала гэтае балючае «а што ж далей?».

Цяпер нішто не замінае гэтаму «а што далей?», таму, як і заўсёды, выратаванне бачыцца ў нейкім занятку.

Хоць у якім. Тут жа, зараз жа.

Навобмацак Макрыцкі намацвае выключальнік настольнай лямпы, якая стаіць на часопісным століку ля самага ложка. Ад нечакана колкага белага святла Макрыцкі аж зажмурваецца.

На часопісным століку ляжыць газета, кніга і яшчэ — чарнее транзістарны прыёмнік. Пэўны час Макрыцкі глядзіць на ўсё гэта, потым рука памалу цягнецца да прыёмніка.

Пакой ажывае, напаўняючыся шумам, патрэскваннем, піпіканнем марзянкі, галасамі, музыкай... Пакручваючы ручкаю настройкі, Макрыцкі ўслухоўваецца ў нечакана ажылы свет. І тое, што ўсё гэта ажыло нечакана, а дагэтуль было нябачна схаваным, быццам і не існавала,— здзіўляе, у гэтым бачыцца загадка. Новым пачуццём Макрыцкі адчувае іншыя жыцці, якія зараз удалечыні да нечага імкнуліся, на нешта спадзяваліся, нечым трывожыліся і ад якіх дагэтуль быў адгароджа-

ны халодным разбуральным веданнем, што ўсё пачутае — электрамагнітныя хвалі.

Не болей.

Потым Макрыцкі выключае прыёмнік і бярэ са століка кнігу. Памалу, слова за словам, радок за радком, і ён уцягваецца, уваходзіць у той створаны чалавекам уяўны свет, як у штосьці рэальнае. І тады забывае пра будучы ранак, пра тую ж халодную поўню, што свеціць у бязмежнай прасторы, напоўненай зараз нячутнымі песнямі, вясёлай ці сумнай музыкай, рыпамі, галасамі — усім, што існуе без волі і жадання Макрыцкага.

Эма Міхайлаўна спіць.

Як і звычайна ў апошні час — у зале на канапе. Вусны яе, цяпер не пафарбаваныя і таму яшчэ меншыя і больш бледныя, чым здаюцца звычайна, шчыльна сціснуты, галава яе абвязана белай хусцінаю, пад якой накручаны на ноч бігудзі, далонь падкладзена пад шчаку, ад чаго, відаць, падушка здаецца мякчэйшаю.

Эме Міхайлаўне сорак год. Была двойчы замужам, ад другога мужа ёсць сын Сярожа. Сярожа таксама спіць, асобна ад маці, у спальні, гэтак жа нерухома, як і ўсе сонныя, набываючы той выраз, які звычайна набывае чалавек у сне. У адных, як у Сярожы, гэты выраз звязаны з прыгажосцю, якой вее ад напаўраскрытых кветак, што застылі ў чаканні сонца і на пялёстках якіх яшчэ не высахла раса, а ў другіх, як у той жа Эмы Міхайлаўны,— нечым разбураным і нават пакутлівым, тады, у тыя хвіліны сну, чалавек выглядае нашмат горш, чым белым днём, калі ўсё тое разбуранае ўмела хаваецца касметыкаю, рэзкімі зменлівымі маршчынкамі на прывялай скуры, бляскам вачэй, тымі ж вясёлымі лёгкімі словамі, што неяк бяздумна самі сабою сыплюцца і сыплюцца з цяпер ужо вялікіх ад фарбы вуснаў...

Сярожа заканчвае другі клас. Акрамя таго, Сярожа ходзіць яшчэ і ў музычную школу,— ён вучыцца іграць на піяніна, якое стаіць у зале двухпакаёвай з усімі выгодамі кватэры, дзе ў кухні ёсць белы халадзільнік і такі ж белы кухонны гарнітур, ёсць у кватэры акрамя кухоннага два сталы,— адзін стаіць пасярод залы, на ім вялікая крышталёвая ваза з прыгожымі і вельмі падобнымі на жывыя пластмасавымі кветкамі, а другі,

невялічкі, у спальні для Сярожы — за ім ён звычайна робіць урокі.

Не забудзем пра два мяккія крэслы і секцыю з кнігамі — там іх некалі было шмат, але з гадамі стае ўсё меней, пра каляровы дыван на сцяне і тэлевізар са стэрэарадыёлай таксама не забудзем. Усё гэта, як і многае іншае — тая ж нямытая бялізна, што ляжыць гарою ў ванне,— у цемры за зашторанымі вокнамі здаецца нерэальным.

Як і сама Эма Міхайлаўна з Сярожам.

І яшчэ, пра што трэба ўвесь час помніць,— у Эмы Міхайлаўны сто пяцьдзесят рублёў доўгу. Грошы гэтыя яна пазычыла сабе на вясенняе паліто ў саслужыўца Рамана Барысавіча Алмазава і ніяк не можа выплаціць. Ужо трэці месяц...

І страшны ўжо не так сам доўг, як пачуццё няёмкасці і вінаватасці. Быццам у трамваі без білета едзеш і чакаеш, што вот-вот кантралёр зойдзе і сарамаціць пачне ўголас, на пацеху ўсяму вагону.

Кватэра Разорчыка амаль гэткая ж, як і ў Эмы Міхайлаўны: двухпакаёўка з усімі выгодамі. І абстаноўка ў кватэры амаль гэткая ж: і той жа абавязковы белы стандартны халадзільнік, без якога ніяк не абыдзешся, і такі ж белы кухонны гарнітур, дыван на сцяне, чэшская сценка ў зале, палову якой займаюць кнігі, а другую — крышталёвы і фарфоравы посуд. Не хапае, канечне, піяніна, але не ўсім жа піяніна мець, ды і не ва ўсіх дзеці — музыкі.

У зале на раскладной канапе спяць Разорчык з Людаю, а ў спальні — Міша і малая. Міша заканчвае сёмы клас, малая ходзіць у другі, спяць яны на розных ложках, між якімі вузкі праход.

Разорчыку сніцца дзіўны незразумелы сон.

Сніцца яму жанчына,— не, не Люда, з якою, як усім вядома, Разорчык ціха і мірна жыве, а зусім другая, невядомая жанчына, якую дагэтуль не сустракаў. Калі ў Люды тонкая высокая постаць, доўгія сухаватыя рукі і такі ж бледны сухаваты твар, то гэта жанчына — невысокая, поўная, у яе па-мужчынску шыракаватыя плечы, пухлыя сакавітыя вусны і мяккія спакойныя вочы. Невядома, чаму паявілася яна,— рэальна стаіць перад самымі вачыма, здаецца, працягні руку і — да-

кранешся да белага незагарэлага цела, па ўсім відаць, налітага здароўем і весялосцю. Звычайна вось ля такіх жанчын адчуваеш утульнасць і цішыню...

Але, як і ў рэальным жыцці, у сне Разорчык ведае, што рабіць штосьці неабдуманае нельга, хоць у спакойным насмешліва-вясёлым позірку жанчыны, у занадта вялікім вырaзе сукенкі,— зверху, дзе проста такі выторкваюцца высокія поўныя грудзі,— ад усяго гэтага так і вее двухсэнсоўнасцю, нешта агульнанявыказанае ўжо ёсць між Разорчыкам і невядомай жанчынай.

Гэта агульнанявыказанае пачуццё падобна на тое, ужо забытае, якое часта паяўлялася ў Разорчыка ў раннім юнацтве, не толькі ў памятным дзесятым класе, але і яшчэ на першым і другім курсе, калі слова «студэнт» гучала для Разорчыка як звон царкоўны,— то звычайна было на пачатку знаёмства з такой жа нявопытнай, зялёнай, як і сам, дзеўчынёхаю. Гэтае пачуццё яднала іх невыказнай таямніцаю, хоць між імі, бывала, яшчэ не было сказана ніводнага слова, але ён і тая дзёўчынёха ведалі пра гэту таямніцу, яны былі адгароджаны ёю ад усяго свету і таму моўчкі, без ніводнага слова, маглі цалавацца дзесьці ці то ў гарадскім скверыку, ці то ў зацемненай глядзельнай кіназале, а потым — расстацца назусім, шкадуючы аб гэтым ці не шкадуючы, але пэўна ведаючы, што ўсё, што было між імі, ніводзін чалавек не ўведае.

Ніколі, ні цяпер, ні потым, праз далёкія-далёкія гады.

Перасільваючы штосьці ў сабе,— магчыма, халоднаразважлівае «нямножна», а магчыма, і яшчэ штосьці,— у сне Разорчыку здаецца, што ён набліжаецца да той невядомай жанчыны, амаль гэтак жа, як і некалі ў юнацтве, не ведаючы нават, як яе завуць, не сказаўшы ніводнага слова.

Сябе ў сне Разорчык не бачыць, але адчуванне свайго «я» такое, быццам у сне ён, як у другім рэальным сонечным свеце, дзе ўсе пачуцці абвострана яркія.

Бы ў маленстве.

У той жа час, не прачынаючыся, Разорчык паварочваецца на бок, і ягоная рука тут жа натыкаецца на агаленае плячо Люды. Праз якое імгненне далонь ягоная апускаецца ніжэй, дзе пад начной кашуляю невялічкія — у далонь хаваюцца — грудзі...

Разорчыку здаецца, што тое агульнанявыказанае,

якое паявілася між ім і той невядомай жанчынаю на пачатку сну, мацнее, хоць халодна-разважлівае «няможна» ёсць таксама. Мо і ад гэтага Разорчык адчувае сябе вінаватым, яму сорамна так, як ніколі ў рэальнасці не было сорамна, але ўсё гэта, як ні дзіўна, робіць жанчыну яшчэ болей прывабнай і яшчэ болей жаданай.

Ярка, як у асобных кадрах кіно, набліжаюцца да вачэй поўныя аголеныя рукі жанчыны, той вялікі выраз у сукенцы, дзе бялее чыстае цела. У сне Разорчык адчувае, як яму будзе добра і салодка, калі дакранецца рукою да тоіі белай скуры, калі дакранецца вуснамі да прыпухлых сакавітых вуснаў.

Як адчуваючы што — а мо яна і сапраўды адчувала? — сонная Люда паварочваецца тварам да Разорчыка. Павольна іх целы яднаюцца, рукі, што ляжалі дагэтуль непарушна, робяцца рухомымі. І самае дзіўнае — сон у Разорчыка ніяк не праходзіць, усё, што адбываецца між ім і Людаю — гэта на мяжы сну і рэальнасці, мо таму пачуцці ягоныя такія вострыя і яркія.

Разорчыку здаецца, што тая невядомая жанчына і сапраўды побач, у ім цяпер паяўляецца радасць ад яе блізкасці, салодкім пякучым пачуццём поўніцца ягонае цела, якое зараз здаецца як ніколі раней вялікім і дужым.

І толькі ў перадапошні міг, калі здавалася Разорчыку, што ён вот-вот будзе шчаслівы так, як ніколі ў рэальным жыцці не бываў шчаслівы, ён цверазее канчаткова, прачынаецца, і тады тут жа той салодкі туман прападае, ён разумее, дзе сон, а дзе — рэальнасць. Рукамі і целам ён адчувае паслухмянае, знаёмае да дробязяў цела Люды — цяпер, пасля сну, яно здаецца надзвычай тонкім і надзвычай знаёмым...

А потым, праз якую хвіліну, Разорчык хутка засынае, цяпер ужо без ніякага сну, а тым болей без той невядомай жанчыны, якая невядома чаму і невядома адкуль уварвалася ў ягоную свядомасць.

— Ах, Віталя, ты толькі паслухай, што я пачала пісаць. Гэта будзе не апавяданне, не аповесць, гэта будзе адкрыты маналог душы. Вот паслухай толькі. Я і не думаю несці напісанае ў якую рэдакцыю, бо ўсё гэта звязана з нейкім разлікам на прызнанне, на славу, на

грошы, а тым болей у нас сёй-той прывык уганяць мастацтва ў нейкія сюжэтныя рамкі (як быццам чалавек думае сюжэтамі! Чалавек думае асацыяцыямі, няўжо гэтага ніхто не разумее?), абавязкова яшчэ гэтыя сацыяльныя пытанні і адказы... А я хачу, каб маё мастацтва было чыстым-чыстым. Як... Як неба маленства, калі ты ляжыш на спіне на беразе ракі і разглядаеш воблакі. Помніш гэтыя імгненні, гэтыя шчаслівыя імгненні, якія потым не паўтараліся? Вось я і хачу, каб толькі такім было маё мастацтва. І таму я буду пісаць толькі для сябе, мне не трэба гэтыя шаблонныя сюжэтныя хады, мне хочацца пісаць зусім не так. Дарэчы, без ніякіх косак. Ну, калі толькі — дзе-небудзь кропку паставіць. Бо зноў жа — чалавек думае без косак і кропак, у яго ўсё ідзе плынню, ты разумееш мяне?.. Дарэчы, мне і на сцэне ў час спектакля хочацца паламаць шаблонныя хады: і рукі, што матляюцца, як у нежывой лялькі, і гэта вечна крыклівае «ах, я не магу без вас»... Цяпер іншы век, іншы рытм. Трэба не завучаныя хады і рэплікі, а імправізацыя. Ведаеш, так робяць вядучыя італьянскія рэжысёры, калі здымаюць кіно. Яны растлумачваюць акцёрам толькі сітуацыю, а ўсё астатняе — за акцёрамі, ім, акцёрам, ніхто не ўказвае, што і як рабіць.

Дзе ж мой сшытак? Ага, вось ён. А цяпер, Віталя, слухай, што атрымалася ў мяне.

> Яна прачнулася соладка пацягнулася ў ложку і гэты дзіўны сон-палёт не праходзіў і раніцай і таму яна глядзела на гэту рэальнасць як праз каляровыя шкельцы. І думала што галоўнае ў жыцці напоўненым работаю бяссэнсавай бегатнёю па людскім мурашніку гэта — каляровыя шкельцы. Відаць сэнс жыцця якраз і зводзіцца да гэтых каляровых шкельцаў цераз якія трэба глядзець на белы свет. На гэты чорна-белы свет...

Ну як, Віталя, ты зразумеў, што я хачу сказаць? Гэта толькі пачатак, ты разумееш...

І вось цяпер увесь гэты не патрэбны яму маналог ззаду, за тымі абабітымі дэрмацінам дзвярыма кватэры, у якой Віталя прабыў ля чатырох гадзін і ў якой думаў застацца да раніцы. Ва ўсякім разе, спадзяваўся на гэта.

— Віталік, ты не пакрыўдзіўся на мяне? — Наташа таксама выходзіць з кватэры. Пайшла следам.— Ты, можа, пакрыўдзіўся, Віталя? Я не магу інакш, ты разумееш? Я не магу пераступіць цераз сябе, як ты гэтага не разумееш?

Ён азіраецца — калі спусціўся з лесвіцы, хутка абводзіць позіркам каляровы, з жоўтымі кветачкамі халацік, поўныя белыя незагарэлыя ножкі... Вусны ў Віталіка неяк самі сабою крывяцца ва ўсмешцы, незразумела каму адрасаванай, сабе ці Наташы. Так і не глянуўшы Наташы ў вочы, хочацца сказаць нешта колкае, рэзка-абразлівае, але Віталя тут жа стрымлівае сябе — чаго ён гэтым даб'ецца? «Пакуль»,— глуха гаворыць ён і тут жа хутка паварочваецца да Наташы спіною.

Вось і цёмныя падрапаныя дзверы пад'езда. Нагою ён піхае іх, ступае на асфальт і толькі тады чуе, як ззаду бухаюць дзверы. Цяпер ужо ўсё роўна.

«Знайшла хлопчыка, дурня, не хапала, каб яшчэ і перада мною спектакль разыгрывала»,— нават і не заўважаючы таго, Віталя шэпча. Ён глядзіць наўкола — на доўгі дзевяціпавярховы дом, на рэдкія, ледзь бачныя зоркі, на нерухомую поўню, а перад вачыма ўсё яшчэ — пакойчык з кнігамі на паліцах, яна, Наташа, якая сядзіць на канапе, падкурчыўшы незагарэлыя поўныя ногі, і шматслоўем стараецца адгарадзіцца ад ягонага заляцання.

Разумеючы гэта ці не разумеючы — невядома...

Блочны дзевяціпавярховы дом, у якім жыве Наташа, зараз як вымер. Віталя ідзе ўздоўж слаба асветленых пад'ездаў, між якімі невялічкія агароджаныя дротам кавалачкі зямлі — балючы напамін таго жыцця, якім да нядаўняга часу жылі жыхары гэтага дома, пакуль не трапілі ўсёй вёскаю пад знос, і таму зараз ім нічога іншага не заставалася рабіць, як акуратна агароджваць гэтыя лічаныя метры сырой незаасфальтаванай зямлі, ускопваць яе вясною і засаджваць кветкамі, затым паліваць тыя кветкі вадою, надвячоркам, сумуючы на лаўцы, падоўгу глядзець на гэтыя зялёныя кусцікі, кветачкі і бачыць зусім іншае: сіні цвет бульбоўніку, сцежку ад драўлянай хаты на выган, да той рачулкі, што хаваецца ў кустах алешніку. І чуць зусім іншае... Калі хто не вытрымліваў, тады падымаўся з лаўкі і, ступіўшы да агароджы, браў у рукі не столькі камячкі зямлі, а як — сваё мінулае і пераціраў,

перацiраў, так i не разумеючы, што — згублена, а што — знойдзена.

Горад, горад...

Блочны дом застаецца ззаду, наперадзе — слаба асветленая сцежка, паабапал якой — нi будынiн, нi дрэў. Вiталя хутка, каб сагрэцца, iдзе па дарожцы — яму ўсё яшчэ, як знарок, чуюцца лёгкiя Наташыны словы:

«Не, Вiталiк, ты нават i не ўяўляеш усёй сучаснай складанасцi. Я не толькi пра сваё жыццё, я ўвогуле пра ўсiх нас хачу сказаць. Калi б я не была ў тэатры, я нiколi не змагла б стаць шчаслiваю. Тэатр, як i ўвогуле мастацтва,— гэта яшчэ адзiнае, што можа ўратаваць чалавецтва. Пра гэта, здаецца, i Дастаеўскi гаварыў некалi: прыгажосць выратуе чалавека. Я, чым болей жыву, тым болей думаю, што мастацтва, толькi яно адзiнае можа падказаць чалавецтву выйсце з лабiрынту, у якiм яно можа заблудзiцца. Ведаеш, я цяпер шмат чытаю, я праводжу тут, у пакоi, цэлыя вечары, бывае, я тут магу прабыць цэлы дзень, так i не паказваючыся на вулiцы. Што я там убачу? Адно i тое ж, адно i тое ж... Дык вот, калi я тут бываю на адзiноце, калi б ты ведаў, якiя думкi паяўляюцца ў мяне».

Перад вачыма ўсё яшчэ — маленькiя, пухленькiя, фарбаваныя вусны, доўгiя, вiдаць, наклееныя веi i гэтае бясконцае шматслоўнае:

«Не, не, Вiталiк, адсунься ад мяне, прымi рукi... Ты ведаеш, памiж намi пакуль нiчога не можа быць, мы павiнны прывыкнуць адно да аднаго, стаць духоўна блiзкiмi, а ты хочаш вот так, адразу...

Не, не, Вiталiк, не сягоння...

Сягоння не трэба. Хоць я i магу рабiць глупствы. Чалавек тым i адрознiваецца ад машыны, што ён можа час ад часу рабiць глупствы. Некалi я зраблю вялiкае глупства. А ўвогуле, мне здаецца, што я i не жыву, а ўвесь час iду берагам рэчкi. I вот некалi я магу ўпасцi... Ведаеш, гэта ўсё як з дзесятага паверха: глядзiш унiз, на зямлю, i адчуваеш, як цябе туды цягне i цягне невядомая сiла. Ты разумееш, пра што я?

Вот, Вiталя, ты зноў за сваё, я ж сказала — сягоння ты не можаш застацца ў мяне. I рукi прымi. Ну няўжо без гэтага ты не можаш, няўжо ўсё гэта, фiзiялагiчнае, галоўнае ў адносiнах? Ах, Вiталя, няўжо i ты гэткi, як i ўсе астатнiя мужчыны? А я думала...

Вот так, малайчына. Давай лепш пагаворым.

Ведаеш, калі мне галоўны рэжысёр сягоння намякнуў, што я магу выконваць ролю сучаснай дзяўчыны, я спачатку разгубілася. Я ўвесь час марыла па-свойму сыграць нешта класічнае, Афелію, напрыклад, а тут — джынсы на сцэне, цыгарэты, пусценькія размовы... Але ведаеш, я думаю, што гэту ролю я сыграю так, як ніхто не іграў. Я прымушу гледачоў заплакаць над лёсам сучаснай Афеліі ў джынсах, якая сама з усяго смяецца і над якой мы, бывае, пасміхаемся, зусім не задумваючыся над тым, што творыцца ў яе душы. Так што калі заўтра, праўдзівей — ужо сягоння я пачну гаварыць з галоўным наконт ролі, то я, мусіць, згаджуся. Ах, як гэта будзе здорава! Ты не ўяўляеш, што адкрывае перада мною заўтрашняя размова.

Віталя, ты проста недаацэньваеш сілу мастацтва...»

Гэты маналог, гэты доўгі, бясконцы маналог так і звініць. Калі ж ён скончыцца?..

Наперадзе на пустой асфальтаванай дарожцы маячаць дзве цёмныя постаці. Дарожка там робіць круты паварот, агінаючы цёмную, яшчэ не агароджаную пустку, дзе ўжо драўляныя дамы з садамі знеслі, а звычайны стандартны блочны дом яшчэ не паспелі паставіць. Можна пайсці да супынку наўскасяк цераз пустку, тады і тыя дзве постаці абмінеш, а можна ісці і па дарожцы, як і тыя мужчыны, якія, па паходцы відаць, на падпітку. Яшчэ здаля, толькі падыходзячы да іх, Віталя чуе нязвыкла гучную сярод ночы гаворку:

— Ну, зачарнілілі мы добра, а тады я яму і кажу: а матай-ка ты, кораш, далёка-далёка, дзе алені бегаюць. Каб я цябе век не відзел. А ён яшчэ і капызіцца пачынае — што, да чаго,— мозгі мне кампасціраваць пачынае. Ка-аззё-ёл... Тады я падымаюся спакойна, разварочваюся і яму хрась, злева направа... Ён — з усіх чатырох, так і загрымеў. Каззё-ёл гэты лінялы...

— Правільна здзелаў. Я даўно на яго кулакі чашу. Гэта шасцёрка ў мяне ўвесь час пад нагамі блытаецца Ну, а далей што было?..

Чуючы такую размову, Віталя вагаецца: абганяць пару ці ісці наўскасяк цераз пустку, цераз якую ні разу не хадзіў, бачыў толькі днём, што там поўна ямін з вадою. Потым ён рашаецца — рашуча пераганяе пару.

— Эй, друг сітцавы, дай-ка закурыць,— чуе Віталя, калі ўжо абышоў «казлоў».

— Няма, не куру,— глуха адказвае Віталя, не паварочваючы галавы, не спыняючыся. Ведае ён гэта «закурыць», навучаны добра.

— Падажджы-тка, друг,— зноў чуецца ўсё той жа настырны патрабавальны голас.

Віталя маўчыць. Хутчэй перабірае нагамі. Затым чуе, як часта зацокалі на асфальце туфлі. Азірнуўшыся, Віталя бачыць, што адзін з двух бяжыць услед. Другі патрухаў у цемру — наперарэз...

Якое імгненне Віталя вагаецца: уступаць з імі ў бойку ці не? Аднаму з двума звязвацца, ды яшчэ невядома, што ў іх у руках. Ці ў тых жа кішэнях прыхавана. Калі б адзін на адзін ці хаця б днём на вуліцы... Канечне, няблага было б іх правучыць, але, мусіць, цяпер не трэба звязвацца — не першыя ў ягоным жыцці такія «казлы» сустракаюцца, ды, відаць, і не апошнія, усіх на свой лад не перавучыш, не Хрыстос. Ды і здачы ўсім не надаешся. Бічы, што з іх возьмеш, мусіць, без работы днямі тунькаюцца, а выпіць хочацца... Развялося, як мошак у сырасць. Ды і ўвогуле, калі разумна разабрацца, які сэнс у гэтай начной нікому не патрэбнай бойцы? Так можа атрымацца, што пасля і сам жа за яе адказваць будзеш...

Віталя таксама бяжыць — не надта хутка, прытрымліваючы адну і тую ж дыстанцыю між сабою і невядомым забулдыгам. Думаецца, што, відаць, трэба ўсё ж заняцца боксам. Ці ў тую ж секцыю каратыстаў запісацца — гвазданаў бы зараз, доўга не думаючы, хай бы чухаўся пасля, на асфальце лежачы. А міліцыя, дарэчы... Дзе тая міліцыя? Тады, як не трэба, яна тут як тут, са свістком і сірэнаю...

І яшчэ думаецца, што сюды, да Наташы, ён болей — ні нагою. Досыць, і так пяты вечар дарма патраціў. Хай цяпер Наташа ўсясільнасцю мастацтва другому мазгі пудрыць, а яму ўжо — хапіла, па завязачку...

Ззаду цокат абцасаў паступова заціхае, чуецца задаволенае: «Ха-ха-ха, Грыш, ды ну яго, шмакадзяўку, к ядрэні фені... Каз-зла гэтага... Давай сюды чашы. Напужалі трохі і — досыць. Хай помніць, як маму родную не слухаць...»

На імгненне Віталю невядома чаму стала сорамна, ён увесь, здаецца, закіпае злосцю, ён нават ледзь не паварочваецца тварам да забулдыгі, а потым усё ж свядома супакойвае сябе: ды ладна, ніхто нічога не ба-

чыць, цёмна кругом, ні душы. Каму гэта трэба? Нікому не трэба. А так — мог ляжаць сам на асфальце, і пацыенці не было б каму ў гэтай цемені і пустэчы...

Раман Барысавіч Алмазаў звычайна спіць без сноў. Што ні гавары, а за доўгі дзень натопчашся, і таму перад сном Раман Барысавіч прагульваецца. Такія нетаропкія прагулянкі вельмі добра супакойваюць нервовую сістэму. Лепей за ўсякія лякарствы. Пра гэта многія ведаюць, але, як ні дзіўна, людзі нават і на гэта не знаходзяць часу. Не знаходзяць часу, каб мацаваць самае дарагое, што ў іх ёсць,— сваё здароўе... Людзі, людзі — як часта яны добра ведаюць адно, а робяць зусім другое...

Сквер той мяжуе з берагам ракі, што працякае праз увесь горад. У час прагулянак Раман Барысавіч звычайна сустракае адных і тых жа знаёмых, якія гэтаксама любяць праходжвацца надвячоркам. Там, на роўнай і доўгай заасфальтаванай дарожцы, якая сцелецца ўздоўж набярэжнай, пазіраючы то ў вочы субяседніку, то на высокія дрэвы, якія падступаюць да самай дарожкі, хаваючы высокія будыніны і шумныя вуліцы, то на тую ж рухомую цёмную палосу вады, глыбока дыхаючы свежым халаднаватым паветрам, можна, як часта гаворыць навуковым тэрмінам Раман Барысавіч, абмяняцца інфармацыяй са сваімі добрымі знаёмымі, якія гэтаксама спакойна, сашчапіўшы рукі за спінаю, крочаць побач з табою. І зусім няважна, што работа ў кожнага розная, можна гаварыць не толькі пра работу, а і пра нешта больш важнае і істотнае, пра тое ж жыццё-быццё агульных знаёмых, пра іх лёс, які недзе ў нечым перакрыжоўваецца з тваім, можна гаварыць пра нейкія рэчы ці тавары, якія нехта недзе бачыў ці зможа памагчы дастаць, можна гаварыць пра многае другое, на першы погляд дробнае і нязначнае, а між тым — такое неабходнае ў вялікім шматлюдным горадзе, у якім калі і варта за што трымацца, то толькі — за дружбу, за надзейную шчырую дружбу аднадумцаў, якая паможа выстаяць у гэтым заблытаным, складаным, штодзённа-зменлівым свеце.

І таму тыя нетаропкія ціхія словы, якія Раман Барысавіч чуе ад субяседніка ў час прагулянак, якія гаворыць сам,— усё гэта супакойвае, як і выгляд старых

ліп і клёнаў, якія з дапамогаю нябачных моцных карэнняў каторы год трымаюцца на зямлі, як і палоса цёмнай рачной вады, знешне ціхая і роўная, а на самай справе напоўненая сваім нябачным складаным жыццём — тых жа рыб, якія ў цёмных слаях вады снуюць і снуюць у пошуку корму...

І таму звычайна пасля вячэрніх прагулянак Раман Барысавіч спіць без сноў. Як пасля сур'ёзнай адказнай работы, якую ў рэшце рэшт удалося закончыць. І толькі калі-нікалі дзіўны сон бывае ў Алмазава.

Сніцца яму рака,— магчыма, гэта бывае таму, што вечарамі, гуляючы ўздоўж набярэжнай, Раман Барысавіч падоўгу глядзіць на ваду. Неяк зверху бачыць Алмазаў шырокую хуткую плынь, на паверхні якой поўна людзей, якіх зносіць і зносіць вадою. Усё гэта нечым нагадвае кадры аднаго дакументальнага фільма, які некалі глядзеў Раман Барысавіч,— пра вялікі заплыў людзей, зусім не спартсменаў... Як і ў тым фільме, так і ў сне Алмазаву бачыцца рака, ад берага да берага запоўненая людзьмі. І хоць не бачыць Алмазаў, што робіцца ўверх па цячэнні,— як, якім чынам людзі трапляюць у раку — як не бачыць і таго, што робіцца ніжэй па цячэнні, але, як гэта часта бывае ў снах, Раман Барысавіч чамусьці ведае, што хуткая плынь бясконца доўга нясе людзей, не гадзіну-другую, а доўгія, доўгія гады, і людзі гэтыя чамусьці абавязкова хочуць выбрацца на той ці на другі бераг. Адны — на правы, другія — на левы. У гэтым ім бачыцца выратаванне. І вось яны, хто як можа і хто як умее, грабуць, грабуць рукамі, б'юць нагамі па цёмнай і густой, як нафта, вадзе. Але людзей гэтулькі, што яны замінаюць адно аднаму, чамусьці так атрымліваецца, што тыя, якім блізка да аднаго берага, імкнуцца да процілеглага, многія кідаюцца то ў адзін, то ў другі бок, нават і тыя, якія ледзьледзь умеюць плаваць, нават і тыя стараюцца дабрацца да берага. І ў той страшэннай пакутлівай мітусні людзі пачынаюць сварыцца, многія стамляюцца і знікаюць пад вадою, а калі хто і дабіраецца да жаданага берага, у яго проста не стае сіл выйсці з вады: хуткая плынь тут жа адрывае працягнутую да берага руку, і вось ужо — вірлівая цёмная вада кружыць чалавека, бы тую трэску, глядзіш, ён ужо дзесьці на сярэдзіне ракі...

Сон гэты цягнецца доўга-доўга. Алмазаў глядзіць на дарэмныя намаганні людзей. Яму не шкада іх, ён

глядзіць на іх так, як глядзяць на дрэва ці на тую ж траву. Яго іншае трывожыць — ведае, што зараз і яму трэба, абавязкова трэба праплысці па рацэ. Алмазава не цікавіць, як, якім чынам ён трапіць у раку, як не цікавіць і тое, што станецца з ім там, ніжэй па цячэнні ракі, дзе ўсё: і рака і людзі — хаваецца ў непрагляднай цемры. Раман Барысавіч доўга глядзіць на людскія пакутлівыя намаганні і думае, што будзе рабіць, калі сам трапіць у раку,— тое, што ён абавязкова трапіць у раку, гэта ён ведае, ён адчувае тую невядомую нечалавечую магутную сілу, якая прымусіць яго апынуцца там, сярод разгубленых людзей. Да якога берага яму дабірацца? Да правага ці да левага? Вось што галоўнае для Алмазава...

Тады, у такі час, Раман Барысавіч часта варочаецца ў сне, пачынае нават стагнаць, а то і гаварыць нешта незразумелае, і жонка Рыта будзіць яго. Але, калі Рыта не разбудзіць, то ён так і не прачынаецца, спіць, пакутліва і цяжка, да таго часу, пакуль не прыйдзе да яснага разумення, што як сабе другія хочуць, а яму плысці, дабірацца да берага не варта, галоўнае не ў тым, каб прыбіцца да якога аднаго берага, а ў тым, каб як мага болей пратрымацца на паверхні бурнаплыннай, каламутнай ракі.

Бедныя, бедныя няшчасныя дурныя людзі, няўжо яны нічога не разумеюць? Няўжо нікому з іх не прыйдзе ў галаву, што сваімі намаганнямі яны толькі ўкарачаюць як сабе, так і другім век? Раз ужо трапілі ў раку не па сваймy жаданню, то трэба плысці па цячэнні, а не кідацца туды-сюды... Навошта ўсё гэта, навошта?

І тады, калі да Алмазава прыходзіць такое простае рашэнне, яму робіцца лёгка,— і рака, і людзі, што бесталкова пакутліва мітусяцца ў вадзе — усё знікае, Раман Барысавіч перастае стагнаць і кідацца ў сне, цяпер ён засынае спакойна. Нават з нейкай радасцю, што пра гэта здагадаўся ён адзін, што пра ягонае адкрыццё ніхто не ведае. І ніколі не ўведае.

Але самае дзіўнае не ў тым, што такі сон можа сніцца, а ў тым, што сон гэты сніцца кожны раз у адным і тым жа варыянце, здаецца Раману Барысавічу, што і людзей у рацэ ён бачыць кожны раз адных і тых жа, як блізкіх знаёмых: і неграў, і белых, і метысаў — розных-розных людзей, твары якіх ад частага паўтарэння

знаёмыя, быццам іх Алмазаў даўно і часта сустракаў. І хоць канец сну, як і пакутлівы пачатак, адзін і той жа, але кожны раз Алмазаў прыходзіць да свайго простага рашэння праз пакутлівы роздум. Як упершыню. Вось што яго здзіўляе.

Але над гэтым Раман Барысавіч задумваецца раніцай, калі прачнецца.

У спальні побач з Раманам Барысавічам на другім ложку, які ўпрытык стаіць да яго ложка, спіць Рыта,— раўнамерна пасопваючы, як і большасць людзей ва ўзросце. У Рыты поўнае і, як прынята казаць, рыхлаватае цела, гэткі ж поўны твар, на якім усё вялікае і выразна запамінальнае: і чорныя вялікія вочы, над якімі чарнеюць шырокія бровы, і нос з гарбінкаю пасярэдзіне, і поўныя прыпухлыя вусны. Некалі ў маладосці Рыта была прыгажуняю, але час, час... Ён, як кажуць, нікога не шкадуе.

У другім, асобным пакоі спіць дачка Віка. Віка даўно вядзе дарослае самастойнае жыццё, яна — сама сабе гаспадыня, ёй ужо дваццаць дзевяць, але замуж пакуль не выйшла. Вечарамі дадому Віка часта прыводзіць гасцей. Калі — Віка знаёміць сваіх гасцей з бацькам, а калі і не,— гэта ўжо гледзячы каго. Бывае, што некаторыя госці застаюцца начаваць.

Як, напрыклад, сягоння.

Кватэра Алмазава абстаўлена гэтак жа, як і ў Эмы Міхайлаўны, як і ў Разорчыка. Калі не прасцей. Розніца ў тым, што ў кватэры Рамана Барысавіча ўвесь час адчуваеш сябе, як на вакзале ў часы летніх адпачынкаў,— нейкая цесната, блытаная бязладнасць. Магчыма, гэта ўражанне ад шматлікай мэблі, столікаў, канапаў ля сцен, серванта ў зале, што забіты крышталём і фарфоравым посудам, высокай, да столі, кніжнай паліцаю, адзеннем, што вісіць у прыхожай, дываноў і дарожак,— усяго гэтага неяк залішне шмат у трохпакаёвай кватэры, і мо таму яна здаецца цеснай і паветра ў ёй густое і цяжкаватае, быццам тут тыднямі фортачак не адчынялі.

Калі меркаваць па парадку ў кватэры, па той жа абстаноўцы, то цяжка, вельмі цяжка здагадацца, што ж галоўнае ў жыцці яе гаспадароў. Бо ўсё, што бачна ў кватэры,— і тыя ж кнігі, і мэбля, як і дываны, відаць, набывалася не самамэтна, а проста так, для адводу ва-

чэй, каб людзі не торкалі пальцам, каб не адстаць ад моды. Відаць, што ўсё-ткі галоўнае ў жыцці гаспадароў кватэры не мэбля, не кнігі і нават не дарагія яркія дываны, а нешта іншае, што адразу і не заўважыш і не прадэманструеш, і мо таму ў кватэры Алмазава няма таго вялікага парадку, як гэта часта бывае ў некаторых кватэрах, дзе кожная пылінка на ўліку.

## 7 гадзін раніцы

Макрыцкі незадаволена прачынаецца і тут жа разумее, адкуль гэта незадаволенасць. Баліць галава. Відаць, зноў пачынаецца грып.

Перасільваючы слабасць, Макрыцкі падымаецца з ложка і ідзе ў ванную. У люстры ён бачыць свае прыпухлыя пасля сну вочы, паўнаваты твар, сухія бледныя вусны, раскіданыя валасы. Папраўляючы рукою валасы, Макрыцкі глядзіць на сябе ў люстра. Ва ўсім — прыпухласці, лішняй паўнаце, сухасці ў роце,— ёсць нешта лішняе, яму непатрэбнае, ад чаго хацелася б пазбавіцца.

Як ад той жа незадаволенасці, як ад той жа сухасці ў роце...

Цёплы пругкі струмень вады прыносіць палёгку,— ведаючы, што рабіць гэтага не варта, Макрыцкі залазіць у ванну і напускае вады.

Потым, калі выцерся ручніком, пагаліўся, адчувае, што палягчэла, быццам з цела нешта лішняе скінуў. Зараз можна ісці на кухню.

Усё, што Макрыцкі робіць на кухні, ён робіць нетаропка і мо таму зусім не заўважае, як праходзіць гадзіна.

Роўна ў восем, як і звычайна, Макрыцкі выходзіць з пад'езда свайго дома, паклаўшы ў партфель газету. Яе ён вымае з паштовай скрынкі.

Потым, у тралейбусе, Макрыцкі збольшага праглядае газету.

«Нафта Мангышлака», «Горад абнаўляецца» — гэта на другой старонцы. Пад рубрыкаю «На мадрыдскай сустрэчы» ішоў вялікі артыкул «У інтарэсах народаў Еўропы». На трэцяй старонцы друкавалася падборка інфармацыі:

## ДЗЕНЬ ПЛАНЕТЫ: ПАДЗЕІ, ХРОНІКА, КАМЕНТАРЫІ

...Амерыканскі касмічны карабель шматразовага выкарыстання «Калумбія», выведзены на арбіту, працягвае палёт.

...У Пакістанскай паўночна-заходняй пагранічнай правінцыі, дзе, як вядома, размешчаны лагеры па падрыхтоўцы бандыцкіх фарміраванняў для закіду ў Афганістан, адбыліся новыя ўзброеныя сутыкненні паміж афганскімі контррэвалюцыянерамі і мясцовым насельніцтвам.

...Закончылася пасяджэнне сейма ПНР. Выступаючы на ім з дакладам аб складаным становішчы ў краіне, Старшыня Савета Міністраў В. Ярузельскі напомніў аб тым...

...Сенат амерыканскага кангрэса ўхваліў законапраект аб выдзяленні дадатковых асігнаванняў Пентагону ў памеры 2,8 млрд. долараў. Асноўная частка гэтых сродкаў пойдзе на распрацоўку і стварэнне новых відаў зброі.

...Тэль-Авіў зрабіў чарговы напад на паўднёвы Ліван. Амерыканскія «фантомы»...

Як заўсёды, чытаючы раніцай газету, Макрыцкі адчувае нешта складанае, што стаіць супраць ягонага жыцця, а мо нават і лёсу. Мо і таму ён часам не можа лёгка і радасна, як некалі ў маленстве, думаць пра сваё будучае. А як бы хацелася ведаць, што будзе тады, праз год ці два наперадзе, куды ўсё гэта, складанае і трывожнае, павернецца.

Відаць, так думаў і адчуваў не адзін Макрыцкі — дарогаю праз шкло тралейбуса ён бачыць доўгія чэргі ля газетных кіёскаў.

А потым Макрыцкі стараецца адагнаць ад сябе ўсё гэта трывожнае і складанае і таму на чацвёртай старонцы шукае інфармацыю пра хакейны матч.

Так нашмат лягчэй.

Потым, як склаў газету і палажыў у партфель, Макрыцкі са здзіўленнем ловіць сябе на тым, што пра хакей думае не меней, чым пра нейтронныя бомбы і крылатыя ракеты. Гэта было дзіўна, жахліва нават, але гэта было так — каму-каму, а сабе ў гэтым Макрыцкі мог прызнацца. Як дзіўна і незразумела было тое, што пасля добрай, мяккай, найчасцей народнай песні ён тут жа

мог слухаць чарговы пашлаваты шлягер, які з надрывам пад громападобную музыку лямантавала размаляваная пад ляльку вялікаротая спявачка з распушчанымі валасамі...

Не даязджаючы да работы пару супынкаў, Макрыцкі выціскаецца з перапоўненага тралейбуса — хочацца нетаропка прайсці чыстым сонечным ранкам па падмеценым асфальце, дзе людзей было не так ужо і шмат.

Ранак хоць і сонечны, але халаднаваты. Гэтыя зацяжныя халады, якія пачаліся неяк нечакана пасля цёплых сонечных дзён, усё ніяк не праходзяць,— штодня цягне з поўначы рэзкім халодным ветрам, ад якога даводзіцца хавацца ці то ў плашчы, ці то ў курткі. Добрага цёплага дажджу яшчэ так і не было,— трава не зелянела, была шэрая ад пылу, прыбітая, як і позняй восенню. Увогуле, усё зараз нагадвала, як ні дзіўна, не вясну, а познюю восень: і холад, і нізкія шэрыя хмары, што, здаецца, чапляліся за вяршыні заводскіх комінаў, і счарнелае лісце, што валялася пад кустамі і дрэвамі, якія так і не распускаліся, хоць перад гэтым дні тры стаялі сонечныя гарачыя дні і многія гараджане загаралі.

Быццам маўклівыя нерухомыя дрэвы і кусты прадчувалі ці ведалі, што наперадзе доўгі зацяжны холад.

Баліць усё-ткі галава. Няўжо зноў давядзецца ісці на бальнічны?

Дарогаю Макрыцкі глядзіць на голыя клёны, на той жа асфальт, па якім таропка ідуць людзі,— усё, што бачыць, развальваецца, разбіваецца на асобныя часткі, успрымаецца, як праз павелічальнае шкло: асобнымі плямамі, рухомымі мазкамі... Вунь вусны, шчыльна самкнутыя, зацятыя ў сваёй крыўдзе ці помсце, а вунь — шырокі чырвоны нос, вунь рэзка хтосьці матлянуўся ўбок, твар не запомніўся, застаўся ў памяці толькі адзін плашч з адарваным уверсе гузікам.

Усё зараз здавалася амаль гэткім жа, як на некаторых сучасных малюнках, балазе, што рэзкі няпрошаны гул і шум машын яшчэ болей дапаўняе бязладнасць у душы.

Эма Міхайлаўна прачынаецца ад рэзкага званка будзільніка, што яшчэ звечара пастаўлены на крэсла ля самай канапы. Не адплюшчваючы вачэй, яна тут жа

звыклым аўтаматычным рухам далоні націскае чырвоную кнопачку будзільніка. Звон заціхае.

Нейкі час Эма Міхайлаўна ляжыць нерухома, саладка пацягваецца, а затым хутка і рашуча адкідае ўбок байкавую коўдру.

Пара, пара, час няўмольна коціць.

Яна ўсоўвае ногі ў шлёпкі, на хаду пазяхаючы, падыходзіць да акна і адсоўвае шторы.

Белае сонечнае святло ўрываецца ў дагэтуль цёмны пакой, напаўняючы яго зусім другім настроем. Эма Міхайлаўна глядзіць праз шкло на вуліцу, па якой ідуць людзі, і на душы ў яе стае лёгка і ясна.

Апрануўшы лёгкі трыкатажны касцюм, Эма Міхайлаўна спяшае на кухню, дзе ў чайніку кіпячоная звечара вада. Выпіўшы шклянку, вярнуўшыся ў залу, Эма Міхайлаўна пачынае рабіць зарадку.

Ужо ля тыдня Эма Міхайлаўна займаецца раніцай па сістэме ёгаў. Як сцвярджала Мальвіна,— а яна ведае ўсё на свеце, не менш за Рамана Барысавіча,— галоўнае ў гэтай сістэме — правільнае дыханне, ад яго ўсё залежыць. Эма Міхайлаўна, разводзячы рукі,— раз і два,— прыпадымаючыся на пальчыках, павольна, глыбока, аж да болю ў грудзях, убірае ў сябе паветра, а потым, застыўшы на імгненне, робіць гэткі ж нетаропкі выдых — тры і чатыры,— апускаючы рукі ўніз, прыгорбіўшыся, яна, як здаецца, аж да апошняга грама выціскае з сябе паветра... Ад такіх практыкаванняў у Эмы Міхайлаўны аж у галаве кружыць, але яна і не думае іх кідаць, ведае, што гэта — толькі пачатак той складанай сістэмы, адпаліраванай практычным вопытам шматлікіх пакаленняў. Гэта — не модныя цяпер таблеткі ці парашкі. І нават — не гамеапатыя.

Ах, гэтыя ёгі, загадкавыя ёгі, гісторыя якіх загадкава цягнецца ўглыбіню на стагоддзі! Яны акружаны такой таямніцаю, у якой, як гаворыць Мальвіна, і сучасная медыцына не можа разабрацца, з усёй сваёй навукаю і тэхнікаю. Эма Міхайлаўна разам з Мальвінаю сама на свае вочы глядзела некалі той дакументальны фільм, дзе паказвалася, як ёгі елі шкло, як ёгаў закопвалі ў магілу на суткі ці двое, а потым, адкрыўшы века труны, людзі заставалі ёгаў жывымі і здаровымі, і адзінае, што тым разумным людзям заставалася зрабіць, гэта — развесці рукамі і сказаць, што на гэтыя суткі ці двое сэрца ў ёгаў спынялася. І яшчэ ў тым фільме па-

казвалася, як калолі ёгаў наскрозь цераз руку ці нагу, і што ж — ні знаку, ні знаку не заставалася ад тых уколаў. Ёсць, ёсць, не перавяліся на свеце цуды і таямніцы, гэта, можа, і добра, што не ўсё на свеце навуцы пад сілу. І таму Эма Міхайлаўна ўпэўнена, што гэтыя практыкаванні не прападуць бясследна, яны прынясуць радасць быцця.

Ды і маладосць у пэўнай меры, калі на тое пайшло...

Ужо і зараз, пасля тыдня ранішняй зарадкі, Эме Міхайлаўне здаецца, што яна выглядае нашмат лепей, чым той жа тыдзень назад, калі радасная Мальвіна прынесла лісткі папяроснай паперы з надрукаваным пад капірку тэкстам — апісаннем сістэмы ёгаў.

Нашмат, канечне, нашмат лепей яна выглядае, у гэтым Эма Міхайлаўна ўпэўніваецца, калі ўважліва разглядае сябе ў люстра,— пасля зарадкі, памыўшыся, яна стаіць у ваннай і старанна выцірае ручніком твар: дробны нос, невялічкія, але акуратныя вусны, вузкія палоскі броваў...

Ці то ад зарадкі, ці то яшчэ ад чаго, але настрой у Эмы Міхайлаўны вясёлы, такое з ёй бывае кожную вясну, той парою, калі Эма Міхайлаўна адчувае, як усё цела, ад галавы да пят, здаецца, напаўняецца нясцерпным жаданнем нейкага руху, нейкіх нечаканых перамен, ёй тады хочацца некуды ехаць, некаму глядзець у вочы і весела ўсміхацца. Тады ёй усё часцей і часцей думаецца, што колькі б год чалавеку ні было, але ў душы ён — адзін і той жа, і таму яна зараз — амаль такая ж, як і дваццаць год назад...

Яна цяпер амаль такая ж, як і ў тыя студэнцкія гады, калі ездзіла ў час летніх канікулаў на экскурсіі. Які тады быў вясёлы час!

Час, час, яго цяпер так не хапае!

Эма Міхайлаўна глядзіць напаследак у люстра і застаецца задаволеная сабою. Цяпер можна ісці на кухню гатаваць сняданак.

Там яна калі-нікалі пазірае праз акно на вуліцу, дзе разгараецца сонечны ясны дзень, хай сабе і халодны — усё ж ён хоць і такі, але напамінае пра блізкае лета, што прынясе зелень, спякоту, прыгожы цёмна-карычневы загар, мяккую прахалоду вады. Калі і не марской, то хаця б азёрнай.

«Божухна, хоць бы выдзелілі сёлета пуцёўкі, калі ты ёсць на свеце — памажы... Адну мне і адну Сярожу

ў піянерлагер... Сярожу-то выдзеляць, а вось мне...» — так шэпча сама сабе Эма Міхайлаўна: за гады адзінокага жыцця Эма Міхайлаўна прывыкла патроху размаўляць сама з сабою. А рукі ў гэты час робяць даўно вядомую і звыклую работу.

...Сярожу трэба згатаваць блінчыкі. З маслам сягоння будуць. І запіску на стале пакінуць. Толькі б не забыцца. Прачнецца, хай адразу ж за піяніна садзіцца. І ўрокі. Урокі ўчора так і не паспела праверыць. А ўсё — гэты тэлевізар, пятую серыю тэлефільма трэба было глядзець. Таксама во — ні самой адарвацца, ні Сярожу адцягнуць.

...Сягоння абавязкова бялізну перамыць. Так і ляжыць грудам каторы ўжо дзень. Пяты, здаецца... Добра, што хоць не замочвала.

...Трэба яшчэ апрануцца, перакусіць што самой — без мяса, па амерыканскай дыеце,— зрабіць бутэрброд, каб днём не бегчы ў сталоўку — хоць паўрубля сэканоміш.

...Падфарбавацца трэба, а ўжо — хутка восем. Прычоска — хай сабе, з ёю потым, на рабоце.

...Божухна, як вечна ранкам не хапае часу!

А дзевятай гадзіне Эма Міхайлаўна не выбягае, а проста такі стралою вылятае з кватэры, следам за ёю глуха шчоўкае ў абабітых дэрмацінам дзвярах англійскі замок. На хаду Эма Міхайлаўна глядзіць на ручны гадзіннік. Так і ёсць — на дзесяць хвілін ужо спозніцца, цяпер ужо ніяк не нагоніш, калі толькі — таксі... Але пра таксі і думаць не трэба.

Яшчэ крыху пазней, калі выбягае з пад'езда, успамінае, што запіску Сярожу так і не напісала. Яна аж спыняецца ў ваганні: мо вярнуцца? Але, глянуўшы яшчэ раз на ручны гадзіннік, подбегам спяшае да супынку трамвая. Не атрымалася з запіскаю, пазвоніць Сярожу па тэлефоне. Толькі б не збег з раніцы на вуліцу.

І яшчэ што Эму Міхайлаўну супакойвае: у такі ясны дзень нават і Разорчык сварыцца не захоча.

У кватэры Разорчыка на кухні чуецца шыпенне — Люда рыхтуе сняданак. Яна звычайна ўстае ў палове сёмай. Разорчыка Люда будзіць роўна ў дзесяць хвілін на восьмую. Яна падыходзіць да канапы і рукою кратае

мужава плячо: «Андрэй, а Андрэй, пара...» Разорчык тут жа прачынаецца, моўчкі ўсоўвае ногі ў шлёпкі і ідзе ў ванную — ведае, які б настрой ні быў, але цяпер — кожная хвіліна на ўліку.

Ужо тады, як памыўся халоднай вадою, успамінае пра ўсё тое, што было ноччу: і тую невядомую жанчыну, што прыснілася, і ўсё далейшае, што было між ім і Людаю. Цяпер, белай раніцай, пасля халоднай вады, усё тое, што было ноччу, згубіла сваю вастрыню і слодыч, цяпер ужо і сапраўды цяжка адрозніць начную рэальнасць ад сну — і тое і другое здаецца дзіўным, і таму пра сон, як і пра ўсё далейшае, Разорчык нікому не будзе гаварыць, усё гэта настолькі заблытанае, няправільнае і незразумелае, што пра гэта нават і заікацца нікому не будзеш.

Як і пра ўсё тое, што звычайна адбываецца між ім і Людаю ноччу, усё гэта — як з другога жыцця, з другіх адносін, зусім не звязаных з тымі штодзённымі клопатамі: работаю, у яго — сваёю, а ў Люды — сваёю, заняткамі з дзецьмі, бегатнёю па магазінах, выбіваннем дываноў, мыццём посуду ці той жа бялізны і, дарэчы, усяго таго іншага, шматлікага і нябачнага на першы погляд, што так шчыльна акружае чалавека цалюткі дзень і з чаго ён, Разорчык, ніяк не можа вырвацца.

Каб і хацеў таго...

Закончыўшы выціранца, Разорчык заходзіць на кухню і бачыць на стале сняданак: яечню, смажаную бульбу, чайнік, заварнік, масла ў сподку, булку... Люда занята ля стала — моўчкі расстаўляе талеркі. Разорчык нейк па-новаму глядзіць на яе тонкую постаць, абцягнутую выгаралым, аж да прытарнасці знаёмым халатам. Чамусьці ўсё болей і болей яго раздражняе гэты халат. Няўжо Люда не здагадваецца яго замяніць, хоць ты сам ідзі ў магазін ды купляй ёй новы.

І зноў успамінаецца тая няпрошаная жанчына. Быццам і сапраўды знаёмая...

Каб адагнаць ад сябе ўсё гэта, Разорчык пачынае гаварыць — апошні тыдзень так выходзіць, што за кароткі ранак яны маглі сказаць адно аднаму слова ці два. Не болей. Болей гаварыць і не было пра што. А пра што будзеш гаварыць? Пра работу? Дык яна ў кожнага з іх свая, зусім розная — Люда працуе медсястрою ў бальніцы — са сваёй горыччу і слодыччу. А пра ўсё астатняе, абаім вядомае, гаварылі вочы. І нашмат болей, чым

тыя словы. Бо словам можна лгаць — гаварыць адно, а думаць другое, а позіркам — не. Ды і ўвогуле, навошта тыя словы, калі і без таго ўсё ясна ў гэтым гарадскім раўнамерна-рытмічным жыцці, у якім пасля многіх год сумеснага жыцця кожны ведае свае правы і абавязкі. Можа, гэта і ёсць самае цяжкое і самае складанае ў сямейным жыцці — вытрымаць раўнамерна-рытмічнае штодзённае паўтарэнне аднаго ж і таго: знаёмых вачэй, знаёмых рук, знаёмых слоў, знаёмага посуду, знаёмай кватэры, дзе ўсё знаходзіш з заплюшчанымі вачыма.

— Я ўчора дзённікі не глядзеў. Як там у дзяцей — не ведаеш?

— А я калі змагла? Вячэру гатавала, затым — бялізна. Так і не прысела за вечар, нават тэлевізар не глядзела.— У Люды благі настрой. І з твару цёмная.

— Запусцяць вучобу, тады не нагоняць. Вясна, апошняя чвэрць, кантрольныя вот-вот пойдуць.

— Паглядзеў бы і сам. Чым даваць указанні...

— Ты ж сама бачыла, пасля сходу позна вярнуўся. Пасля яшчэ ў прыёмніку корпаўся.

Гэта гаворка можа вот-вот перарасці ў спрэчку — у адну з тых знешне бессэнсоўных спрэчак, якія, бывае, усчынаюцца ні з таго ні з сяго — слова за словам яны выплёсквалі з сябе незадаволенасць не на другога ці дзяцей, а на *нешта*, што стаяла між імі і замінала з радасцю і ўсмешкаю, як некалі, глядзець адно аднаму ў вочы.

Хоць што стаяла — ні Разорчык, ні Люда не ведалі...

Але на гэты раз Разорчык з сілаю глушыць у сабе прыкрасць і горыч, што хваляю падымаецца ў душы,— па вопыту ведае, што нічым добрым лямант не скончыцца, зноў разгуляецца язва. Таму ён моўчкі як мага хутчэй стараецца закончыць сняданак.

Затым ён ідзе ў спальню апранаць рабочы касцюм — пара выходзіць з кватэры. Толькі-толькі паспееш, не хапала яшчэ, каб і ён, начальнік лабараторыі, на работу спазняўся, падначаленым прыклад паказваючы.

«Да якога часу гэта будзе цягнуцца?» — шэпча сабе Віталя, расплюшчваючы вочы.

Крыўда на Наташу зацiхла, пераплавілася ў халодную разважлівую помслівасць, якую, гэта Віталя ведае па ранейшаму вопыту, ужо ніяк і нічым не расплавіш.

Калі яна не захацела ці не змагла зразумець яго, што ж — сама вінавата. Пры чым тут ён?

Віталя хутка падымаецца з ложка і адразу ж пачынае яго засцілаць,— як і ўсё, што ён звычайна робіць, гэту работу Віталя робіць па-вайсковаму акуратна і хутка. Затым, прыхапіўшы з сабою электрабрытву і ручнік, Віталя выходзіць са свайго пакойчыка і ідзе калідорам у ванную.

Гаспадары яшчэ спяць. Як і звычайна, раней дзевяці не падымуцца. Ім, пенсіянерам, спяшацца няма куды. Шчаслівыя людзі!

Пагаліўшыся, Віталя праводзіць далонню па гладкай скуры — па шчоках, падбародку — і ў той жа час доўга глядзіць у люстра на свой твар. Упэўніваецца, што твар у яго ўсё такі ж, як і некалькі год назад, калі быў яшчэ студэнтам: без лішняй нездаровай паўнаты, з роўнай без маршчын бледнаватай скураю, якая шчыльна абцягвае шчокі, падбародак... Самае брыдкае ў мужчыну — гэта двайны падбародак, які сам сабою сведчыць пра ляноту і абыякавасць. У вачах Віталі ўсё такі ж, як і некалі, спакойны халаднаваты блакіт. І прычоска ўсё такая ж, студэнцкая — у Віталі не модныя зараз патлы, а кароткія акуратна падстрыжаныя валасы, якія, папраўляючы рукою, Віталя любіць адкідваць набок. Гэта амаль што аўтаматычная звычка засталася яшчэ са школы. Здаецца, у ім усё такое ж, як і ў студэнцтве, ну, мо калі — валасы парадзелі крыху. Але ж — не лысіна ці плеш, як у некаторых, што старанна хаваецца спецыяльна адпушчанымі валасамі...

Пасля халоднай вады, якой Віталя абмывае сваё лёгкае цела, лягчэй, ранішняе нясцерпнае жаданне знікае, зараз Віталя думае, што сягоння ў канцы дня пазвоніць каторай са знаёмых. Трэба будзе ўзяць запісную кніжку і прагледзець старых надзейных знаёмых. Хоць бы той жа Валі пазваніць, даўно недзе чакае ягонага званка. Трэ было б пазваніць ёй раней, але ж гэта неспадзяванае знаёмства з Наташай, на якое гэтулькі ўскладаў надзей і якое ўнесла столькі блытаніны ў ягонае распланаванае жыццё.

Цэлых пяць дзён патраціў, думаў, спадзяваўся... На што? Пакуль не ўпэўніўся, што акрамя слоў, лёгкіх і пустых, у ёй нічога няма, відаць, яна належыць да тых няшчасных жанчын, разумных і шматслоўных, якія чым болей гавораць, тым цяжэй ля іх. Адчуваеш сябе,

як ля бяздушнага магнітафона, ля якога чуеш усё правільнае і разумнае, але ў рэшце рэшт яно цябе зусім не грэе.

І яшчэ — у гэтым Віталя можа сабе прызнацца — з кожным днём усё часцей і часцей думаецца пра жаніцьбу ці, на ўсякі выпадак, пра нешта больш-менш рэгулярна-пастаяннае — пра тую жанчыну, якая была б побач і між тым не замінала б яго най свабодзе. Канечне, гэта быў бы найлепшы варыянт. Але дзе ты зараз такую знойдзеш?

Па горкаму вопыту Віталя ведае, што кожная з іх праз нейкі час пасля знаёмства пачынае прэтэндаваць на *нешта* ў ягоным жыцці, часцей за ўсё на тое, што ёй і не можа належаць. Пачынаецца ўсё зусім несур'ёзна, з той нябачнай гульні, у якую непрыкметна і сам уцягваешся — ну хоць бы з умольнай просьбы памагчы табе тую ж падлогу працерці, а то — і посуд перамыць пасля вячэры. Адным словам — навесці парадак у кватэры. І хто супраць гэтага — пакажыце такога дурня?.. А потым? А потым і сам не паспееш азірнуцца, як трапляеш у гэту пастку, і вось ужо — не ступі лішняе, хадзі толькі ў шлёпках, бо падлогу падмятаюць і праціраюць, не прывядзі таварышаў, бо накураць, надымяць, натоптчуць ды і посуд лішні раз пасля перамываць прыйдзецца, у рэшце рэшт і сам сумленне май, пасля работы не ўздумай нікуды заходзіць, не спазняйся і не затрымлівайся, бо — гарачая вячэра стынуць будзе. І ўсё гэта, дурненькі і наіўны, толькі дзеля тваёй карысці, каб зберагчы тваё здароўе, шчасце і спакой.

О-о, кожная, кожная з іх, уваходзячы ў ягонае жыццё госцяю, марыць стаць гаспадыняю. На меншае ніводная з іх і не згодна.

Як гэта смешна і прымітыўна — няўжо і ён, як і многія, нічога новага не здолее прыдумаць, не выкруціцца, няўжо і ён, хоча таго ці не хоча, але ступіць на гэты пратораны шлях, па якому гэтулькі прайшло?.. З сумам і лямантам, са спробаю ўкусіць сябе за локаць, за які, як вядома, ніяк не ўкусіш.

Вядома-то вядома, але ж спрабуюць укусіць, яшчэ як спрабуюць. Узяць сваіх жа аднакурснікаў. З кім марылі жаніцца? Абавязкова, каб вышэйшая адукацыя была, каб прыгажуня пісаная, каб работніца... А пабралі? Сакратарак, манекеншчыц... Цяпер непаголеныя, недагледжаныя па магазінах пасля работы з сетачкамі

і з сумкамі ныркаюць, а іх абранніцы з дзесяцігодкаю за плячыма пазногці ў цырульнях гадуюць, пакутуючы, канечне.

Жыццё, жыццё такія выкрунтасы робіць, як хтосьці староннi глядзіць на людзей зверху і знарок падстройвае: ты хочаш так — што ж, на табе, толькі зусім адваротнае.

А мо і не варта ісці па гэтай дарозе? Мо ўсё гэта — аджыло, усё гэта — для мінулых пакаленняў, а яму патрэбна ад жыцця іншае, і таму няма чаго здзіўляцца тым шматлікім знаёмствам, якія неяк самі сабою лёгка завязваюцца з Нінамі, Зінамі, Марынамі, Валюшамі. Відаць, так цяпер і трэба, цяпер няма патрэбы абмяжоўваць сябе пэўнымі рамкамі, без якіх некалі нельга было абысціся.

Хоць бы таму няма патрэбы, што тыя рамкі зніклі.

Ён можа без цяжкасцей пражыць адзін, гэтак жа, як цяпер любая жанчына можа пражыць адна — гэтыя кароткія хвіліны асалоды, патрэбныя абоім, неабавязкова звязваць з сям'ёю. Нездарма, нездарма некалі ў «літаратурцы» адна жанчына ў час адной цікавай дыскусіі хвалілася набытым вопытам: каторы год жыла сама па сабе, а яе абраннік жыў таксама сам па сабе, сустракаліся яны пару разоў на тыдні, разам нават ездзілі адпачываць і былі, як пісала жанчына, шчаслівыя.

Мо так яно і сапраўды ёсць, мо ўсё да гэтага і коціцца? Што б сабе ні гаварылі, але сучасная жанчына не хоча і нават не ўяўляе сябе шчаслівай у сям'і, на той жа кухні, ля дзяцей, не, ёй трэба іншае, тое, чаго ім давялося паспытаць і ад чаго іх ужо ніяк не адарвеш: слава, пачуццё ўлады... Яны ўжо развучыліся быць жанчынамі, і таму няма чаго здзіўляцца з тых шматлікіх разводаў.

Эмансіпацыя, эмансіпацыя — нездарма пра яе ляманталі стагоддзі назад. Пра гэта лепей і не думаць. Як і пра Наташу — чарговую ахвяру эмансіпацыі. І без таго клопатаў хапае.

Віталя ідзе на кухню, дзе ставіць чайнік на газавую пліту. Пакуль закіпае вада, ён глядзіць у акно — на шматлікія вокны такога ж дзевяціпавярховага блочнага дома, у якім зараз наймае пакой. Думае, што за кожным зашторaным акном ідзе сваё жыццё, радаснае ці сумнае, лянівае ці істэрычнае, яно адгароджана ад яго не толькі шклом і бетонам, той сотняю метраў, а і чым-

сьці большым, цераз што не можа пераступіць пры ўсім жаданні, і таму спакойна глядзіць на тыпавы стандартны дом з упэўненасцю, што ягонае жыццё — зусім іншае, зусім не падобнае на тыя шматлікія варыянты жыццяў, што хаваюцца пад адным плоскім дахам гарадскога дома.

У гэты ясны сонечны дзень Віталю чамусьці нечакана стае сумна, у душу прарываецца пачуццё адзіноты, якое Віталя тут жа ўмела глушыць разважаннямі пра свой далейшы лёс, пра новыя цікавыя знаёмствы, пра тую ж кватэру, якую хутка павінны пабудаваць кааператыўным спосабам — Віталя стараецца думаць пра ўсё тое, рэальна-матэрыяльнае, што можна пачуць, убачыць, паспытаць, памацаць рукамі, адным словам — адчуць фізічна.

Магчыма, думаецца Віталю, гэта і ёсць галоўнае ў сучасным свеце, аплеценым шматлікімі тэорыямі, ідэямі, што адна другой супярэчаць. Калі ўжо няма таго свету, то беднаму сучасніку нічога іншага не застаецца, як хапаць аберуч усё, што зможаш, на гэтым...

Потым, калі лена, без ахвоты, як па абавязку, паснедаў і спаласнуў пад ракавінаю посуд, зноў паўстае ў памяці няпрошаная Наташа,— пустая і шматслоўная, гэта Віталя добра разумее, і мо таму, што менавіта такая яна недаступная для яго, гэты ўспамін прыносіць у душу разлад і незадаволенасць.

Як і няпрошаны ўспамін пра начных забулдыг, здаецца, ён нават зноў чуе іх прапітыя галасы, гэты хрыплаваты смех: «Ха-ха, шмакадзяўка...» Нечакана ў Віталі паяўляецца злосць, амаль гэткая ж, як і ноччу на асфальтаванай дарожцы, калі стаяў, сціснуўшы кулакі, і вагаўся. Але, на здзіўленне, гэтак жа хутка і нечакана злосць сама сабою знікае.

І ўсё гэта — як маршчынкі хваляў на паверхні ляснога возера, калі нечакана парывісты вецер на імгненне прарываецца да вады не праз шчыльныя кусты і дрэвы, што ўпрытык акружаюць берагі, а аднекуль зверху.

Раман Барысавіч прачынаецца сам, без званка будзільніка, без нічыёй пабудкі. Калі б ён ні лёг спаць, але заўсёды ў сем гадзін раніцы Рамана Барысавіча як хто будзіць,— ён рашуча падымаецца, і ўсё далейшае, распісанае і разлічанае па хвілінах, робіцца неяк само сабою, амаль што бяздумна, як, бывае, бяздумна чала-

век дыхае паветрам, робіць даўно знаёмую работу, да якой прывыкае за гады жыцця, і потым, на пенсіі, чалавек робіцца разгублены, бо, аказваецца, зусім не ведае, што рабіць далей.

І вось ужо — на Раману Барысавічу нияркі, але прыстойны рабочы касцюм, расчоскаю прычэсваюцца сівыя кучаравыя валасы, якія яшчэ даволі густыя і, як ні дзіўна, надаюць выгляд саліднасці і маладжавасці адначасова, апошні позірк на сябе ў люстра, на тыя калматыя чорныя бровы, што з гадамі становяцца ўсё пышнейшымі, на паўнаватыя чырвоныя шчокі з прыпухлымі вуснамі, на сівую акладзістую бараду, якая робіць вусны яшчэ болей яркімі і прыгожымі. Цяпер можна ісці ў залу да стала, на якім стыне згатаваны Рытаю сняданак.

Звычайна яны снедаюць на кухні, але сягоння...

Рыта ў зале ходзіць ля стала, пазіраючы на яго — ці ўсяго хапае.

— А калі Віка вярнулася? — Раман Барысавіч глядзіць на Рыту.

— Не яна вярнулася, а яны, няўжо не бачыш, колькі на стале прыбораў? — гаворыць Рыта і тут жа ідзе на кухню. Вяртаючыся, Рыта ставіць на стол талерку з хлебам і дадае: — Дзесьці пасля дзвюх. А можа, і пазней, я не ўставала.

Рыта выходзіць з залы, падыходзіць да дзвярэй пакоя Вікі і, пастукаўшы ў белыя дзверы пальцамі, гучна пытае:

— Віка, ты будзеш з намі снедаць ці пасля?

— З вамі, пачакайце, мы зараз выходзім,— чуецца голас Вікі.

І сапраўды тут жа чуваць, як дзверы пакоя адчыняюцца, і вось — Віка паказваецца ў зале. За руку яна вядзе за сабою маладога чалавека. Год дваццаці сямі. У ім усё яшчэ тонкае і, як гаворыцца, гонкае, цела не налілося той мужчынскай саліднай паўнатою, якою звычайна наліваецца год пасля трыццаці. І той жа чысты тонкі твар з чорнымі вусікамі, тыя ж доўгія, як у музыкантаў, белыя пальцы, высакаватая постаць — усё гэта ў ім, як у падлетка. Як у звычайнага падлетка, нават гэтыя блакітныя пацёртыя джынсы, дэрмацінавая, пад скуру, чорная куртачка...

Дзіўна, гэта ўжо зусім дзіўна, навошта ёй гэты студэнцік?

— Знаёмцеся,— гаворыць Віка і ўсміхаецца, гледзячы разумнымі вачыма проста ў вочы Раману Барысавічу,— гэта — мой добры знаёмы.

— Георгій, навуковы супрацоўнік,— называе сябе малады чалавек. Па ўсім відаць, ён адчувае сябе няёмка, твар чырванее. Георгій хутка і неяк таропка — відаць, яшчэ не навучыўся — торкае руку Раману Барысавічу, а затым і Рыце.

— Сядайце за стол, а то ўсё астыне,— як нічога і не прыкмячаючы, Рыта ўсміхаецца і запрашае рукою за стол.

— Зараз, мама, дай нам толькі памыцца,— гаворыць Віка і вядзе Георгія ў ванну.

Ужо ў калідоры Віка нешта гаворыць Георгію і гучна смяецца — відаць, каб развеяць ягоную няёмкасць.

«Ты глядзі,— здзіўляецца Раман Барысавіч,— навуковы супрацоўнік... А па адзенню — ніколі не здагадаешся. Нездарма гавораць, што зараз акадэмікам і членам-карэспандэнтам модна ў джынсах і дваццацірублёвых світэрах бегаць. Відаць, усё-ткі праўду кажуць, што ў Дубне ўсе на веласіпедах ездзяць як на работу, так і з работы...»

Георгій і Віка вяртаюцца ў залу. Усаджваюцца за стол.

— Можа, каньячку возьмем? — ціха і спакойна прапануе Раман Барысавіч.

— Ён у нас не п’е,— усміхаючыся, Віка глядзіць на Георгія. Па ўсім відаць, яна ведае яго не першы дзень. І нават не першы тыдзень.

— Ну чаму ж ты так, Віка? Проста, калі раніцай вып’еш, то пасля, на рабоце, мысленне будзе не такім лагічным. А тым болей што ў нас, як заўсёды, сягоння ў дзевяць навуковы штотыднёвы семінар і мне на ім выступаць.— Няёмкасць у Георгія памалу праходзіць, твар ужо не ружовы, толькі ўсё час ад часу Георгій адкідвае доўгія валасы з вачэй. Як у дзяўчыны яны ў яго. Усё ж, як ні круці, а — хвалюецца хлопец, таму і гаворыць, як апраўдваецца.

— Што ж, глядзіце самі, вам, маладым, відней.— Раман Барысавіч доўга ў вочы не глядзіць, разумее, што прыставаць да чалавека не варта. Але і маўчаць зусім — яшчэ горай.

Нейкі час снедаюць моўчкі. Курыца, якую паспела засмажыць Рыта, як заўсёды мяккая і смачная, проста

такі растае ў роце. Што-што, а гатаваць курыцу Рыта ўмее.

— Чым жа вы займаецеся, калі не сакрэт? Ці ў вас, можа, тэма закрытая? — Раман Барысавіч зноў мякка пазірае Георгію ў вочы.

— Не, не закрытая. Можна гаварыць. Я займаюся нізкімі тэмпературамі.— У Георгія, між іншым, добры апетыт. Як і ва ўсіх маладых. Уражанне, як ён усё роўна з тыдзень не еў, галодны бегаў.— Мы вывучаем уласцівасці некаторых матэрыялаў пасля ўздзеяння на іх нізкімі тэмпературамі. Самі разумееце, што касмічныя даследаванні тут далі магутны штуршок. Не ведаю, ці знаёмы вы з гэтай з'явай...

— Знаёмы крыху.— Раман Барысавіч усміхаецца, ківае злёгку галавою.— Па-мойму, нізкія тэмпературы акрамя космасу зараз шырока ўкараняюцца ў медыцыне. Ужо адно тое, што мільянеры з дапамогаю замарожвання спрабуюць жыць болей, чым ім адведзена прыродаю, ужо гэта адно наводзіць, як гаворыцца, на грунтоўны роздум.

— Так-так, толькі гэта глупства — гэта я наконт замарожвання мільянераў. І не толькі ў медыцыне ўкараняюцца нізкія тэмпературы.— Цяпер, калі гаворка пайшла на блізкую Георгію тэму, ён адчувае сябе больш упэўнена, нават неяк аж ажывае і перастае жваць кавалачак вэнджанай сухой каўбасы. Ён трымае гэты кавалачак на відэльцы і, памахваючы ім перад сваім носам, спакойна гаворыць: — Хочам таго ці не хочам, але навука, навуковы вобраз мыслення ўсё больш і больш уваходзіць у наша жыццё. Гэтыя охі ды ахі, якімі дагэтуль жыло чалавецтва, цяпер нікому не патрэбныя, цяпер, як хлеб надзённы, чалавеку патрэбна абгрунтаваная навуковая лагічнасць. І нізкія тэмпературы тут не выключэнне. Як, дарэчы, і даследаванне космасу. Заўважце, усё, што чалавек адкрывае, пераводзіцца на патрэбу чалавеку. Так што перыяд здзіўлення нізкімі тэмпературамі скончыўся, зараз мы выйшлі на новую стадыю — практычнага выкарыстання нізкіх тэмператур. Ужо зараз ёсць серыя прыбораў, якія працуюць на нізкіх тэмпературах. Заадно я займаюся звышправоднасцю. Гэта ўжо маё хобі. Можа, даводзілася вам чуць пра звышправоднасць?

— Так, я некалі скончыў політэхнічны.— Раман Барысавіч зноў і зноў, коратка пазіраючы ў вочы Геор-

гію, спакойна ўсміхаецца. У Рамана Барысавіча добрая ўсмешка, калі ён усміхаецца незнаёмаму чалавеку, то таму чалавеку здаецца, што ведае Рамана Барысавіча даўным-даўно. Як добрага блізкага сябра. І ўсё гэта — ад адной толькі ўсмешкі. Не кожны так можа.— Праўда, калі я вучыўся, пра нізкія тэмпературы толькі-толькі распачыналі гаворку. Найбольш у тэарэтычным плане. Да практыкі было далекавата.

— Ну-у, усё роўна — вышэйшая адукацыя, яна і ёсць вышэйшая... З вамі тады можна гаварыць больш канкрэтна.— Георгій зусім весялее. Відаць, ён любіць сваю работу, зараз ён гатовы гаварыць і гаварыць. А калі б тут, у зале, была дошка і крэйда, то і за формулы ўзяўся б. Зусім пра сняданак забыўшыся.— Дарэчы, за кожныя пяць год інфармацыя пра акружаючы нас свет павялічваецца ўдвая. Так званы інфармацыйны бум — гэта не фікцыя, гэта — рэальнасць, і толькі зусім недасведчаныя людзі могуць дазволіць сабе раскошу не ўлічваць гэтага. Як, напрыклад, нашы гуманітарныя пісьменнікі, якія зусім, ну абсалютна зусім гэтага не ўлічваюць — спяваюць адно і тое ж, адно і тое ж, як і год, як і трыццаць год назад, зусім не заўважаючы, што цяперашні чалавек пад уздзеяннем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі зусім другі, не такі, які быў калісьці. Вот таму яны толькі пра дзядоў і бабулек пішуць, пра тых, што ґадамі ў вёсках сядзяць, цывілізацыі не нюхнуўшы...

Відаць, Георгій не любіць гуманітарных пісьменнікаў. Што ж, гэта — прафесійная хвароба... Наколькі Раману Барысавічу вядома, пісьменнікі плацяць тэхнакратам гэткаю ж удзячнасцю.

— Увогуле, я лічу, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя па сваіх маштабах уздзеяння на псіхіку чалавека не менш значная за ўсякія іншыя рэвалюцыі. Па-першае, яна поўнасцю мяняе ўяўленне аб акружаючым нас свеце. Маю на ўвазе не толькі рэлігію — для нас, паслярваеннага пакалення, рэлігія — усяго толькі прыгожая казка. Я маю на ўвазе і ўсё астатняе: мараль, позірк на гісторыю, на ролю асобы ў той жа гісторыі. Адна тэорыя адноснасці чаго вартая, мы яшчэ дагэтуль не можам апамятацца, калі гаварыць сур'ёзней...— Георгію цяжка спыніцца. Цяпер ужо нашмат смялей ён памахвае відэльцам з кавалачкам вэнджанай каўбасы: — ...з дапамогаю навукі і тэхнікі мы выходзім на такі высокі ўзровень мыслення, з якога ўсе нашы ранейшыя

ўяўленні пра шчасце ці няшчасце здаюцца проста смешнымі. Нездарма ў апошні час паявілася такая катэгорыя, як касмічнае мысленне, касмічны падыход... І ў літаратуры гэта ёсць, у так званай гарадской літаратуры, ды і ў навуцы...

— Вы ж не забывайцеся, што тут яшчэ і мы, цёмныя, неадукаваныя, сядзім,— Віка з усмешкаю перабівае Георгія. Як і не чуючы ягонага палкага маналога, яна глядзіць яму ў самыя вочы і, як дзіця малое, пытае: — Табе кавы ці чаю?

Георгій нейкі час са здзіўленнем глядзіць на Віку, пры чым тут кава ці той жа чай? Потым святлее, усміхаецца таксама:

— Зразумеў, Віка. Калі можна, кавы.

— Можна, чаму ж нямажна... У нашым доме ўсё можна,— Рыта падымаецца са свайго крэсла, ідзе на кухню.

Зноў маўчанне. Каб перабіць яго чым, Раман Барысавіч гаворыць:

— Відаць, наша разумная Віка, як заўсёды, у нечым мудрэй за нас. Што ні гавары — жанчына... Не мною першым гэта заўважана, але чалавецтва ў большасці, як ні дзіўна, цікавіцца не так званымі высокімі матэрыямі, пытаннямі таго ж вечнага ці нявечнага жыцця, а зусім іншым, будзённым і звычайным, з чым штодня сутыкаецца.

— Надвор'ем, напрыклад,— падказвае Віка з усмешкаю і кароткім кіўком галавы адкідвае набок валасы. У Вікі кароткая сучасная стрыжка. Ды і правільна: якая жанчына зараз мае час на расчэсванне і ўкладку доўгіх непатрэбных валасоў? Лішняе гэта, а калі каму надта хочацца, парыкі і шыньёны ёсць. У Вікі іх па пары — рознага колеру, на розныя выпадкі.

Раман Барысавіч з усмешкаю глядзіць на Віку — як яны цудоўна, з аднаго позірку адно аднаго разумеюць! Увогуле з гадамі Віка ўсё болей і болей падобна на Рыту: і той жа паўнатою невысокага шыракаватага цела, ад якога так і вее ўтульнай пяшчотаю, і гэтымі пухлымі поўнымі вуснамі, і чорнымі вялікімі вачыма, якія дзесятае калена праяўляецца...

Прырода, што ні гавары, а яна праяўляецца, праз пры жаданні заглядваюць проста ў тваю душу...

— Ну, не толькі надвор'е цікавіць людзей. Напрыклад, здароўе, самаадчуванне, пачуццё ўласнай годнас-

ці. Прычым, як мне здаецца, усур'ёз у нас ніхто гэтымі пытаннямі не займаецца. Сацыялагічныя анкеты і апытванні — гэта ў нас лічыцца вяршыняю. Разумееце, я не пра медыцыну, яна тут не памочніца, а пра вось гэтыя маральна-этычныя аспекты. Гэтым варта займацца на навуковай аснове, нават з філасофскім падтэкстам. Бо тут, як і ў іншых сферах сучаснага жыцця, шмат такога, што патрабуе найперш філасофскага асэнсавання. А вы як думаеце? — Раман Барысавіч хутка і ўважліва зыркае ў вочы Георгію. Па тым, што адкажа Георгій, як ён павядзе сябе зараз, Раман Барысавіч зробіць, як гаворыцца, сур'ёзныя вывады.

— Ну-у... Я думаю...— Відаць, Георгій нават разгублены ад такога пытання, над якім, мусіць, і не задумваўся. Але ўсё ж — адказваць нешта спрабуе.— Я думаю, што ваша думка важная. Але не менш важнай з'яўляецца і пастаноўка кардынальных навуковых пытанняў. Адна філасофія, сама па сабе, нічога не вырашыць. Можна гадамі спрачацца, што першае паявілася на свеце: яйцо ці курыца... Разумееце, пра што я хачу сказаць.

— Канечне, канечне, я поўнасцю з вамі згодны.— Цяпер Раман Барысавіч гаворыць хутка, не гледзячы на Георгія. За гэтыя некалькі імгненняў ён адкрыў у Георгію такое, што, бывае, іншы не зможа адкрыць за гады сумеснага жыцця.

Вяртаецца з кухні Рыта. У адной руцэ трымае чайнік, а ў другой — бляшанку са згушчонай кавай.

— Вот, бярыце.— Рыта ставіць на стол перад Георгіем чайнік і каву.

— Дарэчы, Георгій нядаўна абараніўся. Гэта вам інфармацыя да пытання аб тэндэнцыях развіцця самаадчування сучаснага чалавека, праўдзівей, навуковага работніка, які, таксама дарэчы, з'яўляецца адным з самых перспектыўных у інстытуце. Гэта інфармацыя ў мяне праверана.— Віка весела ўсміхаецца і глядзіць бацьку ў вочы. Відаць, Віка зразумела, што той хацеў пачуць ад Георгія. Гэтак жа, як і Раман Барысавіч заўсёды цудоўна разумеў Віку. Увогуле ў іх дружнай сям'і ўсе адзін аднаго цудоўна разумеюць.

— Вам цукру пакласці ці вы самі зможаце? — Рыта падыходзіць да Георгія.

— Дзякую, я сам пакладу.— Георгій намазвае на-

жом масла на булку.— Дзіўна, у вас масла такое жаўтаватае. Як і не з магазіна ўсё роўна.

— Правільна, яно і не магазіннае. Мы ў асноўным прадукты купляем у «Дарах прыроды» ці на рынку. На рынку ў нас знаёмая ёсць. З вёскі прывозіць. Хоць і вясковая, але акуратная жанчына,— цяпер ужо ў размову ўступае Рыта.

Нарэшце паснедалі.

Георгій падымаецца з крэсла, дзякуе за смачны сняданак і ідзе следам за Вікаю ў яе пакой. Рыта пачынае прыбіраць са стала посуд. Нейкі час Раман Барысавіч сядзіць у роздуме — хоць і малады Георгій, па ўсім відно, нявопытны яшчэ, але неяк надта ўжо хутка ён асвойтаўся. Вось гэта і здзіўляе.

Праз няшчыльна зачыненыя дзверы Раман Барысавіч міжвольна чуе голас Георгія:

— У цябе разумныя і простыя бацькі. Дарэчы, дзе ў цябе бацька працуе?

— Ну, збоку, як гаворыцца, відней. А бацька ў мяне — просты савецкі інжынер.

— А-а, а я спачатку падумаў, што ён дзесьці ў навукова-даследчым ці выкладчык...

Затым у пакоі Вікі становіцца ціха. Потым, праз якую хвіліну, чуецца голас Вікі, цяпер больш прыглушаны і нейкі нават стомлены:

— Ну, Жора, хопіць, хопіць... І так спазняемся. Ну-ну, Жора, ты што робіш?..

І зноў — цішыня, цягучая, ліпкая.

Раман Барысавіч у рэшце рэшт падымаецца з крэсла і ідзе ў прыхожую, дзе на вешалцы сярод іншага адзення вісіць ягоны няяркі добротны фінскі плашч на цёплай падкладцы — адзенне Раман Барысавіч любіць простае, не надта моднае, але цёплае, па магчымасці без сінтэтыкі, найчасцей імпартнае. Пара, пара і яму апранацца і ісці на работу.

Як і ўсім працоўным.

*Зараз Яго не пазнаць. Проста Ён зараз другі, як бывае зусім другім чалавек пасля сну.*

*Знікла цемра, той хісткі прыцемак, які многае хаваў ад людскога вока, і таму ўсё, што нядаўна здавалася нерэальным, у белым сонечным святле становіцца выразным і акрэсленым,— вось роўная заасфальтаваная цэнтральная плошча, вось роўныя лініі будынін, у якіх, здаецца, няма нічога лішняга, і таму ўсе яны*

падобны адна на адну, як падобны між сабою запалкавыя карабкі... Вуліцы, некалі пустыя, цяпер забіты машынамі: вёрткімі легкавушкамі, павольнымі непаваротлівымі аўтобусамі і тралейбусамі, гулкімі трамваямі, што, пагойдваючыся з боку на бок, са звонам і гулам кацілі па бліскучых рэйках, «газікамі», МАЗамі, КРАЗамі, якія цягнулі за сабою крытыя фургоны ці прычэпы з грузам,— усё гэта, рухома рыклівае, існавала неяк само па сабе, зліваючыся і распадаючыся на асобныя плыні, і, здавалася, не мела ніякага дачынення да маленькіх у параўнанні з імі людзей, якія зараз хутка высыпалі з вялізных стандартных запалкавых карабкоў і спяшаліся да супынкаў, дзе, стоячы купкамі, марылі, як бы хутчэй уціснуцца ў адчыненыя дзверы трамваяў, тралейбусаў ці аўтобусаў; у рэшце рэшт людзі заходзілі ў машыны, дзверы за імі зачыняліся, машыны краталіся, а потым ля заводскіх і фабрычных прахадных людзі выходзілі з машын і спяшаліся да настылых за ноч станкоў, рухавікоў, прэсаў, да той жа доўгай ніткі ўсемагутнага канвеера, з якой раўнамерна пачыналі сыходзіць машыны, машыны, машыны... Людзі спяшаліся ў канторы, у інстытуты, у праектныя КБ, дзе ўся іх работа была разлічана на стварэнне больш дасканалых машын.

І нават тое, што рабілася машынамі для людской патрэбы: і прадукты ў цэлафанавых абгортках, і бліскучая мэбля, і сінтэтычнае адзенне, і нават блокі кватэр — усё гэта ў рэшце рэшт аказвалася карысным машынам, бо ў гэтым зачараваным коле людской і машыннай дзейнасці цяжка знайсці прычыну і вынікі, канец і пачатак: усё сплялося ў штосьці суцэльнае, дагэтуль невядомае і нязначнае.

У наасферу, ці што...

Дзень разгараўся. У чыстае неба з высокіх заводскіх і фабрычных камінаў клубіўся цёмны дым, як сведка таго, што Ён жыў тым рытмічным паўнакроўным жыццём, дзеля якога Ён, здаецца, і паявіўся на гэтай некалі пустой зямлі. Па чыгуначных рэйках да Яго з усіх канцоў хуткія магутныя цеплавозы цягнулі вагоны з усім, што Яму было неабходна, як чалавеку ежа: лес, пясок, цэмент, руду і каменны вугаль, якія недзе далёка днём і ноччу даставаліся з глыбокіх зямных нетраў і зараз у ім ператвараліся ў вогненныя сталёвыя раўчукі, якія, застываючы ў сваім бегу, магут-

*ными нажніцамі рэзаліся на шматтонныя пруткі, выціскаліся ў магутных станах у роўныя і тонкія сталёвыя лісты, што тут жа перадаваліся ўсё бліжэй і бліжэй да шматлікіх станкоў, да таго ж усемагутнага канвеера. Магутная электраэнергія, схаваная ў дратах, газ і нафта, што днём і ноччу цяклі да Яго ў сталёвых падземных трубах,— усё гэта Яму было неабходна, бо яно ператваралася ў Ім у тое завершанае, што, укрытае брызентам, поліэтыленам, дошкамі, бліскучае ад фарбы, хуткія цягнікі развозілі ад Яго далёка, дзе яно чакалася з надзеяю...*

**10 гадзін**

Лабараторыя электрасхемнага рамонту знаходзіцца ў вялікім прадаўгаватым пакоі, з аднаго боку якога — тры акны, што выходзяць на вуліцу, а з другога — глухая сцяна, ля якой упрытык стаяць сталы, застаўленыя прыборамі для кантрольных праверак. Там, на гэтых сталах, можна ўбачыць і асцылографы, і генератары токаў як высокай, так і нізкай частаты, і тыя ж усім вядомыя са школы омметры, амперметры, вальтметры, там жа меліся і спецыяльныя праверачныя стэнды,— усё гэта, бліскуча-стрэлачнае, мелася не толькі на сталах, а то і падвешана для зручнасці на сцяне, дзе акрамя прыбораў ці то для саліднасці, ці то для патрэбы вісяць жаўтаватыя выцвілыя ад часу аркушы са складанымі схемамі.

Рабочыя сталы размешчаны бліжэй да вокан, стаяць яны амаль што ў рад. Бліжэйшы да выхада стол Эмы Міхайлаўны, на ім здаля відаць высокая, старой маркі, чорная пішучая машынка, побач з якою кіпа папер як з надрукаваным тэкстам, так і з тым, які яшчэ трэба надрукаваць. Затым, калі лічыць ад дзвярэй, стаяць сталы Рамана Барысавіча, Віталіка, Макрыцкага і апошні, амаль што ў самым куце, стол Разорчыка. На стале Разорчыка тэлефон, селектар, невялічкая кампактная электронная машынка, кіпа папак і розных папер, каляндар, алоўкі — усё тое звычайнае, што можна ўбачыць на стале кожнага загадчыка лабараторыі ці аддзела.

Рабочыя сталы Рамана Барысавіча, Віталіка і Макрыцкага мала чым адрозніваюцца ад тых, якія стаяць уздоўж сцяны. На іх таксама маюцца прыборы, да ста-

лоў падведзены разеткі, тут жа — невялічкія кампактныя тэстары, паяльнікі з рознымі наканечнікамі: тонкімі, тоўстымі, сагнутымі... Да сталоў прымацаваны нават цісочкі.

На агульным стале маецца невялічкі такарны станок — для агульнага карыстання.

З розных канцоў горада сюды дастаўляюцца прыборы як для кантрольных праверак, так і для прафілактычнага рамонту: з заводскіх і фабрычных лабараторый, цэхаў, майстэрняў, з навукова-даследчых інстытутаў, са школ і медыцынскіх устаноў — адсюль яны бесперапынна цякуць і цякуць сюды магутнай плынню, разам з якой гэткай жа магутнай плынню цякуць у лабараторыю розныя дакументы, якія трэба запаўняць, тут жа і пісьмы, загады, заяўкі, рэкамендацыі, скаргі на дрэнны рамонт — усё тое, на што трэба даваць адказ.

Калі думаеш атрымаць прагрэсіўку.

Таму Эме Міхайлаўне ўжо няма калі займацца рамонтам прыбораў, яе, інжынера-электрыка, Разорчык вымушаны пасадзіць за пішучую машынку, бо сам ужо не спраўляецца з гэтай магутнай плынню...

У час работы звычайна людзі гавораць. Пра markdownрознае. Найчасцей зусім не звязанае з работаю, з тымі ж прыборамі, рамонт якіх праводзіцца неяк бяздумна і лёгка, як бяздумна і лёгка можна вязаць панчоху.

Ці той жа посуд перапіраць.

На першы погляд гэта дзіўна, але, калі задумацца, нічога дзіўнага тут няма — за доўгія гады людзі даўно азнаёміліся і з асцылографамі, і з генератарамі, і з тэстарамі, як і з тымі ж шматлікімі методыкамі праверак электрасхем розных прыбораў, для іх, спецыялістаў, усё гэта маўкліва-нерухомае амаль тое ж, што для кухара — кухня, ці для токара — станок, ці... Ды ці мала можна прывесці прыкладаў з гэтага складанага і ў той жа час нечым падобнага жыцця?

Машынаю ці работаю можна цікавіцца, можна тыднямі паяць ці разбірацца ў складанай электрасхеме, прыдумаць, у рэшце рэшт, сваю, яшчэ лепшую, але, як бы доўга гэтае шчасце ні цягнулася, нарэшце ўзнікне: «А навошта гэта схема?» І самае дзіўнае, што пытанне гэта калі і задасі машыне ці схеме, то адказу не пачуеш. Вось тады і давядзецца прыўзняць галаву і, абвёўшы затуманеным позіркам сваё дзецішча, азірнуцца вакол сябе і... адчуць адзіноту.

Як у пустыні адчуеш сябе.

І яшчэ раз упэўнішся, што на тое «навошта?» машына ці схема адказу не дасць,— яна ў сваёй завершанасці здасца нечым самамэтным, цэльным і ясным, як цэльным і ясным на першы погляд здаецца многае, створанае рукамі чалавека, калі адкінуць убок гэтае «навошта?».

І таму, як звычайна любіць паўтараць Разорчык, падвядзем вынікі: калі так ужо атрымліваецца, што без гэтага «навошта?» чалавек не можа абысціся, то тады і давядзецца гаварыць з некім пра ўсё тое рознае, што звязана і не звязана з прыборамі ці схемамі. І таму, якая б сабе работа ні была, а праз гэтае «навошта?» выйдзеш на чалавека, на ўсё тое звычайнае ці незвычайнае, што яго трывожыць.

Ці хаця б цікавіць.

А цікавіць па-сапраўднаму іншае, часцей за ўсё зусім не звязанае з машынаю ці схемаю. Ну, узяць бы тое бессмяроцце.

У лабараторыі чамусьці ўсё часцей і часцей узнікае гаворка на такую тэму.

Пачалося ўсё з той пары, калі Раман Барысавіч, вярнуўшыся з далёкага вялікага горада, куды ездзіў па камандзіроўцы, разам з новымі прыборамі для работы прывёз ашаламляльныя навіны пра лятаючыя талеркі, пра гэтых самых доўгачаканых энланаўтаў, якія павінны былі вот-вот паявіцца ці то на цэнтральным праспекце, ці то проста тут, у лабараторыі. Калі ў другіх месцах энланаўты пабывалі, то, спытаемся, чаму яны не могуць і тут пабываць?

Раман Барысавіч пад вялікім сакрэтам — потым, праз месяцы, яны і самі здзіўляліся, чаму пад сакрэтам,— даваў чытаць нейкія лісткі з надрукаваным пад капірку тэкстам.

Першыя дні пасля цікавых навін Рамана Барысавіча былі напоўнены такім чаканнем чагосьці незвычайнага, што ўсё іншае, штодзённае і звыклае, здавалася не тое што нецікавым, а проста смешным. На рабоце яны толькі тым і займаліся, што да хрыпаты спрачаліся пра тое малавытлумачальнае і дагэтуль неразгаданае, што было як у гісторыі чалавецтва, так і ў жыцці кожнага.

Тут усё ішло ў ход: і сны, і прароцтвы, і наскальныя малюнкі, і некалі нашумелы фільм «Успаміны аб

будучым», нават казкі пра бабу-ягу са ступаю і мятлою, не кажучы пра біблейскія легенды і Хрыста — Раман Барысавіч горача і аргументавана даказваў, што гэтыя казкі — успаміны людзей пра прылёт іншапланецян. Усё ў ягоных разважаннях сыходзілася: ступа — ракета, мятла — вогненны шлейф. Ды і тое ж уваскрашэнне Хрыста — не што іншае, як адлёт на сваю далёкую, нам невядомую радзіму...

Спрэчкі разгараліся...

Мінуў тыдзень, другі, доўгачаканыя энланаўты так і не паяўляліся, замест іх у душы кожнага паявілася разуменне чагосьці іншага,— магчыма, таго, што калі б яны, гэтыя энланаўты, і паявіліся, то наўрад бы што змянілася ў іх жыцці.

А мо нават...

Як потым гаварыў Раман Барысавіч, вышэйшая цывілізацыя заўсёды разбурае ніжэйшую. І тады, як паявілася гэтае разуменне сваёй абмежаванасці, можа, нават неакрэсленае і цьмянае, у лабараторыі стала меней гаворкі пра неапазнавальныя лятаючыя талеркі, пра іх існаванне цяпер калі і ўспаміналася, то толькі — з лёгкай ironіяй, за якой стаяла: з яшчэ адной прыгожай казачнай надзеяй і чаканнем цуду давялося развітацца.

Пасля, як патроху заціхлі гаворкі і спрэчкі пра энланаўтаў, пра той загадкавы Бермудскі трохкутнік, дзе, згодна тэорыі Рамана Барысавіча, знаходзілася база лятаючых талерак, пасля гэтых гаворак пачаліся новыя, яшчэ цікавейшыя — пра біяполе, яно, зноў жа згодна меркаванняў Рамана Барысавіча, мела прамую сувязь з ваколзямным магутным біяполем, якое надзейна звязвае між сабою ўсё жывое.

— Вы хоць разумееце, здагадваецеся, чаму некаторыя амерыканскія астранаўты, пабываўшы на Месяцы, захварэлі псіхічна, адзін, кажуць, трапіў у жоўты дом, а другі — у манастыр, набожным стаў? І гэта — у наш адукаваны век, астранаўты, не нягграматныя цёмныя дзяды і бабулькі... Я вам скажу, чаму так здарылася. Яны выйшлі з-за межаў уздзеяння ваколзямнога біяполя. А ўзяць бы нашы зямныя справы. Што, якая сіла прымушае нас збірацца ў мільённыя скопішчы і псаваць адно аднаму нервы, укарочваць і без таго кароткі век? Ці задумваўся хто з вас, што тут штосьці не тое?.. Хо-о, чалавецтва, чалавецтва, ты яшчэ не здагадваешся,

якое ты адзінокае, як не ведаеш таго, у чым сутнасць твайго існавання...— так нараспеў мог гаварыць Раман Барысавіч, быццам сам быў прадстаўніком больш высокай цывілізацыі. Нешта прарочае праяўлялася тады ў твары Рамана Барысавіча, такое, на што нават і Разорчык нічога не мог запярэчыць, а толькі моўчкі глядзеў на Рамана Барысавіча і лыпаў вачыма.

Ну, Разорчыку, які вырас у вёсцы, гэта чуць не ўпершыню, хай вучыцца разумным размовам...

Увогуле, у лабараторыі за доўгі рабочы дзень абмяркоўваліся тэмы сур'ёзныя: і пра чалавецтва, і пра рух зямной цывілізацыі — а і сапраўды, як, куды яна развіваецца, у бок прагрэсу ці рэгрэсу, бо той занадта аптымістычны позірк на прагрэсіўнае развіццё чалавецтва быў добра, як сцвярджаў Раман Барысавіч, размыты першай сусветнай вайною, не ўпамінаючы пра другую сусветную...— і пра будучае дзяржаў — як, у якой форме выльецца іх супрацоўніцтва праз стагоддзі? — і пра мінулае,— карацей кажучы, гаварылася пра ўсё тое маштабнае і касмічнае, што, мусіць, заўсёды прыцягвала і будзе прыцягваць увагу чалавека, як прыцягвае бязмежная далеч марской вады, ці тыя ж непакораныя заснежаныя горныя вяршыні, што хаваюцца за белапеннымі воблакамі, ці тыя ж недасягальныя зоркі, што незразумела чаму цягнуць і цягнуць да сябе халодным пульсуючым святлом.

Таму нічога дзіўнага няма і ў тым, што сягоння як бы між справаю вядзецца такая гаворка...

— Не, шаноўная Эмачка, што б мы сабе ні гаварылі, як бы мы сябе ні ашуквалі, а чалавек не можа змірыцца са сваёй смерцю,— так гаворыць Раман Барысавіч. Ён сядзіць за сваім рабочым сталом і корпаецца адвёрткаю ў блоку прыбора.— Калі мне даводзіцца чуць, што нехта там можа спакойна ўспрымаць сваю смерць, то мне думаецца, што ён — псіх. У чалавеку, як і ва ўсім жывым, закладзены прыродаю гэты неадольны жах перад смерцю, ва ўсіх нас ад нараджэння ёсць гэта невытлумачальная вера ў тое, што мы — бессмяротныя. А з другога боку, калі цвяроза разабрацца, мы не павінны баяцца смерці. Там жа нічога няма. Пустата. Бездань. Вялікае нішто... А паглядзіце, як усё жывое баіцца гэтай пустаты і бездані, гэтага загадкавага нічога. Значыць, за гэтым нешта крыецца, прыроду не ашукаеш.

— Раман Барысавіч, ну скажыце мне, пра якое бессмяроцце мы можам у наш час гаварыць? Пра якое? — Эма Міхайлаўна перастае ляскатаць машынкаю і здзіўлена глядзіць на Алмазава.

— Ну, канечне, не пра тое, пра якое гаворыцца ў Бібліі. Усё, пра што там гаворыцца,— гэта прымітыўна, хоць у аснове старажытныя ўмудрыліся ўхапіць нешта істотнае, без чаго б чалавецтва так і не змагло б прайсці гэты пакутлівы шлях ад дубіны ля вогнішча да нейтронных бомбаў.

Раман Барысавіч гаворыць спакойна і ціха. Як сам з сабою разважае. Пару месяцаў назад Раман Барысавіч пачаў гадаваць бараду. Зараз яна ў яго вялікая і акладзістая. Увогуле цяпер у постаці і ў паводзінах Рамана Барысавіча ўсё болей і болей прарываецца штосьці прарочае. Ва ўсякім разе велічнае — гэта ўжо пэўна...

— Вот, напрыклад, вы чулі што-небудзь пра работы Фёдарава?

— Не. А хто гэта такі? — Эма Міхайлаўна цяпер зусім перастае друкаваць.

— А пра Вярнадскага?

— Чакайце, пра гэтага я нешта чула. Здаецца, у Маскве ці то праспект такі ёсць, ці то станцыя метро...

— Ну-у, Эма Міхайлаўна, што-што, а гэта вам пара ведаць, даўно пара. Дваццаты век заканчваецца. У Маскве, дарэчы, усе больш-менш адукаваныя людзі пра іх работы ведаюць, а мы — правінцыя...

— Дык што ж у іх за работы такія?

— Ладна, я коратка... Адна з асноўных ідэй Фёдарава зводзіцца да таго, што мы, чалавецтва, павінны ажывіць сваіх бацькоў. Мы вінаваты перад імі. Мы, калі гаварыць грубавата, жывём за іх кошт. Пра гэта, дарэчы, і той жа Вярнадскі гаварыў у сваіх работах. Усё, па чым мы ходзім, што ядзім,— у той ці ў іншай меры рэшткі некалі жывога. І тая ж глеба, і выкапні: руды розныя, аказваецца, гэта вынік жыццядзейнасці мікраарганізмаў, я ўжо не ўспамінаю пра каменны вугаль, пра нафту... Разумееце, яшчэ невядома, што спачатку было: мёртвае ці жывое?.. Самае большае, на што згаджаўся Вярнадскі, што жывое і мёртвае суіснавалі і суіснуюць побач. Калі ўжо на тое пайшло, паспрабуйце знайсці мудраца, які чотка скажа, чым адрозніваецца жывое ад мёртвага. Здаецца, усе ўсё разумеюць, а вот

калі задумацца... Дарэчы, і ў народзе гэтак жа гаворыцца: з зямлі прыйшоў, зямлёю станеш...

— Ды кіньце вы тут чарговае глупства разводзіць, Раман Барысавіч,— як і звычайна, не вытрымлівае, умешваецца ў гаворку Разорчык. Ад абурэння ён аж кідае на стол перад сабою шарыкавую ручку, якой дагэтуль штосьці пісаў. Ён адрывае позірк ад пісаніны.— Завучоніліся ўжо зусім: жывое ад мёртвага адрозніць не можам, жабу ад карча адрозніць не можам... А падругое, гаворыцца зусім не так, як вы тут распісваеце. Не з зямлі прыйшоў і зямлёю станеш, а з зямлі прыйшоў і ў зямлю пойдзеш. Па-мойму, гэта зусім не народны выраз. І ўвогуле, як гэта мы можам ажывіць мёртвых? Давайце, як гаворыцца, па дзелу гаварыць, а не ўвогуле развражаць. Як, вот я ў вас хачу запытацца? — Разорчык аж падымаецца з крэсла. Зараз ён так пільна глядзіць на Рамана Барысавіча, быццам той быў адным з тых самых мёртвых, якога нейкім цудам удалося ажывіць.

— Не кіпяціцеся, Андрэй Іванавіч, не кіпяціцеся,— Рамана Барысавіча голымі рукамі не возьмеш — пара, даўно пара аб гэтым ведаць Разорчыку. Алмазаў усё гэтак жа, як і дагэтуль, корпаецца адвёрткаю ў блоку прыбора. Нават і не падымаючы вачэй на Разорчыка, ён ціха гаворыць: — Паглядзіце самі, на што скіраваны апошнія дасягненні навук. Аперацыі па рэанімацыі, трансплантацыя органаў, ужо зараз змаглі галаву адной малпы перасадзіць на тулава другой, і гэты гібрыд пражыў ля васьмі гадзін, есці прасіў... Дык як па-вашаму ўсё гэта называецца? Я ўжо не кажу пра мільянераў, якія замарожваюць сябе на сотні год. Дык гэта ж першыя ластаўкі. Кветачкі вясеннія. А што будзе, як ягадкі паявяцца?

— Не, Раман Барысавіч, вы мне мазгі не пудрыце, я не хлопчык,— не думае здавацца Разорчык. Ён стаіць ля свайго стала і, сам таго не прыкмячаючы, пад час гаворкі ківае галавою. Для доказнасці, ці што? — Прадоўжыць жыццё — гэта адно, а ажывіць продкаў, прах якіх даўно развеяўся, гэта зусім іншае. Прынцыпова — гэта я падкрэсліваю — прынцыпова іншая справа,— пры апошніх словах усхваляваны Разорчык аж рукой махае.

— Андрэй Іванавіч, які ж вы прастак, у наш складаны адукаваны век такім нельга быць,— нарэшце гля-

нуўшы на Разорчыка, як з дзіцяці пасміхаецца Раман Барысавіч.— Вы заўсёды бачыце факты і зусім не заўважаеце тэндэнцый. А генная інжынерыя навошта? Як вы думаеце, для чаго яна развіваецца? Колькі год прайшло, як ёю ўсур'ёз пачалі займацца, на нашай з вамі памяці ўсё пачыналася, а ўжо зараз у прынцыпе па адной жывой клетцы могуць цэлы арганізм узнавіць. А што будзе, калі расшыфруюць структуру генаў? Вы што думаеце, гэта за гарамі? Ужо зараз з дапамогаю геннай інжынерыі можна ствараць такіх істот, якія нам і не сніліся.

На бледным твары Разорчыка паяўляецца той разгублена-пакутлівы выраз, які паяўляецца кожны раз, калі Раман Барысавіч ці Віталя ставяць яго, як гаворыцца, перад фактам. Факты — упартая рэч.

— Наша пакаленне, можа, яшчэ і не вечна будзе жыць, але калі б так годзікаў па трыста мы змаглі б пражыць, то і за гэта трэба вучоным дзякаваць,— Эма Міхайлаўна ўсміхаецца.

— А я думаю, што смерць для нас не толькі чыста фізічны акт, але яшчэ і маральна-этычны. Апошняе, як мне думаецца, яшчэ важней. Калі ўжо цяпер у сувязі з перасадкамі органаў паявілася шмат амаль невырашальных маральна-этычных праблем, то вы толькі паспрабуйце ўявіць, што пачне твbooрыцца ў свеце, калі людзі зразумеюць, што яны бессмяротныя. Я, напрыклад, не магу ўявіць. Усё разбурыцца, усе каштоўнасці ўпадуць,— упершыню за сённяшні дзень падае голас Віталя.

Макрыцкі, як і заўсёды апошні месяц, моўчкі заняты работаю. Відаць, непрыемнасці ў чалавека — не да спрэчак. Тут, як заўсёды, найлепшае лякарства — работа, работа, не падымаючы галавы...

— Ты што, Віталя, супроць бессмяроцця выступаеш? — здзіўляецца Эма Міхайлаўна.

— Ды не, зразумейце правільна, не супроць я. Але я проста не ўяўляю, якім тады будзе жыццё.

— Ну як жа ты не разумееш, як жа...— ад хвалявання Эма Міхайлаўна не знаходзіць патрэбных слоў, яна аж чырванее, быццам у яе ўжо цяпер адбіралі тыя наперад разлічаныя трыста год.— Мы будзем працаваць, будзем радавацца, будзем гуляць пад сонцам ясным, тэлевізар глядзець ці яшчэ што... Вот як і цяпер амаль што, толькі ўсё гэта будзе цягнуцца доўга-доўга...

— Ды нічога гэтага не будзе і быць не можа, Эма Міхайлаўна, як вы гэтага не разумееце? Як вы не разумееце такіх элементарных ісцін, што прыродаю без нашага ведама ўсё на свеце сплецена і скручана так хітра, што хітрэй і мудрэй ніводны мудрэц не прыдумае? У сваім нават самым прарочым сне,— самае дзіўнае, што Віталя, як і Раман Барысавіч, зусім не гарачыцца, ён гаворыць усё гэта, як даўно ўсім вядомае, што не падлягае ніякаму сумненню. Увогуле, Віталя чымсьці няўлоўным падобны на Рамана Барысавіча, і не знешне, канечне, а нечым іншым,— разважлівасцю, лагічнасцю ў разважаннях, ці што.— Мы спяшаемся, сумуем ці радуемся часцей за ўсё таму, што ўвесь час адчуваем гэту жахлівую мяжу смерці. А калі яе зняць — што застанецца? Спяшацца нікуды не спатрэбіцца, суму не будзе, а не будзе суму — не будзе і радасці. Не будзе смерці — адразу ж знікне літаратура, мастацтва, бо самі сабою знікнуць гэтыя вечныя праклятыя пытанні, за якія ва ўсе вякі трымаецца мастацтва. Як тапелец за саломінку. Увогуле, як мне здаецца, жыццё страціць свой сэнс. Ці будзе пабудавана на зусім іншых законах, а на якіх — мы зараз і ўявіць не можам...

— Андрэй Іванавіч, вас тэрмінова да Сяргея Мікалаевіча на планёрку,— нечакана чуецца жаночы голас з невялічкага дынаміка, што на стале ў Разорчыка. Усе ад нечаканасці аж уздрыгваюць — селектар паставілі нядаўна і да яго яшчэ так і не прывыклі, адчуванне ва ўсіх такое, што за табою, за тваёй работаю ўвесь час нечае вока назірае. Вока, безумоўна, начальніцкае. Разорчык нахіляецца да дынаміка і, націснуўшы кнопачку, гаворыць: «Зараз прыйду».

Потым, выходзячы з лабараторыі, Разорчык незразумела каму ківае галавою:

— Ладна, мы яшчэ пагаворым пра гэта.

— Пра што з ім гаварыць? — як у сябе пытаецца Раман Барысавіч, калі за Разорчыкам зачыняюцца дзверы.— От дзе дуб. Закончаны, так сказаць. З якога лесу яго да нас прыцягнулі? Тое, што бачу на свае вочы,— існуе, а не бачу, не магу памацаць — не існуе. Ні грама фантазіі. Такая дубовая логіка даўно сваё аджыла, а ён яшчэ нешта спрабуе... Віталя і той больш разбіраецца.

— А-а, Раман Барысавіч, знайшлі пра каго гава-

рыць.— Эма Міхайлаўна вымае з дамскай скураной сумачкі маленькае люстэрка, глядзіцца ў яго і, адтутурыўшы вусны, пакручваючы галавою, пальцам падраўноўвае фарбу на вуснах. Затым, схаваўшы ў сумачку люстэрка, цяжка ўздыхнуўшы, Эма Міхайлаўна пачынае друкаваць і гаварыць: — Калі яму сур'ёзнымі пытаннямі займацца? Пазаўчора выпадкова сустрэла на праспекце, вачам не паверыла: піпіфаксаў у абедзвюх руках цэлыя скруткі, як абаранкамі абкручаны, як іх яшчэ на шыю не здагадаўся павесіць... Што з яго возьмеш: сямейства, дзеці, на рабоце... Ды гэта не страшна — у кожнага з нас такое. Жыццё, жыццё, з-за гэтых піпіфаксаў звар'яцееш, у чарзе стоячы. Страшна іншае — усюды яму хочацца першым быць, прыкладам ці эталонам. А дзе ж ты здолееш зараз такім быць? Якім бы ты ні быў, хоць у цябе сем пядзяў у лбе, а не здолееш, проста разарвешся ў век вузкай спецыялізацыі. Геніі — яны заўсёды аднабакова развіты, нечым ахвяравалі, так што яшчэ і падумаць трэба, ці былі яны на самой справе шчаслівымі. Дык то ж — геніі, а то ж — Разорчык, ён, бачыце, вышэй іх хоча быць.

— Ды бяда не столькі ў гэтым, Эма Міхайлаўна. Галоўнае, ад чаго мяне калоціць, паглядзіце: апломбу, апломбу ў яго колькі,— усё гэтак жа, як і раней, ціха гаворыць Раман Барысавіч, корпаючыся адвёрткаю ў блоку.— Вы ж самі чуеце, як ён смела заяўляе сваё «я». Я думаю, я лічу... Як быццам ён — бог ці які прарок. Хто ён такі, каб так лічыць мог і думаць?

— Дык гэта ўжо, я вам скажу, тып людзей такіх. Яны ўжо калі што ўведаюць, то ўжо — усё, лічаць, гэтае іх веданне — самае ісціннае, вяршыня пазнання, а ўсё астатняе — лухта, і тут ужо іх нічым і ніяк на другое не павернеш. Ніякай аглобляю. Цвердалобікі, як я іх называю сама сабе. Гэта — страшныя людзі. А яшчэ калі ім даць уладу...

Хвілін праз дваццаць, калі вяртаецца Разорчык, размова сама сабою заціхае.

Потны, чырвоны, як пасля лазні, Разорчык моўчкі, ні на кога не гледзячы, праходзіць да свайго стала, садзіцца на крэсла. Гледзячы перад сабою на паліраваную паверхню стала нейкім размытым бяздумным позіркам, Разорчык барабаніць пальцамі па стале.

— Зноў штосьці непрыемнае, Андрэй Іванавіч? Можа, нам прагрэсіўку за што зрэзалі ці зразаць бу-

дуць? — нарэшце першая падае голас Эма Міхайлаўна,— не будзеш жа сядзець моўчкі да самага вечара. У голасе Эмы Міхайлаўны любоў і павага да начальства.

— У падшэфны калгас з панядзелка трэба даваць аднаго чалавека.

Маўчанне ў лабараторыі. Тое маўчанне, калі ў паветры сярод людзей павісае нешта няёмкае, што заўсёды паяўляецца, калі вось-вось павінна пачуцца нешта непрыемнае для кагосьці. А для каго — яшчэ невядома.

Чуецца, як за акном з грукатам праносіцца трамвай. Бы які снарад, што па рэйках разганяюць.

— Зноў да самай восені, як і летась. Скора ўжо, мусіць, кароў будзем даіць. Андрэй Іванавіч, дакуль гэта будзе цягнуцца? Вы хоць *там* сказалі пра гэта? А лабараторыя оптыкі чым займацца будзе? У іх аж пятнаццаць чалавек лынды б'юць. А тыя ж механікі? Усё мы ды мы. Не адмаўляем ніколі, вот яны і едуць на нас, на паслухмяных,— зноў першая падае голас Эма Міхайлаўна.

— І яны таксама будуць даваць людзей, не турбуйцеся. Цэлы аўтобус пойдзе,— Разорчык заціхае на хвіліну. Паглядзеўшы на Віталіка, ён працягвае: — Віталік, у панядзелак у восем ноль-ноль каб на прахадной быў. Апрануты па-паходнаму, не забудзь узяць з сабою што перакусіць.

— Я так і ведаў, Андрэй Іванавіч, што без маёй асабістай дапамогі Міністэрству сельскай гаспадаркі ну проста такі ніяк нельга абысціся. Мала таго, што ўсю восень у тым калгасе праседзеў, радыкуліт падхапіў, дык яшчэ мне і сёлетнюю вясну на закуску. Дакуль гэта будзе, Андрэй Іванавіч? Ледзь што — Віталік. Што я — стрэлачнік? — Віталя чырванее.

— Нічога, Віталя, там, у тым калгасе, на свежым паветры ты затое зможаш больш спакойна і больш грунтоўна абдумаць вечныя праклятыя пытанні. І пра праблему бессмяротнасці ў тым ліку,— усміхаецца ў бараду мудры Раман Барысавіч.

Барабанячы пальцамі па стале, як і не чуючы ні пакрыўджанага Віталіка, ні разумнага, заўсёды ўсё ведаючага Рамана Барысавіча, Разорчык ціха, нетаропка гаворыць:

— Віталік у нас паедзе ў калгас усяго на тыдзень. На адзін тыдзень. А на наступны тыдзень давядзецца

ехаць Раману Барысавічу. Сёлета будзем ездзіць усе па графіку. Каб стрэлачнікаў не было.

— Што, і мне, жанчыне, давядзецца ў той калгас ехаць? — ледзь не спявае Эма Міхайлаўна.— Туды ж адна дарога душу вытрасе.

— І вам таксама, Эма Міхайлаўна. У нас, як вы ў Канстытуцыі чыталі, раўнапраўе. Роўныя правы падразумяваюць роўныя абавязкі, не забывайцеся пра гэта. У меру сіл і магчымасцей, безумоўна. Я думаю, што мяхі поўныя вас там ніхто не будзе прымушаць цягаць. А вось зерне ў тыя мяхі насыпаць — гэта могуць.

— А я проста не паеду, адмоўлюся,— неяк занадта хуценька і рашуча адказвае Эма Міхайлаўна. І тут жа падцінае вусны. Памаўчаўшы, яна дадае: — Па-першае, я той вясковай работы ніколі не рабіла і не ўмею рабіць, які з мяне работнік. А па-другое, у мяне дзіця, на каго я яго пакіну? Ды я і так хворая, ледзьве ногі перастаўляю. Мне згінацца няможна.

— Нясіце бальнічны ліст і смела не выходзьце на работу, калі вы хворая, паважаная Эма Міхайлаўна. Адразу ж з заўтрашняга дня можаце пачынаць хварэць па-сапраўднаму,— твар Разорчыка бялее. Здаецца, у яго нават і вусны бялеюць. Як і звычайна, калі расхвалюецца.— А наконт дзіцяці не хвалюйцеся, не вы адна такая. Для тых, хто не хоча ці не зможа начаваць у калгасе, будзе хадзіць спецыяльна аўтобус. Раніцай у калгас адвязуць, а вечарам дамоў прывязуць. Толькі так і не інакш будзе. У нашым дэмакратычным грамадстве законы гарой стаяць за працоўных, хворых ніхто не прымушае хадзіць на работу. Калі чалавек хворы — хай лечыцца. Бясплатна, дзякуй богу. І чым хутчэй, тым лепей. Як для самога чалавека, так і для грамадства.

Разорчык заціхае. Ён нерухома глядзіць на паверхню стала. Магчыма, чакае, можа, яшчэ які разумнік вымкнецца. Але цішыня ў лабараторыі. Зноў і зноў чуваць, як грыміць трамвай за акном. Дзіўна, так дык яго і не чуваць ніколі.

Павадзіўшы з боку на бок сківіцамі, бы пажаваўшы што, пабялелы Разорчык зноў павольна гаворыць. Бы цвікі па адным у сцяну забівае:

— Многія беды сучаснага жыцця зводзяцца да таго, што пра бессмяроцце і вечнасць разважаць есць каму, хлебам не кармі, а дай магчымасць паразважаць, а вось

тую ж бульбу садзіць ці капаць — колікам у баразну не загоніш. А тады яшчэ лямантуем наконт сухой каўбасы і свежых выразак. Біфштэксы нам кожны дзень на стол падавай гарачанькімі. А адкуль яны возьмуцца, я ў вас пытаюся, калі ля тых цялят ці свіней зараз адны філосафы ходзяць, а работнікаў... Ды я сам з ахвотаю ў той калгас махнуў бы, калі б мяне пусцілі. Чым тут сядзець ды штаны праціраць.

Так і не скончыўшы маналог, Разорчык рэзка ўстае з крэсла і, усё яшчэ пабялелы, хутка выходзіць з лабараторыі. Відаць, пайшоў курыць.

— Ну, вот і пагаварылі пра бяссмерце чалавечае.— Раман Барысавіч крывіць вусны ў скептычнай усмешцы — ці то з сябе пасміхаецца, ці то проста так... Памаўчаўшы, ён дадае: — Адкуль яно ў нас паявіцца, тое вечнае існаванне, калі побач такія дубы шумяць? Тут не тое што да бессмяроцця не дадуць дацягнуць, а і да пенсіі... От дэмагог, і налаўчыўся ж! Ні такту, ні дыпламатыі. Вы чулі, чулі, як умее сыпаць?

— А яны, з вёскі, усе такія. Напралом усё, не разбіраючыся, не гледзячы нават. І ўдаецца, што самае дзіўнае,— падае голас Эма Міхайлаўна.— А даведку я яму тую дастану, калі ўжо на тое пайшло. Не заўтра, дык паслязаўтра прынясу, хай ён ёю падавіцца.

Потым, трохі перадыхнуўшы, Эма Міхайлаўна працягвае гаварыць:

— Вот некалі ўсё было нармальна: адны ў горадзе пастаянна жылі, а другія, такія во, як наш паважаны Разорчык, у вёсцы. Бульбу тую ж садзілі ці капалі, кіслародам удосталь дыхалі, босыя ножанькі, як паэты пішуць, у росах мылі — адным словам, чысты рай, а не жыццё ім было. І ўсё, здаецца, было нармальна. Хай бы там яны і дагэтуль сядзелі. Дык жа не, не вытрымалі, сарваліся сюды, у гэты шумны горад. І гэтай сваёй бегатнёю яны так усё пераблыталі, што цяпер ніводны мудрэц не разблытае. Цяпер яны во тут сядзяць, а мы, гараджане, у вёску павінны на работу ездзіць.

Пасля гэтага яны заціхаюць. Нагаварыліся. Наспрачаліся. Пара і за работу брацца. Неадрамантаваных і неправераных прыбораў шмат стаіць. Як на сталах ля сцяны, так і на падлозе. І кожны з іх трэба пераглядзець, перамацаць, а ўсё гэта — час, час... План не выцягнеш — прагрэсіўкі не ўбачыш. Гэта ўжо пэўна, тут ніякія разважанні не памогуць. Бо без гэтых, здавала-

ся б, малапрыкметных невялічкіх прыбораў, аказваецца, ніяк не маглі рытмічна працаваць тыя магутныя машыны, якія былі раскіданы па ўсім горадзе: і тыя ж станкі з праграмным кіраваннем, і пракатныя станы, і рухавікі, і нават доўгая стужка ўсемагутнага канвеера.

*Перфалента Першай электронна-вылічальнай усё цягнулася і цягнулася, гэтак жа, як і ноччу, і вось па яе заданню, з улікам чалавечых рук і здольнасцей, машына-канструктар выводзіць роўныя і крывыя лініі на белым ватмане, тыя лініі, памеры і контуры якіх разлічыла машына-праграміст. Нарэшце — найаптымальнейшы варыянт праекта гатовы, ён тут жа перадаецца ў надзейна схаваныя ад старонняга вока заводскія цэхі, да той засакрэчанай ніткі канвеера, на якой збіраліся самыя-самыя лепшыя гатункі спецсталяў, самае-самае каларыйнае паліва — з трайной сістэмаю праверкі надзейнасці кожнага болціка, вінціка, гайкі ці заклёпкі, не ўпамінаючы пра мікрасхемы і мікракамп'ютэры, якім начынялася тое ўсемагутнае і ўсёсакрушальнае, што, памалу рухаючыся па канвееры, пачынала абрастаць усім яму неабходным, якое ў сваёй завершанасці набывала строгі выгляд.*

**15 гадзін**

Хто не ведае і не памятае пра прыгарадныя аўтобусы, асабліва раённыя, вечна перапоўненыя, шумныя ад крыку, смеху, гаворак, пад час якіх кожны пасажыр стараецца ўмасціцца як лепей, бо тут, у аўтобусе, не тое што сесці, а, бывае, і ногі недзе паставіць, тым болей што ад дзвярэй, як пярэдніх, так і задніх, усё чуецца і чуецца здаровае хлапечае: «Ну, яшчэ трошкі, раз-два ўзялі...» Хто гэтага не памятае, хто з нас не перажываў гэтыя хвіліны, калі свет белы пачынае звужацца, і тады здаецца, што ў ім, не ў аўтобусе, а ў белым свеце, толькі і існуюць абцягнутыя пінжакамі, кофтамі спіны, вострыя локці, як ніколі блізкія чырвоныя потныя твары і яшчэ вось гэта ўладнае, што гучыць над галовамі, як божы глас:

— Бабы, ціха, усхадзіліся!

Гэты вокліч нясецца ад вясковага пажылога мужчыны,— у картовым пінжаку, у летняй шапцы, насунутай на самыя вочы, чырванатвары, ён стаіць у праходзе

і, трымаючыся аберуч за белую металічную трубку, ківаючыся, азіраючы людзей арлом, час ад часу ўсё выкрыквае сваё магутнае: «Бабы, цыц...»

Спачатку на гэтага крыклівага мужчыну ніхто надта і не пазірае, не да яго тут зараз, кожны заняты сваім клопатам, як лепей умасціцца, але вось дзверы сяк-так зачыняюцца, аўтобус нарэшце кратаецца, і таму дзесьці пасля чацвёртага ці пятага вокліч у мужчыны нейкая баба, якая дагэтуль заклапочана гаварыла з суседкаю па сядзенні пра парасят,— нос у нос, вочы ў вочы, як і ўсе вясковыя бабы,— паварочвае твар у бок мужчыны і спакоіна, але гучна, каб і людцы добрыя чулі, гаворыць:

— А каб табе самому заклала, мой ты добры чалавеча!

— А я кажу — ціха. Распусціліся, далі вам свабоду, што не ведаеш, дзе падзецца ад вашага вэрхалу,— чалавеку так і не закладае, наадварот, гэтыя словы яшчэ болей узбадзёрваюць яго.

— Чаго тут горла дзярэш попусту? — больш дзелавіта пытаецца другая баба з другога сядзення.— З жонкаю, мусіць, не паміры ўся? Ці, можа, збегла ўжо?..

— Надзяруцца, а тады яшчэ парадкі пачынаюць наводзіць, алкашы гэтыя, каб вас святой нядзелькаю перуном пабіла,— не вытрымлівае і яшчэ адна — яна не гаворыць, а проста такі спявае мядовым голасам.

— Ну, у такой, як ты, недзе і ў рот грамулькі не возьмеш. Ні ў нядзельку, ні ў будзённы дзень,— тут жа чуецца басавіты голас мужчыны — аж ад задніх дзвярэй аўтобуса.

— Я табе скажу — у такой і ўхваціш, аж разапрэ, у абедзве ручкі...— падключаецца новы субяседнік.

— А я кажу — цыц...— усё аж з надрывам супакойвае народ мужчына, верцячы наўкруг галавою,— усхадзіліся тут, уходдзя на вас нямашака.

І тут пачынаецца...

Штосьці як бы зрываецца ў душы кожнага, кожны пачынае нешта не то гаварыць, не то крычаць — кожны па-свойму вырашае праблему цішыні.

— Ну, хай выкажуцца, чаго там... Пагалёкаюць і — супакояцца.

— Ды сціхніце вы ўсе разам... Каб вам усім пазакладала!

— А-ай, людцы,— ледзь не галосіць якая жанчы-

на,— ці ж вы саўсім падурнелі? З-за чаго лямант устроілі, я ў вас пытаюся?

Абавязкова знойдуцца і абаронцы мужчыны, з-за якога разгарэўся сыр-бор:

— А і праўда чалавеча гаворыць — саўсім зараз гэтыя бабы параспускаліся. Як старэцкія пугі. Гэта ж падумаць-падумаць, гэткі гармідар ў аўтобусе ўстроіць... Праўду кажуць: дзе дзве бабы, там — базар, дзе тры — там ярмарка. Ніякага з іх толку ніколі не было і не будзе. Ні на іголку,— перадыхнуўшы, набраўшы поўныя грудзі паветра, абаронца і сам крычыць на ўвесь аўтобус, аж шкло, здаецца, дрыжыць: — Цыц, баб'ё, супакойцеся.

— Сам супакойся спачатку. З вас, абібокаў, толк які ёсць. Гарэлку толькі жлукціць умееце ды штаны на рамні насіць.

— Штаны і вы налаўчыліся насіць. Вы зараз нідзе і ні ў чым не адстаеце, нечага богу грашыць, налаўчыліся і вы добра чаркі куляць. Раўнапраўя патрабуеце... Дзяцей ужо і забыліся, як радзіць ды выхоўваць.

— Выхава-ацель мне знайшоўся... Цябе самога трэба выхоўваць...

І сыдзе непрыкметна на якім супынку той мужчына, з-за якога ў аўтобусе разгарэлася сварка, а людзі будуць усё гусці і гусці. А потым, накрычаўшыся, як бы ўспомніўшы што ці апамятаўшыся, людзі нечакана сціхнуць, неяк адразу ўсе, і тады ў аўтобусе стане гэтак жа, як і хацеў некалі мужчына з чырвоным тварам.

Нешта падобнае бывала калі-нікалі і ў лабараторыі. Яшчэ з раніцы як які злы дух разбурэння лунаў у памяшканні, у такі дзень нечакана ў любы міг магла ўсчацца гучная гаворка ці спрэчка, якая межавала з крыкам, амаль што кожны тады стараўся выказаць сваё, якое здавалася галоўнейшым, важнейшым за іншыя меркаванні. І гэтак жа, як і ў прыгарадным аўтобусе сярод вясковага гармідару, гэтак жа і тут, у так званым культурным гарадскім асяроддзі, часта забывалася ўсё тое, з-за чаго пачыналася гаворка ці спрэчка, цяпер гэта было не галоўным, галоўным для кожнага было — выказацца ўслых аб тым, што збіралася ў душы днямі ці тыднямі і ўсё ніяк да пары да часу не змагло знайсці выйсця...

Раман Барысавіч, які заўсёды ўсяму на свеце мог даць абгрунтаванае тлумачэнне, гаварыў, што ўсё гэ-

та — вынік уздзеяння сонечнай актыўнасці на псіхіку чалавека.

— Я лічу, што нават войны, нават сусветныя войны,— пры гэтых словах Раман Барысавіч падымаў угору ўказальны палец,— у той ці ў іншай меры звязаны з сонечнай актыўнасцю. Аб гэтым яшчэ Талстой разважаў — пра незразумелы рух народаў. Помніце, у эпілогу да «Вайны і міру». Ды і таго ж Чыжэўскага прачытаць вам раю. Там, у ягонай кнізе, такія выкладачкі — за галаву хапаешся: графікі, табліцы — усё разглядаецца на навуковай аснове, без ніякай містыкі. Ён, дарэчы, амаль усё жыццё гэтаму прысвяціў — вывучэнню сувязей між сонечнай актыўнасцю і псіхічнай дзейнасцю людзей. А лемінгі, якія па незразумелай прычыне нясуцца цераз усю тундру да Ледавітага акіяна, на верную пагібель? Ды і тыя ж, ад сябе дабаўлю, кіты, што гуртамі выкідваюцца на бераг. Увогуле, я думаю, што мы толькі цяпер пачынаем разумець па-сапраўднаму, што такое для нас — космас, сонца.

Так было і гэты раз.

Раман Барысавіч адкладвае ўбок паяльнік, паварочваецца да ўсіх тварам і, дастаўшы з партфеля газету, нетаропка гаворыць:

— Замест спакойнага бяздумнага перакуру я вам сягоння артыкульчык хачу зачытаць. Спалучыць, так сказаць, прыемнае з карысным. Вот паслухайце. Ён велікаваты, дык я толькі ўрыўкі зачытаю. Значыць, так было дзела...— Раман Барысавіч пачынае чытаць угалас артыкул.

— За гэтым заняткам іх, галубкоў, міліцыя і накрыла,— гаворыць Раман Барысавіч праз нейкі час і павольна складвае газету.

— І чым жа тая справа скончылася? — шырока адкрытымі вачыма Эма Міхайлаўна глядзіць то на газету, то на Рамана Барысавіча.

— Як чым? Як і трэба артыкулам заканчвацца — справядлівасць перамагла. Гэтых падлеткаў судзілі. Дзяўчыну — у бальніцу.

І тады праведнік Разорчык рашуча падымаецца са свайго крэсла і гаворыць так:

— Думаецца мне, дарагія таварышы, што беды нашы ў тым, што мы зусім распусцілі нашу так званую залаценькую моладзь, якая з песняй па жызні шагае. Толькі вот куды яна шагае, ці задумваецца хто з іх?

Гэта ж трэба — да васемнаццаці год яна ў нас нічым, ну, можна сказаць смела, абсалютна нічым, ніякай работай не займаецца. За мяжой вунь, кажуць, дзеці мільянераў посуд у час летніх канікулаў мыюць. І — нічога. І белыя ручкі не адвальваюцца. А ў нас калі каторы ці каторая кніжкі чытае ды яшчэ ў інстытут здолее паступіць — ну-ну, за гэта яму хоць ты помнік стаў. А ён яшчэ пяць год на дзяржаўнай ці бацькоўскай шыі будзе сядзець. Стыпендыя ім зараз — толькі на расходы дробныя, на кіно і марожанае, на так званы адпачынак. Стамляюцца, бедненькія, надта. У кніжкі гледзячы ці на лекцыях у крыжыкі-нолікі гуляючы. Я ў свой час ноччу вагоны разгружаў, а днём — на лекцыях сядзеў, мне не было на каго спадзявацца, ні на чыю дапамогу. А яны — стамляюцца, на поўдзень летам гэта цяпер ужо — як закон, без гэтага і нельга... Ці яшчэ турпаход абавязковы, у якім яны на галовах вучацца хадзіць. Але ж глядзець у кніжкі і разважаць пра высокія матэрыі — гэта адно, а рабіць нешта во гэтымі во рукамі,— Разорчык тут жа дэманструе прысутным свае вялікія, што лапці, далоні,— не, яны, бачыце, не могуць, не ўмеюць, ды і не хочацца ім. А адкуль жа тое хаценне паявіцца, адкуль, я ў вас пытаюся? Лепей яны ў кафэ кактэйлі пасмокчуць ці тое ж кіно паглядзяць, пакуль галава кругам не пойдзе. А пасля мы яшчэ здзіўляемся, што яны вытвараюць. А чаго ж тут здзіўляцца, я ў вас спытаю? Ды мы самі, кожны з нас, калі б пабывалі ў іх скуры, палец аб палец не стукнуўшы да дваццаці пяці год, калі б кожны з нас тады, адразу пасля вайны, меў тое, што мае зараз моладзь, наслухаўшыся гэтых крыклівых песень, гэтых пласцінак замежных, мы б яшчэ і не такое вытвараць пачалі. Зямелька б здрыганулася. Мы іх, бачыце, усё на словах, на ўгаворчыках жыццю вучым. Яны ў нас калыханку да пятнаццаці год штодня глядзяць — сабачкі і парасяткі іх жыццю вучаць... А пасля, лоб у лоб з рэальным жыццём сутыкнуўшыся, разгубліваюцца. Але пачні з каторым гаварыць — о-ого-го, ён жа ўсё на свеце ведае, ён жа цябе за пояс заткне сваімі ведамі, дурнем цябе такім выставіць... А пасля дзе сам такое адчыбучыць, зусім процілеглае, чаму цябе вучыў, што ў цябе, беднага, апошнія валасы дыбарам стануць. Строгасць трэба...— Разорчык не стрымліваецца, грукае некалькі разоў па стале кулаком.— Што ж ты хочаш — з Далёкага Усходу лес

сюды вязуць, тут пілуюць і назад, цераз усю краіну — дошкі ледзь не залатымі атрымліваюцца... Гэта ўжо як анекдотам стала. «Праўду» пачытаеш — што творыцца. А калі ўжо вінаватага знойдуць — вымову атрымлівае. Ну, самае большае — з работы паляцяць. А што з-за яго, можа, мільёны ў трубу вылецелі, пра гэта неяк сарамліва і не ўпамінаецца. А чые гэта, спытаюся, мільёны? Нашы...

Дзіўна, як мяняецца чалавек у час публічнага выступлення — штосьці зусім новае паяўляецца ў ятоным абліччы, чаго ў звычайным жыцці і не заўважыш. І тады, у час такога публічнага выступлення, калі глядзіш збоку на прамоўцу, у душу закрадваецца не тое што сумненне, а нейкая няўпэўненасць, бо тады мімаволі пытаеш сябе, калі ж прамоўца болей адкрыты людзям — цяпер, пад час выступлення, ці пазней, калі скончыць прамову?

— Так-так, вы правільна гаворыце, Андрэй Іванавіч,— Эма Міхайлаўна роўна і спакойна глядзіць у вочы Разорчыку. Тая ранішняя спрэчка ў лабараторыі ўжо забыта, і нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо калі б кожны раз пасля спрэчак не размаўлялі б тыднямі, то і ўявіць цяжка, што было б тады...— Я вот чытала зусім нядаўна. Прыходзіць у ювелірны магазін чалавек. У плашчыку памятым, рублёў за восемдзесят той плашчык, у дзяшовенькіх тапачках. Падыходзіць такі чалавек да прылаўка і кажа: «Пакажыце мне брыльянт тысяч за трыццаць». Падаюць яму той брыльянт. Ён тут жа грошы ў касу, каробачку тую з брыльянтам, нават не адкрываючы, у кішэнь і — паціхеньку на вуліцу шлэмае. Быццам кіло цукерак купіў. І самае дзіўнае, што такі пакупнік не адзін. Не верыце мне, схадзіце ў ювелірны магазін, гляньце, што ля прылаўка творыцца. Ды і вунь, мая сяброўка Мальвіна гаварыла, ля камісійнага магазіна, дзе машыны прадаюць, людзі, месяцамі пiдзе і нічога не робячы, сядзяць і чакаюць, хто «Волгу» прыгоніць прадаваць. За любыя грошы возьмуць.

Запіхаюць людзі. Думаюць.

— Ну, з гэтымі, каторыя ля камісійнага магазіна сядзяць, усё ясна — за кавуны і кветкі грошы маюць. А вот тыя, што ў канторках,— цераз паперу. Зараз папера — вялікая сіла, асабліва з подпісам і пячаткаю,— гаворыць Раман Барысавіч.

— Андрэй Іванавіч,— падае голас дамарошчаны філосаф Віталя.— Вот я ў вас спытаць хачу.

— Ну, пытайся,— Разорчык з падазрэннем касавурыцца на Віталіка. Па вопыту ўжо ведае, што нічым добрым гэтае пытанне не скончыцца.

— Вот вы сказалі, што трэба, каб большы парадак быў. А вы не задумваліся пра тое, што ці не таму ўсё гэта, што некаторыя гэтага парадку і не хочуць.

— Як гэта — не хочуць? — Разорчык усё з большай падазронасцю глядзіць на Віталіка.— Што ты за ўсіх распісваешся? Можа, ты не хочаш, дык так і скажы. А то ўсе. За ўсіх ты не бярыся...

— Ну пры чым тут я? Мы ж увогуле разважаем. Вот проста так бывае: не хочуць некаторыя таварышы парадку, і ўсё, хоць трэсні. Пра гэта яшчэ Дастаеўскі некалі гаварыў. Вот, напрыклад, гаварыў ён, вы пабудуеце светлы прыгожы будынак, у якім стагоддзямі жыць і радавацца збіраецеся. А тут нечакана адзін, усяго які адзін чалавек з тысячы тысяч знойдзецца, які камень у руку схопіць ды па вокнах таго светлага будынка — шарах. Проста так, ад нечага рабіць. Як гэта зараз некаторыя ад нечага рабіць трубкі ў тэлефонных будках абрываюць ці — тыя ж газеты ў паштовых скрынках паляць. Ведаеце, мусіць, і без мяне, што зараз псіхолагі нават такі тэрмін спецыяльны ўвялі — нематываванае злачынства, нематываваныя паводзіны. Вот для прыкладу... Расце ў харошай прыкладнай сям'і хлопец, бацькі ў яго пры добрай пасадзе, з маленства ў яго ўсяго хапае, чаго душа пажадае, ніхто яго злу не вучыць, сам ён пасля школы ў інстытут пасгупае, нават філасофскі факультэт заканчвае. Здавалася б — што яшчэ чалавеку трэба, жаніцьба на носе, машына, пасада... А ён ні з таго ні з сяго робіць злачынства. І што ж вы, як пытаўся Дастаеўскі, з такім чалавекам рабіць збіраецеся? Будынак, дапусцім, ладна, адрамантаваць можна, а з чалавекам што рабіць?

— Як што? — Разорчык так і не разумее, куды хіліць Віталя.— Дык вот я пра гэтае самае і кажу... За вушы яго ды на яснае сонейка, таго галубчыка. У турму яго, калі па тое пайшло.

— А-а,— неяк аж з радасцю ўсміхаецца Віталя.— вот-вот, вы правільна гаворыце, толькі вот у чым загвоздачка: той светлы будынак нялёгка пабудаваць, гэта будзе не будынак, а — звычайнае грамадства, дзе

абавязкова будуць і суддзі, і адвакаты, і — усё астатняе. Разумееце, што я хачу сказаць? Я не супроць таго, што вы кажаце. Проста не ўсё так проста ў свеце. Асабліва цяперашнім. Адным парадкам мала даб'ешся.

Разорчык аслупянела глядзіць на Віталіка. Незразумела, зразумеў ён што ці не...

— А і праўда, цяпер розныя людзі бываюць,— пявуча гаворыць Эма Міхайлаўна.— Вот яшчэ ў маладосці, калі я ў раёне практыку праходзіла, дык я там абедаць у сталоўку хадзіла. І вот я раз прыйшла, другі, гляджу, кожны дзень стары ў куце сядзіць. Ну, хто яму хлеба дасць, супу пакіне. Прыбіральшчыцы, гляджу, яго добра ведаюць, не чапаюць. І тады я пытаюся ў людзей, што гэта за стары такі? Аказваецца, ён жыў адзін, нічога і нікога ў яго ўжо не было, ні хаты, ні родзічаў. І так ён ля гэтай сталоўкі штодня карміўся. Я, канечне, жахнулася. Як гэта, пытаюся ў людзей, можна ў наш час да гэтага апусціцца? Цяпер жа для ўсіх старых адзінокіх спецыяльныя бясплатныя дамы ёсць, дзе старых даглядаюць, у цяпле трымаюць. Кажуць, што там нават некаторыя, пажыўшы, агледзеўшыся, жэняцца ці замуж выходзяць. А мне тады і гавораць,— гэты ўжо ніколі не жэніцца. Чаму? — пытаюся. А ён там і быць не хоча,— адказваюць мне. Зіму яшчэ таксяк перабудзе, а на лета сыходзіць у белы свет. Вот так і дажывае век. Колькі ўжо разоў яго міліцыя забірала, а ён — усё адно сыходзіў з таго дому. Не хацеў ён цяпла і дагляду, на вуліцы ці на вакзальных лаўках яму, мусіць, лепей было начаваць. Як Віталя гаворыць, не хацеў ён парадку. Ды што тут гаварыць — а тых жа цыганоў вазьміце... Калі б каторага з нас прымусіў па вакзалах бадзяцца, дык бы завылі, а ім...

— Чалавеку трэба за нешта трымацца,— гаворыць Віталя, калі Эма Міхайлаўна скончыла свой маналог.— Але за што, я ў вас спытаюся? За парадак? За які? Дыктатары таксама стараліся навесці ці то ў краіне, ці то ў свеце парадак. На іх сцягах было напісана: «Мы навядзём парадак». І што самае горшае — у часы іхняга «парадкавання» болей за ўсё не было парадку. А ісціна, ісціна дзе?

— Якая такая ісціна? — нічога не разумее разгублены Разорчык.

— Звычайная. Тая, пра якую філосафы ўсіх вякоў спрачаліся і цяпер спрачаюцца. У чым яна, Андрэй Іва-

навіч, вы можаце зараз сказаць? Не забывайцеся, у вас за плячыма, як і ва ўсіх нас, цэлыя стагоддзі цывілізаванай дзейнасці чалавецтва. Ужо ўсякія эксперыменты ў гісторыі былі, але чым яны заканчваліся?

— Ты не так усё зразумеў, як я хацеў сказаць,— у беднага Разорчыка аж апошнія валасы падымаюцца дыбам ад такога павароту размовы. Ён зноў бялее.— Знайшоў што з чым параўноўваць!

— Вот і я думаю, што ўсё ў свеце звязана, трэба шукаць заканамернасці, а не голыя факты,— акуратна апрануты, пры гальштуку, седзячы за сваім сталом, Віталя глядзіць у вочы Разорчыку, і вусны яго крывяцца ва ўсмешцы: гэта ж табе, даражэнькі, не ў калгас мяне пасылаць...

— Ладна, з вамі, цяперашнімі маладымі ды разумнымі, як я казаў, проста немагчыма гаварыць, па-харошаму ад вас нічога не даб'ешся,— Разорчык махае рукою і падаецца ў сваё надзейнае сховішча — за дзверы лабараторыі ў калідор, дзе можна курыць.

— Ха-ха-ха,— задаволена смяецца Раман Барысавіч, калі за Разорчыкам зачыняюцца дзверы лабараторыі.— Малайчына, Віталя, дабівай гэтага дуба. Гэта яму не калгас і не бульба ў баразнах. Гэта там усё ясна і праблем ніякіх — бяры аберуч бульбу ды ў кашэль кідай. І чым хутчэй, тым лепей, перадавіком станеш, у газетах здымкі паявяцца. Ты яго зараз без тапара ссек. Гэта так асмеліцца разважаць! Гэтаму во праведніку,— Раман Барысавіч ківае галавою на дзверы лабараторыі,— толькі дай уладу, дык пасля сам ваўком завыеш.

— Ага, вот і я добра помню нешта падобнае,— спакойна пачынае спяваць Эма Міхайлаўна,— як у піянерлагеры некалі была, выхавацельніцай адзін год ездзіла. І там у адной групе мужчына выхавацель быў, амаль гэткі ж па характары, як і наш Андрэй Іванавіч. Вот, напрыклад, вечарам пасля адбою дзеці павінны класціся спаць. Ну, канечне, дзяўчаткі асобна, а хлопчыкі асобна. Я з дзяўчаткамі была, дык я пасля адбою амаль што і не паказвалася ў палаце. Там яны ў мяне па галовах ўсю ноч хадзілі. А дзяўчаткі ўжо ў восьмым класе былі, вялікаватыя, каторыя вышэй мяне, так што, разумееце, там, канечне, не да сну было. А вот у хлопчыкаў ён быў галоўным. Дык ён калі пачуе які шолах у палаце,— а спаць нарочне клаўся побач — адразу ж на парог палаты і камандуе: «Пад'ём». І яшчэ — на га-

дзіннік глядзіць. Каб за якую хвіліну ўсе паспелі апрануцца і ў шарэнгу настроіцца. Не дай божа калі каторы завозіцца і не паспее разам з усімі. Ён тады ўсёй палаце камандуе: «Распранайцеся, адбой». Распранаюцца дзеці, кладуцца ў ложкі, а тут зноў каманда: «Пад'ём». Разоў пяць падыме ды паложыць, пасля выведзе ўсіх строем на вуліцу і — шагам марш вакол палаты. Толькі і чуецца — левай, левай, вышэй ножку... Як паганяе бедных хлопцаў, не да гуляў ім тады было, спалі пасля як забітыя.

— А такому, як наш Разорчык, нядоўга... Ён і цяпер, дай яму ўладу, з лабараторыі гатовы казарму зрабіць,— з усмешачкаю спакойна гаворыць Раман Барысавіч.— Іш ты яго, не разабраўшыся — адразу ж у калгас гоніць. Сам паедзь...

— Канечне, Раман Барысавіч, я поўнасцю з вамі згодна, тут наш шэф перагнуў палку. Як і звычайна, што з яго возьмеш. Бяда не столькі ў Разорчыку, а ў нас — пры чым тут мы, чаму нам усё? — Эма Міхайлаўна ўважліва глядзіць у вочы Раману Барысавічу.

Амаль гэтаксама, як зусім нядаўна глядзела ў вочы Разорчыку.

Віталя цяпер нічога не гаворыць, ён задумённа глядзіць на белыя дзверы, за якімі знік знерваваны Разорчык. У позірку Віталі паяўляецца нешта новае, быццам то і не Віталя, якому на наступным тыдні ехаць у калгас на сельгасработы, быццам сядзеў ён не ў лабараторыі, а недзе на ўзвышшы адзін-адзінокі і глядзеў задумённа ў бязмежную далеч.

Як той Хрыстос у пустыні.

Нечакана дзверы лабараторыі хутка адчыняюцца і на парозе паказваецца Разорчык — усё гэткі ж белы, рашучы і ўзбуджаны.

— Я табе зараз скажу ісціну, я табе яе адкрыю,— яшчэ з парога пачынае Разорчык.— Разумнікаў шмат развялося. Тады, як бедна жылі, як гора бачылі, тады больш разумелі адно аднаго. А зараз — сёй-той са сваім гонарам носіцца як з пісанай торбаю — не падступіся... Ледзь што не так — на развод... А некалі з фронту інваліды вярталіся, калекі, без рукі ці без нагі і — не думалі разбягацца... Здаецца, ніколі дагэтуль людзі так добра не жылі, ніколі дагэтуль яны столькі дабра не мелі і між тым жа — ніколі дагэтуль, мусіць, столькі не бурчэлі. Што ты хочаш, кавы растварымай няма пад

рукою, не хапіла — каравул, сусветная трагедыя, у ААН заяву гатовы катаць. Дыван каторая не купіць — не тое што мужыку месца няма ў хаце, яна табе лямант на ўвесь свет падыме! Зараз нейкі хапун найшоў, як якая хвароба: хапаюць, хапаюць, як быццам ад гэтага шчаслівейшымі станем. Я думаю, што зараз недзе ўсе прыёмныя завалілі скаргамі, зараз жа ўсе граматныя, ніжэй і не пішуць, адразу туды... А забыліся, як некалі пры лямпах жылі, кавалку чэрствага хлеба радаваліся. І нават песні пелі. А зараз пяе хто з нас? Зараз нам Пугачова з Баярскім мурлыкаюць. Пра арлекіна ці яшчэ пра якую трасцу. А мы толькі слухаем. А самі пець тое, што нашы бацькі пелі,— не можам, развучыліся, нам сорамна за тыя песні... І самае дзіўнае — гэтае цяперашняе бурчэнне. Каб сказаў, што мы нешта ненавідзім,— дык жа не... Але ж і радавацца, смяяцца шчасліва — таксама не можам. Ні радасці сапраўднай у нашай душы няма, ні суму сапраўднага, ні злосці, ні адчаю. Нейкая шэрасць,— усё гэткі ж белы, як і раней, Разорчык падыходзіць да свайго стала і, мабыць, не заўважаючы таго, грукае кулаком па стале. Раз, другі... Ён проста такі ўпіваецца вачыма ў Віталіка. Быццам той ва ўсім вінаваты. Але Віталя спакойна глядзіць на Разорчыка і ўсміхаецца.

— Вы лепей трынаццаты год успомніце,— гаворыць Віталя.— А то яшчэ лепей, як пячорны продак ля агню кавалку мяса радаваўся. Калі маманта дубінаю аглушыў.

— Пры чым тут трынаццаты год? Пры чым тут маманты? — здаецца, Разорчык зараз кінецца на Віталіка з кулакамі.

— Усё пазнаецца ў параўнанні, Андрэй Іванавіч, не мне, маладому, вас вучыць, хоць бы тую ж тэорыю адноснасці ўспомніце. Зразумейце, тое пакаленне, якое вырасла праз дваццаць год пасля вайны, якому казкі баілі не дзяды і бабкі, а тэленянькі, яно і думаць не хоча, якім потам дастаўся сённяшні дабрабыт. У яго сваіх праблем во,— Віталя праводзіць пальцам ля горла, амаль гэтак жа, як некалі сам Разорчык праводзіў.— У сучаснай моладзі зусім другія каштоўнасці жыцця. Казкі пра скацеркі-самабранкі яе не цікавяць. Як і тое, чаму вы некалі радаваліся.

— А якія, якія ж у яе каштоўнасці? — Разорчык не зводзіць нерухомага позірку з Віталіка.

Эма Міхайлаўна, шырока раскрыўшы вочы, глядзіць то на Разорчыка, то на Віталіка: хто каго? Раман Барысавіч таксама спакойна, неяк па-бацькоўску пазірае на дыскутантаў. Ягоныя яркія чырвоныя вусны крывяцца ва ўсмешцы — відаць, што задаволены спрэчкаю. І яшчэ па ўсяму бачна, што для Рамана Барысавіча ўсё даўным-даўно ясна ў гэтай спрэчцы і таму ён так лёгка можа пасміхацца... Як быццам ён за дзецьміназірае. Маўчун Макрыцкі, які вечна корпаецца з паяльнікам у блоках, зараз таксама, паклаўшы на металічную падстаўку паяльнік, глядзіць на Віталіка і Разорчыка.

Стаіць работа. Ды хай яна колькам стане, калі такая гаворка пачалася.

— Ну, пра гэта іншая размова, Андрэй Іванавіч,— Віталя ў адрозненне ад Разорчыка зусім не кіпяціцца, гаворыць на здзіўленне спакойна.— Але мне толькі хочацца сказаць, каб вы хоць раз паспрабавалі глянуць на свет вачыма сучаснага падлетка. Тады, можа, хоць не так на моладзь тукаць будзеце. Разумееце, ад таго, што вы на моладзь будзеце рукамі махаць, лямантаваць, што яна благая,— дарэчы, вы ў гэтым не першыя — ад гэтага лямануту нічога не зменіцца. Вам трэба найперш паспрабаваць зразумець яе. Трэба з гэтага пачынаць. А разуменне ў чым? А хоць бы ў тым для пачатку, што ў яе хлеб — ёсць, мяса — таксама, моладзь зараз пра яду не думае. Значыць, калі яна пра гэта не думае, яна будзе думаць пра нешта другое, другімі клопатамі займецца. Яны ж — людзі жывыя, хочам таго ці не хочам, а яны будуць да чагосьці хінуцца. Прырода пустаты не церпіць — самі гэта не раз чулі.

— Ага, вот яны і хінуцца. Адзін да аднаго. З бутэлькамі віна на верандах дзіцячых садзікаў, з восьмага класа пачынаючы.

— Ну, па-першае, не ўсе хінуцца. Ды і нават у тым, што яны хінуцца адзін да аднаго, ёсць пэўная заканамернасць. Аб'ектыўная. У гэтым я нічога дзіўнага не бачу.

— Што-о? Якая такая заканамернасць? — Разорчык проста такі слупянее на вачах. Хоць ты помнік з яго рабі — тут жа, зараз жа...

— Хочам таго ці не хчам, а мы павінны прайсці і праз гэта,— спакойна, як і не заўважаючы стану Разорчыка, тлумачыць Віталя.

— Праз што прайсці?
— Праз сексуальную рэвалюцыю.
— Якую-якую рэвалюцыю?
— Сек-су-аль-ную,— як настаўнік першакласніку, тлумачыць Віталя Разорчыку.— Акрамя навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ёсць яшчэ і сексуальная. Гэта, канечне, мая асабістая думка, я яе вам не навязваю. Але я думаю, што гэта рэвалюцыя робіць ды яшчэ і зробіць грандыёзны пераварот у свядомасці чалавека. Цяперашнія разводы і нежаданне жанчын мець дзяцей, нежаданне шукаць шчасце ў сям'і — гэта толькі адна з першых праяў гэтай рэвалюцыі. Мы пра яе пакуль проста ці то баімся, ці то саромеемся ўслых гаварыць. Але, паверце, ад гэтай нашай сарамлівасці і нашага маўчання яна сама сабою не знікне. Гэта — аб'ектыўны працэс. Чым болей мы будзем маўчаць, тым нам горай. Калі мы адказаліся ад такіх паняццяў, як «грэх», «той свет», «рай» ці «пекла», то хочацца вам таго ці не хочацца, а мы павінны адказацца і ад усяго таго, што з гэтых паняццяў выцякала. Ад усёй той філасофіі, якая выцякала з тых паняццяў. Разумееце, пра што я?.. На адной назе ўсё жыццё не прастаіш. Сказаўшы а, абавязкова трэба гаварыць і гэтае самае знакамітае бэ. Вы, старэйшае пакаленне, якое помніць чэргі за хлебам, помніце пра тое, як маці шылі вам ці куплялі штонікі да велікодных свят, вы яшчэ гэтага ўсур'ёз не ўсведамляеце. Ці проста баіцеся аб усім гэтым думаць — я і не ведаю... А сучасная моладзь усё гэта адчувае скураю, не тое што — халодным розумам. Вот, напрыклад, ваша дачка вырасце, вечарамі пачне з дому знікаць, і вы ёй, канечне, скажаце: нельга гэтага рабіць — цалавацца з хлопчыкамі ў пад'ездах. А яна вам калі не запярэчыць, то падумае абавязкова, гэта ўжо точна, я вам гарантую: а чаму няможна? І што ж вы ёй на гэта можаце сказаць? А проста вы, відаць, ёй тады нічога не скажаце ды і сказаць не зможаце, таму лягчэй за ўсё ёй крыкнуць: «Вот ты лепей слухай нас, старэйшае пакаленне і меней дурных пытанняў задавай!»

Апошнія словы Віталя ледзь не спявае, падрабляючы свой голас пад голас Разорчыка. Разорчык бялее зусім, а Раман Барысавіч гучна, задаволена смяецца:

— Ха-ха-ха... Малайчына, Віталя... Адзін — нуль... Што, Андрэй Іванавіч, уядае цябе моладзь? І сказаць у апраўданне нічога не можаш... Ха-ха-ха...

Смяецца і Эма Міхайлаўна, Разорчык маўчыць, пакручваючы галавою, пакусваючы тонкія вусы. Макрыцкі, таксама неяк скептычна ўсміхнуўшыся — ці то са сваіх думак, ці то з Разорчыка — бярэцца за паяльнік.

— Усё нашмат складаней і глыбей, чым здаецца на першы погляд. Як і з тымі ж «залатымі» дошкамі. Калі з дошкамі мы не заўсёды можам разабрацца, то з маральна-этычнымі праблемамі — го-о...— спакойна заканчвае Віталя.

У лабараторыі становіцца ціха. Як і ў тым жа прыгарадным аўтобусе, калі людзі ўдосталь нагаварыліся, накрычаліся і нечакана зразумелі нешта такое, чаго дагэтуль не ведалі.

## 18 гадзін

Першай, як і заўсёды, стралою вылятае з лабараторыі Эма Міхайлаўна.

Спачатку ёй трэба забегчы ў гастраном. Купіць што на вячэру і на сняданак. Зараз, у канцы рабочага дня, недзе ўсюды поўна людзей, да касы і не прабіцца. І яшчэ думаецца пра Сярожу. Дзе зараз Сярожа? Відаць, недзе зноў на двары лётае, а ўрокі нявучаныя. Некалькі разоў званіла дамоў — няма нікога...

На вуліцы, дзе цяпер болей шумна і людна, чым днём, Эма Міхайлаўна нечакана заўважае шмат прыгожых мужчын. Такое бывае з ёю неаднойчы: падыходзілі дні, калі ніводнага цікавага твару не сустракала, а былі такія, як вось сягоння, калі на кожным кроку чырванееш мімаволі, вочы падняць сорамна.

Як сягонняшні дзень не падобны на тыя дні, калі ўсё выглядае шэрым і змрочным: і тое ж нізкае захмаранае неба, і тыя ж халодныя высокія сцены будынін, і той жа мокры асфальт, ад якога цягне сырасцю, як і заклапочаныя невыразна-аднолькавыя людскія твары. Але ўсё гэта — у мінулым, а зараз, у гэты хай сабе і халодны вясенні дзень, настрой у Эмы Міхайлаўны бадзёры. Гэтае нізкаватае чырвонае сонца, што вісіць над дамамі, весяліць душу, напаўняе яе новым радасным пачуццём, ад якога па-дзіцячы хочацца смяяцца. І ўсяго толькі — ад вясенняга сонца, што свеціць у блакіце. Канечне, Раман Барысавіч мае рацыю, калі гаворыць, што сонечная актыўнасць звязана з псіхічнай дзейнасцю чалавека,— прыкладна так думае Эма

Міхайлаўна, калі падыходзіць да дзвярэй гастранома, ля якіх поўна людзей. І ў той жа час яна адчувае, што сягоння можа ды і павінна здарыцца з ёю нешта такое, такое... І таму ў яе позірку паяўляецца штосьці прыцягальнае, што прымушае мужчын заглядваць ёй у вочы, ды і яна сама, можа, крышку даўжэй і весялей, чым звычайна, затрымліваецца позіркам на ясных і светлых ад сонца мужчынскіх тварах.

І нават у гастраноме, сярод шумнай таўхатні і чэргаў, дзе, здавалася б, так лёгка сапсаваць настрой, Эма Міхайлаўна застаецца вясёлай. «Ладна, не хапіла на маю долю двухрублёвай каўбасы, вазьму курыцу. Хоць і дарагавата, затое на два разы раздзеліцца,— шэпча сабе Эма Міхайлаўна.— Хлеб ёсць, малако таксама».

Вось і чарга ў касу. Аддала пяцёрку — амаль увесь дзённы заробак. Але што грошы? Грошы былі і будуць, а вось настрой...

Зноў — вуліца, трамвайны супынак, на якім поўна людзей. Як і ўсюды зараз, у канцы рабочага дня. Ах, людзі, людзі... Незразумелая весялосць накочвае на Эму Міхайлаўну, вусны самі сабою так і крывяцца ва ўсмешцы. Цяпер, пасля работы, яна адчувае сябе зусім другой, больш незалежнай і, безумоўна, больш разумнаю. Цяпер яна не Эма Міхайлаўна, якая вымушана слухацца Разорчыка ці таго ж Рамана Барысавіча, а ўсяго толькі — Эма. Ці — Эмачка, як заве яе Мальвіна.

На супынку Эма ловіць позірк мужчыны, прыстрэлачна-кароткі. У плашчы, у летняй вельветавай шапачцы, у руцэ трымае чамаданчык-«дыпламат». Мужчына, сустрэўшыся з ёю позіркам, хутка пачынае разглядаць асфальт. Як яго век не бачыў. Няўжо засаромеўся, няўжо яшчэ такія сустракаюцца? Ну што ж, можа, так яно і лепей.

Яму сорак пяць. Мужчына ў самым росквіце. Па ўсім відаць — навуковы супрацоўнік: гэты гальштук, што выглядае з-пад няяркага шаліка, гэты «дыпламат»... Цікава ўсё-ткі, дзе і кім працуе? Альбо камандзіровачны, альбо... Не хапала яшчэ з камандзіровачным звязвацца... Але ўсё гэта — глупства! Навошта ён ёй, а яна яму, навошта гэтыя выпадковыя вулічныя знаёмствы, навошта пачынаць нанава тую гульню, у якую зараз ніхто не верыць? І правілы гульні забыліся. Гэта ўсё вясна зараз блытае...

Вось і трамвай, што з грукатам коціць. Цяпер, напаследак, можна больш смела глянуць на яго яшчэ раз, адпомсціць яму такім жа ацэначна-крытычным позіркам і — няважна, гляне ён на яе ў гэты міг ці не гляне. Бо трамвай з грукатам коціць...

Той трамвай, які зараз раздзеліць іх неадольнай мяжою, назусім, навечна, і мо таму ў такі міг паяўляецца ў душы штосьці вострае, адчайна-смелае, чаго ў звычайным жыцці амаль і не бывае, тое, што паяўляецца ў цягніках, на параходах, у самалётах, калі як ніколі балюча адчуваеш няспыннасць і беззваротнасць і часу, і свайго жыцця, і тых адносін, якія вось-вось знікнуць. І ці не таму людзі так цягнуцца да горада, каб тут, сярод усяго шматлікага, рухома-зменлівага змаглі як мага часцей адчуць сябе, як у тым жа цягніку, параходзе ці самалёце? І ці не таму яны з такой прагнасцю і адчаем хапаюцца то за адно, то за другое, застаючыся ў рэшце рэшт ля разбітага карыта?

Бо трамвай з грукатам коціць...

Цяпер галоўнае для Эмы — зайсці ў трамвай спакойна, так, як яна ўсё роўна і не прыкмеціла гэтага знаёмага ацэначнага позірку. Вось так... Дзверы ззаду шчоўкаюць, трамвай кратаецца.

Цікава ўсё ж, ён зайшоў ці застаўся? А ўвогуле, ах, якая яна дурніца...

— Прабачце, у вас няма лішняга талончыка?

Яна азіраецца — ён... Гэта ўсё-ткі ён... Відаць, не дарэмныя размовы Рамана Барысавіча і Мальвіны пра біяполе, зусім не дарэмныя... Няўжо ён таксама адчуў гэту нябачную нітку, што іх з'яднала?..

— Не, на жаль, у мяне няма талончыка. У мяне праязны. І вам раю яго купіць...— яна не спяшае адводзіць позірк ад яго спакойных шэрых вачэй. Яна цудоўна разумее, што справа не ў талонах. Ах, гэтыя сляпыя наіўныя мужчыны, яны ўсе паводзяць сябе так шаблонна. Кожны з іх паводзіць сябе так, як той Калумб, што Амерыку адкрываў... Аказваецца, да таго Калумба ў той Амерыцы ўжо столькі пабывала... Як быццам нікому нічога не бачна і падобнага нічога на свеце не было. Шчасце ягонае, што ён — не нахабны ў позірку.

— Зараз сярэдзіна месяца, пазнавата купляць праязны. Што ж, паеду тады зайцам,— ён усміхаецца і ўсё глядзіць у вочы з тым нямым запытаннем: як, вы не

супроць знаёмства? Ён цудоўна ведае, што вот зараз, калі яшчэ не сказана ніводнага слова пра знаёмства, усё вырашаецца...

Ах, як гэта ўсё знаёма! І кожны раз адчуваеш сябе так, быццам усё гэта — упершыню, быццам табе шанцаваць. І чаму ў такія хвіліны адчуваеш сябе так, як у бездань падаеш і быццам свет пераварочваецца? Потым, пазней, што б сабе ні было і як бы яно ні было, але гэта ўжо — не тое.

— Едзьце, калі вам падабаецца быць зайцам.— Вось і ўсё.

Дастаткова зрабіць адзін-адзіны позірк і цяпер можна спакойна выходзіць з трамвая ва ўпэўненасці, што ён паслухмяна пойдзе следам. Як на вяровачцы... Гэта толькі гаворыцца, што мужчына выбірае жанчыну, а на самай справе... Хай яны радуюцца сваім памылкам. І хай сабе ходзяць горда з упэўненасцю, што яны ўсё вырашаюць...

І вось яна выходзіць на сваім супынку, трамвай з грукатам коціць далей, а ён, той мужчына...

Ах, такі дзень, такі ясны вясновы дзень, калі ў паветры пачынае насіцца той вясновы дурманны пах, ад якога людзі робяць дурасць. Як яна сягоння... У такія дні і сапраўды пачынаеш верыць, што ўсё ж ёсць у жыцці нейкая заканамернасць, непадуладная людскому веданню, а толькі — пачуццю... І чаму ў такія дні, ясныя і сонечныя, абавязкова бываюць вясёлыя знаёмствы?

І вось, нарэшце:

— Прабачце за нахабнасць, але я, як хлопчык, прыстаю да вас.

— Што, усё яшчэ талончыкі шукаеце? — яна паварочвае ў ягоны бок твар і ўсміхаецца.

Ах, бачылі б яе зараз Разорчык ці той жа Раман Барысавіч, ці пазналі б яны яе, ці пазналі б?..

— Я хацеў бы з вамі сустрэцца калі-небудзь. Калі дазволіце, я вам пазваню дамоў ці на работу, бо зараз я вымушаны бегчы чытаць лекцыі вячэрнікам. Я сягоння пры ўсім жаданні...

Значыць, ён не камандзіровачны, ён — выкладчык. Што ж, для пачатку няблага.

— У вас што, няма больш каму званіць? — канечне, усё гэта пахне прымітывам і шаблонам: і ягоныя заляцанні, і яе адказ... Але ці можна сустрэць не шаблон і

не прымітыў? Калі толькі — у кіно. Там усё — не шаблонна, там усё — арыгінальна.

— Ну чаму ж вы так жорстка са мною? Але ўсё ж, калі можаце, дайце тэлефончык...

— Адразу ж і тэлефончык. Вулічнае знаёмства. Хоць бы ўжо ў клубе «Тым, каму за трыццаць...».

Ах, як ён чырванее... Нічога, калі чырванее, значыць, яшчэ не ўсё згублена. Што б ні было, але ён не павінен адчуваць сябе пераможцам. Толькі так з імі і не інакш.

— Ну што ж паробіш? Хоць гэта і пашлавата, я сам гэта разумею, але прагрэс і абставіны вымушаюць нас.— Ён разводзіць рукі і шырока ўсміхаецца. Божа, якая ў яго добрая ўсмешка!

— Калі вам так хочацца, то запішыце мой хатні тэлефон. Толькі я не ўпэўнена, што з гэтага што выйдзе...

Вось і ўсё. Яго завуць Дзмітрый. Якое рэдкае і цудоўнае імя — Дзмітрый. І ён пазвоніць заўтра. Заўтра роўна ў сем. А там...

Есць, ёсць усё-ткі на свеце біяполе. Хай зараз хоць дактары навук даказваюць, што яго няма нідзе, а яна — не паверыць. Бо, як гаварыў Раман Барысавіч, вера вышэй ведання... Не паверыць, і ўсё.

Вось і пад'езд са знаёмымі дзвярыма. Лесвіца, дзверы роднай кватэры...

Хутчэй, хутчэй на кухню, дзе трэба гатаваць вячэру. Дарэчы, а дзе ж Сярожа? Сумка ля дзвярэй валяецца, значыць, ён дзесьці на двары. Так і не пераапрануўся. Двор, двор... А на піяніна, мусіць, і забыўся. Ці іграў ён сягоння на піяніна? Канечне, не, ноты як ляжалі, так і ляжаць некранутыя. А ўрокі, дзённік? Ладна, гэта — потым, потым яна разбярэцца, а зараз — вячэра і ўборка ў кватэры.

Пазней, калі трохі перакусіла сама, Эма прымаецца за ўборку ў кватэры. Трэба працерці пыл, які невядома адкуль паяўляецца і паяўляецца, хоць ты тыя фортачкі ніколі не адчыняй. Адчыняй не адчыняй, а ён усё роўна паяўляецца. Відаць, трэба пачаць, як і заўсёды, з паліцы з кнігамі. Бо хто знае, магчыма, зойдзе хто з чужых. Ці ў тыя ж госці папросіцца... Ах, пра гэта лепей і не думаць. Госці, госці...

Якое цудоўнае і рэдкае імя — Дзмітрый.

Паліца з кнігамі. Некалі там было шмат кніг. І якія

рэдкія там былі кнігі! Якія кнігі! А цяпер іх мала, зусім мала... Бо кнігі кнігамі, а рэальнае жыццё-быццё патрабуе свайго, не толькі разумных талковых парад, што можна вычытаць у кнігах. Парады і сама Эма можа каму заўгодна даваць... І таму, як ні горка, але ў цяжкую гадзіну даводзіцца тыя кнігі прадаваць. Прадаваць тое, што засталося ад цэлай бібліятэкі, той салідная бібліятэкі, з кнігамі якой некалі малая Эмачка сядзела гадзінамі на канапе, ахінутая тым уяўным салодкім светам, што хаваўся за бліскучымі супервокладкамі і які здаваўся самой рэальнасцю.

Як даўно гэта было! Як і не з ёю было, быццам то і не яна сядзела на канапе, а зусім другая, невядомая ёй дзяўчынка.

Як усё тады, у маленстве, цудоўна пачыналася: і тое піяніна, на якім яна іграла, і сам заўсёды ўпэўнены і спакойна-насмешлівы бацька, якога адвозіла на работу службовая машына, і маці, то — чужая і далёкая, калі вярталася з цырульні ці з гасцей, то свойская, калі рабіла што на кухні і спявала сабе простыя мелодыі, і тыя ж вясёлыя шумныя святочныя вечары, якіх чамусьці было шмат, калі прыходзілі госці з падарункамі — якіх толькі падарункаў не было! — і яна, дзесяцігадовая Эмачка, пад гучныя ўмольныя просьбы пачынала іграць на піяніна, спачатку то былі просценькія мелодыі, а потым, праз год-другі, танцавальныя, пад якія тыя ж госці весела і радасна танцавалі і спявалі нават... Дзе зараз тыя песні і танцы — забытыя, забытыя, а гэта ж — цэлая эпоха... Уцёсаў, ягоныя хрыплаватыя песні, патэфоны з ручкаю, доўгія плацці з плечыкамі... Дзе ўсё гэта зараз, куды падзелася ўсё тое, што некалі здавалася вечным і непарушным?

Як усё тады было проста і лёгка, думалася тады, што і ў яе жыццё будзе гэткае ж, як і ў бацькоў ці ў тых жа вечна вясёлых і нейкіх нават бесклапотных гасцей,— з такой жа службовай машынаю, калі не ў яе, то ў будучага мужа абавязкова, з цырульнямі, дзе яе будзе абслугоўваць адна і тая ж жанчына, з вясёлымі шумнымі вечарамі, дзе поўна гасцей, шампанскага і песень. І патроху неяк непрыкметна яна ўжо ў школе прывучалася глядзець на другіх людзей, якія жылі не так, як іх сям'я, як на нешта бесталковае і няправільнае, думалася Эмачцы, што тыя людзі ніяк не могуць зразумець галоўнае ў гэтым свеце, вось адгэтуль і ідзе

іх бесталковасць. Як ні дзіўна і, мусіць, як гэта заўсёды бывае ў такіх выпадках, Эмачцы залішне калола вочы гэта «няправільнасць»: занадта заношаныя плацейкі ці касцюмчык, перашытыя, ці, як тады гаварылі, перанішаваныя з ужо ношанага, стаптаныя нямодныя туфлі, якія дасталіся ад старэйшага брата ці сястры, а то — і латачка, хай сабе і малапрыкметная, але ўсё ж — латачка... Ад усяго гэтага ўбачанага Эмачцы чамусьці было непрыемна, і таму, так чамусьці атрымлівалася само сабою, яна часцей за ўсё паказвалася сярод другіх, у якіх усё выглядала прыстойна і неяк ружова-гладзенька.

Як у адзенні, так і на тварыку.

Яна неяк і не задумвалася тады, чаму так атрымлівалася, што яна ходзіць у адным адзенні, а тыя, іншыя, у другім... Проста ёй часта было непрыемна, і ўсё. І гэтага ёй было дастаткова.

А потым...

Як хутка ўсё развеялася! У бацькі на рабоце нешта здарылася — што дакладна, яна так і дагэтуль толкам не ведае, верагодней за ўсё гэту бяду прынесла вечная людская зайздрасць, што не дае людзям спакою. За два гады да пенсіі бацькі да іх пад'езда перастала падкочваць службовая машына, да якой яны былі так прывыклі і якая здавалася тады такой неабходнай — то было дзесьці ў пяцьдзесят пятым ці шостым, калі, як гаварыла маці, богведама што тварылася ў горадзе: адных з трэскам здымалі, другіх, пра якіх дагэтуль амаль ніхто і не ведаў, назначалі.

І вось тады неяк хутка ўсё разышлося: зніклі вясёлыя госці з шампанскім, а калі каго і надаралася сустрэць выпадкам на вуліцы, то неяк вінавата адводзілі позіркі, стараліся як мага хутчэй паціснуць на развітанне руку і, сказаўшы напаследак: «Ах, жыццё, жыццё, яно так намі круціць»,— знікалі. На новай рабоце бацька неяк і не прыжыўся, і мо таму, а мо і яшчэ чаму з яго нага твару знікла вясёлая лёгенькая ўсмешачка, з якой ён дагэтуль глядзеў на ўсё на свеце, ён адразу ж пацямнеў у твары, пастарэў і стаў не тое што разгублены, а проста — іншы... Быццам у другім свеце апынуўся, дзе не было службовых машын, без мяккага ветлівага «можна да вас запісацца?», а былі магазінныя чэргі з гэтым беспардонным «ну, ты, куды прэшся, вочы разуй...», пастаянная гнятлівая цішыня ў кватэры і

яшчэ многае іншае, што заўсёды паяўляецца, калі нечакана аказваецца, што не хапае грошай на самае неабходнае... І ён, яе разумны дасведчаны бацька, разгубіўся і ўжо ніколі не змог адысці ад гэтай разгубленасці. А тым болей — надышла пенсія, на якую адразу ж давялося ісці...

І адзінае, што заставалася ў іх ад таго былога шчаслівага жыцця — дамашняя бібліятэка, салідныя рады кніг, у асноўным з серыі сусветнай класікі. Зараз гэтая серыя каштуе больш трох тысяч, а тады... І яшчэ балючым напамінам былога прыгожага жыцця было піяніна — калі-нікалі Эма садзілася і спрабавала іграць. Але ўжо не тыя іграліся мелодыі, не тыя спяваліся песні, не тыя плацці пачыналі насіць...

Ах, час, час, ён так усё мяняе і заблытвае!..

Тады яшчэ не было кніжнага буму, і яны нават не ўяўлялі, якім багаццем валодалі.

А потым...

Быў інстытут, дзе такіх, як яна, разумных і падрыхтаваных да прыгожага жыцця, было нямала, і таму яна спачатку нават і разгубілася. Мо таму яна, так ні ў чым толкам не разабраўшыся, адчуваючы, што ў навуцы пераварот не зробіць, рашуча, як з берага ў ваду, кінулася ў першае замужжа, наіўна цешачы сябе надзеяю паўтарыць шчаслівы лёс маці, якая жыла за бацькавымі плячыма, як за каменнай сцяной. І толькі потым яна агледзелася і ўпэўнілася, што яе замужжа — усяго толькі бяздумны палёт матылька на гарачае вогнішча, і таму, пакуль не позна, трэба шукаць выйсця...

Хуткая смерць бацькоў, абмен кватэры, развод, другое замужжа, Сярожа, ягоныя хваробы, зноў развод... Божухна, божухна, няўжо гэта яе жыццё, адно з тых жыццяў, над якімі яна некалі пасміхалася?.. Няўжо гэта не хто-небудзь, а яна каторы год птушкаю б'ецца ў гэтых сценах і ніяк не вырвецца?.. Няўжо яна штосьці робіць не так, няўжо? Жывуць жа, жывуць жа людзі і песні спяваюць... І дачы маюць, і машыны... І хто мае? Тыя, якія некалі ў пераніцаваным адзенні бегалі, якіх яна некалі саромелася.

І чаму, чаму ўсё так няскладна выходзіць у яе жыцці? У таго ж Разорчыка — з вёскі прыехаў, як гаворыць Раман Барысавіч, дуб дубам, ні такту, ні дыпламатыі, а глядзі — угору і ўгору расце. Можна смела сказаць — абмінае іх, ідзе паверх, пайшлі чуткі, вот-вот начальні-

кам цэха паставяць. А ў яе жыцці што мяняецца? Каторы год на адной і той жа пасадзе.

Чаму, чаму так атрымалася? Яна ж у свой час атрымала добрую адукацыю, спецшколу закончыла, інстытут, здавалася, у яе рукі само сабою плыло ўсё тое, каб яна магла спакойна ісці па праторанай бацькам дарозе. І ведала яна шмат што, і тактоўнасць у яе была, і знаёмствы. Але пайшлі па той дарозе другія, магчыма, тыя ж настырныя Разорчыкі, якія, пазаканчваўшы вясковыя школы, без такту і дыпламатычных размоў напралом паперлі ўстанаўліваць свае парадкі...

Няўжо ўсё гэта — расплата, запозненая расплата за шчаслівае бесклапотнае маленства?

Але — нічога. Усё гэта — нічога... Цяпер вясна, ёй усяго сорак год, і трэба спадзявацца на лепшае. А тым болей заўтра...

Ах, якое цудоўнае імя Дзмітрый! І якая прыгожая ў яго ўсмешка!

Звоніць тэлефон.

Паклаўшы ў вядро анучу, Эма аб фартух выцірае рукі і, падышоўшы да стала, падымае трубку. Так і ёсць — звоніць Мальвіна.

— Ты так даўно не званіла, што я засумавала,— гаворыць радасна Эма.— Ты нават прыйдзеш да мяне сягоння? У колькі? Пасля сямі, ну і добра... А то ў мяне навін, навін столькі. Я, канечне, буду дома. У мяне тут нават кавы трохі засталося растварымай. І нават віно ёсць. У нас у стале заказаў давалі. Так што я чакаю...

Роўна ў пяць звоніць тэлефон. Разорчык падымае трубку, слухае, а потым ківае галавою Віталіку: «Ідзі, цябе...»

Хто б гэта мог быць? Валя? Але Валя ягонага тэлефона не ведае, ды і не падумае яна пазваніць, не прывучана да гэтага... Ім толькі пакажы моду, дык ад тэлефона і адыходзіць не будзеш...

Віталя падыходзіць да стала Разорчыка, бярэ тэлефонную трубку: «Я слухаю».

— Віталя, гэта я, Наташа. Ты прабач, але я цябе праз даведку знайшла. Ты хоць чуеш мяне?

— Добра чую, а што такое здарылася? — так і трэба зараз з ёю гаварыць: суха і спакойна, без ніякіх эмо-

цый. Толькі паддайся гэтым эмоцыям — у такі буралом завядуць, не выберашся ніколі...

— Віталя, я хачу, каб ты сягоння прыйшоў да мяне. Каб абавязкова прыйшоў. Я не магу быць болей адна ў гэты вечар. Мне дужа цяжка, Віталя.

— Што здарылася?

— Гэта доўга і цяжка гаварыць. Я не магу зараз аб гэтым гаварыць па тэлефоне, Віталя, не магу... Прашу цябе, абавязкова прыйдзі, і я ўсё раскажу. Я так баялася, што цябе ўжо не застану. Я думала, ты пайшоў з работы...

— Ты адкуль звоніш?

— Я... Я недалёка ля дома з тэлефоннай будкі. Я цябе буду чакаць, Віталя. Толькі не зараз, трошкі пазней.

— У восем ты будзеш дома? Ну, добра, чакай, я буду ля васьмі.

— Толькі ж не забудзь, прыйдзі, Віталя...

І зноў — гэты істэрычны плач. Не хапала яшчэ і слёз... Тады, як было весела, тады і Віталіка можна было дамоў сярод ночы гнаць, а вось зараз, калі самой прыпякло... Відаць, і сапраўды нешта здарылася. Але — што, што там магло такое быць? Было ж усё нармальна.

— Пакуль, чакай, я буду,— і трубка кладзецца на рычажкі. Пасля тэлефонных размоў Віталя заўсёды стараецца пакласці трубку першы.

Цікава, цікава, што ж там з ёю здарылася? Так ці інакш, але Валі цяпер няма сэнсу званіць. І той вечар з Валяю, які запланаваў, таксама сарваўся. Ну што ж, не з Валяю, дык з Наташаю... Дадзім ёй апошні шанц выправіцца, калі ўжо і сягоння...

Нарэшце, пташачка, і ты закукавала... Але што, што там магло здарыцца?

Віталя выходзіць з лабараторыі на гулкую шумную вуліцу.

Куды пайсці вольнаму чалавеку? Як ні дзіўна, але ў апошні час гэта пытанне ўсё часцей і часцей паяўляецца, быццам без яго і нельга спакойна пражыць. Раней такога не было, а вось з гэтай вясны... Як быццам нязробленая работа маецца, а якая — не ведаеш...

Да васьмі — дзве гадзіны. Відаць, найлепшае і прасцейшае, што прыдумаеш,— кіно. Так-так, цяпер — трэба пашыбаваць да кіёска, узяць газету з рэкламаю,

затым — аблюбаваны кінатэатр. Там жа, у буфеце, і перакусіць што можна. Пажадана, каб трапіць на які баявічок ці дэтэктыўчык. Балазе, у апошні час на экранах касяком ідуць дэтэктывы. Бах-бах, і чалавек, як лялька, на зямлі валяецца... А то яшчэ — гэтая так любімая рэжысёрамі запаволеная кіназдымка: вось адзін, павольна перастаўляючы ногі, уцякае, а другі, гэтак жа павольна, як у сне, выцягвае з кішэні дагэтуль нябачную «пушку» і наводзіць яе... І ўсё гэта прыгожа, эстэтычна аформлена, і адмысловая музыка, і колеры адпаведна падабраны — чырвонае на блакітным, ці — наадварот, і рытмічная, пад музыку, змена ракурсаў, перабіўка кадраў, як быццам смерць чалавека — яшчэ адна новая пацешная гульня... Ува што? А бог яго ведае, гульня, і ўсё, абы чалавеку весела было. Ды і ці варта яму, Віталю, над гэтым задумвацца, як і ўсім тым, хто валам валіць да акенцаў кінатэатральных кас.

Касавае кіно, выгадна, выручка, папулярнасць, цікавасць... Чым яшчэ ўсё гэта можна апраўдаць?

І яшчэ некаторыя кажуць, што гэта нават неабходна — ачышчэнне жахам. Як тымі вітамінамі, якіх вясною не хапае. Магчыма, магчыма,— чаго не пачуеш у гэтым адукаваным разумным свеце. А можа, проста таму, што сумуюць людзі, адгэтуль і ўсе далейшыя разгадкі.

Але ўсё гэта — разважанні, якімі, як вядома, сыты не будзеш, і таму — наперад, да кіёска. Вось і газета, на апошняй старонцы якой так і ёсць — дэтэктыў. Што ж, схадзіць можна, былі б толькі білеты, бо зараз, у канцы дня, іх дастаць цяжкавата. Што ж, не трапіць на дэтэктыў, можна рвануць на якую камедыю. Музычную. Іх, дарэчы, зараз таксама хапае...

У канцы рабочага дня Раман Барысавіч гэткі ж спакойны, як і на пачатку дня. Што б сабе днём, на рабоце, ні было, які б лямант і вэрхал ні быў у лабараторыі, але ўсё гэта — знешняе, што Рамана Барысавіча ніяк не чапае, ён пасля нават са здзіўленнем глядзіць на Разорчыка, на таго пабялелага, пажаўцелага Разорчыка, які звычайна пасля спрэчак не знаходзіць сабе месца. Ды і ўвогуле, хто можа пахваліцца, што бачыў калі Рамана Барысавіча ўзбуджаным ці знерваваным? Няма, няма такіх... Што ж, такім і трэба быць зараз, у

гэтым сучасным складаным жыцці трэба навучыцца трымаць свае нервы ў парадку, іначай інфаркт умомант атрымаеш. Гэта, можа, і галоўнае для чалавека. Нездарма многія філосафы гавораць, што жыццё чалавека — галоўная каштоўнасць. Калі ты ўжо сваё жыццё не навучышся берагчы, то што тады гаварыць... Трэба, абавязкова трэба быць спакойным, іначай язву хутка нажывеш, як той Разорчык станеш, якога ўжо цяпер ад кожнай дробязі калоціць, як быццам усё, што ў белым свеце адбываецца, гэта ягонае, асабістае... А што з яго будзе год праз дзесяць, калі дажыве да ягонага, Рамана Барысавіча, узросту?

Раман Барысавіч нетаропка складвае ў партфель газету, некаторыя паперы, туды ж кладзе пару радыёдэталей, якіх нідзе са свечкамі не знойдзеш — таксама во, дробязь, капейкі каштуюць, а без іх як без рук, нідзе зараз у магазінах няма, няўжо так складана наладзіць іх выпуск? — гэтыя дэталі спатрэбяцца дома вечарам пры рамонце радыёапаратуры. І вось — памахванне рукою і:

— Да пабачэння вам, Андрэй Іванавіч. І вам... Усяго добрага. Да заўтра...

Цяпер дарогі іх разыходзяцца. Цяпер можна ісці дадому, дзе яго чакае ўтульнасць, цішыня і Рыта. Відаць, варта прайсці пешшу, спяшацца не трэба.

Дзень сонечны, але халодны. Нічога, у гэтым уцепленым плашчы холаду так і не адчуваецца.

Раман Барысавіч, зліўшыся з натоўпам, спакойна ідзе па праспекце, пазіраючы наўкола мяккімі разумнымі вачыма. Ён адчувае, што гэтыя шматлікія людзі, якія таропка ідуць яму насустрач, якія абганяюць яго, гэта як два сусветы, якія між сабою і не сутыкаюцца, хоць і існуюць у адной прасторы. Дарэчы, здаецца, ёсць нават такая касмаганічная тэорыя пра існаванне незалежных сусветаў у адной прасторы.

І ці не таму ў Рамана Барысавіча — свае клопаты, а ў людзей — свае... І гэта, відаць, добра, бо ўсе непрыемнасці пачынаюцца, калі знікне мяжа паміж тваім асабістым «я» і гэтым усеагульным людскім, што вірыць вакол цябе днём і ноччу, побач і далей, нават за сотні і тысячы вёрст. Тады, як знікне гэта мяжа, адразу ж і пачынаеш адчуваць нейкім невядомым, нязнаным дагэтуль пачуццём гэтыя шматлікія беды, якіх, аказваецца, гэтак поўна ў свеце і якія тут жа наваль-

ваюцца па цябе, быццам без цябе нічога ніколі не вырашыцца, бо тады і пачынаеш па-новаму адчуваць гэтыя шматлікія позіркі: раўнадушныя, цікаўныя, адчайныя, злыя — гледзячы на цябе, людзі амаль што фізічна кранаюць душу, і ты пачынаеш губляць сваё «я», не ведаеш, дзе падзецца самому, за што зачапіцца, бо і сам жа ты — не бог і не цар, а ўсяго толькі — грэшны чалавек... Вось тады і пачынаецца ўсё тое, што даводзіць да істэрык і язваў.

Як таго ж Разорчыка...

А калі цвяроза разабрацца, то — навошта табе ўсё гэта, навошта, як быццам ты зможаш прымірыць і ўладкаваць усё гэта бясконца разнаплыннае і бурнае, што крычыць, плача ці смяецца. Часы прарокаў даўно мінуліся, выйдзі на вуліцу і крыкні любую ісціну — нікога не здзівіш, наадварот, будуць толькі скептычныя ўсмешкі, бо, відаць, людзі проста стаміліся ад гэтых супярэчлівых ісцін, бо ўсё, што можаш прыдумаць, што можаш крыкнуць усяму гэтаму вірліва-крыкліваму,— усяго-наўсяго паўтарэнне даўно мінулага, таго, што было да цябе, пра што ці то гаварылі, ці то лямантавалі некалі і Хрыстос, і Буда, і пустыня для роздуму ці той жа манастыр, і прыгожыя разважанні ў тэрмах, якія абрываюцца ў рэшце рэшт грубай сілаю —як доказам бясплоднасці спрэчак пра дух і цела. Бо ў гэтых спрэчках і разважаннях, якім мудрэц Кант ахвяраваў усё сваё жыццё, нават і ён пад старасць заблытаўся, выстаўляючы на кожны свой тэзіс адпаведны антытэзіс... Куды ўжо нам, грэшным... О-о, усё гэта было, яно было да цябе, яно будзе і тады, калі цябе не стане, нідзе, ні на гэтым, ні на тым свеце, ні ў касмічным пыле, бо ты пяройдзеш у вялікае Нішто, і таму — ці варта, ці варта ўмешвацца ва ўсё гэта часовае, самому сабе скарачаючы і без таго кароткі век?

Ці варта?

Нездарма герой адной гумарэскі Райкіна гаварыў: асабісты спакой — перш за ўсё... І хоць не сам пра гэта Райкін гаварыў, а герой мініяцюры, але доля ісціны ў гэтых словах ёсць. Калі і не ўся ісціна.

З усіх шматлікіх ісцін і афарызмаў, якімі зараз аплецена чалавецтва, трэба ўсё ж ухапіцца за якую адну. Трэба. Інакш — нельга. Інакш станеш адным з тых, чые адчайна-разгубленыя позіркі хапаюцца то за мэблю, то за дываны, то за кнігі, то за адзенне, то за

тэатральныя прэм'еры. Ах, колькі спакусаў рассыпана ў гэтым вялікім горадзе, азірніся наўкола, прыгледзься і толькі на імгненне паспрабуй забыць пра сваё «я», як тут жа непрыкметна ўсё гэта шматлікае спакуслівае, крыкліва-прыцягальнае засмокча, і адтуль ужо наўрад ці знойдзеш сіл выбрацца.

Толькі паспрабуй забыць пра сваё «я»...

А вось так, калі ўвесь час помніць, што ў свеце галоўнае спачатку тваё *«я»*, а потым — усё астатняе, вось тады і зможаш спакойна ісці пасля работы па вуліцы, злёгку нават усміхаючыся *сваім* думкам, *свайму* нічым і нікім не патрывожанаму спакою.

— Ты зачыніш? — Разорчык, узяўшы партфель, запытальна глядзіць на Макрыцкага.

— Канечне.

— Тады я пайшоў. Усяго табе добрага. Сігналізацыю не забудзь праверыць.

— Добра,— гэта ўжо Разорчык чуе ззаду.

На вуліцы, як і звычайна ў такі час, шумна і людна,— гэтак жа, як і з іх пад'езда, з пад'ездаў другіх афіцыйных устаноў высыпаюць людзі і спяшаць, спяшаць, стараючыся сэканоміць кожную мінуту, хто куды — дадому, у магазіны, на спатканні... І калі пачынаеш доўга разглядаць гэтых людзей, забыўшыся хоць на хвіліну пра сябе,— што і табе трэба некуды спяшацца ці бегчы,— паяўляецца дзіўнае, нязнанае дагэтуль пачуццё, што людзі гэтыя спяшаць не так па неабходнасці, а як па звычцы ці заведзеныя некім... І тады ўжо закрадваецца думка пра штосьці такое, пра што звычайна і не думаеш,— незразумелая і неакрэсленая, яна ў рэшце рэшт стамляе, у рэшце рэшт ты ад яе хочаш як мага хутчэй пазбавіцца, зразумеўшы толькі, што гэтая думка звязана з вось гэтымі заклапочанымі людзьмі, з гэтым вечным гарадскім рухам, які прымушае цябе як мага хутчэй рухацца, што ўсё гэта, што вакол цябе, звязана, зніта вана нечым адзіным.

Толькі вот чым звязана? І ніяк ты гэтага не можаш зразумець, а можаш толькі адчуць. І таму, каб зусім пазбыцца гэтай балючай нязвыклай думкі, пачынаеш гэтаксама спяшыць, спяшыць.

Разорчык адчувае, што стаміўся. Баліць галава. І яшчэ адчуваецца тая ўзбуджанасць, якую часта адчу-

вае ў канцы рабочага дня. І не ад работы гэта бывае, зусім не ад работы, лягчэй бы, мусіць, цэлы дзень дровы рэзаць...

Ад чаго ж тады гэта знерваваная ўзбуджанасць?

Відаць, ад вось такіх, як думаецца, пустых непатрэбных размоў, якія нічога не вырашаюць і якія непрыкметна заводзіць Раман Барысавіч і ў якія гэтак жа непрыкметна ўцягваешся сам і потым ніяк з іх не выберашся. Колькі разоў ён даваў сабе слова не ўмешвацца ў гэтыя спрэчкі, як гаварыў сабе — не паддавацца на правакацыі, і ўсё ж — часта не вытрымліваў...

Як і сягоння. Навошта гэта яму было? Што ён хацеў даказаць? Свет белы перавярнуць, ці што? Каму гэта трэба? — як любіць паўтараць Віталя.

Андрэй Іванавіч хутка ідзе сярод людзей, памахваючы партфелем, глядзіць сабе пад ногі на шэры асфальт і, нават не заўважаючы таго, варушыць вуснамі. Яму ўсё яшчэ здаецца, што ён — у лабараторыі, і цяпер у яго паяўляецца шмат таго правільнага і аргументаванага, што можна сказаць таму ж Раману Барысавічу ці Віталіку. Ах, каб гэтыя думкі ды паявіліся тады, раней!

Чаму, чаму ўсё так атрымліваецца, што ён, аказваецца, своечасова нічога не можа даказаць ні таму ж Раману Барысавічу, ні, да чаго дакаціўся, Віталю? Няўжо і сапраўды ён ужо адстаў ад жыцця і нечага не разумее?

Як ні хочацца ў гэтым прызнацца, але ў такія хвіліны ў Разорчыка паяўляецца адчуванне, што Раман Барысавіч, ды і той жа Віталя ведаюць штосьці такое правільнае і разумнае, чаго ён не ведае.

Як у апраўданне тады думаецца, што ён, Разорчык, магчыма, тут і не вінаваты. Надта часу сядзець над кнігамі ў яго і не знаходзілася.

Студэнцтва... Канечне, ён чытаў тады кнігі, але якія? У большасці то былі чыста тэхнічныя кнігі,— з графікамі, формуламі, тэарэтычнымі выкладкамі, у якіх адно палажэнне само сабою выцякала з другога, і галоўным было — не згубіцца ў гэтым доўгім ланцугу бясконцых меркаванняў «калі мы гэта прапануем, то адразу ж выцякае...». Як ні сорамна зараз прызнацца, але за пяць год студэнцтва ён прачытаў усяго некалькі мастацкіх кніг. Хоць і лічыўся неблагім студэнтам. Ды і, як тады думалася, калі было чытаць тыя мастацкія

кнігі, бо ад праграмных падручнікаў галава пухла. Сапрамат, вышэйшая алгебра, электрадынаміка, фізіка, ядзерная фізіка, спецкурсы, лабараторныя работы — і ўсё гэта амаль кожны дзень, па шэсць-восем гадзін, ад усяго гэтага — толькі ўспомні — і зараз дрыжыкі пачынаюць біць. Колькі год пасля абароны дыпломнай яму сніліся ўсё тыя экзамены... Ды ў рэшце рэшт, калі разабрацца, ён і павінен быў гэта ведаць, гэта — ягоная спецыяльнасць, ягоны хлеб. А літаратура, тыя задзірыстыя спрэчкі пра Платона, Ніцшэ ці Дастаеўскага — на то былі філалагічныя ці філасофскія факультэты, бо зараз — век вузкай спецыялізацыі, і, хапаючыся за ўсё адразу, можаш застацца ні з чым. Ля разбітага карыта,— як у той казцы будзе.

І яшчэ, як пра найвышэйшае апраўданне, думалася, што словы і спрэчкі, якія б яны сабе ні былі, але самі па сабе, без канкрэтнай рэальнай справы, яны ні да чаго не прывядуць. Ён добра помніў тых вясковых баб, якія ўмелі так прыгожа гаварыць і ў хаце каторых чорт ногі мог зламаць...

Ды і, калі на тое пайшло, акрамя тых лекцый і праграмных падручнікаў у ягоным жыцці было яшчэ і шмат такога, чаго не было ў жыцці Віталіка ці таго ж гараджаніна Алмазава. Вакзалы, куды Разорчык начамі бегаў на разгрузку вагонаў, начны рамонт трамвайных рэек — падработкі, падработкі... Надта многа ён і не зарабляў, але толькі на гэтыя падработкі ён і мог спадзявацца. Не на бацькоў, што ў вёсцы жылі і самі ў той цяжкі пасляваенны час толькі-толькі канцы з канцамі зводзілі. Разорчык ведаў тады, у час вучобы, што разлічваць можа толькі на сябе і на свае рукі. Відаць, з тых далёкіх цяжкаватых гадоў студэнцтва ў ім паявілася гэтае *трэба*. Ён нават і не задумваўся, чаму так было,— найпершым у ягоным жыцці было *трэба*. *Трэба* было любою цаною закончыць інстытут, атрымліваць стыпендыю, пасустракаўшыся пару месяцаў з Людаю, *трэба* было жаніцца, пачынаць тое агульнае жыццё, якое было ў бацькоў і дзядоў, і таму як само сабою зразумелым было ўсё далейшае, якое не падлягала ніякаму сумненню: прыватная кватэра, недасыпанне начамі з-за дзіцячага крыку, хваробы дзяцей і лётанне па аптэках, падработкі вечарамі і ў часы водпуску — у апошнія гады Разорчык у час водпуску шабашыў на Поўначы... Усё гэта *трэба*, *трэба*, *трэба*... За гэтым *трэба*

стаяла некалі лёгкая ўпэўненасць у сваёй праваце, думалася некалі, што так, як ён робіць, гэта — адзінае, найлепшае, што можна зрабіць, толькі так і не іначай, і таму на многае другое не варта звяртаць увагі... Хай там другія крутам-мутам праходзяць свет, а яму гэта не трэба. Хай другія шукаюць лягчэйшага хлеба. Як і не варта яму было звяртаць увагу на тыя ж хітраспляценні разважанняў некалі моднага Кафкі, ні на так званыя цёмныя глыбіні душы чалавечай, куды скіроўваў свой пільны позірк Дастаеўскі... Разорчыка тады ўсё гэта проста не цікавіла, як не цікавяць дзяцей думкі пра смерць ці пра тую ж старасць, а калі яны і цікавяць, то зусім не так, як дарослых.

Ці то ад маладосці гэта было, ці то яшчэ ад чаго... І хоць бегаў ён тады шмат, і злаваў, і нерваваўся, але ўсё гэта было тады лёгкім, як быццам і паветра тады было другое. Мо таму ўсё гэта было, што была ў ім чамусьці ўпэўненасць, што некалі, калісьці будзе ўзнагарода, што чым далей ён будзе жыць, тым лягчэй будзе...

Адкуль гэта ўпэўненасць паявілася?

Відаць, ад маленства, ад тых часоў, калі штодня бачыў і адчуваў, якім потам даставаўся бацькам кавалак хлеба, кожная новая адзежына. Ужо тады, малы, ён добра засвоіў: калі не будзе хлеба ці адзежыны, то болей, што б сабе ты ні гаварыў, як бы прыгожа ні разважаў, але і нічога не будзе. Будзе холад, будзе доўгае бадзянне па пустым вясновым полі, дзе ёсць надзея знайсці леташнюю гнілаватую бульбіну, з якой маці спячэ аладку... І мо проста таму не было часу на роздум, на доўгія разважанні, таму і паяўлялася гэтае магутнае абарончае *трэба*, што засвойвалася з малаком маці.

Не ўпамінаючы пра бацькаў рэмень, што пагрозліва вісеў на сцяне.

І, як ні дзіўна, гэтае *трэба* надавала сілы і ўпэўненасці. І ў гады вучобы ў школе — добра вучыцца будзеш, зможаш паступіць, тады паедзеш у горад і дадуць табе пашпарт, а там — выб'ешся ў людзі, лягчэй будзе, не давядзецца з віламі ў калгас цягацца... І ў часы студэнцтва, і потым, калі пачаў жыць з Людаю...

Але ў апошнія гады ўсё цяжэй і цяжэй Разорчыку, адчуванне, што нешта галоўнае ўцякае між пальцаў — і сам не бачыш куды, і сам не ведаеш што... Ён пачаў не-

шта занадта часта думаць над пражытым. І тады заўважыў, што дасягнуў ён многага ў жыцці, пра што некалі соладка марылася, але чамусьці так атрымлівалася, як толькі ён чаго дасягаў, перад ім тут жа пачынала маячыць штосьці новае, і ўжо тое, дасягнутае, амаль што і не радавала душу. Ці не адгэтуль знерваванасць і ўзбуджанасць, гэтыя ледзь не штодзённыя ляманты ў лабараторыі, гэта нацягнутасць у адносінах з Людаю. Усё, здаецца, ёсць, каб быць шчаслівымі, а вось глядзі ты — як чорт які ў кватэры пасяліўся і муціць усё, муціць... Што тут пра другіх гаварыць, калі ў самога...

І ведаў Разорчык, не толькі Раману Барысавічу ці таму ж Віталю ён хоча штосьці даказаць, не — самому сабе ён хоча даказаць, што гэтым *трэба*, якое некалі падтрымлівала ў цяжкую гадзіну ягоных бацькоў, толькі гэтым і можна ўтрымацца ў жыцці.

Бо бачыць ён — не дурань жа поўны, усё добра бачыць і разумее, мо пакуль і сам у гэтым баіцца прызнацца,— што зараз многія, не толькі Раман Барысавіч ці той жа Віталя, пасмейваюцца над ягоным *трэба.* Вось таму ён так і злуе на Рамана Барысавіча ці Віталіка, што тыя навучыліся спакойна задаваць на ўсё ў жыцці *«а ці трэба?»*. І таму, што жывеш сярод людзей, а не на востраве бязлюдным, то і сам у рэшце рэшт пачынаеш задаваць сабе пытанні...

*Ці трэба* было жаніцца з Людаю, у якой бацькі такія ж вясковыя багацеі, як і ягоныя? Мо лепей было б, калі б ён жыў адзін, сам для сябе, не бегаючы па аптэках, не ездзячы летам на Поўнач карміць камароў?

*Ці трэба* рыбінаю аб лёд біцца там, дзе загадзя ведаеш, што нічога не даб'ешся?

Як ні горка, але сабе ён часта нічога не можа сказаць. І таму, як ні круці, як ні вярці, а штосьці абрываецца. Абрываецца якраз тады, калі, здаецца, многае ўжо тваё.

Вось і кватэра, нарэшце, ёсць, і ў кватэры тое-сёе, як і ў людзей, не горш ва ўсякім разе, і Люда, здаецца, не гультайка. Але адкуль, адкуль прыходзіць калі-нікалі няпрошанае пачуццё таго, што жывеш доўга-доўга, што ўсё лепшае, што мог атрымаць ад жыцця, ты ўжо атрымаў, і таму далей, ва ўсе далейшыя гады, да канца самага, будзе толькі аднастайнае паўтарэнне даўно пражытага: і гэта дарога [illegible] дому на работу, і размовы ў лабараторыі, работа, і зноў — кватэра, дзе стомленая

Люда і дзеці. І, можа, самае горкае, што няма той радасці быцця, зусім мала той радасці, якая была некалі, у тым жа халодным і галодным маленстве, калі надвячоркам глядзеў на сонца, што вісела над лесам, і душа ягоная замірала ў шчаслівым прадчуванні вялізнага шчасця, якое вот-вот будзе, абавязкова будзе, мо нават і заўтра.

Колькі, колькі такіх шчаслівых імгненняў было некалі ў ягоным жыцці! І пасля, праз гады, ён зразумеў, што шчаслівым можна быць па-рознаму — і ад ласкавага позірку ці слова, і ад удала набытай рэчы, але шчасце гэта — не вечнае, міне тыдзень ці год, і яно, тое шчасце, згубіць сваю слодыч і радасць. І толькі нашмат даўжэй і вастрэй запомніцца той міг, калі на адзіноце зможаш радавацца самаму звычайнаму, таму маўкліваму і агромністаму, сярод чаго звычайна жывеш, што акружае цябе штохвілінна, не патрабуючы нічога ўзамен. Калі можаш радавацца той жа доўгай звілістай палосе вячэрняга белага туману, што высіцца, выступае над кустамі ля рачулкі, ад якой табе пара ўжо бегчы дадому, пакідаючы сляды на роснай траве. Ці таму ж няяркаму негарачаму вялізнаму малінаваму сонцу, што памалу выкочваецца з-за лесу ў гэта стылае, вільготнае пасля ночы паветра, якім так глыбока дыхаецца, як п'еш усё роўна і ніяк не можаш прагнаць смагу. Тым жа зорам, што густа высыпаюць у вячэрнім небе, калі табе зноў жа пара бегчы дадому, а ты ўсё яшчэ чамусьці цягнеш, адкладваеш, так і не адводзячы позірку ад гэтай зваблівай чорна-іскрыстай бездані. Ці той жа раніншняй вясновай празрыстасці і яснасці, што акружала некалі, высвятляючы ўсё наўкола такім яркім святлом, што ўсё ўбачанае — і вёска са знаёмымі хатамі, ахінутая лесам, і людзі — аставалася ў памяці навечна, прымушаючы думаць і шкадаваць аб нечым страчаным у жыцці. Але сум той — не цяжкі, а той лёгкі сум, што абуджае ў душы такое светлае і высакароднае пачуццё, якое, можа, ніякім словам, а тым болей бліскучай рэччу не абудзіш...

Так было ў маленстве.

А потым, у дарослым жыцці... А потым проста так атрымліваецца, што, аднойчы сарваўшыся з месца, ужо не знаходзіш часу прыпыніцца, агледзецца, прыслухацца і, відаць, сам таго не прыкмячаеш, як, абдзеленая нечым душа,— магчыма, той жа неабходнай еднасцю з

усім маўкліва-непарушным, што акружала некалі,— драбнее, і тады ўжо больш рэальнымі і больш дробязнымі становяцца свае мары і памкненні, і самі сабою паяўляюцца пытанні, над якімі некалі і не задумваўся. І тады хоць ты нанова садзіся за падручнікі, толькі цяпер ужо за другія. І думаецца, што калі б не дзеці...

Ах, дзеці, дзеці, куды вас падзеці...

Што з Віталіка возьмеш, калі яны незразумелыя растуць? Як ні трымай у дысцыпліне, але ўсё ж — Разорчык гэта адчувае — яны ўжо не такія, якім сам быў у іх узросце. Зусім не такія, як быццам другім паветрам дыхаюць, па-другому думаюць...

Чаму іх вучыць? За што ім трымацца, калі хлеб ёсць, адзення поўна, а ісціна, як Віталя тлумачыць, за высокімі гарамі?

І зноў — гэтыя праклятыя пытанні, гэта блытаніна ў думках, і зноў — спакуслівае «ці трэба?». Бо многае ў жыцці — толькі зараз ён пачаў гэта разумець — пры жаданні можаш апраўдаць, аказваецца, на ўсякую подласць можна знайсці разумныя правільныя апраўданні. Нават навукова і лагічна абгрунтаваныя, са шматлікімі прыкладамі з гісторыі... Вось што самае дзіўнае. А ты са сваёй праўдаю застанешся ў дурнях. Цягні яе па сваёй жыццёвай дарозе, як той дурань дзверы, а з цябе разумныя Алмазавы, якія ўсё на свеце ведаюць, будуць пасміхацца, пальцам торкаючы, да таго часу, пакуль і сам не пачнеш сумнявацца: а што ж ёсць праўда, а што — мана? Мо і сапраўды ўзяць ды і кінуць-рынуць усё, бо зноў жа, як часта гаворыць Раман Барысавіч, навошта, навошта, навошта табе болей другіх чужога гора?

А потым, як і заўсёды ў такія хвіліны, Разорчык сілаю волі прымушае, як гаворыцца, узяць сябе ў рукі. «Нічога,— у такія хвіліны Разорчык нават і не заўважае, што пачынае гаварыць сам з сабою,— мы яшчэ пазмагаемся з гэтымі разумнікамі...»

Разорчык і не прыкмячае, які ў яго дзіўны выгляд: на самыя вочы насунута летняя шапка, паліто расшпілена, пад час хуткіх размашыстых крокаў шалік ягоны матляецца маятнікам. Як і той жа партфель у руцэ.

Стрэчныя, яшчэ здаля ўбачыўшы яго, стараюцца загадзя саступіць дарогу. Як і заўсёды, калі неяк мімаволі саступаецца дарога заклапочанаму, занятаму сваімі думкамі чалавеку.

Пасля работы Макрыцкі наважыў сходзіў у парк — прайсці пешшу ад цэнтра горада да тых высокіх каменных варот на ўскраіне горада, за якімі зеляненелі вяршынямі сосны.

Выйшаўшы з лабараторыі, ён памалу ідзе па цэнтральным праспекце,— міма адчыненых дзвярэй універмага, ля якіх вірыць вялікі натоўп, мінаючы цэнтральную гарадскую плошчу, зараз агароджаную зялёнымі дашчанымі шчытамі, за якімі машынамі ўбіваліся ў зямлю металічныя па́лі — з ляскатам, аж дрыжыць асфальт ад магутных удараў,— потым — бліскучы купал цырка, ля якога на афішах красуецца ўздыбленая шасцёрка белых коней і побач — два вечна вясёлыя, чырванашчокія, з вялікімі насамі клоуны, потым — мост над ракою з забетаніраванымі берагамі, знаёмая круглая плошча з абеліскам у цэнтры, а яшчэ далей, на ўзвышшы, за трамвайнай лініяй, якая перасякае праспект, другая плошча, дзе за тонкімі, яшчэ зусім маладымі бярозкамі цямнелі скульптуры вядомага пісьменніка і ягоных літаратурных герояў.

Макрыцкі не раз вось так хадзіў пешшу — ад работы і да самага дому, амаль па ўсім доўгім праспекце,— не раз ён ішоў і ля гэтых скульптур і кожны раз, калі праходзіў паўз іх, нечаму здзіўляўся. Ён не мог сказаць, падабаліся яму гэтыя постаці ці не...

Ненатуральна вялікія постаці, безумоўна, уражвалі, як уражвае чалавека ўсё надзвычай вялікае, ды і самі постаці, выразы твараў былі нечым знаёмыя,— так што, здавалася, тут зроблена ўсё так, як і трэба, лепей ужо і не прыдумаеш: і гэты застылы скрыпач у лапцях, і дзяўчына, што слухае музыку, і той жа стары з хлопчыкам... І ўсё ж — нешта было ў скульптурнай групе, што Макрыцкі не мог прыняць, хоць што — не ведаў.

На гэты раз, калі Макрыцкі праходзіць перад скульптурамі,— як і большасць людзей, ля самых постацей — ён нечакана разумее, чаму не мог поўнасцю прыняць гэты ансамбль.

Калі ён глядзеў на скульптуры, то хацеў таго ці не хацеў, а спачатку позіркам натыкаўся на тыя ж тоўстыя падэшвы чаравікаў пісьменніка, на босыя ногі хлопчыка — на ненатуральна вялікія пальцы, на лапці скрыпача... Як быццам падэшвы чаравікаў, босыя ногі, лапці — гэта і было галоўным для скульптара, і таму

ён так усё скампанаваў, таму твары былі так далёка ад гледача, як штосьці другараднае...

Відаць, там, у майстэрні скульптара, ці ў тым жа макеце, калі постаці былі зменшаны, усё гэта выглядала добра і прыгожа нават, як на каляровых паштоўках, а вось тут, павялічанае ў некалькі разоў... І калі ўжо так рабілася, то гэту скульптурную групу трэ было б неяк аддаліць ад гледачоў, а не рабіць усё такім занадта прыземленым і блізкім. Нездарма ж робяцца пастаменты...

А потым, пасля свайго адкрыцця, Макрыцкі паволі ідзе далей, міма гэткіх жа стандартных, як і на цэнтральнай плошчы, зялёных метрабудаўскіх шчытоў, што агароджвалі з двух бакоў праезджую частку вуліцы і за якімі ўсё гэтак жа, як і на цэнтральнай плошчы, бухаюць і бухаюць па тоўстых таўровых рэйках тоўстыя круглыя сталёвыя «бабы», ён ідзе паўз адчыненыя дзверы букіністычнага магазіна, дзе стаіць нейкі памяты, даўнавата няголены мужчына і час ад часу торкае прахожым тоўстую кнігу: «Істарычэская, вазьму нядорага...» — і яшчэ далей, ля студэнцкага інтэрната, дзверы якога нечакана адчыняюцца, і з іх проста такі вылятаюць дзве парачкі, ледзь не збіваючы Макрыцкага з ног: два негры і дзве дзяўчыны з амаль аднолькавымі тварамі і, самае дзіўнае, у аднолькавым адзенні, як з аднаго канвеера выпушчаныя тыя дзяўчыны: яркія вогненныя, выпуклыя ад фарбы вусны, ненатуральна доўгія чорныя веі, што робяць вочы невыразна застылымі і абыякавымі, блакітныя, з маланкамі, куртачкі, шэрыя ў абцяжачку джынсы і туфлі на высокіх абцасах. «Джой, вы ж толькі са Светкаю не згубіцеся!» — адна з іх, вышэйшая, крутануўшыся, упэўнена, відаць, што не першы раз, падхоплівае пад руку барадатага негра і, хутка перабіраючы доўгімі і тонкімі цыбатымі нагамі, знікае наперадзе сярод людзей. Следам гэтак жа хутка знікае і другая парачка. Відаць, пабеглі ў кінатэтр, дзе вось-вось пачнецца сеанс, і таму перад уваходам вірыць вялікі натоўп з вечным запытаннем, якое паяўляецца амаль што заўсёды, калі пачынае дэманстравацца замежны баявік: няма лішняга білеціка?..

А вось, нарэшце, і ён, парк.

Зараз, калі снег сагнала, а дрэвы яшчэ не распусціліся, тут ціха і аголена, нават постаці маладых і пажылых людзей, што мільгалі туды-сюды сярод сосен, яшчэ

болей падкрэслівалі цішыню і аголенасць, як, бывае, яшчэ болей падкрэсліваецца фарбаю і вогненнай памадаю непрыгожасць і адзіноцтва жанчыны. Людзей на дарожках мала, тут толькі тыя, хто займаецца ў групах здароўя — зараз тут зусім не так, як бывае летнім надвячоркам, калі ўсюды поўна людзей,— і ўсмешлівай моладзі ля грымучай танцавальнай пляцоўкі, і тых жа стомленых адзінотаю пажылых жанчын і мужчын, якія занадта дзелавіта танцуюць пад баян старыя, ужо нямодныя танцы.

Калі побач па асфальтавай дарожцы прабягаюць жанчыны, найчасцей па трое ці чацвёра, абрыўкамі даносіцца пра ўсё тое ж, вечнае: пра пярсцёнкі, плацці, знаёмых, работу — думаецца, што жанчыны спакойна ўключылі беганіну па парку ў сваё штодзённае кола звычак і абавязкаў, праўдзівей, дапоўнілі тыя звычкі яшчэ адной і цяпер пры нагодзе маглі гаварыць не толькі пра пярсцёнкі, плацці, знаёмых і работу, а і пра вось гэта — пра аздараўленчы бег на ўлонні прыроды, які так памагае, толькі цяжка пачаць... Мужчыны найчасцей бегаюць па адным,— у трыкатажных касцюмах, дзелавіта сагнуўшы рукі ў локцях, чырванатварыя і потныя ад напружання, пільна гледзячы перад сабою, як бы загадзя падлічваючы, колькі лішняй вагі скінецца і на колькі год памаладзее стомленае цела. На ўскраіне парку за замежнымі атракцыёнамі — іх высотныя сталёвыя канструкцыі зараз пустуюць — пачынаюцца спартыўныя пляцоўкі, ля якіх — нізкія лаўкі. Прысеўшы на адну з іх, Макрыцкі доўга глядзіць на нешырокую лугавіну, што перад вачыма.

Нечым гэта лугавіна нагадвала тую вясковую ваколіцу, якую Макрыцкі бачыў два гады назад — у час паездкі восенню ў калгас. Магчыма, гэта лугавіна нагадвала вясковую сваёй пустатою і зусім не вясенняй стыласцю, якой так і цягне ад прывяленай шэрай травы, ад маўклівых сосен з падсохлымі вяршынямі, ад чырвонага нияркага сонца, што вісіць над тымі ж соснамі... І яшчэ — бязлюддзем. Не хапала паху дыму, далёкіх ледзь чутных дзіцячых крыкаў. А то — гусінага гэгату ці сабачага брэху.

Цяпер чамусьці не верыцца, што побач, праз якую сотню метраў, шум і гул імклівых машын, людская мітусня, якая, як толькі апынешся ў ёй, адразу ж падхоплівае нябачнымі токамі і тут жа закружвае, бы тую

трэску ў віры, з якога ўжо не знойдзеш сіл вырвацца.

Так Макрыцкі сядзіць даволі доўга, успамінаючы тую вясковую ваколіцу, тых зморшчаных адзінокіх старых, у якіх кватараваў. Ён тады ля месяца жыў у вёсцы і штодня мог назіраць за іх жыццём-быццём, размераным на гады і ў нечым аднастайным. Але старых, як помніцца, не палохала гэтая аднастайнасць і размеранасць, бо, відаць, акрамя ўсяго гэтага мелася ў жыцці старых і яшчэ штосьці такое, чаго Макрыцкі не адчуваў ды і, відаць, ужо не мог адчуць, бо быў зачэплены ташматлікім сучасным, што абмінула некалі старых. І таму вяскоўцы гэтак спакойна адносіліся да жыцця, як быццам таго будучага жыцця ў іх — лічыць не пералічыць. І таму ўвесь час будаваліся, уладжваліся, ім было ля сямідзесяці, дзеці іх даўно жылі ў гарадах, а яны ўсё яшчэ будаваліся — усю восень нейкую паветку ладзілі... Адкуль, адкуль была ў іх гэта ўпэўненасць, калі не ў вечным жыцці, то хоць бы ў нечым звязаным з вечнасцю? Як помніцца, тады Макрыцкага надта ўразіла вясковая цішыня і запаволенасць, чужому, старонняму чалавеку, яму ўсё ў тым вясковым жыцці здавалася ясным і простым, акрамя адзінага, чаго ніяк не мог зразумець,— няўжо гэтыя малапісьменныя, як кажуць, цёмныя вясковыя старыя так ніколі і не адчулі гэтай страшнай бездані, якая ўсё навечна адразае і прымушае адукаваных людзей хапатліва мітусіцца на зямлі, хапаючыся то за адно, то за другое? А калі так, то мо ў гэтым і мудрасць жыцця старых?..

Макрыцкі намагаецца ўспомніць, што ж напамінае гэта лугавіна з шэрай травою, гэта па-вясноваму чыстае і звонкае неба, гэтае сонца, што ўжо закацілася за сосны. Бо не толькі вясковую ваколіцу напамінала лугавіна, а і яшчэ штосьці. Потым, калі Макрыцкі адчувае, што стала зусім холадна і цела бяруць дрыжыкі, ён нехаця падымаецца, разумеючы, што так і не змог успомніць галоўнага.

Ён зноў ідзе да сосен і тут нечакана натыкаецца на шахматыстаў, што сядзяць за доўгімі сталамі. Шахматыстаў пар дзесяць, не меней тут і балельшчыкаў. Мяркуючы па рэпліках, тут шмат знаёмых. Відаць, людзі прыходзілі сюды пасля работы.

Макрыцкі застывае таксама ля шахматыстаў, слухаючы найболей вясёлыя галасы як шахматыстаў, так і балельшчыкаў.

— Так-так, ну-тка, конікам...

— А Валодзя конікам не пойдзе. Ён жа — грамацей у нас, другую партыю запар прайграе...

— Не, лепш фярзём хадзі, фярзём, кажу... От, разява, цяпер мат будзе...

— А я кажу — без падказак. Без падказак, паўтараю, сам вот пасля мяне сядзеш — тады і сам сабе падказвай.

— Не бойся, згуляю, ва ўсякім раз, лепей за цябе згуляю. Канём, кажу хадзі...

Збоку, не ўнікаючы ў гульню, было нават і дзіўна назіраць за сярдзітымі вачыма, за ўзмахамі рук, дзіўна было чуць то смешныя, а то рэзкія колкія словы. З-за чаго ўсё гэта было? Канечне, не з-за драўляных фігурак. З-за чаго ўсё-такі?..

Ён ужо збіраўся адыходзіць і тут зусім нечакана пачуў:

— А-а, паскуда, кладзі на стол чырвонец. Кладзі, кажу, не то зараз...

І шахматысты і балельшчыкі тут жа заціхаюць, адводзяць позіркі ад шахмат і глядзяць на пару, што дагэтуль ціха і непрыкметна сядзела за сталом, што стаіць асобна.

— Карцёжнікі,— гаворыць нехта з шахматыстаў.

— Я каму сказаў — кладзі на стол чырвонец,— пры гэтых словах барадаты, пры гальштуку мужчына, перагнуўшыся цераз стол, доўгімі рукамі хапае загрудкі другога, ніжэйшага ростам.

— Якія грошы? — гэтак жа гучна крычыць ніжэйшы ростам.— Ты выйграй спачатку, а тады ўжо расчот трэбуй.

— Ах, скаціна, я табе зараз пакажу расчот, я табе яго на тваёй мордзе выпішу,— барадаты рэзка, з глухім стукам, б'е па круглым чырвоным твары ніжэйшага ростам. Раз, другі, як па мяшку з пяском... І ўсё гэтак жа гучна, як і дагэтуль, скрозь зубы са злосцю гаворыць:— Я табе кажу: зараз жа кладзі на стол чырвонец...

Памалу некалькі мужчын падыходзяць да карцёжнікаў:

— Ну, хлопцы, перастаньце, пакуль міліцыя не паявілася...

Макрыцкі ідзе да выхада — па асфальтаванай дарожцы міма ціхіх, непарушных у гэту бязветраную пару соснаў, мінаючы ўсё тыя ж высотныя сталёвыя кан-

струкцыі з каляровымі рэкламнымі шчытамі, міма вялізнай танцавальнай пляцоўкі, агароджанай высокай, пры ўсім жаданні не пераскочыш, металічнай сеткаю, міма таго будынка, у якім, як чуў, пару разоў у тыдзень збіраюцца ўсе тыя, каму за трыццаць і хто хоча пазнаёміцца,— казалі яшчэ, што туды нялёгка трапіць, чарга, па папярэднім запісе...

Макрыцкаму ўспамінаецца сваё мінулае,— цяпер без спробы знайсці вінаватых, проста так, як заглядвае ў прорву, што без канца і краю. А потым, на самым выхадзе з парку, ля белых варот ён глыбока ўздыхае і нечакана паўтарае словы пажылога шахматыста: «Як якія сямейнікі...»

Зноў успамінаюцца карцёжнікі, але цяпер ужо не так, як нядаўна пра іх думалася, цяпер больш думаецца пра гэтыя прыцягальныя салодкія гульні, на пачатку якіх невядома, будзеш ты ў выйгрышы ці ў пройгрышы. Няўжо і сапраўды, жыццё пабудавана на гульні, праўдзівей, на шматлікіх гульнях па пэўных правілах. Калі няма бога, дык, можа, гульні яго заменяць? Можа, галоўнае прытрымлівацца гэтых правілаў? Тады і будзеш шчаслівы, тады і задумвацца ні аб чым не трэба, трэба толькі вывучыць тыя правілы.

Няўжо, няўжо так?.. Няўжо ўсё тое, з чаго чалавек пачынае жыццё, з таго шчаслівага бесклапотнага маленства, няўжо ўсё гэта працягваецца і далей, толькі ўжо ўсё называецца па-другому?

І нікому непатрэбная мэбля, якой да адказу забіваецца кватэра, і тыя гарнітуры, з-за якіх чалавек, бывае, гатовы бацьку з маці са свету зжыць, машыны, касцюмы, непатрэбнае футра, ашчадныя кніжкі, гонар — гэтая старая лжывая думка пра сваю веліч,— няўжо ўсё гэта, з-за чаго псуецца і ўкарачваецца самім сабою кароткі век, і ёсць галоўнае ў гульнях дарослых? І хто суддзя? І хто, навошта прыдумаў гэтыя хітрыя гульні, якімі дарослыя цешаць сваё жыццё? І няўжо без іх нельга абысціся?..

Баліць галава. Так баліць галава...

На нейкія імгненні як ніколі востра прыходзіць адчуванне хісткасці жыцця ўвогуле, гэтае адчуванне настолькі балючае і вострае, што становіцца жахліва,— усё тое, што было некалі, здаецца адрэзаным навечна, а будучага не хацелася, ад яго ўжо не чакалася нічога светлага. Дзе выйсце?

Перад пад'ездам свайго дома Макрыцкі спыняецца. Уяўляюцца жаўтаватыя кветкі на выцвілых шпалерах, цёмна-карычневы ліналеум на падлозе, ложак з байкавай коўдраю, кухня, дзе халадзільнік і стол з нямытым посудам,— усё гэта, маўкліва і непарушна, паўстае перад вачыма так пагрозліва ярка, што Макрыцкі тут жа паварочваецца і ідзе да будкі тэлефона-аўтамата.

— Стары,— чуецца ў трубцы блізкі голас Алега,— здорава, што ты пазваніў. Сягоння інфармацыйны прагляд. Новыя фільмы прывезлі. Так што рві проста туды. Сустракаемся ля ўвахода, як і мінулы раз. Не забыўся? Дзесьці ля сямі гадзін і я там буду. Лады?

**19 гадзін**

Гучыць званок ля дзвярэй. Эма выходзіць да дзвярэй, адчыняе.

У парозе стаіць Сярожа. Ён потны, чырвоны, быццам за ім зараз нехта гнаўся і вот-вот павінен быў дагнаць. Ён расхрыстаны, далей ужо і няма куды,— у куртачцы, якую звычайна апранае ў школу, адарваны верхні гузік, зверху кашуля расшпілена, цяпер на тонькай шыі відаць ключ ад кватэры, што вісіць на шнурку. На штанах гразь, быццам паўдня на каленях поўзаў. І да ўсяго гэтага — сіняк пад вокам і прыпухлая верхняя губа, якая надае яму нейкі зусім чужы выгляд.

Чамусьці Эму ўражвае не сіняк пад вокам і не прыпухлая губа, а вось гэты ключ ад кватэры, што вісіць, матляецца на тонкай шыі і які, каб не згубіць, Сярожа носіць з раніцы да вечара, бывае, што з ім і спаць кладзецца...

— Божухна, што ж гэта такое? — нарэшце ўсплёскае рукамі Эма. Яна рашуча ўцягвае Сярожу ў кватэру і зачыняе дзверы. Затым яна гэтак жа рашуча, не азіраючыся нават, цягне яго за сабою на кухню. Паставіўшы яго пасярэдзіне кухні і зноў, торкаючы на яго пальцам, як на нешта чужое і застылае, гучна пытае: — Што гэта такое? Я цябе зараз знявечу за гэта... Ты хоць думаеш, што ты робіш? У цябе галава ёсць на плячах ці няма, качан капусты расце?..

Эме так хочацца парадку. Яна, адпраўляючы Сярожу ў школу, заўсёды стараецца яго вымыць, стараецца, каб на ім усё было чысценькае і адпрасаванае, яна

стараецца, каб ніхто, ніводзін чалавек не мог папракнуць яе ў тым, у тым... І няўжо Сярожу даражэй за яе клопаты гэты будзь ён тройчы праклятый двор, гэтыя басякі, вечна нічым не занятыя, якія ўстройваюць бойкі і сінякі? Дойдзе да таго, што некалі дамоў без вока прынясуць. Няўжо яна, маці, так і не зможа, не здолее перавучыць яго, адвучыць ад дурных нявыхаваных звычак і замашак, якія няпрошана, нявучана прыліпаюць да яго? Як што добрае, дык не надта ліпне... Яна сочыць за чысцінёй і парадкам, а ён, а ён... Як знарок, як дражніцца... І тут Эма не вытрымлівае, шлёпае далонню па ягонай віхрастай потнай галаве:

— Дакуль гэта будзе цягнуцца, дакуль, я пытаю? Ты на піяніна сягоння іграў? Іграў, я пытаю?

Сярожа маўчыць. Калі б ён трохі адгаворваўся, апраўдваўся, але ён маўчыць, і ў ягоным маўчанні Эме адбачыцца нязгода з яе жаданнямі і памкненнямі, яна адчувае, што сваім маўчаннем Сярожа як бы хоча ёй сказаць: «А да лямпачкі мне тваё піяніна... Я хадзіў на двор да басякоў, так і буду хадзіць, як біўся, так і буду біцца...» І таму, ад крыўды і разгубленасці, Эма б'е далонню па шчацэ Сярожы яшчэ раз, яшчэ... І тое, што Сярожа і зараз маўчыць, не думае прызнаваць сваю віну, надае яшчэ злосці, і яна ўжо не можа стрымаць сябе...

А потым Эма нечакана ■ жахам спахопліваецца: божухна, што ж я раблю? Ён жа — дзіця яшчэ, нічога не разумее... Яна глядзіць у вочы Сярожу і мо ўпершыню бачыць там такую злосць і нянавісць, якую — гэта таксама ашаламляе — ніколі і ніяк не зможа перадолець і замаліць. Быццам яна ва ўсім ягоным беспрытульным бадзянні вінавата, а не ён... І тут Эма разумее, што Сярожа — не дзіця, а *мужчына.*

Божухна, што ж з ім рабіць?

Самі сабою рукі нечакана наліваюцца такім цяжарам, што яна тут жа апускае іх, і яны адзеравянела павісаюць, як штосьці зусім непатрэбнае.

— Ідзі, ідзі зараз жа ў ванну і скідай з сябе ўсё гэта,— вось што яна можа яму сказаць. А што яшчэ?

Сярожа паволі сцягвае з шыі вяроўчыну з ключом, кладзе на стол і гэтак жа паволі, нага за нагу, ідзе ў ванную, і ў гэтай запаволенасці і маўклівасці Эма бачыць сваё канчатковае паражэнне. Яна ніяк не здолела пераламаць яго на свой лад, нешта ўжо ёсць у Сярожы

такое, да чаго ён не падпускае яе, маці, самага, здавалася, блізкага чалавека, Тыя дваровыя басякі, аказваецца, даражэй яму за гэты дамашні парадак, чысціню, за яе нават...

Эма разгублена стаіць на кухні. Мо ўпершыню яна не ведае, што рабіць. Дагэтуль, што б сабе ў яе жыцці ні было, але яна заўсёды ведала, што рабіць, дзе выйсце. А вось цяпер яна сутыкнулася з такім...

Праз якія пару хвілін яна падыходзіць да ваннай, бярэцца рукою за ручку ў дзвярах. Але дзверы ваннай зашчэплены.

— Сярожа,— цяпер ужо другім, нашмат лагаднейшым голасам гаворыць Эма.

Маўчанне.

— Сярожа, адчыні. Чуеш, адчыні,— спачатку паявілася жаданне забухаць у дзверы кулаком, сарваць той кручок і, уварваўшыся ў ванную... Але праз сілу Эма стрымлівае сябе, разумее, што сілаю і злосцю яшчэ болей адштурхнеш Сярожу. І таму толькі і застаецца, што пакусваць ад бяссілля вусны і ўмольна гаварыць:

— Сярожанька, сынок, ты чуеш мяне?

Дзверы адчыняюцца. Сярожа, ужо распрануты, стаіць ля ванны. Ён стаіць у *плаўках*... Божухна, ён ужо — у плаўках...

— Ну, што ты хацела? — нарэшце, нарэшце першыя словы чуюцца ад яго. За ўвесь вечар першыя словы. Якім бы тонам яны ні былі сказаны, але яны ўсё ж — словы, словы, а не гэтае зацятае маўчанне.

— Давай я табе спіну памыю.

— Я сам.

— Ну, добра, добра, што ты сам будзеш мыцца, толькі я табе спіну памыю. Там жа ты не дастанеш.

— Толькі я ў плаўках буду.

— Добра, добра, будзь сабе і ў плаўках. Давай, залазь у ванну. Я вот зараз вады цёпленькай напушчу. Вот так... А цяпер — падстаўляй спінку. Вот малайчына... Дзе наша мачалка, дзе наша мыла?

Яна стараецца гаварыць і гаварыць. Так нашмат лягчэй. Тады, як гаворыш, тады і думаецца меней, не так балюча на душы...

Які ён худы! Другія дзеці нейкія паўнашчокія растуць, пухлыя, як аладкі на дражджах, а ён — такі худы і бледны. І да ўсяго гэтыя частыя бойкі. Як толькі на двор — так і бойка. З ягоным здароўем толькі і біц-

ца... Навошта яны яму, што ён хоча некаму даказаць? Чаго яму не хапае? Піяніна ёсць, хлеба і адзення — удосталь, ва ўсякім разе, сама пагаладае і горш апранецца, а ён будзе не горшы, як у іншых. І ўсё ж, аказваецца...

Намыльваючы маленькія беленькія худзенькія плечыкі, тоненькія, што палачкі, рукі, Эма нечакана для сябе пачынае плакаць. Ад свайго бяссілля. І тут, нават і не глянуўшы на яе, як адчуваючы што, Сярожа таксама плача — неяк па-даросламу ціха. Спачатку дык Эма і не заўважыла, што Сярожа плача, здагадалася па рэдкаму ўздрыгванню плечыкаў, па частаму шморганню носам. Відаць, толькі зараз у Сярожы абрываецца тая нацятая струна ў душы...

Ці то ад цёплай вады. Ці то ад яе слёз...

— Падумаеш, ён бацькам гразіцца.— Сярожа ўсё шморгае носам. Цяпер ён ужо не саромеецца сваіх слёз.— Таксама мне, знайшоў кім гразіцца. Мама, ты мне сабаку купі, добра? Я ж цябе прасіў дагэтуль, купі, мама. Толькі не такога, як у цёці Мальвіны, а другога. Аўчарачку. Купі, мама. Маленькага, а тады мы яго выгадуем. Я яго сам буду гадаваць. Вот паглядзіш...

— Сынок, як жа мы яго гадаваць будзем? Я — цалюткі дзень на рабоце, ты — у школу бегаеш, то ў адну, то ў другую. А сабаку трэба ж глядзець ды глядзець, вадзіць гуляць трэба кожны дзень. Разы два ці тры ў дзень гэта абавязкова. А ў нас жа — пяты паверх. Ведаеш, калі што якое — суседзі лямант падымуць на ўвесь дом, міліцыю вызавуць.— Сярожа ўжо не першы раз просіць купіць сабаку.

— Мама, я сам яго буду глядзець. Вот пабачыш. І слухаць цябе буду. Толькі купі мне яго. Аўчарачку. Не такога толькі, як у цёці Мальвіны.

— Яны ж, мусіць, і дарагія, гэтыя сабакі? — Эма і сапраўды пачынае вагацца: купляць ці не купляць? Паабяцаць нядоўга, а вот купіць...— Ці ж ты перш хочаш цяпер сабаку мець? А ў нас і без сабакі каторы месяц доўг вісіць, на рабоце хоць ты і не паказвайся.

— Дык ты мне, мама, нічога не купляй. Нічога новага. Я і ў старым пахаджу, а ты толькі купі мне маленькую аўчарачку.

— Ну добра, добра, не плач толькі, я ў Мальвіны спытаю, колькі гэтыя аўчаркі каштуюць.

І ў гэтым плачы дзіцяці, як і ў ягонай просьбе, Эме адкрываецца штосьці такое, куды дагэтуль старалася і не заглядваць.

Тады, як другі раз падавала на развод, яна пра *гэта* нават і не думала, думалася тады, што з усім справіцца сама. Няўжо, думалася некалі, не справіцца: аліменты ёсць і будуць, ды і неблагія, сама яна зарабляе не меней любога мужчыны — так што, скажыце, навошта ёй танцаваць пад чужую дудку, навошта?.. Зараз жа, як даказвае Разорчык, раўнапраўе, кожны можа жыць так, як яму захочацца, ніхто нікому не ўказ, і таму нечага некаму нізка кланяцца, абмываючы, гатуючы абеды і сняданкі, праводзячы штодзённа па дзве-тры гадзіны на кухні ў той час, як другія глядзяць тэлевізары, ходзяць па тэатрах, ездзяць па экскурсіях, удосталь радуючыся поўнай свабодзе. Свабодзе... Гэта ж — яе жыццё, не чорта лысага, не чужога дзядзькі, а яе, адзінае і непаўторнае, і, калі на тое пайшло, чаму гэта яна павінна ахвяраваць яго на чыюсьці карысць, на таго чалавека, які, вярнуўшыся з работы, толькі і можа, што, усеўшыся ў крэсла, уталопіць раўнадушныя вочы ў газету. У гэту выратавальную газету... А ты круціся вакол яго вавёркаю. За што, навошта і чаму?..

Так думалася Эме тады, як падавала другі раз на развод.

— Сярожанька, сынок мой,— толькі і можа сказаць цяпер Эма, прыціскаючыся вуснамі да мокрай галавы Сярожы. Яна адчувае страшэнную віну, якую, гэта таксама адчувае, ніяк і нічым не замоліць перад тым жа Сярожам. У чым яна вінавата, у чым?

Узяўшы вафельны ручнік, яна выцірае мокры Сярожаў твар.

— Давай я сам, не трэба мяне выціраць.— Сярожа адварочвае галаву і бярэ ручнік.

Пазней яны садзяцца вячэраць.

Цяпер яны ўжо мірныя, як між імі нічога і не было. Матляючы нагамі, Сярожа гаворыць пра школу. Як і дагэтуль. Як і ў іншыя вечары. Але пра тое, што ў яго было сягоння там, на двары,— ні слова. І таму зараз Эма разумее, што сягонняшні вечар нешта змяніў у іх адносінах. І таму зараз, што б сабе Сярожа ні гаварыў, усё гэта — толькі знешняе, верхняе з усяго таго нявыказанага, што маецца ў Сярожавай душы.

І што ёй, магчыма, ніколі не выкажа.

Зноў чуецца ўсё той жа меладычны званок ля дзвярэй.

— Я адчыню, мам.— Сярожа кідаецца да дзвярэй. Ён заўсёды стралою кідаецца да дзвярэй, калі хто звоніць. Як быццам чакае, што зойдзе нехта такі, такі... Але *той* не заходзіць ужо каторы год...

— Ну, здраствуй, Сярожанька,— чуецца напеўны голас Мальвіны.— Ой, як ты выцягнуўся! Ты ўжо скора вышэй мяне будзеш! Вот табе ад мяне. А ты, Пальма, супакойся. Супакойся, кажу.

Эма выходзіць з кухні і бачыць Мальвіну, ля ног якой бегае маленькая кудлаценькая балоначка. Беленькая і вымытая, нечым падобная на мышаня. Ззаду стаіць Сярожа, трымаючы ў руцэ шакаладку. Ён глядзіць на Пальму і нечага ўсміхаецца.

— Прыве-ет, падруга.— Мальвіна ўсміхаецца.

— Прывет.— Эма таксама не стрымлівае ўсмешкі. Затым, глянуўшы на Сярожу, Эма гаворыць: — Сярожа, калі ты пад'еў, ідзі ў спальню і садзіся за ўрокі. Хуценька.

— Добра, мам, іду, іду,— сягоння Сярожу двойчы загадваць не трэба.— Мам, ты ж толькі не забудзь, пра што мы з табою дагаварыліся.

— Не бойся, не забуду. Гэта ты забываеш, што я табе кажу рабіць.

Сярожа знікае ў спальні. Эма і Мальвіна ідуць на кухню.

— Што гэта ў вас за таямніцы Мадрыдскага двара? — Мальвіна здымае з сябе модную спартыўнага пакрою балоневую куртачку, сцягвае з галавы вязаную каляровую шапачку і аддае ўсё гэта ў рукі Эмы.

— Ды вот, ён замучыў мяне проста...— Эма нясе ў прыхожую адзенне Мальвіны і, вярнуўшыся на кухню, заканчвае: — Прыстаў да мяне: купі сабаку — і ўсё... Хоць з-пад зямлі дастань. Ды і не абы-якога, аўчарку. Такога, як у цябе, не хоча. Дык вот, я з табою хачу параіцца — ці варта звязвацца. У цябе ж ужо каторы год.

— Ну, дарагая мая,— Мальвіна вымае са скуранай сумачкі цыгарэты ў прыгожай бліскучай цэлафанавай абгортцы з яркімі кідкімі словамі «космас». Прыкурыўшы, нетаропка, з яўнай асалодаю Мальвіна зацягваецца, а потым, адтутурыўшы фарбаваныя вусны, павольна выпускаючы дым, садзіцца ля стала на белую табу-

рэтку і рашуча, па-мужчынску закідвае нага за нагу — у Мальвіны сягоння новыя фірменныя штроксы, якія так падыходзяць да куртачкі і да гэтага каляровага, з блакітнымі кветкамі, батнічка, што шчыльна аблягае яе паўнаватае, як мужчынскае ўсё роўна, цела: — Як горача даказвае наша агульная знаёмая Ала Пугачова, не ўсё ў наш час і каралі могуць. Дык то ж — каралі... Ты ж са мною не раўняйся. У мяне бацькі жывыя і здаровыя. Я Пальму амаль што і не ваджу гуляць. А табе, скажы, пажалуйста, калі ёсць час з сабакам вадзіцца! І гэта ж — работа на кожны дзень. Ты думала пра гэта?

Эма маўчыць. Казаць ёй няма чаго. Канечне, ёй з Мальвінаю не зраўняцца. У Мальвіны маці-пенсіянерка ўсё рыхтуе і мые, Мальвіне ні аб якой хатняй рабоце галава не баліць, у Мальвіны ўсё яшчэ працягваецца студэнцкае жыццё... З беганінаю на канцэрты замежных ансамбляў ці артыстаў, з беганінаю на выстаўкі, з абмеркаваннем новых мод і новых фасонаў — зараз гэтак цяжка паспяваць за ўсім тым, што паяўляецца за мяжою, ці даўно былі джынсы, цяпер вось штроксы, а ўжо гавораць... з турпаходамі ў час водпуску. Хоць Мальвіне ўжо — за трыццатку.

Эма глядзіць на левую руку Мальвіны, у якой яна трымае цыгарэту і на якой ярка жаўцее залаты пярсцёнак. Ёй успамінаецца, як Сярожа плакаў у ванне, як уздрыгвалі ягоныя плечыкі. Адганяючы ад сябе гэты балючы ўспамін, Эма рашуча пытае:

— А дзе ж усё-ткі шчаня купіць? Не дварнягу, канечне. Каб у кватэры можна было трымаць.

— Дарагая мая, ты — як сягоння на свет нарадзілася... Гэта ж цяпер — цэлая праблема. Цяпер жа кожная гарадская паважаная сям'я марыць завесці сабаку. І, канечне ж, не дварнягу.— Мальвіна бярэ са стала сподак і збівае ў яго пальцам попел з цыгарэты. Пазногці ў Мальвіны чырвоныя ад бліскучага лаку і прадаўгаватыя, аж дзіва бярэ, як можна адгадаваць такія прыгожыя пазногці.— Каб ты адразу магла ўявіць усю складанасць гэтай праблемы, я табе прывяду факты. Кажуць, у Маскве ёсць клуб сабакаводаў. З філіяламі ў розных вялікіх гарадах — у Кіеве, напрыклад, у той жа далёкай Алма-Аце... Уступіць у той клуб можа не кожны жадаючы. Членства даецца толькі таму, у каго надта пародзісты сабака. І калі гаспадары таго сабаку даглядаюць па ўсіх правілах. Каб чыстая-чыстая лінія

была, пра пашпарт я ўжо і не кажу, каб асобны пакой для сабакі быў. Вот я з Пальмаю туды, мусіць, не трапіла б — радаслоўнай няма. Дык вот слухай далей. У тым клубе, як і ва ўсякім клубе, ёсць праўленне, якое кіруе ўсёй работаю, яно ж і кантралюе, як члены клуба сваіх сабак кормяць і даглядаюць. Дапусцім, сабаку трэба карміць толькі свежай свіной выразкай. Паўтараю, толькі свежай. А гаспадары гэтага не робяць — ліверку, дапусцім, падсоўваюць. І тут пра такое безабразіе становіцца вядома членам праўлення. Дапусцім, як гэта бывае, ананімку нехта там накатаў. Тут жа, маментам, складаецца аўтарытэтная камісія, афармляюцца камандзіроўкі, бяруцца білеты на самалёт і ф'юць — грозная камісія з членаў праўлення да пакрыўджанага сабакі кіруе. У Кіеў ці ў тую ж Алма-Ату. Правяраць, ці ёсць у сабакі асабісты пакой, ці кормяць яго свежай выразкай. Калі не — штраф гаспадарам, а то — і членства згубіць чалавек, гэта — не жартачкі. Вот так-то, дарагая мая. З размахам усё робіцца. Як спяваў наш агульны знаёмы Валодзя Высоцкі, «тут на водку денег не хватает...». Так што нам з табою да таго членства яшчэ — хо-хо — тупаць ды тупаць, пакуль падэшвы не сатром...— Мальвіна зноў і зноў соладка зацягваецца і, закінуўшы галаву да столі, выпускае дым...

— Дык усё ж такі, колькі будзе каштаваць?

— От загарэлася табе... Ну, не меней сотні. На меншае ты і не разлічвай, калі хочаш мець што людскае. Гэта — калі па знаёмству. З рук, як сама разумееш, выбракоўка... Я магу папытаць, калі табе так трэба.

— Ну спытай, Мальвіначка,— праз адчыненыя дзверы кухні Эма глядзіць на кнігі, што стаяць на кніжнай паліцы. Мала, ой мала іх засталося, але што зробіш, калі такое складанае жыццё.— Калі што, я памяняюся на кнігі, скажаш. З серыі сусветнай класікі.

— А Булгакаў у цябе ёсць? Ці хаця б, на крайні выпадак — Маркес?

— Не, няма.

— Ладна, не гаруй надта, я спытаю. А ўвогуле, хопіць пра сабак. Гэта — бясконцая тэма. Іх і так у нашым горадзе, як я нядаўна чула, толькі зарэгістраваных каля ста тысяч. Гэта — афіцыйныя даныя. А неафіцыйныя якія? І яшчэ, я цябе загадзя папярэджваю,

глядзі, каб Сярожа лішая не падхапіў. Мыць трэба будзе сабаку. Кажуць, зараз дужа шмат дзяцей з лішаямі.

— Ды вымыю ўжо, вымыю...— Эма падымаецца з табурэткі і пачынае наводзіць на стале парадак: прымае брудныя талеркі, складае іх горкаю ў ракавіне, ставіць чыстыя. З халадзільніка вымае тоўстую каўбасу і наразае яе кавалачкамі ў талеркі. Яшчэ яна вымае бутэрброднае масла ў сподку, бутэльку марачнага віна. Хлеб таксама ёсць — што болей трэба?

— Зараз мы з табою перакусім трохі, кавы пасля вып'ем.— Цяпер, пасля размовы з Мальвінаю, Эме лягчэй трохі. Як цяжар які з плячэй скінула. І цяпер ужо забываецца ўсё тое, што турбавала зусім нядаўна, думаецца, што вось купіць сабаку — і ўсё-ўсё будзе само сабою вырашана.

І таму цяпер можна спакойна гаварыць і пра больш цікавае. Не толькі пра сабак.

— Слухай, дарагая мая, калі б ты ведала, што я дастала,— загадкава гаворыць Мальвіна і крывіць вусны ва ўсмешцы.

— Што такое?

— Дзева, абалдзееш зараз.— Мальвіна кладзе на сподак недакураную цыгарэту, а затым бярэ ў рукі чорную сумачку і пачынае ў ёй корпацца.

Эма глядзіць на тонкія дагледжаныя пальцы Мальвіны: што ж яна сягоння прынесла? Мальвіна кожны раз прыносіць штосьці новае і незвычайнае. Ці даўно прыносіла стары-стары падручнік па хірамантыі — як ні дзіўна, але гэтыя спляценні ліній на далонях і сапраўды пра многае гаварылі, як пра мінулае, так і пра будучае, пра загадкава-салодкае будучае... Ці даўно яна з Мальвінаю разбіралася ў гараскопе, а вось сягоння... Што ж там сягоння яна прынесла?

Перад пачаткам кіно быў дакументальны фільм. Пра палавое выхаванне і пра палавыя адносіны. Ад гэтага дакументальнага фільма Віталю запомніўся доктар у белым халаце, які, спакойна гледзячы ў залу разумнымі вачыма, нетаропка, глуха і мо таму неяк занадта доказна гаварыў:

— Мы сур'ёзна недаацэньваем ролю палавых адносін між мужчынам і жанчынаю. Каб не быць галаслоўным, я прывяду вам факты. Ленінградскія сацыёлагі

правялі апытванне тысячы пар сямей, якія разводзіліся. З гэтай тысячы шэсцьдзесят працэнтаў, запомніце, шэсцьдзесят не пар, а працэнтаў, сказалі, што прычынаю разводу з'яўляецца незадаволенасць партнёрам. Думаю, што гэтыя лічбы гавораць самі за сябе...

А вось зараз, пасля таго дакументальнага фільма, ідзе новы, цяпер ужо мастацкі.

— Бар-рабан мой, бар-ра-аба-ан,— гучна спявае спявачка на экране. Яна ж і актрыса. Пад час песні актрыса-спявачка вытанцоўвае на сцэне, аформленай у выглядзе вялізнага барабана, па акружнасці якога ў такт рытмічнай музыцы ўспыхваюць лямпачкі. То белыя, то чырвоныя, то жоўтыя. Амаль гэтак жа, як у дыскатэцы.

— Ты-ы судьбааа, барабань на всю планету-у...— на ёй, той актрысе-спявачцы, чырвоненькія ў абцяжачку штонікі, туфлі на высокім і тонкім абцасе, ярка-жоўтая, з шырокімі рукавамі, кофта. На яе хударлявым расфарбаваным твары выраз той яркай эстрадна-шчаслівай радасці, якая ў любое імгненне можа знікнуць, замяніўшыся выразам суму ці адчаю... А то — і слёзы паявяцца...

Потым гэта жанчына спявае другую песню, амаль што такую ж рытмічную і звонкую, з усё тым жа прыстукваннем нагамі, памахваннем перад сабою ў сагнутай руцэ мікрафонам, пад усё тое ж завыванне труб і пад усё той жа энергічны перастук ударнікаў.

— Ах, барабан мой, барабан.

Слухаючы ўсё гэта, што без волі і жадання забіваецца ў галаву магутнымі дынамікамі, Віталя крывіцца крыху як ад слоў песні — цікава, хто ж аўтар гэтай песні? — так і ад самога фільма, які, як быццам бы, па задуме, павінен выкрываць бездухоўнасць, а на самой справе... Віталя гэта добра разумее,— і што задумвалася, і што атрымалася ў выніку той «геніяльнай» рэжысёрскай задумы, але ён ведае, што давядзецца сядзець у зале да самага канца. Чым без толку бадзяцца па вуліцы, лепей ужо гэты фільм, у якім многае ўспрымаецца ўсяго толькі як мільганне сіне-зялёна-ружовых плямаў, пад усё той жа перастук ударнікаў, які проста такі б'е малатком па вушах. І гэтага Віталю даволі. Мо ў гэтым і ёсць сапраўдны адпачынак? — у бяздумным сузіранні чагосьці, што па-сапраўднаму зусім цябе не хвалюе...

Віталя ўжо не заўважае, што баіцца адзіноты, і таму, так атрымліваецца, яму ўвесь час выпадае нейкі занятак. Не кіно, дык тэатр, не сустрэча, дык тэлевізар,— хоць што, але Віталю ўвесь час выпадае нешта рабіць, і гэтым ён бароніцца ад той нязвыклай цішыні, якая заўсёды паяўляецца, калі чалавек нічым не заняты.

Схіліўшыся над сталом, Раман Барысавіч рамантуе стэрэамагнітафон.

Тут, у ягонай кватэры, амаль што цэлая майстэрня: на стале ляжаць маленькія кампактныя тэстары, паяльнікі, ёсць нават — апошняй маркі — невялічкі асцылограф і, канечне, цэлая скрынка з рознымі радыёдэталямі, радыёлямпамі, якіх у магазінах не вельмі знойдзеш. Усё гэта, безумоўна, збіралася і набывалася не за дзень і не за два, патроху, памалу, дэталь да дэталі, прыбор да прыбора, бывае, што даводзіцца нават і з людзьмі, што на гарадской звалцы аціраюцца, звязвацца. Што ж, зараз амаль што ў кожнага сваё хобі — адны маркі збіраюць, другія — кнігі ці іконы, а вось Раман Барысавіч спецыялізуецца на рамонце радыёапаратуры. Таму зараз многія ў горадзе, вельмі многія лічаць за гонар, калі сапсаваны прыёмнік ці тэлевізар прагледзіць не хто-небудзь, а Раман Барысавіч.

Як які свяціла-прафесар хворага. Балазе, тых хворых прыёмнікаў і тэлевізараў хапае, усе майстэрні завалены.

Бо і сапраўды часта, вельмі часта Раману Барысавічу думаецца, што ў яго амаль такая ж спецыяльнасць, як і ў таго ж хірурга ці тэрапеўта. Гэта можа каго і здзівіць, але калі задумацца добра, то так яно і выходзіць. Зараз кожная сям'я мае ці то прыёмнік, ці то тэлевізар, ці то тую ж стэрэарадыёлу са стэрэакалонкамі,— з кожным днём, не толькі годам, а проста такі з кожным новым днём уся гэта складаная радыёапаратура ўваходзіць у быт, усё болей людзі прывыкаюць да яе, і, напрыклад, паспрабуй забраць ад звычайнай сям'і той жа тэлевізар — якія ляманты пачнуцца ў сям'і, як парушыцца звыклы рытм жыцця! Як у бацькоў, так і ў дзяцей... А так вось з дапамогаю Рамана Барысавіча ўсё гэта хутка і добротна наладжваецца, уваходзіць у свае плаўныя надзейныя берагі і, гледзячы ці слухаючы чужое жыццё, людзі і самі ці то сумуюць, ці то радуюцца.

Як гэта ўвогуле цудоўна — нікуды не кратаючыся, седзячы ці лежачы на канапе, босыя ногі ў мяккіх шлёпках — і вось цябе гэтая чужая радасць ці сум як бы за вухам прыемна казычуць. Бо тое жыццё, якое бачыш з экрана ці чуеш з дынаміка, як акенца ў нязнаны свет, да якога ты ў любы міг можаш дакрануцца, так і не падымаючыся з мяккай утульнай канапы. І тады, калі да таго другога жыцця дакранешся, тады спакойна можаш забыцца пра той рэальны асабісты свет, у якім жывеш, бо так ужо атрымліваецца, што ўсё тое, чужое і нязнанае, здаецца цікавейшым і весялейшым нават, без гэтых дробязяў побыту, якія атручваюць жыццё. І таму, канечне, лепей глядзець, слухаць і весяліцца.

А і праўда — чаго зараз сумаваць? Жыццё і дадзена чалавеку, каб весяліцца.

Раман Барысавіч любіць гэты пакой, дзе звычайна рамантуе радыёапаратуру, яго ён сам сабе называе кабінетам. Тут ён, як нідзе, адчувае сябе спакойна і ўтульна, бо тады, як у сваім кабінеце заняты работаю, аднекуль да яго прыходзіць пачуццё таго, што тое вірлівае супярэчлівае сучаснае жыццё, якое калашмаціць, трэпле нервы іншым, тым жа Разорчыкам, яго не датычыць, яно застаецца недзе там, за парогам ягонай кватэры, у якой Алмазаў адчувае сябе спакойна і ўтульна.

Як у якой крэпасці.

Відаць, гэта і добра, так яно і павінна быць, каб чалавек хоць дзе ды адчуваў сябе ўтульна і спакойна, і вядзецца гэта здаўна, не ім, Алмазавым, адкрыты гэты закон, бо, калі падумаць добра, усё пачалося яшчэ з той пары, як слабы продак хаваўся ў пячоры, потым — за шчыльным і высокім дубовым частаколам, пазней — за цаглянымі ці бетоннымі сценамі. І, як гаворыцца, так далей і таму падобнае. Чалавеку трэба хавацца, бо адкрытым яму нельга быць, так ужо распарадзілася прырода-матухна, ні ў якім разе нельга...

Вось так, за работаю і за роздумам, неяк і не заўважаеш, як стэрэамагнітафон адрамантаваны. Як новенькі. Цяпер на рабочым стале можна наводзіць парадак — Раман Барысавіч любіць чысціню і парадак. Затым ён глядзіць на наручны гадзіннік. Восьмая гадзіна. Што ж — цяпер можна ісці на прагулянку, самая пара.

Ён выходзіць са свайго кабінета, ідзе ў прыхожую да вешалкі, дзе вісіць плашч.

— Рыта,— гучна і спакойна гаворыць Раман Барысавіч. І ў той жа час ён апранаецца.

— Што ты хочаш? — Рыта выходзіць з кухні, выціраючы рукі аб фартух. Як і сапраўдная гаспадыня, Рыта вечна занята на кухні. Калі ўжо выпадае вольная хвіліна, яна звычайна вяжа... Гэта ў яе — хобі. Час у яе дарэмна не траціцца, як у некаторых сучасных жанчын. Што ж, так яно і трэба, кожны павінен трымацца ў жыцці за сваё...

— Калі пазвоняць Славінчыкі, скажаш, што стэрэамагнітафон гатовы, могуць хоць сягоння забіраць.

— А яны ўжо званілі.

— І што ты сказала?

— А што я магла сказаць, калі ты мне нічога не гаварыў пра іх магнітафон? Мы пра сваё гаварылі. Званіла жонка Славінчыка. Сказала, каб я падышла заўтра раніцай да яе ў магазін — к самаму адкрыццю. Павінны выкінуць добрую сухую каўбасу. Яна нам пастараецца пакінуць. А не зможа, дык я сама тады вазьму...

— Ну і добра. Я зараз пайду, прайдуся трохі.

Рыта выцірае рукі аб фартух і так і не ідзе на кухню, а ўсё глядзіць і глядзіць яму ў вочы тым позіркам, які за гады жыцця Раман Барысавіч так добра вывучыў, што часам і без слоў усё разумее.

— Ну, што ты яшчэ хацела сказаць?

— Раман, нам трэба думаць наконт кватэры. Ці пашырэнне, ці — новую.

— А што такое?

— Мне здаецца, што ў нашай Вікі з гэтым маладым чалавекам, што сягоння быў у нас, нешта сур'ёзнае завязваецца. Я сягоння з ёю гаварыла. Яна ў абед дамоў забягала, сказала, што начаваць дома не будзе. І вот я з ёю завяла гаворку. Аказваецца, у яго сваёй кватэры няма, на прыватнай пакуль, а чалавек ён, як Віка гаварыла, перспектыўны, няп'ючы, па ўсім відаць, далёка пойдзе. Такія на дарозе не валяюцца. Так што — нам трэба думаць, выпускаць яго з рук не варта.

— Добра, з Вікаю трэба яшчэ раз перагаварыць. А то — падымеш паніку дарэмна, як мінулы раз будзе. Тады таксама ўсё гарэла і пякло...— Раман Барысавіч замаўкае, а потым паварочваецца да абабітых дэрмацінам дзвярэй, гаворыць: — Я пайшоў...

У скверыку ля набярэжнай ціха і пуста. Толькі дзе-нідзе ёсць рэдкія прахожыя, якія ці то спяшаюць некуды, ці то нетаропка прагульваюцца, падняўшы каўняры куртак ці паліто. Гэтак жа зрэдку сядзяць на лаўках людзі і задумёна глядзяць на цёмную ваду, што цячэ і цячэ ў забетаніраваных берагах. Тут шмат пенсіянераў. Пра што думаюць гэтыя пажылыя людзі? Відаць, пра ўсё тое ж, вечнае, бо, як нехта гаварыў, толькі ў старасці ды ў маленстве чалавек задумваецца аб вечным, аб нечым галоўным, а ўсё астатняе — маята, бяздумнае кіданне за чымсьці часовым, за ўсім тым бліскучым, што так прыцягвае да сябе, як дзіця навагоднія цацкі на ёлцы...

Жыццё, жыццё... Зноў і зноў Раман Барысавіч пераконваецца, як цяжка і важна трымаць унутраны спакой у гэтым вірлівым свеце, як важна ў час не спакусіцца на недасягальнае, на тое пустое, на чым гэтулькі згарэла без толку...

Яшчэ здалёк Раман Барысавіч бачыць Знаёмага, што сядзіць адзінока на лаўцы і чытае газету.

— Вечар добры вам,— паціху гаворыць Раман Барысавіч Знаёмаму і прысаджваецца на лаўку. Знаёмы адводзіць ад вачэй газету, глядзіць на Рамана Барысавіча і ўсміхаецца: — І вам маё шанаванне.

— Ну, што новенькага пішуць? — Раман Барысавіч адстаўляе каўнер плашча — вецер усё ж такі халаднаваты, так і цягне ля цела...

— Ды, як заўсёды, шмат цікавага пішуць. Як гаварыў адзін чалавек, ёсць многае на свеце, друг Гарацыо, што і не снілася нашым філосафам. Я во цяпер праглядваю матэрыялы ў свежай «літаратурцы». Харошая газета. Вострая. Такія пытанні ставіць, якія ў другіх газетах абыходзяць. Як быццам ад гэтага маўчання пытанні самі сабою знікнуць.

— Канечне, харошая. Таму і папулярная. Там адна шаснаццатая старонка чаго варта. Газету, па-мойму, усе пачынаюць чытаць не з першай старонкі, а з шаснаццатай.

Пачынаецца размова — слова чапляецца за слова, і вось ужо няспешна між імі ўплятаецца гэтае складанае кватэрнае пытанне, якое можна зараз абмеркаваць, разгледзець з усіх бакоў.

Вядома, калі побач з табою — чалавек дасведчаны ў гэтай справе і разумны.

— Тут, канечне,— пачынае гаварыць Знаёмы, а Раману Барысавічу зараз толькі і застаецца, што ўважліва слухаць ды ў час устаўляць патрэбныя рэплікі,— ёсць некалькі шляхоў, паважаны Раман Барысавіч. Не мне вас вучыць. Першы самы просты шлях — гэта кааператыў. Хоць і цяжкавата рухаюцца чэргі, але, як мне думаецца, гэту справу пры жаданні можна неяк паскорыць. Вы не хочаце пакуль, лічыце дарагаватай? Ну, што ж, тады застаецца адзінае — уладкавацца ў арганізацыю, якая больш-менш забяспечвае сваіх работнікаў кватэрамі. Тут трэба пашукаць месца надзейнае, пра зарплату таксама цяпер трэба не надта клапаціцца. І не абавязкова, каб арганізацыя была вялікая і салідная. Хоць бы будтрэст які ці нешта з гэтым звязанае — вось ля такіх трэба пакруціцца. Ваша Віка кім працуе? Таваразнаўца? Ну-у, тады ўвогуле ўсё цудоўна. З яе спецыяльнасцю, магу вам смела сказаць, у любой арганізацыі на работу возьмуць, хоць у магазін, хоць на завод, і там і там такія людзі патрэбны. Абы жаданне было і свая галава на плячах. Хоць, як самі разумееце, калі што талковае, а тым болей з кватэраю, трэба шукаць не праз бюро па працаўладкаванню... Так што я падумаю, параюся з патрэбнымі людзьмі. Для каго-каго, а для вас, Раман Барысавіч... А ён, дарэчы, будучы муж Вікі?.. Гаворыце, навуковы супрацоўнік? Ну, гэта ўжо трохі горш, у гэтых інстытутах, як правіла, адны голыя аклады, і больш нічога... Але — нічога, трэба будзе падумаць на ўсякі выпадак і для яго які талковы варыянт. Вы толькі больш дэталёва ягоныя планы празандзіруйце, і рэальнае становішча, і перспектыву, як ягоную, так і ягоных распрацовак. Каб ужо надзейны чалавек быў. Навука — гэта, канечне, цудоўна, але, як самі разумееце і як нас некалі вучылі, рэальная зямная практыка з'яўляецца крытэрыем ісціны. Ну, а варыянт з пашырэннем, гэта я вам адразу скажу, цяжкавата. Гарвыканком, камісіі розныя. Гэта ўжо — апошняе. Карацей, будзем думаць і пра ваша пытанне. Ну што вы дзякуеце, што вы, Раман Барысавіч, гэта вам трэба дзякаваць. Мой тэлевізар пасля вашага рамонту як новенькі. Залатыя рукі ў вас. Нездарма, нездарма, Раман Барысавіч, пра вас цэлыя легенды ходзяць. Ну што ж, да пабачэння, а я яшчэ пасяджу тут трохі, да мяне павінны падысці...

— Тата, я зараз тэлевізар уключу, там мульцікі павінны быць.— Сын стаіць у дзвярах кухні і глядзіць у вочы.

— А ты ўрокі вывучыў? — Разорчык строга глядзіць на сына. Вялікі вымахаў, як на лес гледзячы, ледзь не з бацькам уровень. Акселерацыя, акселерацыя — да чаго ты давядзеш?

— Я вучыў...

— Вучыў, вучыў — а што толку, што ты вучыў?.. Вот як зусім вывучыш, тады і будзем гаварыць. Пасля таго як я праверу тваё вучэнне. Прыліплі абое да гэтага тэлевізара. Колькі табе год? Колькі? А ўсё — мульцікі. У армію скора ісці, а ў цябе — мульцікі ў галаве. Калі што якое — з зайцамі будзеш ваяваць, ці што?.. Ідзі зараз жа ў спальню і садзіся за ўрокі, ніякіх сягоння тэлевізараў,— стрымаць сябе цяжка, відаць, усёткі зноў разгульваецца язва...— А малая дзе? Чым яна занятая?

— У спальні,— глухім незадаволеным голасам адказвае сын. Цяпер ён ужо ў вочы не глядзіць, разглядае лінолеум на падлозе. Па тону зразумела, што ён лічыць сябе незаслужана пакрыўджаным. І гэты глухі тон, гэтыя схаваныя вочы ўзрываюць Разорчыка канчаткова:

— Што за тон? Дзе гэта ты так навучыўся? Што за тон, я ў цябе пытаю? — ледзь не крычыць Разорчык.— Ну-тка зараз жа нясі сюды сшыткі і дзённік. І тая няхай сюды нясе сваё... Параспускаліся зусім у апошні час. Я хутка навяду парадкі. Ён ужо, бачыце, пакрыўджаным сябе лічыць. За што? За што, я ў цябе пытаю?

Падціснуўшы вусны, так нічога і не сказаўшы, сын паварочваецца і знікае ў спальні.

— Андрэй, ну чаго ты кіпіш увесь? Супакойся, вазьмі сябе ў рукі, чуеш? Пры чым тут дзеці, што ты на іх злосць спаганяеш? — Люда нават перастае мыць над ракавінаю посуд і пачынае глядзець у вочы тым пільным позіркам, ад якога Разорчыку становіцца няёмка.

Як дзіцяці якому, што нашкодзіла...

Сустрэўшыся з позіркам Люды, Разорчык пакусвае вусны, разумее, што Люда гаворыць праўду. Нервы, нервы... І ўсё ж — стрымаць сябе цяжка, як і цяжка прызнаваць сваю вінаватасць, таму, хоць і цішэй, не так гучна, але ён працягвае: — Чорт ведае што робіцца... Бадзяюцца да самага вечара невядома дзе, а да

падручнікаў — на лейцах трэба цягнуць. І яшчэ спытаць іх не маеш права...

— Ім і так хапае гэтых падручнікаў, Андрэй, у школе, у прадлёнцы, да ачмурэння...— Люда зноў пачынае мыць посуд. У яе заўсёды нейкія дзіўныя погляды і на выхаванне, і на тую ж адукацыю, па ёй часта выходзіць — хай хоць на тройкі вучацца дзеці — і нічога страшнага. Цяпер яна не глядзіць на Разорчыка, на посуд яна глядзіць і спакойна гаворыць:— Хоць калі ды ім трэба адысці ад урокаў, развеяцца. Яны ж яшчэ — дзеці, не забывайся, не машыны якія, а — дзеці. А мы ўсё іх начыняем, начыняем, то булкамі, то ўрокамі, а пасля яшчэ і здзіўляемся, якія яны вырастаюць.

Дзіўна, ад гэтага спакойнага голасу Люды неяк мімаволі ў душы Разорчыка штосьці супакойваецца, аціхае. Як і заўсёды. І таму ён усё больш ціха і спакойна гаворыць:

— Ну, дык хай бы чым талковым заняліся. Хай бы вунь пласцінкі паслухалі. Запісы народных песень. Неапрацаваныя, запісаныя ў вёсках... Месяц як прынёс дамоў і пыляцца без толку... Дык жа не, гэта ім не трэба, да экрана ліпнуць, як там мёдам намазана.

— Ну і што страшнага, калі ліпнуць? Ды і пры чым тут народныя песні, Андрэй? Пры чым?

— Як гэта — пры чым? Ты што — не разумееш нічога ці прыкідваешся?

— А і не разумею... Носішся ты з рознымі ідэямі як з пісанай торбаю. То во ўздумаў некалі іх загартоўваць, спартанцаў выхоўваць. Дазагартоўваўся, пакуль малая запаленне лёгкіх не падхапіла... Так і з гэтымі народнымі песнямі таксама. Сам ты іх пяеш цяпер?

— Запяеш тут пры такім жыцці. Хутчэй ваўком завыеш,— баліць, пабольвае жывот. Відаць, прыйдзецца ўсё ж такі ісці ў бальніцу і глытаць той хітрамудры зонд... І яшчэ думаецца, што Люда заўсёды неяк так хітра ўмее перавесці размову на штосьці такое, дзе ўжо не будзеш крычаць і галёкаць, а толькі — рукамі разводзіць...

Люда, закончыўшы мыць посуд, садзіцца да стала, налівае ў кубкі чай:— Давай-ка лепш чайку выпі спакойна. З чаборам. Ды пагаворым трохі. А то ўжо даўно не гаварылі па-людску, усё нешта гыркаем адно на аднаго. Хутка і праўда — як ваўкі адно на аднаго выць будзем. То нам некалі, то не ахвота.

На кухню заходзіць малая. З доўгай грыўкаю, якая спадае на самыя вочы, худзенькая і нейкая надзвычай даўганогая. Як чужая ўсё адно. Яна падыходзіць да стала, дэманстратыўна плёхае на стол перад самым носам Разорчыка сшыткі і пакрыўджана гаворыць:

— Вот табе нашы сшыткі. І дзённікі таксама. Правярай...— Ва ўсёй яе постаці, у шчыльна самкнутых вуснах, у ссунутых да пераносся бровах — крыўда і пагарда да яго, бацькі, які даўно займаецца не тым, чым трэба займацца. Разорчык са здзіўленнем глядзіць на адтутураныя вусны малой і тут зусім для сябе нечакана ўспамінае, як, здаецца, нядаўна, быццам тыдзень назад, зімовымі ранкамі вазіў яе ў санках да дзіцячага садзіка, маленькую, захутаную да самых вочак тоўстай пуховай хусткаю, як вучыў яе хадзіць, як цалюткія ночы насіў на руках, калі хварэла... Зусім нядаўна ўсё гэта было, і вось глядзі ты — яно, тое некалі слабенькае беззапаможнае малое, ужо крыўдуе на цябе, дурнем лічыць... Што ж гэта робіцца? Як хутка ляціць няўмольны час! І ўсё — не ў ягоную карысць...

Але, замест таго каб пакрыўдзіцца на малую, Разорчык чамусьці нечакана для сябе ўсміхаецца. Малая, зірнуўшы на бацьку яшчэ раз, у самыя вочы, таксама ўсміхаецца,— адчуванне такое, быццам дагэтуль гулялі ў гульню, а зараз вось упершыню абое зразумелі, што займаліся нечым несур'ёзным, ва ўсякім разе не галоўным...

— Забірай вашы сшыткі. Ідзіце і рабіце ўрокі. Бацька вось пап'е чаю, пасля прыйдзе і праверыць,— гаворыць Люда.

Малая забірае сшыткі і выходзіць з кухні.

— Ты думаеш, яны нічога не разумеюць і не адчуваюць, Андрэй? — пытае Люда і адпівае з кубка.— Зразумей, цяпер — другі час. Зразумей гэта. І не ганяй ты іх дарэмна. Бо нічога лямантам не даб'ешся. Ды і карысці ім ніякай не будзе.

— А за што ж яны будуць трымацца, калі вырастуць? Скажы мне, разумная, за што? За чабурашку? На гэтым усё жыццё пратрымаюцца? На гэтым пустым бесклапотным ойля-ля, тру-ля-ля?.. Няўжо не бачыш, як яны прывучаюцца на ўсё са смешачкамі глядзець? Што сур'ёзнае, а што смешнае — для іх аднолькава.

— Андрэй, давай-тка спачатку ўспомні, як ты жыў у маленстве. І тыя песні, якія бабы спявалі. Ці як з ра-

боты ішлі, ці як ягады ў лесе збіралі, ці проста на гулянках... Ну-тка, успомні ўсё тое. І той прастор, які быў тады там, у вёсцы. І тое сонца над лесам, што дагарала вечарам. І раку ў кустах. Ну, адным словам, успомні тое ўсё-ўсё, што тады было ля цябе кожны дзень, кожную мінутку. А вот калі ўспомніш, параўнай тады, як нашы дзеці жывуць, што іх кожны дзень акружае. Помніш, як мы жылі, калі хлопец нарадзіўся, а нам жыць не было дзе, на прыватнай сядзелі, штомесяц паўсотні плацілі? У тым пакойчыку, дзе нават і гаварыць гучна баяліся, не тое што — песні спяваць. Помніш, як гаспадыня правярала, ці позна ў нас святло гарыць? А той вясёлы час, калі, язык высунуўшы ад стомы, бегалі па горадзе і шукалі новую кватэру, калі ўсё-ткі з'ехалі з лямантам на другую кватэру і як там жылі. Памяняўшы шыла на мыла... Няўжо ты думаеш, што дзеці нашы ўсяго гэтага не адчувалі? Калі ж нам ды і тым жа дзецям быў час чуць тыя народныя песні? Ды і дзе яны іх тут, у горадзе, пачуюць? Можа, на вуліцах, дзе машын поўна і неба чыстага не ўбачыш з-за дамоў? Вот якраз толькі там яны і пачуюць — па радыё ці па тым жа тэлевізары. Але ж усё гэта — апрацоўкі, усё гэта зусім не тое, што чулі мы, калі жылі ў вёсцы. Усё гэта бывае амаль так, як у сучасным кіно паказваецца... Калі, напрыклад, рэжысёру трэба паказаць народнае жыццё, вернасць традыцыям, ён, той рэжысёр, які ў вёсцы, можа, і нагой ні разу не ступаў, смела выводзіць на экран нейкага глухаватага, слепаватага недарэку ў абавязковай зімовай аблавушцы, якую той недарэка не здымае ні зімою, ні спякотным летам, і ўвесь час той стары на экране толькі тым і займаецца, што прыкладае руку да вуха і крычыць: «Ась, што ты, голубе, кажаш?..» Вот табе і ўся сучасная народнасць. Я ўжо не кажу пра малую, тая ўвогуле ля радыё і экрана вырасла. Для іх тэлевізар — як рэальнае жыццё. Зразумей гэта, Андрэй. А ты зараз ні з таго ні з сяго хочаш, каб яны тых старых недарэк у лапцях палюбілі, тыя старыя песні. Пасля Пугачовай, пасля артлато і будзільніка з клоунамі... Наіўны ты чалавек, Андрэй. Ды і павер, не тэлевізар ва ўсім вінаваты. Зараз нешта другое ў паветры носіцца, зусім не тое, што было тады, калі мы раслі ў вёсцы. Што, ты думаеш, гэтае штодзённае мільганне машын, гэтыя сотні твараў, што мільгаюць і мільгаюць, гэтыя

знаёмствы, якія часта забываюцца, іначай звар'яцець можаш, няўжо ты думаеш, што ўсё гэта праходзіць бясследна для чалавека? Вот адгэтуль, мусіць, і другая музыка, і другія песні. Як цяпер кажуць, другі рытм жыцця. Я табе, можа, усё блытана кажу, я і не магу ўсяго гэтага растлумачыць, але я душою ўсё гэта адчуваю, павер мне... А дзеці нашы — тым болей адчуваюць, яны проста жывуць гэтым гарадскім жыццём, а пра тое, вясковае, яны нічога не ведаюць. Для іх усё тое — як у трыдзевятым царстве. А ты, я гляджу, яшчэ так нічога і не зразумеў.

— Што ты гэтым хочаш сказаць? Я нешта ніяк не зразумею, да чаго ты хіліш? — Чай стаіць некрануты. Тут не да чаю зараз. Штосьці цёмнае і незразумелае паяўляецца ў душы Разорчыка пасля слоў Люды. І між тым — як гэта дзіўна — Разорчык упершыню разумее, што Люда яснымі словамі гаворыць тое, аб чым ён дагэтуль, бывала, задумваўся, ды ніяк не мог прадумаць усё да поўнага і яснага канца.

Ці не таму не мог, што і баяўся чэсна глянуць праўдзе ў вочы?

— Ты чай пі, а то — зноў пачынаеш кіпяціцца,— ківае Люда галавою на кубак з чаем. Яна сёрбае чай і зноў, гэтак жа спакойна і нетаропка, як і дагэтуль, працягвае:— Толькі тое, Андрэй, што мы — старэем. Самі таго не прыкмячаючы. І, як і ўсе старыя, бурчым на моладзь. І яшчэ, што наша маленства, у вёсцы, ля тых жа кароў і свіней, і маленства нашых дзяцей — зусім розныя. А ты гэтага не разумееш, хочаш, каб твае дзеці ўспрымалі свет гэтак жа, як некалі ўспрымаў сам. А нічога з гэтага не выйдзе, Андрэй. Паглядзі цвяроза, азірніся, сярод чаго твае дзеці жывуць. А падумаўшы, тады, можа, і не так на іх тукаць будзеш. Ды і навошта нам дзяцей чапаць, ты пра сябе падумай. Сам жа ты чамусьці не захацеў у вёсцы жыць. Не захацеў, хоць і не хочаш у гэтым прызнацца.

— Ты што, забылася, як тады, пасля вайны, у вёсках жылі? — ціха, але неяк няўпэўнена пытае Андрэй.

— Не, Андрэй, давай не хітрыць... Канечне, там было і галадна і халадна. Але не толькі голад нас гнаў у гарады. І цябе і мяне. Чаго мы хацелі, на што спадзяваліся? Другая рэч, што мы маем цяпер, але вот задумайся спачатку, чаму ўсё ж мы не захацелі старыя песні слухаць, жыць так, як нашы бацькі жылі?

— А што, калі разабрацца, нашы бацькі бачылі, акрамя работы ды рэдкай гулянкі?

— А-а, вот-вот, загаварыў нарэшце... Ты хацеў чагосьці новага, цікавейшага за тое знаёмае вясковае жыццё. Таго, сярод чаго табе, мажа, у дзесяць разоў цяжэй жыць. Хоць мы гэты горад і праклінаем, але мы ўжо не можам яго кінуць-рынуць, не можам... Ёсць у ім нешта такое, чаго мы, мажа, яшчэ і не адкрылі, не далі назвы, што нас выцягвае з вёсак міма волі і жадання. Дык вот я да чаго хілю... Вот гэтак жа, як мы не захацелі паўтараць жыццё нашых бацькоў, гэтак жа не хочуць паўтараць наша жыццё нашы дзеці. Як ні ляментуй і як ні крычы, а яны жыць і цікавіцца будуць другім.

— Люда, дык жа як яны будуць жыць? Чым жа яны будуць цікавіцца тады, калі ім зараз усё, як ты гаворыш, да лямпачкі? — у горле Разорчыка перасохла, і ён пытае ледзь не шэптам. Ён зусім забывае пра чай. Чамусьці становіцца страшна ад правільных і спакойных слоў Люды.

— Адкуль я ведаю, Андрэй? — Люда сёрбае з кубка чай і, самае дзіўнае, спакойна глядзіць у вочы.— Я ж табе ўжо гаварыла, Андрэй, нешта новае носіцца ў паветры, дух цывілізацыі ці яшчэ чаго, я гэтага табе пэўна і не магу сказаць, але гэта ёсць. І калі ты гэтага не адчуваеш, то дрэнна табе будзе, ой цяжка будзе жыць... Няўжо ты спадзяешся штучна стрымаць тое, што рухаецца аб'ектыўна, не пытаючыся ў цябе дазволу?..

— Ну, хай мы, хай з намі, як гаворыцца, песня спетая. А за што ж ім трымацца ў жыцці, Люда? — усё гэтак жа ледзь не шэптам пытае Разорчык.— Чаму ж нам іх вучыць, Люда, калі ўсё на свеце адносна, калі і зачапіцца няма за што?

Разорчык пачынае церці далонямі скроні — як ён нядаўна заўважыў, гэта заўсёды памагае, калі баліць галава. Ён толькі цяпер адчувае, як баліць галава.

Божухна, як баліць галава!

Сягоння нейкі як ніколі ўзвінчаны дзень. З самай раніцы. Гэты дзіўны сон, аказваецца, проста такі ў руку пайшоў... Усе яго вучаць. Божухна, як яго ўсе старанна вучаць! Як малога якога. І ўсё ў іх сыходзіцца, як на лічыльніках, усе гавораць правільна. І той жа разумны Раман Барысавіч. І Віталя. І Люда... І чаму ў

душы пасля гэтай правільнай вучобы такая блытаніна, пачуццё такое, што лепей бы гэтай вучобы не ведаў. Як у павуцінні заблытаўся. І хоць усё ва ўсіх правільна і між тым — ён гэта адчувае, як адчуваў некалі, яшчэ ў раннім юнацтве, што будзе жыць бясконца доўга,— што ўсё сказанае Алмазавым, Віталікам, Людаю — усё гэта не так, што ён не можа з гэтым згадзіцца. Хоць і чаму не можа — невядома...

А як *трэба?* Як? Ну, хай сабе ён, а дзеці? Ягоныя дзеці, да чаго іх рыхтаваць?..

І хлеб ёсць, і адзенне ёсць, і кватэра, нарэшце, ёсць, але чаму ж тады так цяжка на душы?

І тут непрыкметна для сябе Разорчык пачынае шаптаць. Калі шэпча, яму становіцца лягчэй, і таму ён ніяк не можа спыніцца. Ён нават і не думае, пра што шэпча — словы неяк самі сабою сыплюцца і сыплюцца:

— Калі б ты быў на свеце, божухна! І калі б ты напісаў ці перадаў людзям адзіныя правілы, вечныя і нязменныя, ад якіх бы яны сталі шчаслівымі!.. Ці хоць бы кожнаму з нас паказаў той шлях, па якому мы змаглі б спакойна ісці, ад пачатку да канца самага!

— Ты што, Андрэй? Што з табою сягоння? Ты ўжо і сам з сабою гаварыць пачаў? От, маладзец, дажыўся. Ты сягоння такі ўзвінчаны,— аднекуль, як з другога свету, чуе Разорчык словы Люды.

— Нічога, зараз усё пройдзе,— зноў і зноў Разорчык трэ далонямі скроні, гледзячы на белы стол, дзе стаіць кубак з ужо халодным чаем.

У водпуск пара. Нервы, нервы, век такі, мусіць, нервовы... Адчуванне такое, што ніколі дагэтуль так складана не было ў свеце. За ўсе вякі не было такой складанасці, бо тое, што было дагэтуль, гэта толькі — кветачкі...

А мо і не, мо — кожны век складаны па-свойму, проста па-сапраўднаму мы амаль што нічога не ведаем пра тыя вякі...

Нервы, нервы... Хваробы гэтыя, не разбярэш, што за што чапляецца, ці то хваробы за ўзвінчанасць, ці то ўзвінчанасць ад хвароб...

Некалі, кажуць, што да вайны яшчэ, у гэтай высокай вастраверхай чырвонай будыніне быў касцёл, а потым тую будыніну перарабілі — зрабілі Дом кіно, перад

уваходам якога, як і некалі перад уваходам у касцёл, збіралася вечарамі парадкам народу. Канечне, найболей моладзі.

У часы інфармацыйных праглядаў тут звычайна тоўпіліся танкатварыя, з рэдзенькімі бародкамі хлопцы, у позірках і паводзінах якіх было шмат умольна-жаночага, не меней тут было і дзяўчат з акуратнымі і прыгожымі тварамі, нечым адна на адну падобных, як з канвеера выпушчаных, магчыма — тымі ж ярка-чырвонымі, з чорнай акантовачкай, вуснамі, вялікімі падведзенымі чорнымі веямі, скептычна стомленымі ў дваццаць год позіркамі,— іх ужо нічым не здзівіш, здаецца, і яшчэ гэтымі ўпэўненымі мужчынскімі замашкамі, якімі так і веяла ад вузкіх, у абцяжачку, штроксаў, якія невядома як дзяўчаты ўмудраліся нацягваць на свае пышныя клубы, чорных скураных куртачак, тых жа цыгарэт, што трымаліся ў тонкіх не рабочых музычных пальцах з чырвонымі бліскучымі доўгімі пазногцямі.

Праціснуўшыся праз вузкі праход у дзвярах, праз гэтае ўмольнае: «Вы не зможаце правесці?» — Макрыцкі і Алег апынуліся ў фае, запоўненым людзьмі.

У большасці людзі, як мужчыны, так і жанчыны, курылі, трымаючы ў адстаўленых руках цыгарэты, адтурыўшы вусны, тонка струменячы ў паветра дым... У гэтым курэнні было нават нешта рытуальнае. У адным куце вузкага, прадаўгаватага, як калідор, фае знаходзіўся буфет, а ў другім — уваход у гардэробную. Там жа, побач, быў уваход і ў глядзельную залу, невялічкую, месцаў на сто, калі не меней.

Алега тут, у фае, многія ведалі, па ўсім было відаць, што тут увогуле чужых мала, тут ваўсю царыла тая атмасфера, якая заўсёды паяўляецца, калі збіраюцца людзі аднаго кола ці адных інтарэсаў, і нават якіх інтарэсаў — гэта ўжо няважна, галоўнае, каб чалавек у час адчуў гэтае пачуццё еднасці і далучэння да агульнай справы.

Да якой — гэта ўжо не так важна...

Адразу ж да Алега аднекуль прабіваецца невысокі з вусікамі мужчына — як Макрыцкі заўважыў, тут увогуле было шмат вусатых, мусіць, гэта зараз было модна, як і тыя ж скураныя чорныя курткі ці блакітныя джынсы, мо тыя вусы былі, як той знак... Торкнуўшы Алегу далонь, мужчына дзелавіта пытае:

— Ну, чытаў раман?..— мужчына назваў раман, які,

як Макрыцкі чуў, зараз хадзіў па руках і ў якім апісвалася як зямное жыццё, так і фантастычна-касмічнае, з тымі ж загадкавымі незямнымі цывілізацыямі, якія, аказваецца, не вырашаюць зямныя грэшныя праблемы, а наадварот — яшчэ болей закручваюць...

— Чытаў.

— Ты мне скажы, да чаго *ён* усё-ткі падводзіць, у чым выйсце для чалавецтва *па-ягонаму:* у разумовай свядомасці ці ў асацыятыўнай падсвядомасці?..

— Я думаю,— Алег глядзеў у вочы мужчыну і ўсміхаўся,— што і ў тым і ў другім.

— Ну, гэта тады несур'ёзна,— махае рукою мужчына,— мне ўжо абрыдлі гэтыя разлічаныя кіўкі туды і сюды. Пара ўжо і рашучае слова гаварыць, даўно пара. А то ўсё нешта муляюцца, муляюцца...

— А ты, дарэчы, чытаў той раман? — цяпер ужо Алег разглядае чорную скураную куртачку і ўсё ўсміхаецца.

— Я яшчэ не мог дастаць часопіс. Ну, ладна, я пайшоў.— Мужчына чамусьці махае рукою і гэтак жа хутка і нечакана знікае сярод людзей. Дзіўна, хоць яму і было дзесьці за сорак, а ён усё яшчэ нечым нагадваў хлопчыка...

— Пайшлі па каве ўдарым,— пасля гардэробнай Алег адразу ж цягне Макрыцкага да хваста чаргі, што вілася ўздоўж сцяны да буфетнай стойкі.

Дзіўна, столькі часу прайшло ад абеду, а есці Макрыцкаму так і не хочацца.

Стоячы ў чарзе і пазіраючы на людзей, Макрыцкі адчувае гэту святочнасць, калі збіраецца шмат людзей і яны спадзяюцца вось-вось убачыць ці пачуць штосьці незвычайнае і доўгачаканае, аб чым даўно людзі сумуюць у аднастайным калыханні будзённых дзён. І хоць, можа, таго незвычайнага ці доўгачаканага так і не будзе, але галоўнае — не ў гэтым, галоўнае, відаць, вось у гэтым прадчуванні свята.

Макрыцкі памалу абводзіць позіркам парачкі, што стаяць і гавораць, раз-пораз кідаючы позіркі па баках, ківаючы знаёмым: здрасце, прывецік, як вы там пажываеце? У рэшце рэшт найбольшую ўвагу прыцягвае адна з такіх парачак, што сядзела ля сцяны за нізкім столікам: год дваццаці дзяўчына і мужчына нейкага няпэўнага ўзросту — можна было даць год трыццаць, а можна — і ўсе сорак пяць... У позірку, у самім гладка

наголеным твары, як і ў нетаропкіх жэстах, было шмат прыгожага: і стрыманая, як знарок перад люстрам адрэпеціраваная ўсмешачка, якая то знікала, то паяўлялася на тонкіх чырвоных вуснах, і тая ж рэдкая сівізна, якая не старыла, а маладзіла, і той жа павольны рух левай рукі, на пальцы якой паблісквала вялікая жоўтая «пячатка».

— Не, вот я думаю,— стомлена, з роздумам гаворыць яго субяседніца і ў той жа час тонкімі пальцамі левай рукі адкідвае з вачэй пасмачку валасоў. Відаць, яна гэту пасмачку спецыяльна і адгадавала, каб вось так прыгожа раз за разам адкідваць з вачэй.— Я думаю, што асацыяцыі — гэта галоўнае ў фільме.— У другой руцэ дзяўчына трымае цыгарэту, што дыміцца. Зацягнуўшыся, адкінуўшы галаву і выпускаючы ўгору дым, дзяўчына на імгненне замаўкае. Відаць, у грунтоўным роздуме. А потым яна зноў гаворыць, гледзячы на той блакітнаваты слупок дыму, што, размываючыся, растае ў паветры.— Як і ўвогуле ва ўсякім мастацтве.

— Я не зусім з табою згодзен, малая, але ў тваіх разважаннях нешта ёсць, нейкая доля ісціны.— Мужчына ўсміхаецца, робіць нетаропкі глыток каньяку, а затым таксама зацягваецца салодкаю цыгарэтаю.

Як закусвае ўсё роўна...

— Не нешта, а так яно і ёсць сапраўды. Галоўнае — не тое, што пабачыш ці пачуеш, а тое, што падумаеш. Галоўнае — асацыяцыі. Я вот думаю, што наша рэжысура якраз аб гэтым ці то не задумваецца, ці то проста яшчэ не дарасла да гэтага разумення. Нас прывучаюць да просталінейнасці, да гэтых шораў, якія ўсё на свеце абмяжоўваюць, зусім не пакідаючы месца асацыяцыям. І таму выходзіш часта з глядзельнай залы без адзінай свежай думкі. Нам яшчэ вучыцца ды вучыцца.

— Вось зараз паглядзім, як гэта робіцца на Захадзе. Паглядзім, які там узровень.

— Захад. Як некалі ў школе казалі нам, загніваючы Захад.— Дзяўчына скептычна ўсміхаецца. З чаго — невядома. Яна таксама адпівае каньяк і зноў, зрабіўшы зацяжку цыгарэты, гаворыць, усё гэтак жа лена і павольна, як і дагэтуль:— І яшчэ наша сярэдняя рэжысура забывае, што ўжо выпрацаваны пэўны сусветны ўзровень, ёсць нейкія традыцыі, ніжэй якіх проста немагчыма апускацца.

— Не ўсе традыцыі вечныя,— устаўляе мужчына.

— Канечне, канечне... Уладзік, ты не так мяне зразумеў. Я пра другое. Я хачу сказаць, што кіно, як і балет, адно з тых відаў мастацтва, якое належыць не так пэўнай нацыі ці народу, а найперш усяму чалавецтву... Ты разумееш, пра што я? Гэта, як бы табе вобразна сказаць,— сусветнае дзецішча, народжанае не адным чалавекам, а цэлай цывілізацыяй. Гэта тое мастацтва, якое творыць калектыў. І нават не адзін калектыў, а з дапамогаю тэхнікі. Гэта ўжо зусім не тое, што было некалі, гэта зусім новае, чаго дагэтуль ніколі не было. Ты толькі задумайся. І таму яно заклікана выражаць і вырашаць агульначалавечыя праблемы: жыцця, смерці, кахання, нянавісці... Ты зразумеў, Уладзік, што я хачу сказаць? Некалі вобразнае мысленне было на ўзроўні роду, затым — племені, цяпер — нацыі. А ў недалёкім будучым — і гэта не за гарамі — мы будзем думаць толькі агульначалавечымі катэгорыямі. Усё гэта, нацыянальнае, адыдзе, яно проста стане непатрэбным. У якім бы ты горадзе ні жыў — розніцы ніякай. Так што ўжо цяпер ёсць шмат агульначалавечых гарадоў, а ўяві, што будзе ў будучым. І вось сучаснае кіно, на маю думку, гэта першыя ластаўкі. Ты разумееш мяне, Уладзік?

— Ты сама да гэтага дайшла ці вычытала дзе?

— Канечне, сама. Божухна, часта мне такое ў галаву прыходзіць, калі б хто запісаў, я думаю, атрымалася б грандыёзная арыгінальная рэч. Лепшая, чым у Саган...

— Далёка пойдзеш, малая. У цябе, дарэчы, арыгінальнае, не шаблоннае мысленне.— Мужчына ўсміхаецца і зноў адпівае каньяк.— Ты ўжо дакументы падрыхтавала для паступлення?

— Гэта — нікуды не падзенецца, не збяжыць ад мяне.— Дзяўчына пазногцем збівае попел з цыгарэты — чорны слупок попелу сеецца ў сподак, дзе два кавалачкі каўбасы.— Кінаведчы факультэт, блакітны дыплом — гэта для мяне не галоўнае. Галоўнае — мець свой позірк на сучасную складаную рэчаіснасць. Гэта зараз рэдкасць.

— Што ж, ідзём, ужо глядзельную залу адчынілі. А то месца не будзе,— адным глытком мужчына дапівае каньяк, бярэ за руку дзяўчыну.

— Пайшлі.— Яна таксама дапівае каньяк, а затым акуратна і прыгожа, здаецца, з нейкай нават асалодаю

прыціскае недакураную цыгарэту аб кавалачак каўбасы. Потым, падняўшыся з-за століка, бярэцца за сагнутую ў локці руку мужчыны.

Яны ідуць, а ў Макрыцкага перад вачыма ўсё яшчэ стаяць гэтыя два кавалачкі каўбасы, у якія ўторкнуты акуркі.

— Гэта з вашай фірмы? — схамянуўшыся, Макрыцкі штурхае Алега локцем іківае галавою на пару, якая цяпер нетаропка плыла да ўвахода ў глядзельную залу, нават тут выдзяляючыся. На дзяўчыне былі асляпляльна белыя, у абцяжачку, фірмовыя джынсы, што толькі-толькі ўваходзілі ў моду, лёгенькая беленькая празрыстая кофтачка, пад якой, здаецца, нічога не было, і туфлі на такіх высокіх абцасах, што яна ішла, як на хадулях. На мужчыну пабліскваў чорны скураны пінжачок, сінеліся пацёртыя джынсы, туфлі ў яго былі на амаль што такіх жа высокіх, як і ў дзяўчыны, абцасах, і таму пры хадзьбе мужчыну даводзілася неяк па-жаночаму ставіць ногі...

— Ды не, я тут больш паловы не ведаю. Налятаюць. З усяго горада кветачкі.— Алег крыва ўсміхаецца.— Чые сынкі, чые — дочкі ці нявесткі, а чые — і сам божа не разбярэ...

— Як жа яны сюды праходзяць? У вас жа — па прапусках.

— А гэта — новая загадка. Не ты, дарэчы, першы ёю зацікавіўся. Ведаеш, як нядаўна артыст на адной сваёй творчай сустрэчы звярнуўся да шаноўнай публікі? Слухай. Ён так сказаў: «Вітаю вас, работнікаў гандлю, што займаюць ганаровыя першыя рады, і вас, творчых і навуковых работнікаў, што сядзяць на апошніх радах ці на той жа галёрцы...» Так і тут...— усё ўсміхаецца Алег той добрай усмешкаю, якая так маладзіць ягоны твар і ад якой Макрыцкаму непрыемна. Думаецца, што з таго часу, як Алег пачаў займацца кіно, якраз тады і пачала паяўляцца на ягоным твары гэта добранькая ўсмешачка, якою згладжваюцца ўсе непрыемнасці і ад якой Алег становіцца чужы. Зусім чужы — як і не вучыліся разам у адным класе, з першага па дзесяты. І ў такі міг не ведаеш, пра што гаварыць.

Ківаючы галавою ў бок буфета, Алег дадае:

— Можа, таксама па каньячку возьмем? Нешта ты сягоння кіслы. Зусім расклеіўся.

5*

Макрыцкаму ўспамінаецца ноч, тая вялікая выпуклая поўня, што зырка свяціла ў незанавешанае акно тым трывожным незямным святлом, якое, кажуць, падымае некаторых людзей з цёплых ложкаў і прымушае блукаць па дахах ці карнізах, успамінаецца ранак, лабараторыя — гэтая штодзённая мала патрэбная гамана, якая сведчыць толькі пра тое, што яны нечага зусім не ведаюць, і мо таму ад іх гаманы нічога ў свеце не зменіцца, таму можна быць упэўненым, што і заўтра ўсё гэтак жа будуць *штосьці* даказваць адно аднаму Алмазаў, Віталік, Эмачка, Разорчык, кожны сваё, кожны сваю праўду, успамінаецца парк з падсохлымі вяршынямі, над якімі чырванее сонца, высокія сталёвыя канструкцыі атракцыёнаў, якія ў любы міг могуць зрабіць цябе пясчынкаю — сталёва-аўтаматычная рука яе шпурляе ўніз-угору, уніз-угору, да таго часу, пакуль, ківаючыся, не ступіш на хісткую зямлю, і тады толькі ў душу запаўзае прыкрае адчуванне сваёй слабасці і бяссілля перад гэтым замежным бяздумна-аўтаматычным, што зараз з грукатам і трэскам круціць і кідае ўніз-угору новыя пясчынкі... І яшчэ ўспамінаюцца шахматысты,— як стаяць побач і спрачаюцца.

І зноў паяўляецца думка пра гульні, цяпер ужо больш акрэсленая. У сваім здзіўленні і адкрыцці Макрыцкі нават і не прыкмячае, як шэпча сабе: «І кіно сюды ж... І як адрозніць гульню ад не гульні, ці ёсць хоць якая мяжа?..»

І цяпер ужо здаецца Макрыцкаму, што ён ужо даўным-даўно дзесьці ці то чуў, ці то чытаў пра гэтую тэорыю гульняў, якая многае растлумачвае ў жыцці і паводзінах... Столькі ўсяго чуеш і бачыш, што пачынаеш блытаць сваё, набытае толькі табою, з чужым...

Дзе ж — гульня, а дзе — сур'ёзна? Ці не заблытаўся ён ужо? І ці не пара ўсё заканчваць?

І штосьці жудасна-спакуслівае пачынае маячыць наперадзе: ён добра ведае, што пра тое нельга, няможна нават і думаць, але ўсё ж...

Які доўгі сягоння дзень! І калі ж ён скончыцца?

— Давай,— нарэшце выціскае з сябе Макрыцкі. Нават з нейкай радасцю.

Пасля, у біткомнабітым глядзельным зальчыку, таксама вузкім і прадаўгаватым, Макрыцкаму становіцца лягчэй. Магчыма, ад таго ж каньяку.

Тое жудасна-спакуслівае знікае, адсоўваецца неку-

ды ў невядомасць. Але самае прыкрае, што засталося веданне: гэта — часовае...

Да пераноснага мікрафона, што стаіць перад вялікім белым экранам, падыходзіць перакладчыца. Нахіліўшыся да мікрафона і гледзячы спадылба ў залу, перакладчыца пачынае сыпаць лёгкім прафесійным жаргонам:

— Дарагія сябры! Творчасць гэтага рэжысёра, апошнюю работу якога вы зараз убачыце, адзначана пячаткаю вялізнага складанага таленту. Ён прызнаны не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце...

Было ў перакладчыцы нешта агульна-тыповае, што бачылася дагэтуль Макрыцкаму і ў другіх так званых сучасных дзелавых жанчынах, якіх у апошні час так шмат паявілася ў рэдакцыях, на кіно, у навукова-даследчых інстытутах.

Шараваты ў белым святле, невыразны і зусім незапамінальны маленькі тварык з невялічкімі сухімі нефарбаванымі вуснамі, маленькія спакойныя вочы, кароткая дзелавая, пад хлопчыка, прычоска, уся яе невысокая постаць, абцягнутая вельветавым, як з мужчынскага пляча, пінжачком, пацёртыя штонікі, яе хуткія лёгкія словы, што роўна кладуцца адно да аднаго, зліваючыся ў штосьці доўгае і бяздумна-прыемнае, што можна гаварыць як некалькі хвілін, так і гадзінамі, у якіх, магчыма, крылася тое прыцягальнае, дзеля чаго людзі сюды і ішлі — усё гэта ўжо мала, а то і зусім не звязвалася з жаночай прывабнасцю, ва ўсім гэтым было штосьці халоднае і занадта дзелавое, разліковае, гледзячы на перакладчыцу, думалася, што мо таму яна ніколі не пачырванее і не разгубіцца, што ўсё на свеце ведае... І незразумела было, ці то сучасная работа рабіла жанчын такімі, ці то самі яны знаходзілі сабе такую работу і ўжо як знарок, як з выклікам выстаўлялі напаказ усё тое, што адмаўляла ў іх квола-пяшчотнае. Як бараніліся яны ўсім разумна-разліковым.

Ад чаго бараніліся?

Перакладчыца здаецца вельмі маленькай у параўнанні з вялікім белым палотнішчам, на якім праз якія хвіліны павінны паказацца ненатуральна вялікія людзі. Ці не ў гэтым і крылася загадкавая прыцягальнасць кіно: у нейкіх перакошаных памерах рэальнасці, якая на экране станавілася нерэальнасцю...

А потым блытаны маналог перакладчыцы скончыў-

ся, зала схавалася ў цемры, экран засвяціўся, пачулася музыка...

Некалі Макрыцкі хадзіў сюды з Алегам часцей. І чым болей глядзеў фільмаў, тым усё болей і болей няўпэўнена пытаўся ў сябе: што ж яны яму даюць?

Так, усё гэта напачатку было цікава: і прадчуванне чагосьці жахлівага, што вісіць над лёсам герояў, і нязвыклыя занадта доўгія ці занадта кароткія планы, і тыя ж неверагодныя сюжэты, загадкавасць сцэнарна-рэжысёрскіх рэбусаў, разгадваючы якія можна было дзеянням экранных герояў надаваць любую трактоўку,— але ўсё гэта было цікава да таго часу, пакуль Макрыцкі глядзеў гэтыя фільмы, абавязкова «адзначаныя пячаткаю вялізнага складанага таленту». Потым жа, выйшаўшы з зацемненай глядзельнай залы на светлую вуліцу, ён са здзіўленнем адчуваў, што ўжо не так, як дагэтуль, глядзіць на белы свет. Штосьці зрушвалася ў ягонай свядомасці.

Толькі вот у лепшы ці ў горшы бок?

І часта, вельмі часта на адзіноце, разгадваючы рэжысёрска-сцэнарныя рэбусы, Макрыцкі задаваў сабе гэтае пытанне. Бо многія сцэны фільма тут жа, праз дзень-другі, забываліся, змазваліся ў памяці, а многія, наадварот, паўставалі вобразна-выразна. Тыя ж сцэны інтымнага жыцця, павялічаныя экранам да неверагодных памераў, якія, відаць, па задуме былі эпізадычнымі, набывалі свой асобны сэнс, часцей за ўсё зусім не звязаны з агульнай трактоўкаю фільма. І часта было такое, што і фільм забываўся, акрамя *той* асобнай сцэны, якая ўсё маячыла і маячыла перад вачыма.

Як сама рэальнасць.

І калі-нікалі думалася Макрыцкаму, што многія ломяцца на такія прагляды якраз з-за асобных *такіх* сцэн, якія пасля на адзіноце можна смакаваць, зусім не ўспамінаючы іншыя сцэны. Відаць, аб гэтым жа здагадваліся і стваральнікі фільмаў, інакш чым растлумачыць, што зараз амаль што ў кожным фільме ёсць *такія* адна ці дзве сцэны.

Як абавязковыя.

І ці не таму пасля праглядаў у гардэробнай часта чулася агульна-невыразнае:

— Здорава, якія доўгія планы!

— Стары, а ты заўважыў, якая высокая тэхніка здымак?

— А помніш, гэта сцэна развітання, калі яна рукой махае напаследак? Абалдзець можна...

— Не, стары, мысленне гэтага рэжысёра на галаву вышэй твайго. Такое арыгінальнае бачанне свету дадзена не кожнаму. Гэтаму нідзе не навучышся, гэта ўжо — ад бога...

Як быццам планы, доўгія ці кароткія, тэхніка здымак, асобныя сцэны і было галоўным.

І незразумела было Макрыцкаму, хто ж тут вінен: ці то сам быў ужо сапсаваны і не мог цэласна ўспрымаць тыя складаныя асацыятыўныя фільмы, ці то сапраўды тыя, «адзначаныя пячаткаю складанага таленту» фільмы прыносілі ў душу кожнага разлад і сумненне.

Гэты фільм быў пра касмічнае падарожжа. Як і ў жыцці, як і ў літаратуры, так і ў кіно ўсё часцей і часцей упаміналася гэтае прыцягальнае слова «космас», што найперш асацыіравалася з чорнай бяздушнай прорваю без пачатку і канца, у якой, як некалі чорта ў балоце, можна сустрэць што хочаш.

Тую ж незямную цывілізацыю, варожую і загадкавую, з якою, каб выжыць, трэба змагацца.

Макрыцкі дацярпеў да той сцэны, калі загадкавы спрут нечаканым імгненным рыўком скрозь скафандр умудрыўся абляпіць твар касманаўта — у памяць проста такі ўрэзаліся тоўстыя, тлустыя, з валосікамі шчупальцы, што непарушна прыліплі да белай скуры, хаваючы рот, нос, вочы...

У гардэробнай, апранаючы плашч, Макрыцкі бачыць Алега, які таксама выходзіць з залы.

— Ты што, стары? Што з табою? То нечакана звоніш, то во — збягаеш ад высокага мастацтва.

— Нічога. У мяне — сам ведаеш, бывае такое, находзіць. Я пайшоў, не крыўдуй. Пакуль...

На прыступках будынiны, цяпер ужо бязлюдных, яго зноў даганяе Алег — у куртачцы, у скураной «рэжысёрскай» шапачцы, насунутай на самыя вочы, ад чаго выгляд у Алега жулікаваты.

— Ведаеш, махнём мы зараз з табою ў кафэ. Я ведаю адно такое, маладзёжнае-балдзёжнае. А ўвогуле, браце, табе пара браць сябе ў рукі. Я гляджу, ты зусім распусціўся. Цябе, можа, з якой актрысачкаю пазнаёміць? Ці для пачатку хоць бы з мантажніцай... Яны, браце, таксама даволі часта пакрыўджаныя лёсам, як

знарок усё роўна — то разводныя, то зусім замуж не выходзілі. А ўсё таму, што мастацтва патрабуе ахвяр.— Алег перасмыкае ад холаду плячыма, яшчэ болей нацягвае на вочы шапачку і працягвае:— А то во давай для пачатку спортам зоймемся. У гэту суботу рванём на веласіпедах. Асфальт прасох ужо, можна каціць ды каціць. Момантам усякую дурасць з галавы выветрыць, павер мне, вот паглядзіш. Ты ганяў калі? — адчуванне, што Алег чамусьці баіцца цішыні.

А мо здагадваецца, што творыцца ў душы?.. Не хапала яшчэ шкадавання...

— Не, не даводзілася...

— А я ў маладосці ганяў. Нават на спаборніцтвы ездзіў. Я тады яшчэ вагаўся, чым заняцца ў жыцці. Помніш, як мы ў дзесятым спрачаліся, кожны сваё балота хваліў — от, дзеці яшчэ былі!.. І паверыш, якім я тады яшчэ дурнем быў, была ў мяне задума — калі ўжо ўсё талковае ў жыцці паадкрывалі, то хоць спортам заняцца. Цяпер ужо і не помню, чаму, адкуль такая ідэя фікс узнікла. Адзінае, што пэўна помню — не з-за шмотак... Можа, дзеля славы,— каб я вот, напрыклад, ішоў па вуліцы і на мяне пальцамі торкалі — глядзіце, гэта той, які абагнаў самога... І вот як цяпер помніцца... Паехаў я неяк на зборы. Ну, трэніровачкі да сёмага поту, усё, адным словам, як палажана. Ні глытка піва ў рот, ні цыгарэты — рэжым. Але, якім бы ты ні быў спартсменам, усё ж не здолееш усе дваццаць чатыры гадзіны ў суткі на педалі ціснуць. А потым што? А потым я неяк ляжу на ложку. У гасцініцы то было. Хлопцы з каманды рванулі ў горад. Я чамусьці не пацягнуўся з імі, лёг на ложак і гляджу ў столь. У гэту белую столь. Чую вечны пах гасцінічных нумароў. І — усё. І — стала сумна. Ты паверыш, за тыя некалькі хвілін я перадумаў, праўдзівей, адчуў такое, аб чым пасля не думаў і чаго не адчуваў за цэлыя гады. І як толькі ўявілася, што наперадзе гэткія ж белыя гасцінічныя нумары з іх вечным пахам, такія ж стандартныя ложкі, на якіх знаходзілі часовае прыстанішча гэтулькі людзей да мяне і колькі іх яшчэ будзе пасля мяне, як уявілася, што наперадзе гэткая ж роўная белая ці жаўтаватая пабелка на гладкіх, вокам не зачэпішся, сценах, чужыя гарады, дзе ніводнага знаёмага... І стала мне думацца, што ўсё далейшае жыццё будзе — як у камандзіроўцы... Пасля гэтага — як адрэзала. Так, як гаво-

рыцца, для сябе пачаў ганяць, дзеля здароўя. Ведаеш, спорт, як і п'янкі,— адразу кінуць цяжка.— Алег ніколі дагэтуль столькі не гаварыў. Ён ідзе побач і, павярнуўшы ў ягоны бок галаву, гаворыць і гаворыць. Як усё роўна яму абыякава, слухае яго Макрыцкі ці не...— Дык вот, я звычайна вечарамі ездзіў. Ты ж ведаеш, як мяне тады пачало жыццё шпурляць: то ў пажарнікі, то ў сантэхнікі... Жыў я тады ў раённым гарадку, у інтэрнаце, і пасля работы звычайна зрываўся. Харошая тады пара года была. Помню, у канцы жніўня то было, калі паяўляецца гэты восеньскі пах, які душу пераварочвае. Туманілася вечарамі і ранкам. І кожны надвячорак, калі я каціў па асфальце, я мінаў адну вёску. І там звычайна жанчына сядзела на лаўцы і нешта вязала. Мне чамусьці думалася тады і цяпер думаецца, што яна была адзінокая. І вот уяўляеш — сонца на захадзе, ліст, што б'ецца на галінах, жанчына на лаўцы, гэты халаднаваты ўжо восеньскі пах, і ўсё гэта плыве як скрозь цябе ўсё роўна, усё зліваецца ў штосьці такое шчымлівае... Я і не ведаю, ува што, можа, у тое, што называюць жыццём, што не трэба раскладваць, а мы, навукова разбіраючы ды раскладаючы на часткі, бурым усё, губляем... І яшчэ, ведаеш, над усім гэтым было пачуццё палёту, калі ты на поўным хаду з узгорка ў лагчыну, у гэты туман халаднаваты, што вісіць за вёскаю над зялёнай травою, як нарэзаны скрылямі... Стары, павер, якраз тады я хоць трохі вылечыўся, тады я стаў думаць, што ўсе нашы шматлікія пытанні пра сэнс і бяссэнсіцу існавання паяўляюцца якраз тады, калі мы забываем ці губляем нешта галоўнае ў жыцці. Дзеці не задаюць такіх пытанняў... У мяне тыя вечары і цяпер стаяць перад вачыма — і жанчына ля хаты, і луг у тумане... Яны ўсе зліліся ў нейкі адзіны вечар...

І толькі зараз у душы Макрыцкага лягчэе. Быццам дагэтуль яму ўсё нешта замінала і замінала дыхаць. Як на чужым далёкім беразе ракі ўяўляецца ўсё тое, пра што гаварыў Алег.

Як на беразе, да якога не можа дабрацца.

Хаваючы твар, выціраючы далонню вочы, Макрыцкі глуха пытае:

— А дзе тваё кафэ?

— Зараз. Мы тралейбусам падскочым. Тым болей

што там мне лішні раз не пашкодзіць пабываць. Я фільм надумаў зрабіць.

— Пра што?

— Пра дыскатэкі, якія зараз модныя, пра так званы адпачынак моладзі,— Алег, як нічога не заўважаючы, усё сыпле і сыпле словамі.

Які вялікі горад! Ён — пра гэта Макрыцкаму думаецца ўпершыню — здаецца бясконцым, здаецца, што ўжо ўсюды, куды ні памкніся, будуць высокія, да самага неба, цагляныя і блочныя будыніны, шэрасць асфальту пад нагамі, гулкія машыны, агароджы, агароджы і яшчэ — людзі, людзі, людзі... Здаецца, што ўжо ўсю зямлю забудавалі, пакрылі яе асфальтам на тысячы вёрстаў наўкола і ўжо нідзе не засталося роўнага бязлюднага поля, над якім гуляе вольны вецер, ці таго ж густога шумнага лесу, у якім, як вокам акінуць, тоўстыя камлістыя дрэвы падпіраюць лёгкія аблокі, якія нясуцца і нясуцца немаведама адкуль і немаведама куды, таго зялёнага, пахучага лесу, што нечакана можа абарвацца берагам плыткай рачулкі, прыхаванай кустамі алешніку, зарослай ля берага аерам і доўгай травою, дзе так вольна адчуваюць сябе вялікія і малыя рыбы... Як быццам ужо нідзе ва ўсім свеце не засталося ні птушак, ні палахлівага звера, ні тых жа рыб у вадзе, і таму без усяго гэтага, здавалася, не надта патрэбнага і неабходнага, душа апусцела.

## 20 гадзін

— Так-с, а зараз — слухай, уважліва слухай, дарагая мая.— Мальвіна выцягвае са скуранай сумачкі складзеную газету, разварочвае яе і ўслых чытае:— Калі вам надакучыла адзіноцтва і вы марыце мець дружную сям'ю, я магу прапанаваць вам сваё сэрца і пачуцці. Аб сабе. Адукацыя вышэйшая. Узрост — пяцьдзесят год. Рост — сто семдзесят пяць. Матэрыяльна забяспечаны, маю машыну і гараж. Пажадана, каб была бландзінка, не поўная, узростам не старэй сарака гадоў. Просьба высылаць фотаздымак. Пісаць па адрасу...

Мальвіна адводзіць позірк ад газеты, з усмешкаю разглядае Эму — так звычайна разглядаюць новы фасон плацця на манекене — і гаворыць:

— Ну-тка, падыміся, Эмачка, я на цябе добра пагляджу, ці падыходзіш ты да матэрыяльна забяспечанага. Калі падыходзіш — мы яму тут жа і фотаздымак вышлем. Адрас тут жа, у газеце.

У Эмы вочы становяцца круглымі-круглымі:

— Што ты гаворыш? Вот проста так і напісана? Я пра гэта чула раней, быццам бы такое практыкуецца на Захадзе. А што, ужо і ў нас ёсцека?

— Спакойна, спакойна, слухай, дарагая мая, не хвалюйся надта, мы таксама не лыкам шытыя,— усміхаецца Мальвіна і зноў чытае, як песню спявае:— Палюблю на ўсё астатняе жыццё самастойную жанчыну, якая марыць пра сямейны дабрабыт. Мне шэсцьдзесят год. Люблю тэатр і музыкальную камедыю, матэрыяльна забяспечаны, характар ураўнаважаны. Рост сто восемдзесят. Пісаць па адрасу... Як, будзем яму пісаць па адрасу ці не? — Мальвіна адрывае позірк ад газеты і глядзіць з усмешкаю на Эму.

— Божухна,— Эма гучна пляскае ў далоні,— дык з яго ж ужо недзе пясок сыплецца, а ён усё туды ж...

— Для каго, можа, і сыплецца, а для каго, можа, і не, у самы раз,— спакойна парыруе Мальвіна. Яна зноў глядзіць у газету:— Маладая арыгінальная жанчына дваццаці сямі год, якая цікавіцца турысцкімі паходамі, музыкай, характарам — вясёлая, бландзінка, жадае пазнаёміцца з мужчынам узростам не старэй за сорак год з мэтаю скласці сям'ю. Умее смачна гатаваць, вязаць, любіць вырошчваць кветкі. Адукацыя вышэйшая. Рост — сто шэсцьдзесят. Адрас... Ну, гэта не для нас...

— Госпадзі, а ёй чаго трэба? — зноў не вытрымлівае, пляскае далонямі Эма.— Дваццаць сем год мае і на табе — гатова пайсці замуж на трынаццаць год за сябе старэйшага. Яна што — пры сваім розуме? Ну, хай той, які на ўсё астатняе жыццё палюбіць, яму ўжо, як гаворыцца, апошні шанц, а гэта куды ляціць?

— Дарагая мая,— Мальвіна адводзіць ад вачэй газету і ўважліва, як на незнаёмую, глядзіць на Эму.— Ты, як я бачу, зусім ад рэальнага жыцця адстаеш і нічагусенькі, ну проста нічагусенькі не разбіраешся ў сучаснай абстаноўцы. Як міжнароднай, так і ўнутранай. Хоць я з табой і праводжу час ад часу неабходныя гутаркі, але, як я пагляджу ды падумаю...

— Як гэта — не разумею?

— А вот проста так. Ну, сама ты паспрабуй усё

ўявіць. Дапусцім, табе дваццаць сем. І ты — незамужняя. І за каго табе ісці замуж? За дваццацігадовага студэнціка? Не, за такога, канечне, ужо не пойдзеш. Калі што талковае, дык яго ўжо раней прыкмецілі, яшчэ з васемнаццаці год... Што табе на твой выбар астаецца? Ну, разводныя... Але ж і яны, я табе скажу, на дарозе не валяюцца, тут жа нарасхват падбіраюцца... Застаецца табе тое, што нікому не трэба,— гэтыя, што ля піўных ларкоў днём і ноччу мокнуць. Ну, дапусцім, табе пашанцавала, знойдзецца красаве́ц, не разводны, не п'яніца. Але што ж ты з ім рабіць будзеш, калі ў яго за душою нічога няма? А і адкуль яно паявіцца ў дваццаць сем год? Ён сам гол як сакол, у якім інтэрнаце сядзіць ды ў акно глядзіць. Калі толькі — бацькі памогуць з кааператывам, а так... Ну, усё ж, дапусцім, у цябе каханне вялізнае, жыць без таго красаўца не зможаш. Выскачыш ты за яго. Значыць, тут жа з інтэрната выпісвайся і на прыватную шуруй. Але ж і там, на прыватнай, за ягоныя сто пяцьдзесят не разгуляешся. А тым болей — дзіця паявіцца, сама ты ў дэкрэтным будзеш. Галаву табе даю на адрэз, дарагая мая, ад твайго палкага кахання толькі дым застанецца. Гэты пісаны рай у шалашы маментам знікне. Так што, дарагая мая, за каго табе лепш пайсці зараз? А вот якраз за такога і трэба бегчы ўгрунём: у якога і кватэра ёсць, і да кватэры, і пасада адпаведная. Хай сабе і разводны, хай сабе і пажылы, але ж затое — ён жыццё ведае, ён ваду, агонь і трубы медныя прайшоў, каб атрымаць гэту кватэру і пасаду, з ім ты будзеш жыць-пажываць, як за каменнай сцяною. Так што тут, у аб'яве,— усё правільна, тая бландзіначка ўсё верна разлічыла. Цяпер у нармальных сем'ях жонка, як правіла, год на дзесяць маладзей за мужа. А ў вялікіх гарадах, дык і на дваццаць год розніцаю нікога не здзівіш. І ніхто ад гэтага ў асадак не выпадае. Так што здзіўляцца, я табе далажу, нечага. Думаць трэба. Не эмоцыямі жыць, а найперш добра думаць, перад тым як замуж ісці. Ты забываеш, у якім веку жывеш, дарагая мая.

— Дык што ж, мне ўжо нічога не застаецца, як пісаць слёзнае пісьмо таму, які палюбіць на ўсё астатняе жыццё? — усміхаецца Эма.

— А што зробіш, дарагая мая,— гэтаксама ўсміхаецца Мальвіна і, крывячы вусны, зацягваецца цыгарэтаю. Выпускаючы дым, яна гаворыць:— Што зробіш,

калі сапраўдных самастаяцельных мужчын малавата. Закон прыроды, супроць яго нічога не папішаш. Усё гэта — аб'ектыўная рэальнасць. Некалі было... У Талстога таго ж... Левін, Балконскі. У іх жа — чаго толькі не было. Я табе скажу, чаму Анна Карэніна пад цягнік кінулася. Пра гэта не гавораць, але я табе скажу. Ёй жа — жыць не было за што. Ты разумееш мяне: куды яна магла пайсці ад Вронскага?..

Паклаўшы на час у сподак цыгарэту, Мальвіна акуратна складвае рыжскую газету, кладзе яе на стол,— мяркуючы па выгляду, газета гэта пабывала ўжо ў шмат якіх руках. Затым Мальвіна зноў зацягваецца цыгарэтаю і, гледзячы ў акно, за якім ужо свецяцца гарадскія агні, паволі выпускае дым. Нияк кольцамі, як толькі яна ўмее.

Мальвіне трыццаць пяць год, і яна яшчэ ні разу не выходзіла замуж. Магчыма, калі б Мальвіна не мела кватэры і жыла ў якім заводскім інтэрнаце, то яна і вымушана была б кінуцца ў гэты вір, як сама называе сямейнае жыццё. Але ўсё зводзіцца да таго, што добраахвотна лезці ў той вір няма вялікай патрэбы. У Мальвіны ёсць кватэра, хоць і не асобная, з бацькамі разам, але ўсё ж — кватэра, ёсць побач маці-пенсіянерка, якая пакуль можа згатаваць сняданак і вячэру, перамые што з адзення, ёсць бацька, які хоць і на пенсіі, але ўсё яшчэ ходзіць на работу і таму, скажыце, паклаўшы руку на сэрца,— ці варта мяняць гэты звыклы спакойны ўклад жыцця, ці варта рызыкаваць сваёй свабодаю, калі, згодна статыстыкі, столькі сямей даюць трэшчыны, каму патрэбна гэта пяцідзесяціпрацэнтная гарантыя свайго будучага шчасця, калі ўжо цяпер без ніякай рызыкі ёсць нехта ля рук, з кім можна сустракацца, а можаш і не сустракацца — як душа твая пажадае, калі цяпер ёсць ціхія вечары, пад час якіх, спакойна ўладкаваўшыся на канапе, у мяккім святле таршэра можна прачытаць новы грандыёзны раман з замежнага жыцця, калі цяпер, наведваючы тэатральныя прэм'еры і гастрольныя выступленні ансамбляў, наведваючы розныя выстаўкі, у любы міг, нават і на вуліцы сярод тлумнай мітусні, можаш сустрэць нешта больш цікавае, што маецца ля рук...

Вось так непрыкметна і мільганулі гады, у гэтым раўнамерным, спакойным пакалыхванні між работаю і домам, дзе ўтульная цішыня, вечна заклапочаная ма-

мачка, тэлевізар і кнігі... І яшчэ былі летнія адпачынкі ў турпаходах, дзе чуўся лёгкі звон гітары, вясёлы смех, дзе бачыліся нізкія і як ніколі яркія зоркі над галавою, дзе была лёгкая палатка, дужая мужчынская рука, якая падтрымлівала цябе на вузкай сцяжыне, і яшчэ над усім гэтым вітала пачуццё той лёгкасці і ўсёдазволенасці, якога няма ды і не можа быць там, дома. Ці на той жа знаёмай рабоце сярод знаёмых супрацоўнікаў.

Бо ўсё тут, у турпаходзе, было амаль гэтак жа, як у тых *грандыёзных* раманах, якіх гэтулькі за зіму прачытана.

І толькі зараз нечакана Мальвіна адчувае, што *нешта* праляцела, прамчалася міма яе жыцця, міма яе лёсу. Назусім, навечна яно мільганула. І яна не ведае пакуль, шкадаваць аб гэтым ці радавацца. І мо таму Мальвіна ўсё глыбей і глыбей зацягваецца цяжкім цыгарэтным дымам, неяк пільна нерухома гледзячы перад сабою. І ўсё сушэйшы і больш халаднаваты яе ўчэпісты позірк, усё выразней праразаюцца маршчынкі ля вачэй і ля куточкаў рота...

— Сталыя мужчыны...— паўтарае Мальвіна праз пэўны час, калі на стале стаіць адкаркаваная бутэлька марачнага віна. Мальвіна прыгублівае шклянку з віном і, гледзячы на прыгожую каляровую этыкетку, пацíху гаворыць у роздуме:— Зараз, куды ні ткніся, усюды мы, жанчыны, жанчыны... На выстаўках, на экскурсіях, у тэатрах, я ўжо не ўпамінаю пра турпаходы... А тыя ж навукова-даследчыя інстытуты на чыіх плячах трымаюцца? Яны ж там толькі кіруюць, а работу хто цягне? І яшчэ яны абураюцца, яны яшчэ нешта спрабуюць даказаць! А чым яны хочуць даказаць? Пачнеш з каторым гаварыць — вушы вянуць... Ён кнігу раз у год бачыць. І то — гэта ўжо калі надта прыпячэ, тэхнічную. Абляніліся саўсім. Але ж апломбу, апломбу колькі, пыхі той, не падыдзі, не падступіся, ён жа — вусы носіць, ён жа — мужчы-на...

Заўсёды, калі Мальвіна прыходзіць у госці да Эмы, з чаго б яны ні пачыналі гамонку, але неяк непрыкметна яна зводзіцца на гэтых бесталковых *мужчын*, якія так многага не разумеюць і не адчуваюць у жыцці,— тая гаворка, за якой маячыць нікому не выказаны сум і туга па тым страчаным, у чым пакуль і самім сорамна прызнавацца, бо, што ні гавары, а ёсць, маецца і пачуццё сваёй вінаватасці. Толькі вот у чым — невядома. І таму,

як гэта заўсёды вядзецца, лягчэй за ўсё заняцца абвінавачваннем.

Вось, нарэшце,— тая хмельная лёгкасць, якой амаль не бывае ў гэтым разважлівым цвярозым свеце, у якім, чым хутчэй і болей энергічна пачынаеш шукаць гэтую лёгкую бесклапотную радасць, хапаючыся аберуч за фарбы, лакі, імпартныя туфлі, джынсы, кофтачкі, сумачкі, кулончыкі, шматсэнсавыя позіркі, экскурсіі, разумныя лекцыі і размовы, якія ўсё на свеце растлумачваюць, грандыёзныя раманы і аповесці, фільмы і спектаклі, шматлікія знаёмствы,— чым болей і хутчэй за ўсё гэта хапаешся, тым далей аддаляешся ад лёгкай бяздумнай радасці і ўсё болей адчуваеш сябе, як на бязлюдным востраве, акружанай у рэшце рэшт усім, за што некалі выратавальна хапалася і што цяпер зусім непатрэбна...

Пазней ім абедзвюм лягчэе, і вось у душы тваёй, як гаварыў старына Хемінгуэй, штосьці выпростваецца, выпрамляецца, і цяпер неяк сам сабою паяўляецца няпрошаны смех, і зусім не думаецца, што такім лёгкім і кароткім, аказваецца, можа быць шлях да доўгачаканай лёгкасці і весялосці, якіх так не хапае...

— Ха-ха-ха, Эмачка, я табе зараз раскажу адну дзіўную гісторыю. Ты ад яе проста ў асадак выпадзеш. Абалдзееш. Паслухай толькі. Значыць, так, як у той казцы ўсё... У нашым аддзеле ёсць Клара. Жыла яна адна, без мужа, праўда, дзіцё ў яе ёсць. Ніхто ўжо і не думаў, што яна выйдзе замуж. А ў суседнім аддзеле быў мужчына. У гадах, самастойны. Разведзены, праўда. І вот яны жылі-пажывалі так шмат год. І хоць адно аднаго ведалі, але не сустракаліся. Ну, калі толькі — па рабоце. І вот аднаго разу быў дзень нараджэння ў нашай Клары. Запрасілі таго-сяго. І нехта там дзеля смеху надумаўся таго мужчыну запрасіць. Ну, як гавораць, каб духам мужчынскім за сталом пахла. І — не паверыш мне — на тым вечары ён, відаць, упершыню па-сапраўднаму яе добра разгледзеў. За дзесяць год на рабоце не мог разгледзець, а тут — за адзін вечар. Праз тыдзень пасля таго вечара яны заяву ў загс занеслі. Але гэта — не галоўнае, што я табе хачу сказаць, не, зусім не галоўнае, зусім не гэта,— пачырванелая, памаладзелая Мальвіна, сама таго не прыкмячаючы, махае перад сабою рукою і ўсё смяецца. І сапраўды, як усё дзіўна ў гэтым жыцці, як усё дзіўна! — Галоўнае, што я перад гэтым днём нараджэння Клары на руцэ варажыла. Па лініях

лёсу. І яна — тады не верыла мне. А я ёй сказала тады, што Клара выйдзе хутка замуж. Уяўляеш, яна тады не верыла мне, смяялася з мяне.

Ах, як гэта ўсё дзіўна!

Эма глядзіць на Мальвіну і таксама ўсміхаецца. І хочацца ёй сказаць: «Мальвіна, вазьмі маю руку. Левую. І скажы, ці хутка...» — І — боязна.

Як і боязна гаварыць пра сённяшняе нечаканае незапланаванае знаёмства. А раптам, а раптам...

Нарэшце пад усё той жа рашучы перастук ударнікаў на экране пачынаюць паўзці знізу ўгору цітры... Затым успыхвае яркае святло ў глядзельнай зале. Людзі падымаюцца з крэслаў і прыстройваюцца ў чаргу да выхада з залы. Віталя таксама падымаецца.

Перад вачыма ўсё яшчэ спявачка ў чырвоных штоніках. Яна вытанцоўвае на вялізным барабане і, пад рытмічную музыку, звонка спявае:

— Барабан был плох, барабанщик — бог. Ну а ты была вся лучу под стать...

І тое, што спявачка стаіць перад вачыма, у гэтым Віталя цяпер не вінен, тут ён нічога з сабою не можа зрабіць, нават пры ўсім жаданні...

І нават тады, калі Віталя выходзіць з кінатэатра і ўліваецца ў суцэльную людскую плынь, што струменіць па тратуары, нават і тады ў ім не знікае гэтая песня.

Вось і аўтобусны супынак. Зараз, калі рабочы дзень скончаны, аўтобусы амаль што паўпустыя,— пакалыхваючыся, бы караблі на вадзе, яны падкочваюць да супынку, з шыпеннем адчыняюцца дзверы, людзі заходзяць у іх, і вось — аўтобусы знікаюць у вячэрнім прыцемку, які ўсё смялей і смялей ціснецца да асфальту, да плоскіх стрэх тых высокіх будынін, у вокнах якіх загараецца прывабнае зыркае святло. Гледзячы ўслед вялікім карычневым аўтобусам, Віталя нарэшце пачынае думаць пра штосьці іншае, што нагадвае рух гэтых імклівых аўтобусаў у вячэрнім прыцемку. Толькі вот што? І між тым усё яшчэ гучыць і гучыць:

«Барабан был плох. Барабанщик — бог... Ты, судьба-а, барабань на всю планету...»

Ага, вось што... Гэту круглую планету, якая гэтаксама імкліва нясецца ў чорным космасе, круцячыся вакол

сваёй нахіленай восі і ў той жа час вакол сонца і разам з сонцам нясецца яшчэ далей, вакол таго ядра галактыкі, што чалавечаму розуму і ўяўленню немагчыма ўявіць,— між чорных дзірак намерамі ў мільёны светавых год, якія штосекундна ўсмоктваюць у сябе ўсё, бясследна, бязгучна, у тое загадкавае *нішто* і зорнае святло, і той жа метэарытны пыл, і каметы, і тыя ж шматлікія электрамагнітныя хвалі, ды ў рэшце рэшт і зыркія зоркі з планетамі, разам з гравітацыяй, не ўпамінаючы аб зялёных лугах, што раскінуліся ля невялічкіх вёсачак, вялізных гарадах ці тых жа марскіх хвалях, што з шоргатам рытмічна накочваюць на пакаты бераг, а тым болей з усім, што можа весяліцца і спяваць:

— Ты-ы, судьба, барабань на всю планету...

Вунь і ягоны аўтобус. Аўтобус ідзе ад вакзала. І тут толькі, убачыўшы знаёмы нумар, Віталя ўспамінае пра нечаканы званок Наташы. Дагэтуль, у глядзельнай зале, ён пра Наташу і не ўспамінаў. Зусім забыўся. Як з памяці выскачыла... Апошні год такое бывае не раз— начыста забываеш пра нейкія абавязковыя званкі, размовы, сустрэчы, як пра тыя, якія былі, так і пра будучыя, забываеш пра абяцанні самому некаму пазваніць, забегчы на хвілінку, памагчы ў нечым, нешта зрабіць, толькі не сягоння... І — незразумела, ці то таму так, што не хапае часу, ці то проста — стамляешся ад усяго гэтага, што звязвае цябе нябачнымі сеткамі, з якіх ніяк не можаш вырвацца. Што паробіш — горад, вялікі горад, калі на ўсё пачнеш рэзка рэагаваць, стомішся тут жа, праз тыдзень. І таму не дзіўна, што забываеш на многае і на тое ж новае знаёмства, на новыя адносіны глядзіш як на нешта часовае, зусім не звязанае з табою, неабавязковае, бо пэўна ведаеш, што такіх ці амаль што такіх знаёмстваў, адносін будзе яшчэ ой-ёй-ёй колькі!.. І таму — спакайней, спакайней, гарачы таварыш, не кіпяціся і не гарачыся.

...І таму зусім не здзіўляйся, што і цябе часта забываюць.

Ускочыўшы ў аўтобус, Віталя садзіцца на пустое сядзенне. Па звычцы хутка азіраецца па бліжэйшых людзей. Людзей у аўтобусе мала. Наперадзе дзве пажылыя жанчыны, амаль што бабулькі. Чуецца іх вясковая размова,— як і многія старыя, якія ўсё жыццё пражылі ў вёсцы, яны гавораць гучна, ледзь не на ўвесь аўтобус.

Быццам на лаўцы перад хатаю сядзяць і побач — ніводнага чалавека.

Відаць, да ўсяго ж, абедзве бабулькі глухаватыя, мусіць, адна з іх жыве тут, у горадзе, у сына ці ў дачкі зімавала, як птушка ў выраі, а другая — прыехала ў госці, адведаць, як жывецца. А можа, і па якой пільнай справе — хто іх ведае, гэтых старых, не сядзіцца ім на цёплай печы.

— Значыцца, тады гэты Міколка, вочы гарэліцай заліўшы, за тапор ды за ёю, няшчаснаю... Ну, а пасля, значыцца, калі ён *гэта* зрабіў, ён, відаць, адумаўся, у галаву ўзяў, ды позна было. І вот ён тут жа, у той жа вечар, у сасоннік за сялом пайшоў і пятлю сабе з рамня змайстраваў. Тры дні шукалі і ніяк не маглі знайсці. Вот, мая маладзічка, як усё гэта было. Я табе як на духу скажу. Так што няма міру і ў нас. Ой, нямашака. Як які чорт цяперашнім чалавекам круціць, то — туды яго тузане, то — сюды... Пакуль гэты чалавек на сябе рукі не накладзе. Ну, даўней, дапусцім, галадалі, а зараз жа — нечага богу грашыць, хлеб ёсцека, грошы — ёсцека, жыві чалавеча ды радуйся. Дык жа не... І чаго не хапае чалавеку?

— А я табе скажу, адкуль гэта ідзе.

— Ну, скажы, скажы мне, мая маладзічка.

— Гэта чалавеку душа за сябе помсціць. Забыўся чалавек пра сваю душу, вот яна і помсціць яму за гэта. Чалавек жыве не толькі целам, а і духам. Целам толькі свінні жывуць ці тыя ж куры. Заганарыўся чалавек сваёю сілаю, наеўшыся ўдосталь, думаць пачаў, што яму ўсё дазволена. Вот так і выходзіць, што ён цяпер зусім пра душу забыўся. І як толькі ён забыўся пра яе, тут жа і нянавісць паміж людзей пайшла. Вот як яно палучаецца.

Потым, глянуўшы ў акно, старая гаворыць:

— Вой, Ганулечка, гэта ж нам ужо вылазіць трэба. Пойдзем, мусіць.

— Ага, пойдзем, пойдзем...

Старыя падымаюцца і, асцярожна пераастаўляючы ногі, прыхаваныя доўгімі спадніцамі, сунуцца да выхада.

Віталя глядзіць на іх — ва ўсёй іх паставе, паходцы ды і ў той жа гаворцы бачыцца нешта старое, аджылае, у якое зараз ніяк не ступіш, а можаш толькі пазіраць здалёк, крыва ўсміхаючыся. Думаецца, што разам з вось гэтымі старымі адыходзіць нейкі цэлы свет, у які

ўжо ніяк не ступіш. Добры ён, дрэнны — гэта ўжо іншая рэч, але вось так, як гэтыя старыя, ты ўжо не пражывеш.

Ніколі не зможаш. Пры ўсім жаданні.

— Ты-ы, судьба-а, барабань на всю планету...

Праз пару супынкаў Віталя выходзіць таксама. Вось і знаёмая памятная пустка, вось і паварот — дзе зараз тыя ўчарашнія, можна сказаць, забулдыгі, дзе яны?.. А вунь і знаёмы пад'езд.

Знаёмы пах, што ідзе з падвалаў, другі паверх, чырвоная кнопачка званка.

Гэты пах, гэты непрыемны пах, што зараз так ідзе з падвалаў, з той жа дзіркі ў трубе, куды звычайна высыпаюць смецце.

Дзверы адчыняе Наташа.

— Заходзь, Віталя.

Усё тое ж перад вачыма, як і мінулы раз: яркая каляровая дарожка ў калідоры, жаўтавата-карычневая чаканка на сцяне, белыя дзверы ў пакой Наташы, дзе ўсё тая ж канапа, стос разумных кніг, якія могуць даваць парады амаль на ўсе выпадкі жыцця, часопісны столік з настольнай лямпаю, цяпер уключанай, бо акно занавешана шторамі.

Наташа нячутна праходзіць следам, садзіцца на канапу і, прыгнуўшы галаву, пачынае плакаць,— як быццам такое дагэтуль не магла зрабіць.

Што з ёю такое?

— Ну, што здарылася?

— Віталя, я такая няшчасная... Віталя, чаму ўсё так выходзіць, што ў мяне яшчэ з маленства?.. Я думала толькі пра сцэну, я спадзявалася... А ён, а ён аказаўся такі грубы і нахабны...

Віталя падымаецца з крэсла і садзіцца на канапу побач з Наташаю. Ён бярэ яе за плячо і прыхінае да сябе. Наташа сама хінецца да яго. Гэта ўжо зусім незразумела...

— Ты можаш мне спакойна растлумачыць, што сягоння здарылася? — ён стараецца гаварыць ціха і роўна, як з малым дзіцем. Толькі так і не інакш трэба зараз з ёю гаварыць. І між тым трывога ўжо закрадваецца ў душу. Здарылася з Наташаю нешта такое, што чапляе і яго. Не толькі яе, а і яго. І гэта, можа, галоўнае. І, як заўсёды ў такіх выпадках, нешта нядобрае паяўляецца ў душы. Шкадаванне таго, што звязаўся з ёю, ці што?

— Я думала, што ён не такі. Мы спачатку толькі гаварылі і нават спрачаліся. Тут, у мяне, мы былі. Мы доўга-доўга гаварылі. Пра ўсё на свеце. Найспачатку болей пра мастацтва. І ён... Ён жа абяцаў мне ролю. А тады... Ах, Віталя, няўжо ўсе мужчыны такія аднолькавыя? Ён аказаўся такі грубы. І я... Я не магу яго больш бачыць. Віталя, скажы, што мне зараз рабіць? Як ён мог пайсці на такое? Ён жа — усё ведае, ён такі разумны, ён — рэжысёр вышэйшай катэгорыі, у яго — прызы і дыпломы. І тут, побач, у ім такое нахабства. Ён скарыстаў сваю сілу. Я ніколі не думала, што ў чалавеку ўсё гэта можа сумяшчацца. Гэта ж — мастацтва, Віталя, нешта святое... Калі б ён быў бяздар, гэта было б іншае, але ж я сама на свае вочы бачыла ягоныя работы. Віталя, скажы мне, скажы? Толькі не маўчы зараз, прашу цябе, не маўчы, мне так балюча,— яна ў рэшце рэшт адводзіць пальцы ад мокрага тварыку.

Віталя нечакана ўсё разумее.

Ён павольна, уважліва, як упершыню, абводзіць позіркам гэту канапу з мятым пакрывалам, гэтыя кнігі, шторы на вокнах,— відаць, гэтыя вокны былі сягоння заштораныя цэлы дзень — і, нарэшце, Віталя адважваецца праз сілу зазірнуць Наташы ў твар.

Яна зараз зусім не такая, якой была дагэтуль. Гэтыя мокрыя маленькія вусны, невялічкія, без броваў, вочкі... Няўжо яна гэтыя бровы вышчыпала? Рэзка і ясна, як праз павелічальнае шкло, Віталя бачыць зараз штосьці разгублена-аморфнае, што хоча быць ля яго. Зараз, а не тады, учора...

— Ты не глядзі на мяне так, я — непрыгожая зараз,— яна закрывае далонню рот. Яна баіцца паказацца на людзях не падфарбаванаю. Дажылася! Яна гэтага баіцца. Яна баіцца сваёй сутнасці. Ёй выгадней і лягчэй жыць не ў рэальным свеце, а ў тым, прыдуманым...

Віталю ўспамінаецца ўчарашні вечар,— штосьці нядобрае і злое паяўляецца ў ягонай душы — дзіўна нават, што яго так абразіла? «Пры чым тут я зараз?» — думае Віталя.

— Ну, Наташа, перастань. Ідзі вымыйся. Пасля халоднай вады табе адразу ж стане лягчэй.— Ён асцярожна гладзіць яе мяккія валасы, пафарбаваныя ў сівы колер.

— Якая я ўчора была дурніца, Віталя. Зараз я зраблю ўсё, як ты скажаш. Ты сягоння застанешся, праў-

да, Віталя? — усё прыкрываючы далонню рот, яна глядзіць на яго круглымі маленькімі вачыма, у якіх стаяць вялікія празрыстыя слёзы.— Я зараз не магу быць адна. Не магу, Віталя.

Яму цяпер стае крыўдна, аж балюча. Нават і цяпер, пасля ўсяго, што ў яе было з тым геніяльным рэжысёрам, нават і цяпер яна ўмудраецца прынізіць, абразіць яго. Яго, з ягоным разуменнем складанасці гэтага свету.

Ён глядзіць на яе ногі,— ад чырвоных пазногцікаў і — вышэй, дзе расшпілены — знарок ці незнарок? — халацік, глядзіць на яе постаць, якая ўжо наліваецца паўнатою, якой звычайна наліваецца жаночае цела год пасля дваццаці.

Тады Віталя падымаецца,— з усё тым жа халоднаразважлівым помслівым пачуццём, якое паявілася ў душы пасля яе маналогу.

— Не, я сягоння не застануся, я пайду сягоння сам.— Яму хочацца дадаць: «Я пайду назусім»,— але, гледзячы на яе твар, на яе маленькую слабую далоньку, што хавае рот,— як у дзіцяці тая далонька — ён стрымлівае сябе і гаворыць іншае:— Мне проста сягоння абавязкова трэба быць у другім месцы. Калі б ты пазваніла мне раней, а то, як сама разумееш, я ўжо дамовіўся, паабяцаў сустрэцца. Няёмка будзе, чалавек чакаць будзе. Я потым, праз дзень-другі, пераззваню табе на работу. А ты — зараз супакойся. Давай лепей чаю вып'ем. Можаш моцненькага чаю заварыць? Можаш? Ну, вот і лады, вот ты і малайчына. Заадно мы яшчэ і пагаворым.

І зараз Віталя ведае, што ўчарашняе будзе працягвацца і сягоння, толькі зараз ужо — з ягонай перавагаю. І таму зараз — зусім іншы настрой і паводзіны. Як яго, так і Наташы.

Вось і пад'езд знаёмы, вось і дзверы знаёмыя...

Раман Барысавіч зачыняе за сабою дзверы — гучна і прыемна для слыху шчоўкае англійскі замок. У дзвярах Рамана Барысавіча два замкі. На гэтыя два замкі дзверы звычайна замыкаюцца, калі кватэра пакідаецца надоўга. Зараз пайшлі чуткі пра шматлікія кватэрныя кражы, так што гэтыя замкі не пашкодзяць.

І яшчэ тыя дзверы абабіты дэрмацінам, але не знадворку, як у многіх, а з сярэдзіны. Магчыма, гэта і не

так эстэтычна, але больш надзейна,— цяпер, пакідаючы кватэру, можна быць спакойным, што той дэрмацін ад нечага рабіць ніхто не пашкамутае, не парэжа і не парве...

Як і звычайна пасля прагулянкі, настрой у Рамана Барысавіча роўны і ціхі. Канечне, так і трэба жыць: як мага цішэй і спакайней, без лішніх нерватропак. А тое, што бывае на рабоце, тыя вечныя спрэчкі з Разорчыкам, не павінна хваляваць, яно павінна быць такім, каб пасля работы ты мог адразу забыць, выкінуць з памяці ўсё тое, табе непатрэбнае, з-за чаго другіх трасе і калоціць... А калі ўспамінаць, то толькі — з усмешкаю, як пра нешта чужое і далёкае.

І ўсё гэта — вялікае майстэрства, не кожнаму ўдаецца так жыць, але Раману Барысавічу пакуль удаецца...

З кухні цягне прыемным смачным пахам. Як і заўсёды, Рыта робіць у час сваю работу. Мо таму, калі ні паявіся, дома адчуваеш гэты смачны прыемны пах, якім цягне з кухні, бачыш крыху памятыя палавічкі на падлозе, адзенне і абутак у прыхожай — усё гэта здаецца зваленым без толку, бачыш у зале пастаўленыя не на сваім месцы крэслы, кнігі, што раскіданы ўсюды,— як ні дзіўна, але ўсё гэта сведчыць пра здаровы ўтулак і спакой, якіх часта не хапае ў гладка адпаліраваных і прыбраных пакоях, у якіх усё на сваім месцы, як у тым музеі, акрамя гаспадароў, якія здаюцца лішнімі. Хоць іх у калідор выстаўляй. Гаспадары самі пра гэта цудоўна ведаюць, яны проста такі адчуваюць гэта і таму з нейкай вінаватасцю ў позірку ходзяць з пакоя ў пакой, не ведаючы, дзе прысесці і за што зачапіць свае непатрэбныя рукі...

Жыццё, жыццё...

Не кожнаму грэшнаму ўдаецца спасцігнуць тваю сутнасць, не кожнаму. Раман Барысавіч гэта ведае, ён за свае гады шмат чаго бачыў, шмат чаго перажыў і цяпер пэўна ведае, што, маючы сініцу ў руцэ, ні ў якім разе не трэба рвацца за жураўлём у небе, бо тады, як толькі пачнеш рвацца, не тое што сініцу з рук выпусціш, а і адразу ж наклічаш на сваю галаву тыя невядомыя нязнаныя беды, якіх ты ніколі не ведаў, пра якія ты і не чуў ніколі. Як у Разорчыка ўсё будзе: сядзеў бы чалавек у вёсцы, калупаўся б у зямлі ці ля той жа жывёлы ўвіхаўся б — шчаслівы быў бы, дык жа не, мала гэтага яму, сюды, у горад, папёрся... Што ж, не крыўдуй, няма

на каго крыўдаваць, дарагі Разорчык, сам ва ўсім вінаваты...

І здаецца Раману Барысавічу, што ягонае цяперашняе жыццё — гэта найлепшы варыянт з усіх шматлікіх варыянтаў. І таму нечага лішне ламаць галаву.

Павесіўшы плашч на вешалку, насунуўшы на ногі шлёпкі, Раман Барысавіч праходзіць у залу, дзе стаіць у куце каляровы тэлевізар. Каляровы тэлевізар Раман Барысавіч, хоць і сам спецыяліст, не купляў у магазіне, а ўзяў напракат — гэта нашмат выгадней ды і, як ён меркаваў, год праз пяць павінны быць у вытворчасці нашмат лепшыя мадэлі, спяшацца не варта, тут амаль гэткая ж сітуацыя, як і з тымі першымі мадэлямі тэлевізараў... На канапе сядзіць Рыта. Яна штосьці вяжа і ў той жа час пазірае на экран.

— Што там сягоння цікавага паказваюць? — Раман Барысавіч з прыемнасцю апускае сваё паўнаватае цела ў мяккае крэсла. Як і заўсёды пасля прагулянак, цела здаецца залішне важкім, прыемна гудуць ногі. Так і трэба, каб у целе была прыемная стома. Рэжым, галоўнае — вытрымліваць правільны рэжым, і тады будзеш доўга жыць.

Будзеш доўга жыць.

Усё правільна, так яно і будзе. Нездарма Талстой казаў, што да свайго цела чалавек павінен ставіцца так, як добры работнік адносіцца да прылады працы. Усё правільна, калі так будзеш адносіцца, то і жыць будзеш доўга.

...Калі Разорчык чагосьці не наблытае. Такія во, як Разорчык, толькі і ўносяць у жыццё блытаніну...

— «Вакол смеху». Перадача такая новая. Помніш, мы неяк яе глядзелі. Яна тады табе спадабалася. Смяяліся цэлы вечар.

— Што ж, перадача харошая, можна і паглядзець.— Раман Барысавіч пазяхае і яшчэ ямчэй уладкоўваецца ў мяккае крэсла. Цяпер — расслабіцца трэба.

А і сапраўды, чаму не пасмяяцца над гэтымі слабымі вершыкамі, у якіх каторы раз мусоліцца даўно набіўшае аскому: пра гэтыя росныя лугі, пра гэтыя вёскі, што хаваюцца ў туманах і ў якіх як быццам хаваецца спрадвечная мудрасць і прастата... Ведаем, добра ведаем мы гэтую лапцюжную мудрасць! Як быццам бы горад ва ўсім вінаваты. Ніхто за каўпер у горад не цягне, самі бягуць, а тады лямантуюць. І як гэта ўжо надакучы-

ла, адно і тое ж, адно і тое ж — гэтыя заштампаваныя росы, косы і пракосы! Дакуль гэта будзе цягнуцца?

Калі на экране паказваецца тонкі высакаваты вядучы — у яго акуратненькія, чорненькія, вузкія, у палец, вусікі, тонкія вусны, якія расцягваюцца пад час гаворкі ў мудрую ўсмешачку,— Раман Барысавіч мімаволі ўсміхаецца. Як добраму знаёмаму.

— Вы толькі што праслухалі задушэўную гутарку нашых старых знаёмых, Аўдоцці Нікіцічны і Веранікі Маўрыкіеўны. Я думаю, што вы засталіся задаволеныя іх размоваю. А зараз я пазнаёмлю вас са сваім калегам гумарыстам. Я пакуль і сам не ведаю, што ён вам скажа, можа — пра сябе, як заканчваў тэхнічны інстытут, а магчыма, пра сваю творчасць. Дарэчы, ён ужо даволі ўдала дэбютаваў на шаснаццатай старонцы паважанай усімі намі, любімай газеты. І вось зараз... Прашу вас, Аркадзій.— Канферансье рукою запрашае калегу гумарыста.

На сцэну выходзіць зусім малады хлопец і пачынае хутка, дзелавіта гаварыць:

— Іду, значыць, я, гляджу — даюць нешта. Чарга. Я тут жа, доўга не думаючы, у хвост станаўлюся. Пасля пытаюся, што даюць? Кажуць, пакуль не ведаем, самі стаім. Стаю і я. Гадзіна праходзіць. Чакаю. Другая. Чакаю. Гляджу, за мною ўжо з дзесятак стала. А там, наперадзе, ужо крычаць пачынаюць: па дзве пары давайце. Я, канечне, таксама голас падаю,— не болей дзвюх, каб усім хапіла.

Прыглядаючыся пільней да аблічча калегі вядучага, Раман Барысавіч прыкмячае, што той — не такі і малады, проста ў ягоным абліччы, як і ў паводзінах, шмат таго маладога і дзёрзкага, што многія губляюць з набытымі гадамі. І ў позірку, і ў хуткіх словах, і ў жэстах гэтае маладое адчуваецца. Раман Барысавіч задаволена ўсміхаецца, вось так і трэба: востра, са смехам, па-нашаму. Харошая гумарэска. Як і яе аўтар, што трымаецца на сцэне перад тэлекамерай надзіва спакойна і тактоўна.

Быццам ён і нарадзіўся перад гэтай тэлекамерай.

А наперадзе яшчэ — пародыі, якія з пейкай нават сарамлівою ўсмешкаю будзе чытаць гэты высокі вядучы, афарызмы, лаканічныя і вытанчаныя, як гладкія арэшкі, іх можна па аднаму лёгка кідаць у глядзельную залу, дзе шмат дзяўчатак і хлопцаў з наіўнымі адкрыты-

мі вачыма, якія толькі і чакаюць не проста нешта смешнае, а нават лёгкага намёку на смешнае, здаецца, што зараз пакажы палец і яны выбухнуць моцным вясёлым смехам, тым маладым бяздумным смехам, які неяк сам сабою наяўляецца ў дваццаць год і прычыну якога потым, праз год-другі, так і не ўспомніш. Будуць яшчэ пародыі на песні, на гэтае старое працяжнае, цяпер ужо зусім нямоднае «ох, хадзіла, матухна, па расе...».

Можна, ой можна пасмяяцца ў час гэтай перадачы! Кажуць, што пяць хвілін смеху раўнацэнна ста грамам масла ці мяса. Якія там грамы, тут, калі пасмяешся добра, цэлыя гады сэканоміш. Бо дзе зараз пасмяешся, калі не ля таго ж тэлевізара? Іншая гаворка, калі ў цябе няма пачуцця гумару. Як у таго ж Разорчыка. Што ж, тады тут табе ніхто не дапаможа і не параіць нічога. Нажывай тады язву, па паліклініках бегаючы.

— Ну, дык як жа ты гэты прыклад будзеш рашаць?— пытае Разорчык у сына. Яны сядзяць у спальні за сталом, за якім звычайна дзеці рыхтуюць урокі. Акрамя сына тут жа, побач, сядзіць малая — выставіўшы чырвоны язычок, яна штосьці малюе.

— Ну-у, вот гэта ўраўненне. Яно рашаецца па формуле: ікс раўно — корань квадратны...— сын гаворыць марудна і неахвотна. Як скрозь сілу выціскае з сябе па слову. Нічога не паробіш — ленаваты хлопец... І па кім гэткі?

— Пачакай, пачакай,— перабівае нецярпліва Разорчык.— А адкуль узялася гэта формула?

— Як адкуль? — сын здзіўляецца. Што-што рабіць, а вось здзіўляцца — гэтаму ён навучыўся.— Во, тут яна, у падручніку напісана. Чорным па беламу.

— Я, даражэнькі, разумею, што яна там напісана. Але ж яна аднекуль з'явілася, не з неба яснага звалілася.— Разорчык пачынае злаваць. Здаецца, што сын хоча знарок яго вывесці, таму ён так марудна цягне з сябе па слову. Як іншым разам, дык яму хоць ты рот затыкай, а вот як толькі да падручнікаў дойдзеш... Як толькі тыя настаўнікі трываюць?.. «Спакойна, толькі спакойна»,— супакойвае сябе Разорчык — як ні дзіўна, але Разорчык ужо ўпэўніўся, што такія простыя словы супакойваюць. Самагіпноз, ці што...

— Адкуль я ведаю, бацька? У мяне пра гэта настаў-

ніца пытацца не будзе. Нам толькі трэба ўмець рашаць. І ўсё. Каб адказ выходзіў.

— Пачакай, пачакай... Ну, а во, дапусцім такі просенькі прыклад: пяць ікс раўняецца дваццаці. Чаму ровен ікс?

— Чатыром. А што?

— Як ты пра гэта ўведаў?

— Дваццаць падзяліў на пяць. А што, можа, няправільна?

— А чаму падзяліў?

Сын моргае веямі і здзіўлена глядзіць у самыя вочы. Потым гучна пакрыўджана гаворыць:

— Бацька, ну што ты сягоння да мяне прыстаў? Чаму, чаму... Так заўсёды робяць, каб палучыць адказ. Іначай зробіш, адказ не выйдзе. Ты хоць гэта разумееш? Я ўвогуле не зразумею ніяк, што ты ад мяне хочаш сягоння?

І тут у душы Разорчыка штосьці абрываецца. Ён ціха, ледзь не шэптам пытае не столькі ў сына, колькі ў сябе:

— Дык кім жа ты вырасцеш? Ты задумваўся хоць раз аб гэтым? Ты ж ужо — у сёмым класе. Налета — экзамены.

— Бацька, я не разумею цябе... То пяць ікс, то экзамены. Я рашаю прыклады. Правільна рашаю. І ты — прыдзіраешся незразумела чаго. Я ўвогуле не пайму, пры чым тут задачы і кім я выpacту? Можа, я музыкантам буду, і мне тады гэтыя задачкі — да лямпачкі. Вунь з другога пад'езда Валодзька ў спецшколу са спартыўным ухілам ходзіць. Шахматыстам будзе. Ён ужо зараз ведае, што яму тая алгебра, як зайцу стоп-сігнал. Ты хоць ведаеш, колькі ў нас прадметаў? — сын зараз гаворыць нашмат гучней і смялей, чым звычайна. Нават з нейкім абвінавачваннем.

І тут зусім для сябе нечакана Разорчык разумее штосьці, яму адкрываецца нешта такое, пра што дагэтуль, здаецца, і не задумваўся. Ні тады, у маленстве, ні цяпер, калі ўжо сам — бацька.

— Якія прадметы? — шэпча ён і ўсё думае пра тое, што адкрылася.— Якія?

— Што, забыўся ўжо, пералічыць, можа? — з'едліва пытае сын. І зараз здаецца, што яны памяняліся месцамі — сын даказвае неразумнаму бесталковаму бацьку нешта такое, што той ніяк не можа ўцяміць.

— Ну, пералічы, пералічы...

— Тая ж алгебра, геаметрыя, біялогія, фізіка, мовы розныя... Ды што ты, бацька, сягоння як знарок выдурваешся? — ад свайго здзіўлення Разорчык нават і не прыкмячае, што сын пачаў гаварыць так, як ніколі дагэтуль не гаварыў. Не асмельваўся.

— А які ж прадмет у вас галоўны?

— Ну, мусіць, тая ж алгебра. Ва ўсякім разе яна цяжэйшая. Матэматычка гаворыць, што без яе нікуды не прымуць. Ды што ты, бацька, сапраўды...— зноў незадаволена і гучна пачынае сын сваё. Дзіўна, ён нейкім чынам адчувае, што сягоння з бацькам можна так гаварыць.

І тут толькі Разорчык заціхае.

Гледзячы на гладкую паліраваную паверхню стала, ён думае. Як жа цяпер сказаць сыну тое, што самому толькі што адкрылася? Як жа яму ўсё растлумачыць? І з чаго пачынаць тое тлумачэнне?

Ён памалу падымае галаву, і тут жа позірк натыкаецца на малую, якая ўсё малюе, выставіўшы язычок. Малая, як адчуўшы позірк, падымае галаву. Глядзіць з усмешкаю ў вочы. Быццам яна даўным-даўно ведае пра ўсё. Нават пра тое, што яму толькі што адкрылася.

— А ў цябе які прадмет самы галоўны?

— А ў мяне ўсё — нармалёва.— Яна ківае з боку на бок галавою і весела ўсміхаецца.

Ад гэтага яе «нармалёва» Разорчык не тое што злуецца, а проста — бянтэжыцца.

— Што гэта за новае «нармалёва»? Адкуль ты яго выкапала?

— А ў нас у класе ўсе так гавораць. Бацька, ты і праўда, як я пагляджу, зусім ад жыцця адстаеш. Табе, я гляджу, ці не пара ў школу пайсці.

— Каб я яго болей тут ніколі не чуў. Зразумела ці не?

— Зразумела, зразумела,— малая падціскае вусны. Нахіліўшы галаву да лістка, малая пачынае гаварыць як сабе, але так, каб і ён, бацька, чуў яе словы:— І пагаварыць няможна, і тэлевізара без дазволу ўключыць няможна, і анекдоцікі няможна. У другіх бацькі ўсё дазваляюць. Ты нас, можа, скора ў клетку якую пасадзіш?

Разорчык са здзіўленнем глядзіць на дзяцей. Ён ад-

чувае, што яны яго не разумеюць. І самае жахлівае, што, можа, і не хочуць разумець.

Што ж рабіць? Што рабіць?

Свае дзеці, свае, не чужыя, а ўжо — як за вярсту адбегліся. І зараз ты да іх, а яны — ад цябе. У свет белы. Паспрабуй дагані...

Разорчык трэ далонямі скроні. Як баліць галава! Божухна, як баліць галава!

З чаго ж пачынаць гаворку? Хоць і пазнавата, але ж, мусіць, трэба. Трэба...

А можа, і не трэба?

Можа, хай усё будзе так, каб ім было лягчэй пражыць, хоць як, абы ім было потым лягчэй жыць. Бо далёка па прыклады хадзіць не трэба, узяць бы сябе самога. Колькі, колькі ён сербануў ад гэтых сыценькіх, укормленых, дагледжаных, для якіх кожны дзень — масленіца? І што ён мае замест узнагароды? Ужо цяпер — язва, на аперацыю трэба класціся, а там, глядзіш, і старасць не за гарамі, пенсія... І што ў выніку, што ў выніку? — вось што галоўнае... Цяжка сказаць... І ён, і тыя сытыя дагледжаныя, з-за якіх атрымаў язву, з-за якіх і цяпер, бывае, калоціць цэлымі днямі, усе яны, мусіць, атрымаюць пароўну, узнагарода ў рэшце рэшт будзе ўсім адна.

Дык навошта ж тады ён сам шукае ліха на сваю галаву? Што, як гаворыць Алмазаў са смехам, яму болей за другіх трэба? Чаго трэба?

Язвы?

Старасці ў сорак год?

— Ну, што, разабраліся тут з урокамі? — у спальню заглядае Люда.

— Вывучыш тут, разбярэшся, калі бацька сягоння невядома чаго прыдзіраецца.— Малая дэманстратыўна злазіць з крэсла і ідзе на кухню. Малая неяк без лішніх слоў адчувае, што яна — пястуння і таму можа рабіць, што захоча. А тым болей што, на здзіўленне, урокі ёй даюцца лёгка. Што ні дзень, то — пяцёркі ў сшытках, і правяраць не трэба...

— Кладзіцеся, мусіць, спаць,— гаворыць Люда,— калі сягоння не паспелі зрабіць урокі, дык закончыце заўтра. Усё роўна толькі пасля абеду ў школу ісці.

— А тэлевізар? І сягоння не паглядзім? — сын падымае галаву і глядзіць на маці: — Сягоння — «Вакол смеху».

— Укладвайцеся, укладвайцеся, насмяяліся за дзень і так,— Люда бачыць, што Андрэй не ў настроі. Відаць, зноў разгульваецца язва. Нервовая... Тады ўсё адразу і навальваецца: і спрэчкі, і ляманты, і непрыемнасці адна за адною... Люда пачынае рассцілаць ложкі і гаварыць:— Лепей кніжку якую перад сном пачытайце. І так — амаль штодня ля тэлевізара па дзве-тры гадзіны. Вочы сапсуеце.

— А ад тых кніжак што — не сапсуем? — чуецца з кухні крык малой.— Ад іх, каб ты ведала, яшчэ хутчэй сапсуем.

— Ну, палямантуйце мне, палямантуйце,— як і звычайна, гаворыць Люда, калі адразу не знаходзіць патрэбных слоў для адказу.

Разорчык іх як і не чуе. Ён усё нерухома глядзіць на паверхню стала. Ён упершыню ясна асмеліўся падумаць над тым *нечым*, што яму адкрылася. І цяпер яму пачынае здавацца, што і дагэтуль, бывала, ён таксама над *гэтым* задумваўся, але ўсё тое было неяк коратка, як бы між справаю, як бы скрозь шчыліну ў нечае чужое жыццё заглядваў, яму недаступнае, пабудаванае на зусім іншых незразумелых законах, а вось зараз... Зараз дзеці прымусілі. І нават не тыя чужыя, што адно да аднаго на верандах дзіцячых садзікаў цягнуцца, не, свае дзеці...

Тады, раней, калі ён над гэтым думаў, у ім заўсёды высокай сцяною стаяла *трэба*, тое даўняе *трэба*, якое вынес з маленства. Трэба дзяліцца кавалкам хлеба, трэба памагаць чалавеку ў бядзе, трэба быць чалавекам... А вось зараз гэтае *трэба* не тое што знікла, а неяк размылася, згубіла той даўні сэнс, і Разорчык адчувае сябе, як у цёмным глухім лесе, з якога не ведае, як выбрацца і ў якім — ніводнай сцежкі-дарожкі... Як быццам ідзе ён па тым глухім лесе, а дзесьці там, за соснамі і калматымі елкамі, выбраўшыся з гэтага буралому, стаяць ягоныя спакойныя разумныя дзеці, стаяць Віталя, Алмазаў, Эма Міхайлаўна і ўсе яны, то па адным, а то — хорам крычаць, патрабуюць ад яго: «А хто даў табе права на гэтае тваё *трэба*? Скажы нам — хто? Адкуль ты такі ўзяўся? Няўжо табе болей за ўсіх нас трэба, няўжо ты болей за ўсіх нас ведаеш?»

Нарэшце Разорчык падымае галаву і глядзіць на сына, проста ў гэтыя ўпэўненыя халаднаватыя вочы — у

чым яны ўпэўненыя? Паволі, аддзяляючы слова ад слова, Разорчык гаворыць:

— А ты не думаў, сын, пра нешта большае, не толькі пра ўрокі? Хоць бы пра тое, што можна вывучыць усе гэтыя прадметы, якія ты называў, на адны пяцёркі, як ты сягоння вывучыў, і быць нармалёвым дурнем?

Але сын так нічога не разумее. А можа, зразумеўшы, выгляду не паказвае... Ён хутка паціскае плячыма і, гледзячы на Люду, гучна гаворыць:

— Мама, ну хоць ты скажы што, заступіся. Сама ўсё чуеш... Чаго ён сягоння да нас прыстае? Што яму ад нас трэба?

— А-а,— малая з адкрытым ротам паяўляецца ў дзвярах спальні,— сам гаворыш нармалёва... А яшчэ вучыць збіраешся. Эх ты, вучыцель-мучыцель...

— А зараз, дарагія сябры, мы прапануем вам запісы замежных ансамбляў,— так гаворыць малады, акуратна апрануты хлопец, праходжваючыся туды-сюды па сцэне і трымаючы ў сагнутай руцэ перад ротам мікрафон.— Нашу сягонняшнюю праграму мы адкрыем з добра вядомай рок-групы, якая паявілася нядаўна, але так добра сябе зарэкамендавала...

— Ты пасядзі пакуль адзін, я пайду да бармена і яшчэ чаго вазьму,— пакінуўшы за столікам Макрыцкага, Алег ідзе да стойкі, за якой гаспадарыць год трыццаці прысадзісты чырванашчокі прыгожы мужчына з цвярозым учэпістым позіркам. На мужчыну чорны акуратны касцюм, белая кашуля і маленькі матылёк замест гальштука. Там жа, за стойкаю, чуецца слабая музыка, на паліцах пабліскваюць каляровыя этыкетачкі бутэлек, розных формаў і розных замежных фірмаў, сярод якіх бармен нечым нагадваў жанглёра — рухі ягоных рук былі настолькі разлічаныя і лёгкія, што, здавалася, ён не работу выконваў, а забаўляўся. І ў тым жа рытмічным патрэсванні бутэлькамі над галавою, і ў тым, як акуратна і між тым бесклапотна, амаль што не гледзячы, наліваў у шклянкі кактэйль, і ў бесклапотна-лёгкіх кідках кавалачкаў бліскучага лёду — ва ўсім быў пэўны рытм раскаванасці, які зачароўваў, які, здаецца, памякаў на нейкае другое жыццё, у якім усё можа быць гэткім жа рытмічным і лёгкім, абавязкова звязаным з гэтымі бутэлечкамі з яркімі замежнымі этыкеткамі, лёг-

кай музыкаю, белай выцягнутай машынаю, што коціць па ўзбярэжжы блакітнага мора, лёгкай музыкаю. І—усё, нічога іншага ў тым жыцці, што намякала б на работу, нічога такога і быць не магло...

— Гэты ансамбль,— даносіцца ў той жа час да Макрыцкага голас хлопца, узмоцнены мікрафонам,— адрозніваецца ад іншых ансамбляў арыгінальнай трактоўкаю народных мелодый. Рытмічнасць і чоткасць — вось галоўныя рысы гэтага ансамбля. Тут, у ягоных мелодыях, спляліся ў адзінае і рытмы Афрыканскага кантынента, і напеўнасць паўночных мелодый. Дарэчы, вы ў гэтым зараз самі ўпэўніцеся.

Пры апошніх словах вядучага ў зале гасне святло, а з двух дынамікаў, што стаяць па краях сцэны, пачынае грымець музыка — аж у вушах коле... Тут жа рытмічна мігаюць сіне-зялёна-чырвоныя агні ліхтароў, што ў рад падвешаны над сцэнаю.

Моладзь, якая дагэтуль нерухома сядзела за столікамі, тут жа рванулася ў цэнтр залы. Некаторыя яшчэ на хаду, ад самага століка, пагойдваліся ў такт мелодыі — відаць, многія былі тут не першы раз. Кінулася ў вочы, што дзяўчат тут большасць. Танцуюць кожны сам па сабе, у такім танцы не трэба думаць пра другога чалавека, бо ўся ўвага і ўвесь клопат скіраваны на сябе, на сябе... Тут, у танцы, было многае: і размінка здароваму целу, і дэманстрацыя сябе перад другімі, сваёй зграбнай фігуры ці плацця, і радасць ад далучэння да чагосьці чужога, якое нейкім чынам асацыіравалася з гэтымі крыклівымі калярова-мігатлівымі агнямі, спрактыкаванымі лёгкімі рухамі бармена з матыльком, тымі ж рытмічнымі аглушальнымі ўдарамі, што даносяцца з магутных дынамікаў. Пад музыку хрыплаватымі галасамі выкрыкваліся словы, якія — Макрыцкі не мог разабраць. Відаць, іх тут ніхто не ведаў. Ды і каго цяпер цікавіла, пад якія песні танцавала моладзь...

Танцоры, сышоўшыся ў адзіны натоўп, падсвечаныя мігатлівымі каляровымі агнямі, здаюцца адзіным целам, што рытмічна пульсавала і над якім то тут, то там выкідваецца ўгору чыясьці дзявочая рука, і перакрываючы музычны шум, калі-нікалі чуецца тонкі воклiч захаплення.

Вяртаецца ад бармена Алег. У руках трымае два фужэры. З фужэраў тырчаць саломкі.

— Стары, а помніш, як некалі нам гаварыў Ігнацкі,

што ўсё гэта,— Алег ставіць на стол фужэры, усміхаецца і ківае галавою на танцораў,— пошасць і гніль, з якою мы павінны змагацца.

— А можа, так яно і ёсць, га? — выняўшы саломку, Макрыцкі адпівае кактэйль. Нейкі час яны маўчаць, гледзячы то на фужэры, то на танцораў.

А натоўп радасна пульсаваў у такт грымлівай музыцы. Мігатлівыя каляровыя агні выхоплівалі з цемры асобныя бліжэйшыя постаці, якія здаваліся застылымі,— з паднятай нагою, з разведзенымі рукамі, прысеўшы, з прыадкрытым у захапленні ротам і ўсё тым жа шчасліва-застылым выразам на бледных тварах.

Відовішча было прыгожае, калі забыцца, што перад табою — людзі.

І чым болей Макрыцкі глядзеў на танцораў, тым болей здавалася, што перад ім і сапраўды манекены, заведзеныя аўтаматычныя манекены, якія сутаргава рухаліся пад усясільную музыку. І чым болей ён глядзеў, тым болей здавалася, што танцоры ні аб чым іншым і не думаюць, акрамя той асалоды, якую атрымліваюць...

— Лягчэй за ўсё крытыкаваць і абвяргаць. Стары, а што ж ты прапануеш узамен? — пытае Алег, цэдзячы памалу пітво скрозь саломку.— Танцаваць кракавяк пад гармонік? Танцаваць тыя танцы, якія танцаваў некалі сам Ігнацкі? Ведаеш, мне даўно пара брацца за здымкі, а я ўсё ніяк не магу пачаць. Я другі тыдзень хаджу сюды. Гляджу на іх, на гэту весялосць і думаю, думаю... Аж галава пухне. І дзе яны грошы бяруць? Ведаеш, тут ёсць некаторыя, якія ледзь не штодзень ходзяць. Як на работу. Хто яны? Сучасныя студэнты? Фарцоўшчыкі? Рабочыя? Ці тыя, хто за кошт бацькоў гуляе? Не за свае ж зробленыя ў іх гэтыя тысячныя кажушкі, андатравыя шапкі, не за свае... А за чые? Тут усяго столькі наблытана. Толькі не гавары мне, што ўсё гэта — глупства. Гэтак сказаць лягчэй за ўсё. Цяпер такіх мудрацоў і без нас з табою хапае. Проста, відаць, усе мы адчуваем свет і сябе ў свеце зусім не так, як тыя ж трыццаць ці сорак год назад. Наша маладосць і маладосць Ігнацкага — розныя рэчы. Я не пра тое, што тады, маўляў, і трава была зялёнейшая, і вада з калодзежа смачнейшая, не... Я не ведаю, лепшыя мы ці горшыя за вось гэтае цяперашняе пакаленне, але мы — другія. Разумееш, стары, нешта змянілася ў свеце. А можа, і ў людской свядомасці. Я яшчэ не разбяруся ва ўсім і сам...

Але павер мне, што адгэтуль і ўсё астатняе: і забыты кракавяк, што некалі весела танцавалі пад гармонік, і гэтыя дыскатэкі, якія немаведама адкуль зваліліся на нашы непадрыхтаваныя галовы, і разводы, і нават тваё бурчэнне. А назад мы, калі б і ўздумалі вярнуцца, не зможам. Ужо, відаць, ніколі-ніколі не будзе духавога аркестра, які іграе ў парку павольныя вальсы і людзі танцуюць пад іх... Будзе не дыскатэка, дык нешта іншае. Ну, ладна, хопіць маналогаў. Усе мы зараз граматныя, і ніхто не хоча, каб яго вучылі. Кожны сам кагосьці вучыць, гэта, дарэчы, таксама адзнака нашага адукаванага веку,— Алег махае рукою.— Давай лепш цадзіць праз саломку.

— Дык якая ж у тваім фільме будзе трактоўка? Ты будзеш асуджаць усё гэта? — Макрыцкі ківае галавою на танцораў.— Ці мо наадварот...

— Не ведаю. Мая справа чэсна зняць, зляпіць чэсны злепак з рэчаіснасці. Я — дакументаліст. А мае адносіны... Гэта будзе там, у фільме, гэта ўсё ўвойдзе і без майго жадання. Дзе заўгодна можна схаваць сваю душу, толькі не ў мастацтве, ты ў ім заўсёды распрануты: дурань — ёсць дурань, дзяльца спазнаеш па дзяляцкіх творах. Так што пра свае адносіны трэба меней за ўсё клапаціцца. І чым будзеш менш клапаціцца, тым лепшы твор выйдзе, менш будзе дыдактыкі — гэта я праверыў на сабе. Іншая гаворка — крытыкі. Яны разбіраюцца па-свойму, кожны з іх будуе свае канцэпцыі. І кандыдацкія заадно. Яны заўсёды ўсё ведаюць. Толькі вот дзіўна, чаму ніводны з іх не можа тварыць, калі яны ўсё ведаюць?

— Што, дапякаюць крытыкі? — па ўсім было бачна, што з крытыкамі Алег не ладзіў.

— О-о, крытыка, наша сучасная крытыка, якая з мухі можа зляпіць слана, а пры патрэбе са слана муху. І вокам не міргнуць. І сораму няма ніякага. Аднымі канцэпцыямі да вар'яцтва могуць давесці. Ведаеш, як іх Феліні называў? Ён казаў, што крытыка трэба назіраць, вывучаць, даследаваць як нейкую новую разнавіднасць чалавека, новую невядомую істоту.

Памаўчаўшы, Алег гаворыць далей:

— Дыскатэкі, як і разводы, як і папяроскі ў жаночых вуснах,— усё гэта ляжыць наверсе. Гэта можна з лёгкасцю зняць і паказаць. Але ж гэта — не галоўнае. Што там, усярэдзіне?..

Самае цяжкае, відаць, знайсці мяжу між дабром і злом. Што чалавеку можна, а што — няможна... Як табе лепш сказаць? Калі мы страцім нейкія каштоўнасці — я пра духоўнасць кажу — ну, не страцім, дык забудзем пра іх, дапусцім, што нехта там дапаможа іх забыць, то ўсё астатняе можа быць правільным і лагічным, і, між тым, яно будзе ўжо не тым... І мы будзем дружна ляскаць у далоні і гаварыць: ах, як добра і цудоўна нам, не разумеючы і не здагадваючыся, што яно не так... Ды ладна, мусіць, на сягоння пара закругляцца. А то, я гляджу, пачынаю разыходзіцца. Помніш, як тады ў дзесятым, калі дыскутавалі, не давалі жыцця Ігнацкаму?

— Помню, чаму ж не помню.— Макрыцкаму ўяўляецца той чысты светлы клас, роўныя рады лавак, за якімі сядзяць цыбатыя хлопцы і дзяўчаты, якім усё на свеце ясна, а тым болей Алегу, і таму беднаму Ігнацкаму — іхняму класнаму — недзе падзецца.

— Мяне і зараз смех разбірае, як мы яго дабівалі кібернетыкай, генетыкай і кукурузай... І як ён спрабаваў апраўдацца.

Як ні дзіўна, але з Алега тады не смяяліся. Відаць, таму, што адчувалі — Алег не хітраваў. Нават у сваіх «завіхрэннях...». І таму, калі потым пайшлі чуткі, што Алег забраў дакументы з першага курса фізмата і з'ехаў з горада, ніхто нават і не здзівіўся. Як быццам так яно і трэба было.

Макрыцкі таксама ўсміхаецца.

— А ты і зараз мала змяніўся. Усё тыя ж тэорыі і праблемы касмічнага характару. На меншае ты, відаць, і не згодзен.

— Нездарма кажуць: гарбатага магіла выправіць. А па-другое, я табе скажу, кінастудыя — такая фірма, куды злятаюцца ўсе, хто марыць пра высокае мастацтва. Іх туды як магнітам цягне. А мастацтва — гэта такі заблытаны клубок... Так што я, стары, не выключэнне.

— Ты сустракаў апошнім часам каго з нашых? — заўсёды пад час сустрэч Макрыцкі пытае пра гэта, быццам бы можна яшчэ вярнуць тыя чыстыя светлыя ранкі, той клас з Ігнацкім ля дошкі.

Бедны, бедны Ігнацкі, з якога яны здзекаваліся! І чаму тады ўсё вакол здавалася залітым яркім сонечным святлом, ад якога ўсё на свеце дзялілася на чорнае і белае, на гэтае катэгарычна «так» ці «не так»? Адкуль

было тады пачуццё еднасці з аднакласнікамі, адкуль тады была адзіна радасная ўпэўненасць, што гэта еднасць з аднакласнікамі паможа выстаяць ва ўсе далейшыя гады, ва ўсіх шматлікіх нягодах, да самай старасці яны будуць сустракацца і ўсё гаварыць, гаварыць?..

— Сустракаю. Амаль што кожны дзень сустракаю...

— Каго?

— Сарокіна. Помніш, ён яшчэ тады, у школе, фотааматарствам займаўся. Пасля інстытут закончыў, і цяпер мы — разам. Дыпломы мае. Узнагароды. Яго хваляць. І ведаеш, што страшнае? Ён на ўсё навучыўся глядзець са смехам. Нават не са смехам, а з усмешачкаю. Ён усё на свеце ведае і з усяго пасмейваецца. Ён ужо навучыўся заўсёды апірацца ля тых, хто ў пашане, хто, як гаворыцца, ва ўладзе. Неяк так само сабою атрымліваецца, што, як толькі якога чалавека вылучаюць на высокую пасаду, Сарокін тут жа становіцца ягоным сябрам. На вечар які прыйдзеш, глядзіш, хто з кім, а Сарокін — ля патрэбных людзей. Самае крыўднае, што ён — і сапраўды здольны. Я калі-нікалі пачынаю сумнявацца ў тым, што мастацтва робіцца чыстымі рукамі. Мы з ім часта сустракаемся, а гаварыць — няма пра што. Вот як яно бывае. І яшчэ ведаеш, каго нядаўна сустракаў?

— Ну?

— На тым тыдні сустрэў Мішку Зялёнкіна. На нейкую канферэнцыю сюды прыязджаў. Помніш, сядзеў звычайна на трэцяй лаўцы злева. Пасля мединстытут закончыў.

— Як ён пажывае?

— Стары, я ж з ім душа ў душу жыў. А сустрэліся і — гаварыць няма пра што, усяго толькі пра «ах, ты помніш?». Пайшлі ў кафэ. Сядзелі. Па слову цадзілі. Ён тут жа пачаў нешта гарадзіць пра сваю кандыдацкую, якую вот-вот абароніць, а я, гледзячы на яго, падумаў: які ж ты, Мішка, ёлупень. А пасля і сам спахапіўся: а сам-то пра што плявузгаю, навошта Мішку мае кадры, ракурсы?.. І тады я зноў падумаў пра Сарокіна, ён жа некалі быў неблагі. Ці мо мы проста тады ў школе яшчэ не ўмелі глядзець на ўсё адкрытымі вачыма?.. І яшчэ я зразумеў, што з часам мы становімся другімі, зусім другімі, што школа, маленства ад нас — далёка. А мы ўсё яшчэ праз сілу спрабуем зачапіцца... А-а, зноў мяне пачынае заносіць.— Алег махае рукою.— Дарэчы, Зялён-

кін тады ж мне і сказаў, што Ігнацкі нядаўна памёр. Ён, Мішка, яго ж і аперыраваў. Разрэзаў, паглядзеў і, нічога не зрабіўшы, зноў зашыў. Яшчэ і абнадзеіў, згодна медыцынскай этыкі... Давай вып'ем за Ігнацкага. Як я цяпер думаю, ён быў неблагі чалавек.

Яны выпілі.

Макрыцкі зусім не хмялее. Здаецца зараз, што музыка грыміць усё цішэй і цішэй. Ды і тыя ж постаці танцораў неяк аддаляюцца, і таму, каб упэўніцца, што перад табою — рэальнасць, трэба падняцца і рынуцца туды самому.

— Ён абараняў свой час, а значыць — і сваё пакаленне, ён па-свойму быў сумленны. Толькі і ўсяго,— гаворыць пасля Макрыцкі.

— Стары, а што мы абараняем? Якія ідэалы? — ціха пытае Алег і тут жа дадае:— Мы ўсё крытыкуем, мы навучыліся рэальна і занадта практычна глядзець на жыццё і таму амаль ва ўсіх сітуацыях ведаем, дзе наб'ём шышкі і сінякі, а дзе — нас пагладзяць па галоўцы. Мы многім на свеце незадаволены, але што ж мы робім? Ні-чо-га. Вось яна — горкая рэальнасць.

— Як часта гаворыць у мяне на рабоце Раман Барысавіч Алмазаў, жыццё не чорнае і не белае, яно — у палосачку. Ім вунь,— Макрыцкі ківае галавою на танцораў,— яно такім не здаецца. Ім — весела. Так што, можа, Алмазаў мае рацыю?

Яны маўчаць. Пара ісці.

Потым, на вуліцы, калі Алег знікае ў паўзмроку, Макрыцкі глядзіць на будынак інтэрната, што насупраць кафэ.

У гэты вясенні вечар, калі халодны вецер сціх, пяціпавярховы будынак свеціцца амаль што ўсімі вокнамі, якія без фіранак і таму за кожным бачыцца сваё жыццё: сядзелі за сталамі і ці то чыталі кнігі, ці то гулялі ў шахматы, проста хадзілі ад сцяны да сцяны, адчыніўшы вокны, звесіўшы галовы, некаторыя ад нечага рабіць глядзелі на вуліцу, стаялі парачкамі, абняўшыся... Тут жылі студэнты. Далёка ад будынка разносіўся смех, крыкі, гучныя магнітафонныя запісы песень — з аднаго канца інтэрната чуўся хрыплаваты голас Высоцкага, а з другога — мяккаваты, прыкартаўлены голас Акуджавы. З бліжэйшага акна, перакрываючы ўвесь астатні шум і лямант, нечакана пачынае звінець песня пра тую дзяўчыну, якая «летящей походкою» выйшла з мая...

Так, хутка, зусім хутка пачнецца белы яблыневы май, пачнецца цяпло, паявіцца зялёнае пахкае лісце, зялёная трава закалышацца пад тугім ветрам на шырокіх далёкіх лугах. І яшчэ будзе сонца, будзе шмат сонца.

Макрыцкі доўга глядзіць на студэнцкі інтэрнат, які нечым нагадвае карабель і ў вокнах якога знадворку, як выратавальныя кругі, віселі сетачкі з прадуктамі. У паўзмроку гэты карабель з вясёлай камандаю кудысьці плыў.

Куды?

Але ў Макрыцкага так і не паяўляецца жаданне апынуцца на тым караблі. Было ўсё так, як глядзіш дарослым дзіцячыя гульні,— і смешна, і зайздросна, і ведаеш, што сам заняцца гэтым не зможаш. Ён быў у той вясёлай камандзе некалі, спазнаў як слодыч, так і горыч таго пяцігадовага падарожжа і таму зараз глядзіць на ўсё тое, былое, з нямым здзіўленнем: няўжо і сам быў гэткі ж рэзкі і крыклівы, такі ж бездапаможна ўпэўнены... Няўжо гэта не хто-небудзь, а ён сам думаў некалі, што шчаслівым ён абавязкова стане, калі зробіць у далейшым жыцці тое, тое і тое?.. Трэба было нешта зрабіць ці прыдбаць — і ты станеш шчаслівым. Як гэта здавалася простым і ясным!

Потым ужо, адышоўшы ад таго ж інтэрната, Макрыцкі натыкаецца на жоўтую будку тэлефона-аўтамата. Тут ён спыняецца, глядзіць на наручны гадзіннік. Усяго дзевяць. Пачуццё такое, што жывеш доўга-доўга. Які доўгі сягоння дзень — ніяк не скончыцца. Здаецца, што ўжо ўсё, што можна атрымаць ад жыцця, атрымаў, а зараз...

А што ж зараз?

Гледзячы на выратавальную жоўтую будку, ён успамінае Лену — яе мяккі ціхі прыглушаны голас, белыя пальцы, прыпухласць пад вачыма.

Чаму ён забыўся пра яе? Чаму тады, калі нам бязвыхадна цяжка, мы тут жа ўспамінаем тых, каго некалі пакідалі,— рэзка, не азіраючыся, з упэўненасцю, што будучае прынясе нешта лепшае і цікавейшае, што маеш зараз ля рук.

Гэтае спакуслівае будучае...

Набіраючы ў будцы тэлефона-аўтамата нумар, Макрыцкі нават і не заўважае, як гаворыць сам з сабою. Чамусьці як ніколі хочацца гаварыць і гаварыць.

22 гадзіны

— Ну, Мальвіначка, будзем каву варыць,— запрашае Эма.— Пасля ты мне паварожыш. У цябе так добра атрымліваецца.

Ах, як хочацца сказаць Мальвіне пра сягоняшняе нечаканае знаёмства! Так і круціцца на языку... Але — не, не, ні ў якім разе.

— Што ж, давай, можа, і ў цябе, як у Клары, выйдзе,— Мальвіна ўсміхаецца. Здзіўляецца:— Засядзелася я ў цябе.

— Нічога,— супакойвае Эма,— сягоння ў нас разгрузачны дзень. Расслабімся. Калі мы з табою вот так сядзелі і гаварылі? Даўно. Ды і гэта наша жыццё: кожны дзень адно і тое ж, адно і тое ж...

Яны выпіваюць, і Эма варыць каву.

— Вясна, лета на носе. Новыя клопаты. А ты куды сёлета збіраешся? — як між іншым пытае Эма.

— Відаць, на поўдзень падамся. Да мора сіняга і белага парахода.

— Ты ж звычайна ў паходы выбіралася. Няўжо сёлета не паедзеш?

Мальвіна крывіць вусны ва ўсмешцы:

— Штосьці стамілася я. Не хочацца блэндаць па гарах. Хочацца прыехаць да мора, легчы на беразе, пяты ў ваду, спіну пад гарачае сонца і — каб ні аб чым не думаць...

Апошнія словы Мальвіна вымаўляе нейкім новым, другім тонам. Як гэта заўсёды бывае ў такіх выпадках, у Мальвіны нечакана ні з таго ні з сяго псуецца настрой. Без ніякай прычыны, проста так... Эма глядзіць на Мальвіну, разумее, што Мальвіне зараз нядоўга і заплакаць. Нічога не гаворачы і не растлумачваючы, Мальвіна будзе сядзець ля стала, звесіўшы галаву, і плакаць ціха. Усё гэта Эма ведае з ранейшага вопыту, не першы год яны сябруюць, і таму стараецца пераевесці гаворку на што заўгодна, толькі не па далейшы лёс Мальвіны.

— Ах, ты ведаеш, я і забылася табе сказаць,— гаворыць Эма,— я ж нядаўна пласцінку дастала. Мы яе зараз паслухаем. Пасядзі тут, я пайду пастаўлю.— Эма, зняўшы з агню каву, бяжыць у залу і ставіць там на стэрэапрайгравальнік пласцінку. Тут жа чуецца пры-

глушаны мужчынскі голас, перазвон гітары... Эма вяртаецца на кухню.

— Ну, як, ты давольная?

— Эмачка, ты проста золата, а не чалавек,— радасна ўсміхаецца Мальвіна.— Дзе ты ўмудрылася дастаць Акуджаву?

— Сакрэт, сакрэт фірмы...— Эма ўсміхаецца.

Потым яны заціхаюць, слухаюць той свойскі ціхі голас, якім співаецца пра ўсё тое ж, што ёсць ці было і ў іх жыцці: пра былую маладосць, якая адышла незаўважна, пра няўлоўнасць шчасця. Слухаюць усё гэта Мальвіна і Эма, млеюць ад асалоды, быццам ва ўсім гэтым, пра што спяваецца: і ў страчанай маладосці, і ў няўлоўнасці шчасця, што пранеслася міма,— ва ўсім гэтым ёсць яшчэ большае шчасце.

І яно — як апраўданне...

Потым, калі пласцінка ўрэшце скончылася, яны зноў маўчаць. Думаюць, успамінаюць. Кожная пра сваё.

— Ну, бяры каву,— гаворыць Эма.— А то саўсім астыне. Ты мне сягоння паварожыш. А раптам...

Моўчкі п'юць каву. Пасля асцярожна пераварочваюць на сподкі пустыя кубкі. Кубкі абавязкова трэба пераварочваць ад сябе. Цяпер застаецца пачакаць якую хвіліну, каб сцякла лішняя кава, а той асадак, які застаўся ў кубку, застыў у выразным малюнку...

Пасля ўсіх тых шматлікіх разумных лекцый і кніг, якія чытае і некалі чытала Эма, пасля шмат якіх жыццёвых пераплётаў, пасля доўгіх лабараторных дыскусій пра біяполе і вечныя душы, што перасяляюцца з цела ў цела, пасля разумных аргументаваных маналогаў Рамана Барысавіча, пасля ўсяго гэтага Эма ў рэшце рэшт і сама не ведае, верыць яна ў варажбу ці не верыць... То калі-нікалі ёй здаецца, што ёсць нейкі загадзя расісаны лёс, ад якога, круціся не круціся, а нікуды не падзенешся, і гэта яна можа даказаць навукова, дарэчы, без ніякай містыкі, а то думаецца, што яна сама сабе гаспадыня, як захоча, так сваё жыццё і паверне. І ніхто ёй тут не ўказчык. А потым зноў, слухаючы Мальвіну ці таго ж Рамана Барысавіча, Эма пачынае сумнявацца... Вось так і даводзіцца жыць, паміж чыстым небам і грэшнай зямлёю...

— Дарэчы, пра варажбу хачу сказаць,— гаворыць Мальвіна.— Зараз гэтай з'явай вучоныя заняліся сур'-

ёзна. Перасталі рукамі адмахвацца. У адной краіне, кажуць, ёсць інстытут прагназавання будучага. Там ёсць адна старая, якая дужа добра варожыць, дык, кажучы па-сучаснаму, на яе базе цэлы інстытут зварганілі... Вот так-та, дарагая мая, робіцца. Пасля таго, як адкрылі біяполе, як навукова даказалі яго існаванне, я думаю, што зараз будзе цэлы пераварот не толькі ў біялогіі, а і ў філасофіі, у поглядзе на чалавечую прыроду. Помніш, як некалі смяяліся над бабкамі-шаптухамі, казалі, што іх шаптанне — цемната, адсталасць. А зараз? А зараз усё гэта навукова даказваецца і абгрунтоўваецца, гаворыцца, што тое ж біяполе пераносіцца ад чалавека да чалавека. І праз паветра — калі цябе тая шаптуха лечыць, і праз ваду нават, праз тую ж вадзіцу ў бутэльцы, якую трэба выпіць. Так што, аказваецца, нашы цёмныя неадукаваныя бабкі даўным-даўно ведалі тое, што нашы граматныя вучоныя толькі цяпер адкрываюць. Вот табе і цёмны няграматны народ!..

— Мальвінка, дык што ж тады выходзіць?

— Па-першае, не кожнаму дадзена такая здольнасць — прадракаць будучае, гэта — адхіленне ад правілаў. А па-другое, не ўсе асмельваюцца ведаць сваё будучае. Вот ты, напрыклад, хочаш ведаць, што з табою будзе праз дзесятак год?

— Не ведаю. Я нават і не думала пра гэта. Тут не тое што праз дзесятак, а і праз год не ўгадаеш.

— То-та ж, дарагая мая. Нездарма людзі пракаўбаяцца, нездарма... Часта такое бывае, што лепей чалавеку і не ведаць сваё будучае. Прырода хітрая.

— Бяры кубак,— нарэшце пераводзіць Эма гаворку на іншае,— што там у мяне маецца? Застыла там усё недзе, можна глядзець спакойна.

— Зараз паглядзім.— Мальвіна бярэ кубак, доўга разглядае кававую гушчу, што застыла на дне і сценках кубка. Затым яна сур'ёзна гаворыць: — Дарагая мая, у цябе, як некалі ў Клары, і сапраўды знаёмства на носе. Во, глянь сама, які певень стаіць. А грэбень, грэбень як трымае! Божухна, які фарсісты певень! Ды і хутка ў цябе ўсё гэта павінна быць, вот сама пагля-дзіш, як хутка ўсё закруціцца. Мусіць, вясна паможа,— Мальвіна ўсміхаецца.— Успомніш ты сягоняшняе, сягоняшнюю варажбу ты добра запомні. Будзе ў цябе, як у нашай Клары, гэта я табе абяцаю. Не забудзься толькі пасля магарыч паставіць.

Эма мімаволі чырванее. Што тут пра тую далёкую бабку казаць, калі тут, дома, табе, бывае, такое скажуць, што хоць падай...

Пасля Мальвіна варожыць сабе. Яна доўга разглядае свой кубак, круцячы яго перад вачыма і так і гэтак, а затым, як і заўсёды, крывіць тонкія вусны і гаворыць:

— Ну, а ў мяне, гэта ўжо лёс такі, пуста. Хоць бы які намёчак. Во, глянь сама.

Эма глядзіць у кубак. І сапраўды, там — нічога людскага не бачна, толькі дзе-нідзе драбочкі гушчы...

І яшчэ яны сядзяць нейкі час, гавораць, а потым Мальвіна ўсё-такі глядзіць на наручны гадзіннік:

— Ой, як час ляціць! Адзінаццатая гадзіна. І азірнуцца не паспела. Ну, Эмачка, я пайду, мусіць. Заўтра зноў на работу. Дзе там мая Пальма? Пальма!

Аказваецца, Пальма ўвесь час ляжала на падлозе пад сталом. Яна выбягае з-пад стала і, пакруціўшы галавою,— відаць, так яна адкідвае з вачэй доўгія белыя валасы, якія ўсё засланяюць,— трэцца ля ног Мальвіны. «Любіміца ты мая, што б я без цябе рабіла на свеце?» — Мальвіна бярэ Пальму ў рукі і цалуе гэтыя белыя як снег валосікі. Пасля гэтага Мальвіна гладзіць рукою Пальму і, павярнуўшы галаву ў бок Эмы, пытае:

— А можа, бульдога возьмеце? Я ўспомніла, у мяне знаёмая трымае. Пародзістыя сабака.

Неяк у тралейбусе Эма бачыла зблізку бульдога — адной рукою жанчына трымала сабаку за павадок, а другою спакойна пагладжвала гладкую цёмную скуру сабакі. Бульдог быў вялікі, ледзь не з цяля, здаецца,— ён бокам прыціскаўся да нагі жанчыны і, пакручваючы галавою, усё глядзеў на людзей халодна-агністым позіркам. Да ўсяго гэты нядобры аскал... Хоць бульдог і быў з намордцікам, але людзі мімаволі стараліся трымацца далей ад яго. «Спакойна, спакойна, Джэк»,— гаварыла жанчына і ўсё рытмічна, раўнамерна пагладжвала рукою цёмную гладкую скуру, відаць, яна проста атрымлівала асалоду ад дотыку да гэтага цёплага, налітага злосцю і сілаю цела, што ціснулася і ціснулася да яе нагі. І яшчэ чамусьці — таксама во дзіўна — Эме запомніліся акуляры, што былі ў жанчыны,— працісонечныя імпартныя акуляры, якія так удала хаваюць позірк...

Успомніўшы тую даўнюю сцэну ў тралейбусе, Эма гаворыць:

— Не, давай-ткі спачатку пашукаем аўчарку. Калі ўжо не знойдзем, тады і падумаем пра бульдога.

Мальвіна нарэшце выходзіць з кватэры, і Эма нечакана адчувае стому. Прыемную мяккую стому. Усё-такі добра, што сягоння прыйшла Мальвіна — хоць нагаварыліся. І гэта — як тыя вітаміны, без якіх чалавек пачынае сохнуць і марнець пры поўным, здавалася б, дастатку.

Эма вяртаецца з прыхожай на кухню, глядзіць на неприбраны на стале посуд. Заўтра, заўтра ўбярэцца і спаласнецца. Усё гэта — заўтра замест ранішняй зарадкі. Як і тая ж нямытая бялізна. Зараз не да гэтага, ды і не той час цяпер. Такая ў целе кволасць. Хочацца легчы і адразу ж на ўсё забыцца.

Трэба ісці ў спальню і ўкладвацца.

І тут толькі Эма ўспамінае пра Сярожу. За ўвесь вечар, калі гаварыла з Мальвінаю, чамусьці так сталася, што пра Сярожу зусім забылася.

Сярожа спіць. Так і не распранаўся — у расшпіленай зверху кашулі, у трыкатажных штоніках, ён, здаецца, заснуў зусім нечакана. У рупэ ўсё яшчэ трымае раскрытую кнігу. Што ж гэта за кніга. «Рабінзон Круза». З малюнкамі. Што ён у ёй зразумеў?

У спальні поўны бедлам. Чаго тут толькі няма! Тут і кніжкі з сшыткамі, што раскіданы на стале,— іх трэба зараз жа прыбраць,— і школьны касцюмчык, што не на вешалцы вісіць, а валяецца на крэсле,— ніяк да парадку не прывучыш,— і гэтыя нікому не патрэбныя жалезкі, дроцікі, якіх поўна ўсюды, пачынаючы з кішэняў штаноў і куртачак. Колькі яна ўжо крычала і лямантавала, а ўсё па-старому. Во, сягоння нейкія гайкі на падлозе, падшыпнік. Дзе ён яго адкапаў, можа, на тыя грошы, што на абед дае?

І ва ўсім гэтым, што ў беспарадку раскідана па спальні, як і ў застылым сонным безабаронным выглядзе Сярожы, ёсць нешта такое няскладнае, ад чаго чужому староннямy воку стае балюча і горка, як стае балюча і горка заўсёды, калі на свае вочы бачыш наіўную дзіцячую спробу пабудаваць вакол сябе нейкі свой маленькі сусвет, у якім бы яму было цёпла і ўтульна і ў якім бы не хто-небудзь, а ён сам, гэты маленькі няскладны чалавечак, будзе гаспадаром...

Але Эма нічога гэтага не заўважае і не адчувае, яна прывыкла да вось такіх занятых вечароў, калі неяк сам

сабою забываецца Сярожа, а потым ужо нечакана навальваецца стома і неадольны сон, сон...

Нямытая бялізна засталася і сягоння.

«Мам, ты сабаку купі»,— мармыча праз сон Сярожа, калі Эма распранае яго і ўкладвае ў белы ложак.

Затым Эма ідзе ў залу, дзе сцеле сабе... Паляжаўшы якую хвіліну, Эма нечакана адчувае нязвыклую цішыню, якая ёй, здаецца, замінае. Хоць бы які шум за акном... Але ўсюды як знарок ціха, толькі ў вушах ледзь чутны званок. І толькі потым Эма здагадваецца, чаму ёй замінае цішыня — то проста адзінота, тое пачуццё адзіноты ў свеце, якое калі-нікалі паяўляецца на кароткае імгненне ў Эмы і ад якога ёй становіцца няёмка і няўтульна, быццам адкрываецца ў тое імгненне нейкі новы, недаступны Эме свет, куды яна можа зазірнуць і жахнуцца... І нават думка пра тое, што заўтра будзе доўгачаканы званок, нават і гэта цяпер не прыносіць заспакаення. Як бывае з ёю апошні год, нечакана ўсё на свеце, як і свой штодзённы занятак, усё гэта стае сумным і несур'ёзным, акрамя чагосьці такога ёй патрэбнага і неабходнага...

Акрамя чаго?..

Шырока адплюшчыўшы вочы, Эма глядзіць у непраглядную цемру і ніяк не зразумее, што з ёю. За што з ёю так? Успамінаецца дзень, які пражыла, успамінаецца мінулае — неяк без ніякага пачуцця, быццам то і не яе мінулае... Дзень да дня, тыдзень да тыдня, год да года, і ўсё гэта — яе жыццё. Не чыё-небудзь, а — яе, адзінае. І тое, што яна пражыве і знікне некалі, назусім, навечна — нечакана палохае сваёй прастатою і яснасцю. Ведала, ведала яна аб гэтым цудоўна і дагэтуль, але ўсё гэтае неяк адсоўвалася клопатамі, работаю, а вось цяпер, у гэтай цішыні, ёй становіцца не па сабе... І яшчэ паяўляецца пачуццё віны, здаецца, што ёй так цяжка толькі таму, што яна вінавата.

Перад вачыма Мальвіна, рабочы стол з машынкаю і паперамі, лабараторыя, супрацоўнікі і апошні, як па крузе прайшла, Сярожа,— як мыўся ў ванне. Ягоныя худзенькія плечыкі, што ўздрыгвалі, бы ад холаду...

Тады Эма хутка падымаецца і ідзе ў спальню да Сярожы. Яна ўкладваецца побач з ім, яна зноў, як і некалі, адчувае целам ягонае худзенькае цельца — тады яно было маленькае і зусім бездапаможнае, думалася тады, што ва ўсе далейшыя гады яна будзе Сярожу апо-

раю і надзеяю, што яна заўсёды зможа зберагчы ад усякіх нягод і прыгод. І толькі цяпер Эме стае лягчэй, само сабою праходзіць пачуццё адзіноты, і цяпер зусім забываюцца тыя будучыя дні, калі ўжо не зможа быць побач з Сярожам вось так, як сягоння, зусім блізка, сваім цяплом саграючы ягонае цельца.

І грэючыся сама ад ягонага цела...

І яшчэ думаецца — гэта ўжо ў апошні міг, перад самым забыццём,— што ўсё-ткі трэба купіць сабаку. Абавязкова трэба. Тады, як набудзе сабаку, Сярожу стане весялей і цікавей. А заадно і ёй, канечне...

Ім стане гэтак жа лягчэй і прасцей, як ад таго ж уключанага тэлевізара, калі пад час разумных гаворак і лёгкіх песенек, пад час смешных мульцікаў і тых жа цікавых кінапанарам з баявым вядучым, які ўсё на свеце ведае і на ўсё глядзіць хуткім вёрткім позіркам, пад час вясёлых фільмаў і эстрадных канцэртаў ніяк не можаш адарвацца ад гэтага вясёлага прыцягальнага экрана і тады заадно перастаеш заўважаць вакол сябе гэтую пагрозлівую цішыню, якая на штосьці наводзіць.

На што?

На набытак ці на страту?

Невядома, вядома толькі, што гэта цішыня не адпускае тваю душу ні днём ні ноччу, відаць, таму сняцца цяжкія блытаныя сны, і думаецца, што збавенне ад усяго — у чалавечым слове ці позірку. Хоць бы з таго ж экрана тэлевізара, каля якога, як ні дзіўна, нашмат лягчэй, чым каля жывога чалавека. І таму — грамчэй гучнасць, ярчэй яркасць. Калі не каляровага, то хоць бы чорна-белага.

— Віталя, ты, можа, усё-ткі застанешся сягоння? — зноў, як і мінулай ноччу, Наташа стаіць на парозе кватэры, а ён — унізе на лесвіцы. Пачуўшы за спінаю голас Наташы, Віталя азіраецца і паволі ў роздуме падымаецца.

На ёй усё той жа, як і ўчора, халацік, толькі вось твар, праўдзівей, выраз твару... Твар у яе зараз зусім другі, як у чужой незнаёмай дзяўчыны. Куды дзелася чорная акантовачка ля вуснаў, гэтая ўпэўненасць у позірку, гэтыя падведзеныя фарбаю вышчыпаныя бровы?

Яна ўсё яшчэ саромеецца яго, усё яшчэ закрывае рот далонькаю. Віталя доўга глядзіць Наташы ў вочы

і, нечакана для сябе, адчувае радасць, такую радасць, якой дагэтуль ніколі не адчуваў.

Вось, вось калі ён гаспадар сітуацыі, вось калі ён, а не хто-небудзь можа зрабіць так, а можа — іначай. І між тым тут жа, побач, паяўляецца другая думка: яшчэ ўчора яна не хацела, каб ён застаўся, яшчэ ўчора яна грэбавала ім. Гэта думка сваёй рэзкасцю і нечаканасцю, здаецца, аж коле яго.

— Не, Наташка,— ціха і ласкава гаворыць Віталя ўслых і асцярожна праводзіць далонню па яе сівых валасах,— я лепей табе пазней пераразваню. А сягоння, павер, мне трэба быць у другім месцы, дзе мяне даўно прачакаліся. Ты толькі ж не ўздумай крыўдаваць. Пакуль. Давай я лепей цябе ў шчочку...

Вось так... І — ні кроплі жалю, сама ва ўсім вінавата. А зараз — спакойна, не азіраючыся ісці на вуліцу да выхада. Хай сабе плача. Кажуць, што слёзы — яны карысныя для здароўя. Справядлівасць, як ні круці, а яна ёсць на свеце. Цяпер яе чарга...

І зноў — гэты чорны гладкі асфальт, гэты доўгі-доўгі блочны дом са слаба асветленымі пад'ездамі, гэтыя неонавыя ліхтары на высокіх сагнутых уверсе слупах, што разліваюць па зямлі белавата-малочнае святло. І людзей ужо — амаль ні душы. Як і ўчора амаль што.

У аўтобусе ён садзіцца на пустое сядзенне і глядзіць у акно. За шклом мільгаюць у паўзмроку дамы з асветленымі вокнамі, вітрыны магазінаў — з застылымі манекенамі, з доўгімі каляровымі стужкамі матэрыі, з выстаўленым ярка асветленым посудам, як крышталёвым, так і фарфоравым, прадукты, якія здаюцца занадта блізкімі, як бы знарок на вуліцу выстаўленыя, так што працягні руку — і возьмеш гэтыя цукеркі, пячэнне, гоРкі кансерваў, малочныя пакецікі, яйкі... А потым зноў, пасля цёмных неасветленых пустыроў, соты вокнаў, за якімі сваё жыццё, яму недаступнае, зноў вуліцы, будкі тэлефонаў-аўтаматаў, доўгія глухія агароджы, міготкія агні светафораў, чорная стужка тратуару, на якой усё меней і меней людзей.

Пасля аднаго з супынкаў побач на сядзенне хуценька і лёгка садзіцца дзяўчо. Віталя акідвае позіркам яе падведзеныя доўгія чорныя, здаецца, аж фарба сыплецца, веі, ненатуральна чырвоненькія, як прыпухлыя ці пакусаныя ўсё роўна, вусны, балоневую яркую куртачку, джынсы, што шчыльна аблягаюць тонкія ножкі...

Можна пазнаёміцца. Яна — уся ў чаканні гэтага класічнага: «Каторая гадзіна?» Ці хоць бы — «Не скажаш, як мне трапіць на вуліцу, я прыезджы...» З прыезджымі чамусьці лягчэй знаёміцца, відаць, хоць бы таму, што ў такім выпадку адчуваюць сябе гаспадарамі... А можа, і яшчэ прасцейшае — «Ты не баішся ездзіць адна так позна?» І вось ужо, слова да слова, сягоння яе можна правесці да пад'езда, заўтра кіно на апошні сеанс, паслязаўтра...

Упершыню нечакана — аж самому дзіўна — Віталя адчувае, што яму не хочацца пачынаць гэтую гульню. Яна яму проста надакучыла. А можа — ён проста выйшаў з узросту. Стала сумна.

Ён адводзіць позірк ад тварыку дзяўчыны і глядзіць у акно, за якім усё тое ж, што і раней: агні, рэкламы, будыніны, стужка тратуара і рэдкія постаці...

Што гэта? Няўжо і сапраўды вясёлая бесклапотная маладосць ззаду, там, за гэтымі шматлікімі халоднымі пад'ездамі, за гэтымі таропкімі гарачымі поціскамі рук у цемені альбо — вяршыня шчасця — таропкім дотыкам вуснамі да чужых сухіх, нацятых ад хвалявання вуснаў, за гэтай страчанай надзеяю на *штосьці такое*, што ён — як горка ў гэтым прызнавацца самому сабе! — так і не сустрэў. Ці то згубіў, ці то — размінуўся недзе. Бывае ж у другіх, бачыў жа, на свае вочы часта бачыў гэтыя захопленыя позіркі, гэтыя бліскучыя радасныя вочы, якія, відаць, нічога на свеце не бачылі, акрамя гэткіх жа шчаслівых бліскучых вачэй. А чаму ў яго такога так ні разу і не было? І хто ў гэтым вінен: ён ці горад?

На сваім супынку, калі выйшаў з аўтобуса і глядзеў знадворку на тварык дзяўчыны, на яе цяпер ужо смелы адкрыты позірк, у якім было здзіўленне, у Віталі зноў паяўляецца няпрошаная думка пра жаніцьбу. Бо пачуцця шкадавання, што ўпусціў знаёмства, так і не ўзнікла.

Ён глядзіць услед сігнальным агням «Ікаруса», якія адплываюць у паўзмрок, раствараючыся з мноствам другіх агнёў. Тады, як зусім перастае адрозніваць іх ад другіх агнёў, думае, што жаніцьба — як выратаванне, як збавенне, як тая прыстань для карабля... Тады і пазбавішся ад гэтых позніх бадзянняў па вуліцах ці парках, ад мнагалюдных фае кінатэатраў.

Калі яшчэ ўчора сумняваўся, то сягоння... Гэтыя размовы пра мастацтва, гэтыя прыгожыя фарбаваныя твары́кі, гэтыя намёкі на штосьці такое, такое...— усё гэта добра і цікава да пэўнай мяжы. А потым душа пачынае патрабаваць іншага, болей рэальнага і канкрэтнага, *штосьці такога* ўжо не хочацца.

Галоўнае тут — не памыліцца ў выбары, пэўна ведаць, што табе трэба ад жаніцьбы. Бяда многіх не ў тым, што яны жэняцца ці выходзяць замуж, а ў тым, што яны не ведаюць, нават не ўяўляюць, што ім дасць жаніцьба. Бо кожны ў ёй шукае свайго. І многія па наіву вераць, што пасля жаніцьбы будзе працяг усяго таго, што было да жаніцьбы,— працяг прыгожых размоў пра нешта такое, такое... чаргаванне грымучых дыскатэчных вечароў, мільганне тварыкаў, знаёмствы... І ці не таму так хутка разлятаюцца сучасныя шлюбы гэтых дваццацігадовых, што пасля жаніцьбы яны сутыкаюцца з нечым іншым, пра існаванне чаго яны нават і не задумваліся, не ўяўлялі...

Яму не трэба такая, як Наташа, як не трэба і занадта гордая, яму трэба нешта ціхае і мяккае, што ўвесь час будзе ля яго, без пярэчанняў, без высокіх слоў пра высокае мастацтва, шырока адкрыўшы ад здзіўлення вочы, яно будзе з захапленнем слухаць глыбакадумныя разважанні пра складанасць і супярэчлівасць сучаснага свету. Яму не трэба вялікая разумніца, бо, калі такую набудзеш, тут жа давядзецца самому бегаць па магазінах, прастойваць у чэргах гадзінамі, а затым подбегам спяшацца да кухні, да пліты, а то, як многія сучасныя інтэлектуалы, бегаць на пральню. З двума чамаданамі ў руках, дзе нямытая за паўгода бялізна... Не, не, ён ужо — не ружовы хлопчык, і таму хай ля яго будзе якая вясковая, хай ля яго будзе тая сірата казанская, якая будзе яму век удзячная за тое, што ён выведзе яе ў людзі, хай яна перад гэтым год пяць памыкаецца па кватэрах ці інтэрнатах, хай удосталь наглядзіцца вузкіх праходзікаў між жалезных аднаспальных ложкаў, і тады ўжо, пасля гэтага каранціну, можна быць ўпэўненым, што яна марыць пра тое ж: пра сям'ю і зацішак. Як пра збавенне.

А тым болей што ў яго кааператыў на носе, гэтым пахваліцца можа не кожны.

Дома ў кватэры Віталя распранаецца і адразу ж, так і не павячэраўшы, кладзецца ў ложак. Тады, як распра-

наўся, думаў, што адразу ж засне, але зараз не спіцца. Павекі хоць ты ніткамі сшывай.

Відаць, гэта таму, што сягоння шні вечар многае мяняе ў ягоным жыцці. Віталя думае, што чалавек свой жыццёвы лёс рэзка мяняе, паварочвае ў той ці іншы бок не тады, калі бегае ўзад-уперад ці лямантуе на ўвесь свет, а вось у такія ціхія, адзінокія, зусім непрыкметныя вечары. А ўсё далейшае, што кідаецца ўсім у вочы: і лямант, і тая ж беганіна — гэта ўжо вынік... І таму цяпер Віталя разумее, што ўжо ўсё скончана — чарговы душэўны пераварот зроблены і зараз усё далейшае — дробязі, наладжванне новых сувязяў... І, як і пасля ўсякага перавароту, дарогі назад няма, толькі наперад і наперад... Калі б і ўздумаў вярнуцца — не здолееш.

Пакуль Віталя не ведае, шкадаваць ці радавацца. Пакуль ён адчувае стому. Як пасля цяжкой работы. Быццам з раніцы да вечара, не падымаючыся з-за стала, корпаўся ў прыборы, так і не знаходзячы прычыны непаладак. І вось нарэшце...

Але, як ні дзіўна, чамусьці не спіцца, нешта замінае.

За сцяною ў другой кватэры паставілі пласцінку. Спачатку Віталя і не заўважае, але потым як праз сон, як з другога свету чуе нізкі жаночы голас, які роўна пад гітару цягне і цягне мелодыю. Спачатку Віталя і не пазнае, гэтую вядомую народную песню, гэтыя простыя словы, якімі апавядаецца пра чалавека, што ў рэшце рэшт вяртаецца на радзіму, дзе ўжо ні бацькі, ні брата... Гэты вечны варыянт блуднага сына... Толькі зараз неяк па-новаму Віталя пачынае разумець сэнс гэтай знаёмай з маленства песні. І неяк нават яму і бачыцца той абарваны чалавек, які садзіцца ў лодку і плыве цераз возера да роднага дома, вось ён выходзіць на пусты бераг і сустракае маці. І пытае ў маці. І тая адказвае простымі словамі...

Мелодыя, як і працяжны напеўны голас жанчыны, як і рэдкі пераэвон гітары, што не забівае словы, а, наадварот, яшчэ болей высвечвае іх,— усё гэта такое простае і знаёма-забытае, бы дарогі маленства, па якіх некалі, шчаслівы, бегаў і пазнаваў навакольны свет і вось зараз, цераз гады, ступіў на іх зноў. Ходзіш і здзіўляешся, усё ўспамінаючы...

А мелодыя ўсё льецца і льецца. Якая ашаламляльна простая мелодыя! Зараз яе, здаецца, ужо ніхто і не спя-

вае, неяк так сталася, што спяваць яе было прыкметаю нявыхаванасці і адсталасці... Ад чаго адсталасці? Канечне, канечне, ад моднай грымучай баявой сучаснасці. Як адважылася спявачка падступіцца да гэтай песні?

Віталя забывае на ўсё тое, што толькі што разлічыў і спланаваў на цэлыя гады,— усё размылася гэтай мелодыяй. Невядома адкуль у душу ўпадзе пачуццё сумнення. Як жа так сталася? Ён жа амаль ва ўсім разабраўся, і няўжо адна простая мелодыя, няўжо гэта старая песня, якую некалі ў ягонай вёсцы спявалі за сталамі, няўжо яна можа ўсё перавярнуць?

Віталя паварочваецца тварам да падушкі — рэзка, рыўком, як у ваду з берага нырае.

Ах, як хочацца ўцячы ад самога сябе, як хочацца часам вылузнуцца з гэтай скуры, якую ты здолеў нацягнуць на сябе за гады жыцця: звычак, жэстаў, слоў, паводзін — усяго таго, якое часам настолькі забівае і заглушае тваю сутнасць, што ўжо і сам пачынаеш сумнявацца: што ж — тваё, а што ж — чужое... Як хочацца стаць другім!

Ён жа столькі год патраціў на тое, каб прырасці да гэтага горада, каб назусім забыцца на тую вёску сярод лесу, з гэтымі вечнымі бабскімі сваркамі і забабонамі, з тымі каровамі, свіннямі, вадою ў распуціцу. Ён жа некалі рашуча адрокся ад усяго гэтага, і цяпер ніхто не можа папракнуць яго ў тым, што ён — *дзярэўня...* Гэтае *дзярэўня* для яго было як абагулены сімвал усяго таго, як тады здавалася, пустога і не патрэбнага нікому, што ніяк не магло ўпісацца ў далёкія прыцягальныя роўныя заасфальтаваныя вуліцы са шматпавярховымі гмахамі, у асляпляльна-белыя, пры стракатым модным гальштуку, кашулі, адпрасаваныя вузкія-вузкія, самая мода, штаны, пінжакі ў буйную клетку, чорныя бліскучыя туфлі, якія так прыемна цокаюць па асфальце, у далекавата-халоднае «можна да вас звярнуцца?», за якім крылася цэлае жыццё, яму невядомае, з тымі каштоўнасцямі, якія ён не мог знайсці тут, у вёсцы, з гэтымі вялікімі бліскучымі вітрынамі магазінаў, дзе можаш набыць што заўгодна, мо нават і самое шчасце, абы грошы былі...

Толькі навучыся рабіць грошы.

Гэта, аказваецца, так проста і ясна, такая ясная і простая дарога да свайго шчасця, гэта зусім не тое, што

ў *дзярэўні*, ля тых жа маўклівых кароў ці свіней, між крыклівых бабскіх плётак і забабонаў...

Мо таму ён і стараўся схаваць тую *дзярэўню*, ён свята верыў, што ўсё лепшае — тут, а не там, адкуль збег. І таму ён зараз любога заткне за пояс як ведамі, так і паводзінамі, ён зараз паводзіць сябе так, каб утрымацца на паверхні гэтага, а не таго жыцця. Ён не добры і не дрэнны, ён нават аб гэтым і не задумваецца, назусім адкінуўшы законы *дзеравенскай* маралі, новых ён так і не прыняў, аб гэтых новых законах ён нават і не задумваўся, тут проста не хапала часу задумацца, тут ужо многае склалася да яго, без яго ўдзелу, у яго дазволу не пыталіся і не раіліся, так што яму цяпер адзінае, што заставалася, падпарадкавацца гэтым гарадскім законам і плысці, плысці... І таму ні Эма Міхайлаўна, ні Раман Барысавіч, ні Макрыцкі, ні той жа Разорчык — ніхто з іх не ведае і не здагадваецца, адкуль у яго тыя грошы на кааператыў, бо ніхто не бачыў той хаты, што прададзена...

Дык што ж было там, акрамя таго бруду, работы, бабскага лямanту, ад чаго так балюча?

Зараз ён, гледзячы шырока адкрытымі вачыма ў белую ад пабелкі столь, усё ўспамінае і ўспамінае тыя далёкія навечна застылыя імгненні маленства. Як якую кнігу з малюнкамі гартае.

Вось вясна, ручаі пасярод вуліцы... Першая радасць ад дотыку босай нагі да сырой, яшчэ не зусім нагрэтай зямлі. Вунь за ракою высокі зялёны лес, які цягне да сябе сваёй бясконцасцю, тым нябачным і мо таму загадкавым казачным жыццём звяроў і птушак, што чамусьці вечна хаваюцца ад чалавека. Вунь і рачулка між кустоў, якая прынесла столькі радасці і шчасця. Вунь пустое і ўжо нейкае стылае поле, дзе людзі капаюць бульбу,— у празрыстым, вымытым дажджамі паветры нізка над зямлёю цягне салодка-гаркавым дымам ад вогнішчаў, ля якіх сядзяць дзеці, да самых вушэй вымазаныя ў сажу ад чорнай печанай бульбы, якая здаецца такой салодкай... А вунь і снег ідзе, той першы снег, ад якога душа сціскаецца ў прадчуванні вялікіх шчаслівых перамен, хоць і не ведаеш якіх. І таму заціхаеш і глядзіш у акно гадзінамі, і баішся паварушыцца. Гэта потым, калі на многія вёрсты зямля ўкрываецца белай беллю, як быццам спецыяльна дзеля таго, каб ты адчуў вялізны бясконцы свет, які ахінае твой невялічкі двор,

тваю хату, дзе ты нарадзіўся і вырас, гэта потым ты кідаешся на двор, дрыжачымі ад нецярпення рукамі сцягваеш з гарышча саначкі, каб без аглядкі кінуцца ў гэтую бель, да той бліжэйшай горкі, узабраўшыся на якую можаш глянуць зноў і зноў на сваю надзвычай маленькую хату. Глянуць і адчуць, што яна, толькі яна стаіць у цэнтры ўсяго гэтага бясконцага: і палёў, і рэчак, і лясоў, і тых далёкіх, яшчэ нязведаных салодкіх гарадоў, і нават зор, што загараюцца над галавою штовечар... А вунь, вунь старая маршчыністая бабулька сагнулася крукам над маленькім стрыжаным хлопчыкам і лечыць яго — штосьці шэпча і шэпча сухімі вуснамі. Што ж яна шэпча, што ж яна такое шэпча, ад чаго той хлопчык сцішыўся птушкаю, адчуваючы, як ад слоў, ад самой старой бабулькі ў яго цела ўліваецца штосьці нязнанае дагэтуль — тое, што прыносяць далёкія пругкія вятры з дрымучых непралазных лясоў і балот, што гаюча струменіцца на зямлю разам са святлом зор і лёгка абмывае тваю душу крынічнай свежасцю, што жывіць сонечным цяплом і святлом. Бабулька шэпча тое, ад чаго адчуваеш, што ты ўсяго толькі — часцінка, маленькая неаддзельная часцінка гэтага вялізнага, цэласнага, бязмежнага і таямнічага, што акружае цябе штохвілінна... І таму — не гарачыся, не кідайся ў розныя бакі, не мітусіся надта, а — супакойся, супакойся, чалавек, і не спяшайся абрываць гэтую хісткую пупавіну з усім, што цябе акружае, прыслухайся, прыгледзься пільней як да сябе, так і да свету, тады, можа, не так хутка будзеш забываць пра тых, хто цябе лячыў у маленстве...

А вось і яшчэ малюнак, гэта ўжо, відаць, апошні — па запыленай дарозе між жыта ідзе малады хлопец, не азіраючыся назад, на ўсё тое, сярод чаго вырас... Што ж пагнала яго адтуль, якая сіла прымусіла кінуць усё тое?

Няўжо і яго не абміне гэтая горкая чаша, няўжо і ён хоць калі ды вымушаны будзе стаць тым блудным сынам, пра якога некалі спявалі ў ягонай вёсцы на кірмашах?

Як жа яны спявалі?

Амаль гэтак жа, як зараз спявае невядомая жанчына, на хаду перакладаючы з рускай на беларускую, балазе беларус заўсёды разумеў рускага чалавека...

...Брадзяга к Байкалу падходзіць, рыбацкую лодку

бярэ. І сумную песню заводзіць, пра родзіну нешта пяе...

...Пра родзіну нешта пяе.

А ён?

З якім сорамам ён, тады падшыванец, глядзеў на знаёмыя пачырванелыя твары, на тыя тоўстыя, вузлаватыя, расплясканыя работаю рукі, на гэтыя вайсковыя, так любімыя пасля вайны мужчынамі, гімнасцёркі і галіфэ, на гэтыя паркалёвыя кофтачкі, чорныя спадніцы да пят, хустачкі ў гарошак! Як пагардліва ён крывіў тады вусны і марыў пра той час, калі назусім абрэжа *дзеравенскія* пастронкі і вырвецца туды, на свабоду, дзе не будзе ні гімнасцёрак, ні галіфэ, ні кофтачак, ні гэтых працяжных песень, якія настолькі знаёмыя, што аж соромна з-за іх і таму хочацца найхутчэй ад іх адкаснуцца, заспяваць па-новаму, лічачы, што ўсё тое, новае і далёкае, і не толькі песні, абавязкова будзе лепшым і весялейшым.

Чаму, адкуль ідзе гэта няёмкасць і сарамлівасць за сваё блізкае і роднае? Адкуль у чалавеку гэта сляпая ўпэўненасць, што чужое і далёкае нашмат лепшае?

Што ж, усё ёсць так, як ён, здаецца, і марыў, усё спраўдзілася, як у той казцы са шчаслівым канцом, і зараз, распранутаму простай мелодыяй, Віталю застаецца толькі нерухома ляжаць у белым цёплым ложку, прыхаваўшы твар у падушку. І толькі плечы ягоныя ўздрыгваюць, бы ад холаду нясцерпнага...

А потым мелодыя сціхае.

Віталя паварочваецца на спіну, выцірае пальцамі твар і ўздыхае, глыбока і спакойна. «Ну, вось,— шэпча ён сабе,— распусціўся, здзяцінеў зусім, а — жаніцца сабраўся. І было б там ад чаго?..»

Ён адчувае, што і яшчэ штосьці адпала ад ягонай душы — што замінала лёгка і проста глядзець на жыццё. І тое, што адпала, гэта ўжо — назусім, назаўсёды. Што ж, так яно, можа, і лепей. Паменей сантыментаў у наш век, пачнеш іх разводзіць — зусім галаву страціш...

Вось і яшчэ адзін дзень праскочыў. Дзень як дзень. Як і ўчарашні, як і пазаўчарашні.

Перад тым як заснуць, Раман Барысавіч звычайна

чытае якую кнігу. Каб лягчэй і хутчэй мог забыць на ўсё тое, сярод чаго круціўся цалюткі дзень: і пра работу, як у лабараторыі, так і дома, і пра саслужыўцаў,— і хоць у думках пабываць у другім свеце. Гэтыя кнігі, як снатворнае, як лёгкае бясшкоднае снатворнае.

Раман Барысавіч падыходзіць да кніжнай шафы і глядзіць на кнігі. Хочацца пачытаць нешта новае. Гэтак надакучылі аднастайныя вытворча-маральныя страсці, усё тое, загадзя спланаванае, што Раман Барысавіч і без кніг цудоўна ведае, і таму ці варта ў каторы раз тыкацца носам у рэальнае жыццё-быццё? Не, канечне, не варта. І таму — лепей пачытаць пра нешта нязвыкла чужое, якое ці то было, ці то бывае ў той жа спякотнай Афрыцы ці ў Лацінскай Амерыцы. Канечне, калі і чытаць, то — не гэтыя прыземленыя бытаапісанні, а пра чарговы высокі палёт фантазіі геніяльнага пісьменніка, пад лёгкім пяром якога адбываецца самае неверагоднае: стагоддзі могуць зліцца ў адзін год, а год расцягнецца на стагоддзі, і на жыццё чалавечае глянеш тады аднекуль зверху. Глянеш і — засмяешся з гэтых наіўных спроб вырвацца з клетак прасторы і часу.

Ну, самае большае — засумуеш тым лёгкім сумам, які заўсёды паяўляецца, калі сутыкаешся з чужым жыццём, якое крыху напамінае сваё. Але ўсяго толькі — напамінае...

Вось толькі з такім размахам і трэба пісаць, не інакай, бо ўсё астатняе — проста несур'ёзна...

І яшчэ апошні час Раман Барысавіч палюбіў чытаць навуковую фантастыку. Гэтыя Артуры, Кларкі, Роберты, якія невядома дзе нарадзіліся, у якой краіне, пад якой зоркаю і якія заняты не большым не меншым, а ўсяго толькі пошукамі другіх цывілізацый, другіх форм жыцця і мыслення, — усё гэта, калі задумаешся грунтоўна, не жартачкі, усё гэта зараз, у век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, наводзіць на грунтоўны роздум. І заадно, як бы скрозь шчыліну, дае магчымасць хоць на кароткі час зазірнуць у будучае. Хай сабе і немагчымае. А ўвогуле, хто возьмецца даказваць, мо — магчымае...

Зараз складаны свет, настолькі складаны, што і здзіўляцца не паспяваеш. Раман Барысавіч сваімі вачамі чытаў пра існаванне навукова абгрунтаванай гіпотэзы, якая была выказана вучонымі на прадстаўнічым міжнародным сімпозіуме, аб тым, што з дапамогаю кібернетыкі можна не толькі стварыць штучны розум, але

і цэлыя кібернетычныя стварэнні, якія ў рэшце рэшт заменяць на зямлі ўсё чалавецтва.

Жыццё, жыццё, яно — як той заблытаны клубок нітак, і хто, які мудрэц зараз пакажа тую адзіную нітачку, пацягнуўшы за якую разблытаеш гэты клубок?..

Пазней, калі кніга сама сабою выпадае з рукі, Раману Барысавічу чамусьці нечакана ні з таго ні з сяго ўспамінаецца Разорчык. І зноў, у каторы ўжо раз, у Рамана Барысавіча паяўляецца пытанне: адкуль, адкуль у Разорчыка такая сляпая ўпэўненасць у сваёй праўдзе? Як ні круці, а ўсё ж гэта, відаць, ад неадукаванасці. Чым меней чалавек ведае, тым болей ён самаўпэўнены. І наадварот...

Гэты Разорчык — як мазоль на назе...

Разорчык з Людаю ўладкаваліся на канапе ў зале. Як і звычайна, дзе яны кожны вечар укладваюцца спаць. Бывае, што вось так, перад сном, лежачы ў ложку, яны глядзяць тэлевізар. Але сягоння — не да тэлевізара Разорчыку.

— Андрэй, паслухай, што я табе скажу,— ціха гаворыць Люда.

— Ну, што там яшчэ сягоння на закуску? — па тону Разорчык здагадваецца, што Люда скажа нешта сур'ёзнае. У іх заўсёды так вядзецца — самае важнае і сур'ёзнае Люда гаворыць перад сном ціхім, спакойным голасам.

— Міша наш курыць пачынае. І яшчэ... З іхняга класа і з паралельнага хлапчукі ўтварылі сваю групку... Яны цяпер два разы на тыдні разам збіраюцца, вот там яны і курыць вучацца, нецэнзурнічаюць. Яны нават пакляліся адзін аднаму ў вернасці. Можа, бачыў раней, у яго на руцэ ранка была, ніяк не зажывала. Дык гэта яны цыгарэтамі выпальвалі. Як клятву прымалі адзін перад адным...

— Што-о? — Разорчык чакаў чаго заўгодна, але такога... Што ж гэта за дзень!

Ён хутка падымаецца і са здзіўленнем глядзіць на Люду, як на чужога чалавека.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш, хто табе сказаў?

Як быццам гэта і было зараз галоўным.

— Малая мне сягоння на кухні расказала,— як і не прыкмячаючы стану Разорчыка, усё гэткім жа ціхім

роўным голасам гаворыць Люда. Яна так і не глядзіць на Разорчыка — на ўсё тую ж белую столь.— Пад сакрэтам, канечне, гаварыла.

— Дык чаго ж ты мне гэта раней не сказала? Я ж бы з ім пагаварыў...

— Вот таму і не сказала, што ты тут жа схапіўся б за папругу і гаварыць з ёю пачаў бы.— Памаўчаўшы, Люда спакойна дадае: — Кладзіся лепей. Не кіпяціся, седзячы на канапе. Гэта табе не сход прафсаюзны і нават не мітынг. Няма перад кім.

Разорчык са здзіўленнем глядзіць на спакойную Люду. Ён нават хоча нешта сказаць, але, памуляўшы вуснамі, так нічога і не гаворыць. Пачынае моўчкі ўкладвацца. І тады ўжо, як уклаўся, як накрыўся коўдраю, да яго як бы даходзіць сапраўдны сэнс пачутага ад Люды.

— Няўжо і наш шалапутам ці бандзюгаю вырасце? Што ж яму трэба? Чаго не хапае: абуты, адзеты, накормлены...— пачынае ціха гаварыць. Цяпер ужо не каму-небудзь ён гаворыць гэтыя словы, а самому сабе, здаецца.

— Думай, Андрэй, сур'ёзна думай. Не толькі пра сусветныя праблемы, якія ты штодня ў газетах вычытваеш,— Люда гаворыць, як і раней, голасу не павышае.

— Ну, яшчэ і ты зараз пачні мяне вучыць,— тут жа ўскіпае Разорчык.— Я даўно гаварыў, што з імі больш строга трэба, а ты ўсё — няньчышся. Вот і даняньчыліся.

Пасля гэтага маўчаць абое.

— Ведаеш, а можа, і не трэба лямант зараз падымаць. Дзеці яшчэ, што ад іх хацець? Успомні, што мы вытваралі, як малыя былі. Ім жа хочацца чагосьці незвычайнага. Нейкай таямнічасці, ці што... У нас, калі мы малыя былі, лес быў побач, балоты з чарцямі, беганіна да поўначы па завуголлю, а ў іх што цяпер ёсць сярод гэтых будынін, машын, асфальту?.. Пройдзе дурасць і — усё супакоіцца. А вот ты зараз пачнеш з папругаю гаварыць, наводзіць свае парадкі — у яго крыўды і злосці будзе па самыя вушы. На ўсё жыццё. А то яшчэ, чаго добрага, і з дому збяжыць. Ён жа — вялікі ўжо, па табе ўдаўся, як выліты... Ты на яго са злосцю, а ён на цябе. Калі на зло злосцю адказваць, дык, я табе скажу, і азвярэць нядоўга чалавеку.

— От правільна, от маладзец, я і не ведаў пра гэта

дагэтуль, Талстога ні разу не чытаў. У цябе як у таго Алмазава атрымліваецца. У таго таксама тэорыя — што б на свеце ні здарылася, на ўсё знаходзіцца тлумачэнне, ён табе ўсё на свеце можа апраўдаць, па-ягонаму выходзіць, што б ні тварылася сярод людзей, якое б паскудства ні вялося, але яно — патрэбнае, без яго дык і прагрэсу не будзе... Точна так і ў цябе: хай хоць з заўтрашняга дня наш пакутнік ідзе ў пад'езды да тых валасацікаў, што ля гітар трасуцца. Ім жа таксама нечага хочацца, таямнічасці, рамантыкі...

— Андрэй, як ты не хочаш зразумець аднаго: дзеці ёсць дзеці. Хоць, здаецца, і ёсць у іх усё, і яда і адзенне, але ж... Мы ўсе работаю заняты, кожны сваёю, зусім рознаю, і ты, і я, ды і ўсе астатнія. А дзецям што застаецца? Дзеці ў нас цяпер проста ля ног блытаюцца, работу замінаюць рабіць. Яны ж у нас — як тыя сабачкі, якіх заводзяць, каб сумна не было. Некалі мы ў вёсцы дык хоць памагалі бацькам, бачылі і вучыліся ў бацькоў рабоце. А зараз яны ведаюць, чым мы на рабоце займаемся, трэба ім наша работа? Астаецца толькі дом. А што дома? Адны і тыя ж сцены, тэлевізар, самае большае — двор, дзе асфальт і роўныя сцены. Гэта ж не ў вёсцы. Калі мы з імі ў парк хадзілі ці ў той жа лес ездзілі? А казкі калі мы ім гаварылі? Нам жа — век некалі. У мяне — бялізна, кухня, уборка, а ў цябе — кніжкі, газеты, падработкі вячэрнія.

— Ну дык і сядзелі б сярод голых сцен, калі б не гэтыя падработкі,— зноў ускіпае Разорчык.— Што мне — разарвацца на часткі?..

— Ды я зусім не пра тое, Андрэй. Няўжо ты нічога не разумееш?

— Чаго я не разумею?

— Нешта ў нас не так пайшло. Няўжо не чуеш і не бачыш? — Люда паварочваецца да Разорчыка тварам, кладзе руку на ягоныя валасы.— Кідаешся, кіпяцішся, а ўжо — сівееш. Табе ж ужо — сорак. Колькі нам засталося, ці думаў ты хоць калі?

І тут Разорчык заціхае, у душы ягонай нешта пераварочваецца ад гэтага «сівееш»,— ён глядзіць цяпер у столь і ціха, як пра якую таямніцу, гаворыць:

— А як і не жыў быццам. Як на вакзале ўсё роўна. Усё ўладкоўваешся і спадзяешся, што сапраўднае жыццё будзе потым, потым... Вот інстытут закончыш... Вот кватэру атрымаеш... На грошы пойдзеш... Дзеці хва-

рэць перастануць, падрастуць, на свае ногі стануць, і тады ўжо... Сорак год, а ўсё яшчэ — як хлопчык на пабягушках... І што набыў? Няўжо так і жыццё пройдзе?

— Андрэй, ты хоць гавары калі са мною, добра? Толькі не маўчы цэлымі днямі. Вернешся з работы — і хоць пра што, хоць пра тыя ж непаладкі на рабоце, але гавары мне, добра? Паглядзі, як мы сталі маўчаць, мы ж цяпер — амаль што чужымі сталі, як кватаранты. І дзеці нас пачалі баяцца, староняцца. Яны ўсё бачаць і адчуваюць больш за нас. Калі так і далей будзе, Андрэй, я не вытрымаю, мы разбяжымся, вот папомніш ты мяне.— Як гэта часта ў іх бывае, нечакана размова паварочваецца зусім на другое. Але ні Разорчык, ні Люда гэтаму не здзіўляюцца, як быццам так і трэба.

— Ты што гаворыш, дзеўка? Здурнела, ці што? З чаго ты ўсё гэта ўзяла, якая цябе муха ўкусіла сягоння? — ад пачутага Разорчык зноў падымаецца, садзіцца і глядзіць на Люду. І тут нейк па-новаму ўспамінаюцца апошнія тыдні іх жыцця, успамінаецца той дзіўны начны сон пра чужую невядомую жанчыну.

Божухна, яна, Люда, як у душу глядзіць!

Люда плача. Так і не выціраючы слёз, так і не перастаючы гладзіць ягоныя валасы. І яшчэ яна стараецца ўсміхнуцца той балючай і нейкай вінаватаю ўсмешкаю...

— Ну, кінь, кінь дурное думаць.— Разорчык разгублены і не ведае, што сказаць, ведае толькі, што зараз як ніколі трэба гаварыць, абавязкова трэба. І таму ён выцірае рукою слёзы і ўсё паўтарае: — З чаго ты ўзяла такое? Ну і выдумала, дзеўка.

Дзіўнае пачуццё паяўляецца да Люды. Яе шкада, як ніколі дагэтуль. Як малога дзіцяці. Ён зараз бачыць у ёй зусім другога чалавека, не таго, з якім часта сварыўся, якому ўвесь час хацеў даказаць нешта сваё, сваё...

Аказваецца, яна ўжо добра такі памятая жыццём. Гэтыя сетачкі маршчынак як ля вачэй, так і ля куточкаў рота, гэтая высахлая ад мыцця бялізны скура на пальцах, гэтыя вочы, у якіх ужо знік той жывы агністы бляск, які некалі так прыцягваў да сябе... І гэта ўсмешка, гэтая вінаватая ўсмешка, ад якой у душы ўсё пераварочваецца.

І няўжо гэта не хто-небудзь, а яна была вясёлай бесклапотнай дзяўчынаю, з якой так лёгка і радасна бы-

ло. Куды падзелася ўсё тое — той смех, тая пяшчота, сарамлівасць, наіў?.. Як жа яны змяніліся за гэтыя гады!

І тут нечакана Разорчык не зразумеў, а адчуў нейкім новым, дагэтуль нязнаным пачуццём, што Люда — адзінокая. І як толькі ён гэта адчуў, яму стала яе так шкада, што ён аж спалохаўся. Чаму, чаму раней ён гэтага не мог адчуць?

— Перастань, дзеўка,— усё гаворыць і гаворыць Разорчык. Ён памалу нахіляецца да твару Люды і асцярожна, як некалі ў маладосці, датыкаецца вуснамі да яе шчок, вачэй...— Мы яшчэ пабачым неба ў алмазах... Вот паглядзіш...

Дзіўна, Разорчык ніколі столькі не гаварыў. Звычайна яны ў апошні час моўчкі клаліся спаць, моўчкі, кожны сам па сабе, засыналі, а калі што і было між імі, то — таксама моўчкі, без ніводнага слова. А вось зараз як штосьці прарвалася. І зараз Разорчык адчувае, што гэта бездапаможнасць Люды, яе слёзы так іх яднаюць, як нішто іншае не можа з'яднаць.

А потым яны ўсё ж засынаюць. І тут Разорчыку пачынае сніцца сон. Зусім не такі, як мінулай ноччу.

## Сон Разорчыка

Апынуўся ён у нейкай невядомай краіне, у якой — не ведае. Ён азіраецца вакол і куды ні гляне — бачыць роўны-роўны асфальт, які назусім схаваў зямлю. І яшчэ бачыць Разорчык удалечыні перад сабою высокую будыніну. Да той будыніны ідуць адусюль людзі. Шмат людзей, вельмі шмат. І розныя яны ўсе. Каго тут толькі няма! Тут і індусы, загорнутыя ў стужкі тканін, з высокімі чалмамі на галовах. Тут і чорныя негры, у розным адзенні, яркім, стракатым,— на хаду гэтыя негры танцуюць, махаючы над галавою рукамі... Ідуць невысокія смуглявыя з вузкімі вачыма людзі,— мяркуючы па адзенню, то — японцы... І яшчэ, яшчэ людзі — з шырокімі капялюшамі, што хаваюць загарэлыя да чарнаты твары, у джынсах скураных, відаць, то мексіканскія каўбоі... Ідуць апранутыя ў футра людзі — а гэта, мабыць, эскімосы... Колькі, колькі тут людзей, і ўсе яны — розныя, па-рознаму гавораць, па-рознаму апранутыя! Азіраючыся на гэтых людзей, Разорчык таксама пачынае ісці разам з імі да высокага будынка, які нечым на-

гадвае універмаг — з тымі ж высокімі, насцеж адкрытымі дзвярыма, вялізнымі вокнамі. І ўсе гэтыя людзі, на якіх Разорчык глядзеў шырока адкрытымі вачыма, стараліся ўвайсці ў той будынак, тых жа, хто выходзіў адтуль, не відаць зусім. Зверху будыніны над дахам зіхацяць, пераліваюцца каляровыя неонавыя літары. Як светлавая газета ўсё роўна, з той розніцаю, што літары не бягуць, а ўспыхваюць і гаснуць, успыхваюць і гаснуць:

ЗАХОДЗЬЦЕ!
ТУТ ЗНОЙДЗЕЦЕ ІСЦІНУ! ЗАХОДЗЬЦЕ!

Але ўсё гэта не надта здзіўляе Разорчыка, здзіўляюць яго двое маладых мужчын, якія, бы швейцары ў рэстаране, стаяць ля ўвахода ў будыніну. Апранутыя яны ў аднолькавае фірменнае адзенне: цёмна-блакітныя строгія касцюмы, белыя кашулі, матылькі-гальштукі, чорныя лакавыя туфлі. Твары ў гэтых мужчын чыстыя, гладкія, з бялюткай скурай. У іх чорныя бровы, чырвоныя, яркія, як нафарбаваныя, вусны. Самае дзіўнае для Разорчыка, што гэтыя маладыя людзі, якія вельмі нагадвалі манекенаў, былі падобны між сабою. Як блізняты ўсё роўна, здаецца, перастаў іх месцамі і нічога не заўважыш. Але, канечне, яны былі не манекены, яны гучна гаварылі людзям, якія валам валілі да адчыненых дзвярэй:

— Заходзьце, не пашкадуеце. Вы такога век не бачылі і не ўбачыце ніколі.

— Уваход бясплатны.

— Просім вас зайсці, тут знойдзеце тое, што мудрацы ўсіх часоў і народаў шукалі і ніяк не маглі знайсці. Бо калі б знайшлі, чалавецтва даўно стала б шчаслівым, а так вы самі бачыце, што творыцца на белым свеце. Так што хутчэй, хутчэй да нас.

— Просім, просім вас. Тут вас ніхто затрымліваць не будзе, захочацца — у любы міг можаце выйсці і пайсці сваёй дарогаю.

І галасы ў людзей падобныя.

Азіраючыся на гэтых падобных адміністратараў, Разорчык разам з людзьмі заходзіць у будыніну.

Там, у вялікім вестыбюлі, ужо, аказваецца, безліч народу. Каго, каго тут толькі няма! Акрамя тых людзей, якіх ён ужо бачыў, калі ішоў да будыніны, тут ёсць і другія, нечым знаёмыя Разорчыку. Тут былі да-

гледжаныя салідныя мужчыны і жанчыны, апранутыя ў нияркія касцюмы, якія так падыходзяць да загарэлых твараў. Гэтыя дагледжаныя людзі, здаецца, ва ўсякай абстаноўцы будуць весці сябе прыстойна і з гонарам, яны ніколі нідзе не разгубяцца, не пачырванеюць нават, нічому не здзівяцца,— таму і тут яны зараз нетаропка спакойна азіраліся, знешне не здзіўляючыся і не надта радуючыся, быццам у гэтай будыніне бывалі не раз і не два. Гэтыя салідныя самастойныя людзі нейкім невядомым пачуццём заўсёды разумеюць і адчуваюць адно аднаго і таму, як гэта заўсёды вядзецца, і тут пазбіраліся ў нейкія свае купкі і ўжо аб нечым перагаворваліся, пасміхаючыся аднымі вуснамі. Тут шмат і моладзі — вёрткіх хлопцаў у яркіх бліскучых балоневых куртках, у туфлях на тоўстай-тоўстай падэшве, дзяўчатак з вогненнымі чырвонымі вуснамі, усе яны, як і тыя ж дагледжаныя самастойныя людзі, таксама пазбіраліся ў нейкія свае групкі, толькі гаварылі яны не ціха, а гучна, як знарок ці з выклікам смяяліся, адкідваючы галовы, і ўсё з цікаўнасцю азіраліся па баках на тых розных людзей, чорных, белых, жаўтатварых, якія гэтаксама збіраліся ў свае групкі і ўсё пра штосьці сваё гаварылі і гаварылі. Тут былі і пажылыя людзі, у гэтых некалі модных і прыгожых капялюшыках, у старых паношаных паліто з аблезлымі выцертымі каўнярамі, у невядома адкуль выкапаных зараз зусім нямодных туфлях, чаравіках ці боціках — ва ўсім тым, што зараз было для іх адзіным рэальным напамінам пра вясёлую шчаслівую маладосць і таму цяпер яшчэ здавалася такім прыгожым... Старыя людзі, як гэта часта бывае, з нейкай віною і разгубленасцю ў позірку азіраліся вакол сябе і не ведалі, дзе стаяць: ля салідных самастойных людзей ці ля вясёлай моладзі, і там і там яны адчувалі сябе лішнімі, і таму ім таксама нічога не аставалася, як збірацца ў свае купкі. Было тут і шмат вёрткіх дзелавых мужчын і жанчын, якія ў любой кампаніі адчуваюць сябе як рыба ў вадзе, прыжмуранымі чэпкімі вачыма яны паводзілі вакол сябе, ужо загадзя да чагосьці прымерваючыся і прыцэньваючыся. Было тут і шмат сямейных пар,— трымаючы дзяцей за рукі, бацькі азіраліся таксама, на іх тварах застыла вясёла-разгубленая ўсмешка, якая часта паяўляецца ў людзей, калі яны трапляюць у нязвыклае асяроддзе. І нельга сказаць, што людзі тут былі з адной мясцовасці ці з ад-

нага якога горада,— не, усе тут стаялі ўперамешку: белыя, негры, метысы... І яшчэ кідаўся ў вочы нейкі дзіўны дзядзька — мусіць, з вёскі прыехаў і вось сюды заляцеў знянацку. Ён быў у ботах, у вайсковым галіфэ і гімнасцёрцы, у летняй вайсковай фуражцы. Разглядаючы мужчыну, Разорчык успомніў, што вось гэтак любілі апранацца на святы вясковыя мужчыны. Як з фронту вярнуліся. У гэтага дзядзькі ў руках былі кошыкі,— тыя плеценыя лазовыя кошыкі, якія гэтаксама пасля вайны былі ў самай модзе. Дзядзька быў нечым знаёмы Разорчыку — і тварам, і постаццю, недзе некалі бачыў яго Разорчык, можа, нават і гаварыў з ім, але вот толькі дзе і калі?

Дзядзька круціў галавою і гучна, не саромеючыся, пытаўся неяк адразу ва ўсіх:

— Дык дзе тут тая ісціна?

І, як і заўсёды ў такіх выпадках, нехта адзываўся, а хто і пасмейваўся. Адзін малады хлопец, пільна гледзячы старому ў вочы, гэтак жа гучна, сур'ёзна пытаўся:

— Дзед, а ты як і адкуль сюды трапіў?

— З Жыціва,— гаварыў дзядзька, не разумеючы, куды хіліць хлопец.

— Там усе такія разумныя ці ты адзін толькі на ўсю дзярэўню? — хлопец пасмейваўся, усё гледзячы ў вочы старому чалавеку.

— Усе, усе,— відаць, мужчына ў вайсковым адзенні так нічога і не зразумеў.

— Нічога, дзед, ты толькі нас трымайся,— падміргваў з другога боку малады жулікаваты хлопец,— мы яе тут ухопім. нідзе яна ад нас не падзенецца, тая ісціна...

І вось Разорчык прыкмячае, што памалу людзі ўсё далей і далей адціскаюцца ад увахода тымі новымі людзьмі, што заходзяць і заходзяць бесперастанку ў будыніну. І тут перад Разорчыкам, як і перад другімі людзьмі, паказваецца скульптура.

Скульптура як скульптура: за сталом на крэсле сядзеў схіліўшыся чалавек і лічыў штосьці на лічыльніках. У акулярах быў той чалавек, у нарукаўніках — здавалася, то быў самы звычайны канторскі работнік. Самае дзіўнае было, што яна — з чыстага золата. Гэта было настолькі дзіўна і нечакана, што людзі самі сабою стараліся блізка не падыходзіць да той скульптуры — відаць, вачам сваім не верылі, гэты жаўтаваты бляск

як бы адштурхоўваў ад сябе. А тым болей што пакуль нікому не было зразумела — навошта, за якія заслугі наставілі чалавеку такую скульптуру. Зверху над скульптураю, як і над уваходам у будыніну, гарэлі вогненныя неонавыя літары:

ПАКЛОНІМСЯ НІЗКА ЧАЛАВЕКУ, ЯКІ,
СЕДЗЯЧЫ НА АДНЫМ МЕСЦЫ,
З ДАПАМОГАЮ ПРОСТЫХ ЛІЧЫЛЬНІКАЎ
НАВУЧЫЎСЯ РАБІЦЬ ГРОШЫ —
ГЭТАЕ НАЙВЫШЭЙШАЕ ДАСЯГНЕННЕ
ЧАЛАВЕЦТВА!

Ля скульптуры стаялі адміністратары і гаварылі:

— Хто з вас жадае разбагацець — здайце на час грошы нашаму прадстаўніку. Калі вы будзеце выхадзіць ад нас, вы атрымаеце іх назад разам з працэнтамі.

— Вельмі выгадны фокус. Толькі дзеля вас мы яго і дэманструем.

Тут жа, ля адміністратараў, сядзеў за сталом жывы рэальны чалавек, як дзве кроплі падобны на скульптуру: у такіх жа нарукаўніках і з такімі ж лічыльнікамі на стале. Гэты чалавек браў ад людзей грошы і выпісваў ім квіткі. І гаварыў пры гэтым: «Мне тут няма ніякай выгады — паглядзіце самі, як я апрануты, гляньце на мае нарукаўнікі. Якая тут выгада, гэта адно разарэнне на такой рабоце. Так і быць, гэта ўжо толькі дзеля вас стараюся...»

Але вось скульптура застаецца ззаду, вестыбюль памалу вузее, ён як бы ператвараецца ў нейкі калідор не калідор, а штосьці шыракаватае, паабапал чаго відаць розныя калідорчыкі, закуткі, куды можна заходзіць і заглядваць. Як усё роўна нейкая вялізная выстаўка пачынаецца. Разорчык ідзе па праходзе і пачынае глядзець па баках. Самае дзіўнае, што і тут стаяць усё тыя ж аднолькавыя адміністратары,— гэткія ж, як і на ўваходзе ў будыніну, як і ля залатой скульптуры. То па адным, то па двое яны стаяць і гавораць:

— Праходзьце, выбірайце што заўгодна.

— Смялей, смялей праходзьце.

Што ж тут выбіраць? Куды праходзіць?

Глядзіць Разорчык па баках і бачыць... Бачыць ён такое, што лепей бы і вочы ягоныя не глядзелі.

Вунь, у калідоры направа, стаіць аголеная жанчына

на круглай сцэне. Не манекен, а жывая, сапраўдная. Да яе, канечне, не прабіцца, там поўна мужчын, кожны глядзіць на яе па-рознаму, адны — абураюцца, накінула б на сябе штосьці, другія — крывяць вусны ў загадкавай усмешцы, а трэція... Не будзем гаварыць пра трэціх.

І амаль гэтак жа, толькі ўжо налева, у гэткім жа калідорчыку, стаіць на сцэне аголены мужчына. І ля яго — таксама шмат людзей. Чуюцца каментарыі.

І дзіўна Разорчыку, што ні тая жанчына, ні мужчына не саромеюцца. Разорчык глядзіць угору і там бачыць гэткія ж, як і над дахам будыніны, як і над залатой скульптураю, знаёмыя неонавыя каляровыя літары, толькі значна меншыя:

НАВУЧЫМСЯ ГЛЯДЗЕЦЬ НА СВАЮ
АГОЛЕНУЮ СУТНАСЦЬ

СОРАМ — ПЕРАЖЫТАК СТАРЫЗНЫ
І АДСТАЛАСЦІ

Ад здзіўлення і атарапеласці Разорчык аж спыняецца. Але ненадоўга. Азірнуўшыся, ён бачыць знаёмых спакойных адміністратараў, чуе іх роўныя спакойныя галасы:

— Праходзьце, праходзьце далей. Там яшчэ цікавей будзе. Гэта толькі пачатак.

— Не забывайцеся карыстацца нашымі паслугамі. Не забывайцеся — тут усё бясплатна.

Далей ідзе Разорчык і бачыць як бы кніжную выстаўку, ля прылаўкаў поўна людзей. Зверху над прылаўкам мігцяць вогненныя літары:

СВАБОДУ! СВАБОДУ! СВАБОДУ!
ДАДЗІМ КОЖНАМУ ТОЕ, ДА ЧАГО ЁН
ІМКНЕЦЦА!

Прабіўшыся да прылаўкаў, бачыць Разорчык шмат кніг і часопісаў, на вокладках якіх усё тыя ж мужчыны і жанчыны, пісталеты, страшыдлы розныя, што гоняцца за спалоханымі людзьмі... Бярэ Разорчык наўзгад адну з кніжак, адкрывае яе і тут жа на разгорнутай старонцы натыкаецца на словы: «Яна прыхінулася да яго гарачым целам...»

Абураны Разорчык кідае на прылавак кнігу, і яе тут жа хапаюць чыесьці рукі.

— Во нарэшце дзе сапраўдная літаратура! А размах які, а мысленне на якім узроўні! — чуе ззаду Разорчык, калі ўжо адыходзіць ад прылаўка. Разорчык азіраецца — бачыць маладога хлопца, што зараз праглядае кінутую Разорчыкам кнігу. Ад асалоды хлопец прытупвае нагою.

І вось ужо штосьці мяняецца ў людскіх паводзінах. Тая першая здзіўленасць праходзіць, людзі становяцца жвавейшыя і ўсё смялей разбягаюцца ад цэнтральнага прахода па розных калідорчыках, закутках, балазе, чаго там толькі няма.

І зноў наверсе каляровыя вогненныя літары:

НАЗАД ДА ПРЫРОДЫ!
ДАЛОЎ ВЕКАВЫЯ МАРАЛЬНЫЯ ЗАГАРОДКІ!

НЕ ВЫПУСКАЙ СВАЙГО, ЛАВІ МОМАНТЫ,
КАЛІ ЯНЫ ЦУДОЎНЫЯ!

«Ды што ж гэта такое творыцца? — шэпча сабе Разорчык.— Што ж гэта за хвалёны замежны рай?»

А далей... далей нейкі буфет, ці што... І даюць у ім бясплатна і тое ж віно, і гарэлку, і кактэйлі каляровыя, і закускі розныя... Гэта буфетная стойка доўгая-доўгая...

І чым далей ідзе Разорчык, тым болей здзіўляецца. Людзі, якія дагэтуль былі ціхія, ашаломленыя ўбачаным, нават разгубленыя, цяпер асмялелі, тым болей што падобныя адно на аднаго адміністратары нічога не забараняюць, наадварот, запрашаюць і запрашаюць аднолькавымі галасамі:

— Не бойцеся і не саромцеся, у нас усё дазволена.

— Праходзьце, праходзьце, кожны выбірайце, што захочацца.

— Тое, што ў адных народаў грэшнае, у другіх яно — праведнае, так што — ніякіх абсалютных правілаў і нормаў не існуе для чалавека.

І вось ужо чуе Разорчык:

— Во дык лафа... І ў сне не прысніцца.

— Во гэта жысць настаяшчая!

І бачыць Разорчык, як побач загараюцца нездаровым бляскам вочы маладых хлопцаў і дзяўчат, як многія кідаюцца да той жа доўгай буфетнай стойкі, дзе выстаўлены шклянкі з піццём, многія тут жа п'янеюць, і хто мацнейшы ідзе-брыдзе направа ці налева, да тых жа будак, што падобны на тэлефонныя, а хто — не ўтры-

маўшыся на нагах, апускаецца на падлогу... І ўжо хто з кім абдымаецца і цалуецца: старыя сівыя дзяды з маладымі дзяўчатамі, і нават многія салідныя пры «мятліках» мужчыны, крутануўшы па баках бліскучымі вачыма — ці ёсць хто са знаёмых? — нейкім амаль што няўлоўным завучаным рухам указальнага пальца зрываюць з кашулі «мятліка» і спяшаюць хутка.

І вось ужо нехта да некага прыстае, махаюць адно перад адным кулакамі, дужэйшыя адціскаюць слабейшых — нешта нядобрае пачынаецца тут. Але адміністратары ні ў што не ўмешваюцца — стаяць і глядзяць спакойна на людзей.

Як на лес зялёны, што шуміць і шуміць пад парывамі ветру.

І ўсё яшчэ круціцца, круціцца перад Разорчыкам гэты недарэчны вясковы мужчына з кошыкамі. Ён, чым далей, тым усё болей выдзяляецца сярод людзей. Ягоныя пытанні здаюцца цяпер ужо нейкімі недарэчнымі:

— Дык дзе тут тая ісціна? Дзе яна? Пакажыце, хоць бы адным вокам глянуць на яе...

Але не да старога цяпер, як і не да ягоных пытанняў, кожны зараз заняты сваім, і, здаецца, нікому няма справы да суседа. Толькі адміністратары ўсё запрашаюць і запрашаюць:

— Праходзьце, праходзьце далей. Там вам скажуць і пакажуць не толькі ісціну...

Далей ідзе Разорчык.

І тут — новае відовішча. Бачыць ён сцэны, дзе мужчыны і жанчыны з распушчаныміваласамі штосьці незразумелае хрыпла выкрыкваюць у мікрафоны... Тут жа і музыканты. Чуецца нешта рытмічна дзугаючае — музыка не музыка, а нешта громападобнае, што чуецца з вялікіх дынамікаў і проста такі б'е ў грудзі, абуджаючы ў душы штосьці цёмнае і брыдкае. Перад сцэнаю — вялікі натоўп моладзі, яна хорам у такт громападобным ударам задаволена выкрыквае: «Ой-ай, тру-ля-ля...»

НАВУКУ І ТЭХНІКУ
НА СЛУЖБУ ЗАДАВАЛЬНЕННЮ!

Бачыць Разорчык людзей у вялізнай зале, якія сядзяць з круглымі бліскучымі навушнікамі і, заплюшчыўшы вочы, ківаюць з боку на бок галовамі. Як п'яныя ўсё роўна... Тут жа — ветлівыя адміністратары, якія гавораць:

— Праходзьце, смялей праходзьце. Вось жадаючым навушнікі. Хто з вас жадае паслухаць наша апошняе дасягненне — новую музыку? Вы яшчэ такой не чулі, вядома, не чулі, тады спяшайцеся, спяшайцеся. Калі ласка, праходзьце хутчэй і бярыце навушнікі. Усаджвайцеся лепей і заплюшчвайце вочы ад асалоды. Хто сядзець не хоча, можаце класціся...

Якая, аказваецца, вялізная будыніна!

А вунь, а вунь... Вунь машыны, што да беспрытомнасці круцяць, закалыхваюць людзей, вунь вялізная зала, дзе стэрэакіно з вялікімі страсцямі. І ў той зале — які прагрэс! — і пахі ёсць — у залежнасці ад таго, што на экране паказваецца буйным планам. І для многіх людзей тое, што на экране,— нашмат цікавей, чым рэальнасць, і таму, выйшаўшы з залы, схадзіўшы да буфетнай стойкі і схапіўшы шклянку з пітвом, людзі тут жа спяшаюць назад да салодкага відовішча. Некаторыя толькі і паспяваюць кінуць на хаду:

— Во гэта — мастацтва! Куды нашым лапатнікам!

Азіраецца Разорчык наўкола і ніяк нічога не можа зразумець.

— Што ж тут такое робіцца? — шэпча ён сабе.

Ён усё болей рашуча прабіраецца наперад, дзе ўсё меней і меней людзей.

Бо многія, відаць, ужо даўно забыліся, дзеля чаго сюды прыйшлі,— стомленыя людзі, як восеньскія мухі, ляніва цягаліся ўзад-уперад, то да залы стэрэакіно, то да навушнікаў з музыкаю, то да буфета, то да будак... Шмат людзей сядзела ўжо проста на падлозе — неахайныя, паўраспранутыя. Яны ўжо нічога не рабілі, нічога ім не хацелася, а толькі глядзелі перад сабою бяздумнымі позіркамі, і невядома, што яны бачылі... І самае дзіўнае, што тут было шмат хлопцаў і дзяўчат, якія ў свае дваццаць — дваццаць пяць год выглядалі на ўсе пяцьдзесят — штосьці соннае было ў іх паводзінах, у выразах твараў, і ўжо, здавалася, іх нічым і ніяк не здзівіш.

Нават тут, у гэтай будыніне.

А сем'і, а дзеці... Калі дарослыя бацькі былі разгубленыя ад таго, што бачылі і адчувалі, то што ўжо гаварыць пра дзяцей?.. Многія дзеці зараз бадзяліся без толку, яны былі нікому не патрэбны, ніхто за імі не глядзеў, ніхто імі па-сапраўднаму не цікавіўся.

Ён азіраецца вакол сябе, шукаючы падтрымку... Але

не да Разорчыка людзям. Некаторыя з іх яшчэ ішлі наперад, куды ішоў і Разорчык. Але цяпер яны ішлі не так, як некалі, адразу трапіўшы ў будыніну,— павольна перастаўляючы ногі, лена азіраючыся, абы не стаяць на месцы.

Цяпер Разорчык бачыць шмат курцоў — сядзяць на падлозе купкамі і працягваюць прахожым сваё зелле:

— На, стары, зацягніся хоць разок.

А наверсе ўсё тыя ж знаёмыя літары:

ЖЫЦЦЁ — ГЭТА СОН!
КУРЫ ТРАВУ — УБАЧЫШ ТЫЯ
ЦУДОЎНЫЯ СНЫ,
ЯКІЯ НАЯВЕ НІКОЛІ НЕ ЎБАЧЫШ!

І тут, калі здаецца Разорчыку, што ўсяму гэтаму канца-краю не будзе, бачыць ён яшчэ адну сцэну, перад якой сабралася дзесяткі два чалавек.

— Чаго чакаем? Ці скора пакажуць тую ісціну? — тут жа таптаўся той вясковы дзядзька ў вайсковай форме. Кошыкаў сваіх ён так і не кідаў. Мусіць, ён так ні разу і не перакусіў і не выпіў — позірк быў цвярозы, а рухі ўпэўненыя...

Нарэшце на сцэну з-за чорных кулісаў выходзіць адміністратар — гэткі ж, як і ўсе астатнія адміністратары, з такім жа гладкім паголеным тварам, гледзячы на які нельга пэўна сказаць, колькі ж яму год: ці дваццаць, ці сорак? Адзенне на адміністратару такое ж, як і на астатніх адміністратарах.

«Якія ж яны аднолькавыя! І дзе ж іх гэтулькі набралі?» — яшчэ раз здзіўляецца Разорчык, разглядаючы адміністратара.

Адміністратар падымае ўгору руку, просячы цішыні. Затым ён пачынае гаварыць роўным дыктарскім голасам:

— Стагоддзі чалавецтва шукала ісціну. Шукала і ніяк не знаходзіла... Я не буду сягоння доўга гаварыць пра гэты пакутлівы, доўгі шлях да ісціны, у мяне сягоння іншая мэта. Я сягоння — гістарычны момант! — абвяшчу вам ісціну.

Слухайце, уважліва слухайце, запамінайце і другім перадавайце!

Як і ўсё на свеце, што на першы погляд здаецца

складаным, у рэшце рэшт аказваецца простым, гэтак жа сталася і з ісцінаю. Дык вось я абвяшчаю яе:

*Ісціна — у асалодзе чалавечай.*

Усё, што чалавек робіць, што будзе рабіць на працягу доўгага жыцця, усё гэта — даказанае шматлікімі эксперыментамі на жывёлінах, праверанае эксперыментальнымі методыкамі ў клініках, абгрунтаванае як тэаратычна, так і статыстычнымі аналізамі — звязана з асалодаю. У большай ці ў меншай ступені. Вам дагэтуль забівалі галовы рознымі тэорыямі, спрабавалі прывучыць да мастацтва, і ўсё гэта рабілася толькі дзеля таго, каб надалей схаваць ад вас ісціну.

Вялікую і простую ісціну, адкрытую намі.

— Здорава выдаеш, стары! Ты проста чытаеш мае думкі,— крыкнуў задаволена хлопец, які стаяў побач з Разорчыкам. Адною рукою ён прытрымліваў за плечы худзенькую даўганогую дзеўчынёшку з шырока адкрытымі наіўнымі вочкамі, а ў другой трымаў шклянку з півам.

Адміністратар тут жа міргнуў хлопцу, як добраму даўняму знаёмаму, і зноў падняў угору руку, просячы цішыні:

— Зыходзячы з вышэйсказанага, гледзячы праўдзе ў вочы, мы прадумалі ўвесь цыкл чалавечага жыцця, таго будучага жыцця, у якім пасля сягонняшняга дня кожны з вас можа апынуцца. У тым жыцці мы ўсё паставілі на службу асалодзе. Нават смерці вы ніколі не адчуеце, бо, па-першае, смерць — гэта ўсяго-наўсяго заканамерны распад жывога арганізма згодна законаў тэрмадынамікі і росту энтрапіі. А заканамернасці, як вядома, нечага здзіўляцца. Ды і ўвогуле, ці варта думаць і гадаць пра загадку смерці, калі ніхто, ніводзін з вас не глянуў і не можа глянуць па той бок неадольнай мяжы? Ці варта замахвацца на недасягальнае? Калі вы тут, то і хапайце, хапайце абедзвюма рукамі як найхутчэй усё, што можаце... А па-другое, вы самі са смерцю сутыкацца ніколі не будзеце. Вы, я вам гэта абяцаю, за ўсё сваё вясёлае бесклапотнае жыццё ні разу не пабачыце нябожчыка. Бо слёзы, хаўтуры, жалоба — усё гэта глупства, перажытак цёмнай старыны, якой мы аб'явілі рашучую барацьбу ў імя светлага прагрэсу.

Як і многаму іншаму, ад чаго трэба хутка і рашуча адкасnуцца.

Спецыяльная фірма ўсё зробіць без вашага асабістага ўдзелу, па самаму вышэйшаму гатунку. Вы нават — падумаць толькі! — асалоду пры гэтым атрымаеце. І калі вам самім захочацца пайсці з гэтага свету, то, паверце, мы пра гэты варыянт таксама паклапаціліся, ніякіх пакутаў у вас не будзе, мы вам нірвану створым яшчэ пры жыцці...

Займацца любімай справаю, чытаць кнігі, маляваць карціны, ствараць новую музыку вам таксама не спатрэбіцца. Навошта? Няўжо вы думаеце адкрыць нешта новае для чалавецтва? Ды вы спачатку паспрабуйце разабрацца ў той гатовай інфармацыі, якую мы вам выдадзім. Мы ўсё асноўнае разлічым, адкрыем, падкажам і створым: і музыку напішам, цэлыя сімфоніі, і карціны намалюем, і нават кнігі напішам. А калі каму і захочацца пачытаць якую кнігу ці карціну паглядзець, то так таму і быць, гэта таксама будзе зрабіць няцяжка, у нас маюцца розныя відэакасеты, і вось з мэтаю больш рацыянальнага выкарыстоўвання часу мы пад час сну будзем уносіць у кару галаўнога мозга ўсю патрэбную вам інфармацыю.

Тое, што мы сягоння прадэманстравалі вам у нашых павільёнах, гэта толькі пачатак нашай магутнай дзейнасці, распрацаванай нашым штатам. Тое пітво, якое вы пілі, тыя закускі, якія вы сягоння елі,— гэта ўсё наша дзейнасць, вынік нашай дзейнасці, без якой вы ўжо нават на сённяшні дзень не можаце абысціся.

І вось зараз — таксама запомніце гэты гістарычны момант — я прадэманструю вам некаторыя нашы новыя дасягненні. Навука і тэхніка на службе асалодзе,— магчыма, вы ўжо бачылі гэты лозунг. Пад такім дэвізам працуюць нашы лепшыя розумы. Зусім нядаўна нашы вучоныя адкрылі ў кары галаўнога мозга чалавека спецыяльны орган, які адказвае за асалоду. Уздзейнічаючы на гэты орган спецыяльнымі, па зразумелай прычыне пакуль што засакрэчанымі, палямі, мы дадзім магчымасць адчуць чалавеку такую асалоду, якой — паверце мне — ніводзін з вас не атрымліваў у самыя-самыя шчаслівыя імгненні. За ўсё жыццё вы ні разу не атрымлівалі такой асалоды. Гэта, паўтараю, наша найвышэйшае дасягненне на сённяшні дзень. Але, каб атрымаць гэту асалоду, вы, безумоўна, павінны дапамагаць нам у нашых распрацоўках. З кожным з вас, хто будзе згодны з намі супрацоўнічаць, мы можам

заключыць кантракт, пасля якога вы павінны слухаць толькі нас. І больш нікога не слухаць: ні блізкіх, ні бацькоў, ні дзяцей сваіх, нікога... Але вы не будзеце шкадаваць аб гэтым, я вам гэта абяцаю, бо той, хто хоць аднойчы паспытае гэтай асалоды, ужо ніколі не зможа стаць ранейшым, бо ўсякая іншая асалода яму будзе здавацца дробязнай. Асалода тая зацьміць памяць і пра блізкіх, пра бацькоў, пра тое, што называюць радзімай, мараллю, этыкай,— пра ўсё забудзеце. Гэта, канечне, крыху падобна на тыя казкі ці легенды, у якіх некалі апісвалася, як людзі прадавалі душы д'яблу. Але вы людзі сучасныя, адукаваныя, у д'яблаў і ў душу не верыце, як і не верыце ў рэальнае існаванне Фаўста і Мефістофеля, і таму я буду з вамі гаварыць па-сучаснаму: вы — нам, мы — вам. Баш на баш, як гаворыцца, чыста дзелавыя адносіны, ніякіх Фаўстаў і Мефістофеляў, ніякай містыкі. І, яшчэ раз падкрэсліваю, ніякай халтуры...

На сцэну ў час гэтага маналогу другія адміністратары выкацілі крэсла, нечым падобнае на тое, якія бываюць у стаматалагічных кабінетах. На сядзенні крэсла ляжаў як матацыклетны шлем, толькі з мноствам дроцікаў, што падводзіліся ад шлема да пульта кіравання — невялічкай скрыначкі са шматлікімі кнопкамі і ручкамі. Гэта скрыначка мацавалася з боку крэсла на спецыяльнай падстаўцы.

— А зараз, каб вы на свае вочы ўпэўніліся, што ўсё гэта — не сон, а самая што ні ёсць сапраўдная рэальнасць, я прадэманструю вам нашы навуковыя дасягненні. Я запрашаю любога з вас у гэта крэсла, любога, хто хоча атрымаць найвышэйшую асалоду. Яшчэ ніводзін чалавек планеты не атрымліваў такой асалоды, так што рашайце — хто першы з вас? — гучна нараспеў гаварыў адміністратар і рукою паказваў на крэсла.

— Можна мне першаму? — выкінуў угору руку хлопец, які раней крычаў: «Здорава даеш, стары».

— Канечне, калі ласка, нам такія баявыя толькі і патрэбны,— радасна ўсміхнуўся адміністратар і нават аж пакланіўся хлопцу.

Хлопец кінуў дзяўчыну і, хістаючыся,— відаць, быў па падпітку,— пайшоў да сцэны.

— Гарык, а што ж мне рабіць? Ты ж некалі казаў — кахаеш! — крыкнула разгубленая дзяўчына ўслед хлопцу.

— Бабуленцыя, няўжо ты не разумееш, што каханне...— Хлопец паказаў рукою на крэсла: — Гэта новы этап кахання, а ўсё тое, што раней называлася каханнем, гэта даўно аджыло, гэта глупства. Бабуленцыя, трэба ісці ў нагу з прагрэсам, як ты гэтага дагэтуль не зразумела? — хлопец павярнуўся да дзяўчыны і нават са здзіўленнем паглядзеў на яе: — Не адчайвайся, і ў цябе таксама будзе сучаснае каханне. Ты пасля мяне пойдзеш, усякла? Сюды, у крэсла...

Памочнікі адміністратара пасадзілі хлопца ў крэсла. На ягоную галаву надзелі той бліскучы шлем з драцікамі.

— Як вам хочацца атрымліваць дозу асалоды: седзячы ці ў ляжачым стане? — чамусьці лісліва круціўся вакол хлопца адміністратар.

На імгненне хлопец нават разгубіўся ад такіх багатых магчымасцей. Потым ён неяк абыякава махнуў рукою і, пагардліва скрывіўшы вусны, сказаў:

— Ладна, стары, давай у паўляжачым. Я заўсёды любіў арыгінальнасць.

— Калі ласка, калі ласка, як пажадаеце, так і зробім,— усё круціўся адміністратар вакол хлопца. І чым болей ён круціўся, тым болей хлопец пыжыўся, нешта велічнае і нават пагардлівае паяўлялася на ягоным твары,— відаць, ён і сапраўды адчуваў сябе героем і зараз быў гатовы не толькі на эксперымент...

Крэсла адрэгулявалі, і вось...

— Увага, увага, назірайце ўсе, пачынаем сеанс,— гучна сказаў галоўны адміністратар і націснуў нейкую кнопку на пульце.

Бачна было, што хлопец імгненна заснуў, стаў як загіпнатызаваны ўсё роўна,— відаць, на яго і сапраўды падзейнічала тое засакрэчанае загадкавае поле. Потым на твары хлопца паказалася задаволеная ўсмешка. Як быццам сніў ён штосьці такое прыемнае...

Маўчалі, не зводзілі вачэй з хлопца і астатнія людзі — чакалі, чым скончыцца сеанс.

— Як ваша адчуванне? — спытаў адміністратар у хлопца, калі сеанс быў скончаны і з галавы яго знялі шлем.— Вы заключаеце з намі кантракт?

— Канечне. На любых умовах падпішу. Пра што тут яшчэ гаварыць, стары,— задаволена аблізнуў вусны хлопец. Як пасля смачнага абеду.

— Значыць, мы зараз і кантракцік падпішам,праўда? Як гаворыцца, не адыходзячы ад касы...

— Магу, чаго там, мне нядоўга. Вы толькі скажыце, калі наступны сеанс будзе, а за мною не заржавее,— відаць, хлопцу вельмі імпанавала, што яму кланяўся адміністратар, і ён ад гэтага аж расцвітаў.

— У вас, дарэчы, будзе такая слава, усе-ўсе на ўсёй планеце хутка будуць ведаць, што вы — першы, мы дадзім вам такую рэкламу, мы вам пры жыцці музей адкрыем.— І ўжо кантракт падсоўваўся пад рукі хлопца. А той, зачаравана слухаючы адміністратара, быў гатовы не тое што кантракт падпісаць...

— Цьфу, распуста кругом. А я думаў, ён нешта талковае скажа ці пакажа. І дзень сцёр і лапці здзёр... Калі б ведаў толькі, што гэтулькі за нос вадзіць будуць. От дурань стары, дык дурань, нічога не скажаш!.. Была б мая ўлада, штаны зняў бы з цябе ды лейцамі — тады б я табе паказаў бы асалоду,— нечакана гучна, з абурэннем загаварыў вясковы мужчына. Ён, так і не выпускаючы кошыкаў, усё стаяў дагэтуль непрыкметна між людзей і глядзеў на сцэну. Плюнуўшы сабе пад ногі, мужчына павярнуўся да сцэны спінаю, каб падацца назад, да выхада.

— Пачакайце,— закрычаў гучна адміністратар,— так сярод прыстойных інтэлігентных людзей не робіцца. Калі вы са мною не згодны, то так і скажыце, мы тады дыскусію адкрыем, паспрачаемся.

— Э-эх, трапіўся б ты мне, галубок, на фронце, там бы ты ў мяне, галубок, згадзіўся хутка... Там бы ты ў мяне адкрыў дыскусію. І за што, спытаць, галовы некалі лажылі? — так і не спыняючыся, мужчына сам сабеківае галавою і ідзе да выхада.

— Вы ведаеце, колькі дактароў навук даказалі нашу ісціну? А колькі акадэмікаў? А філосафаў колькі? А яны ж — не дурні, дарэчы... А ў вас, дазвольце спытаць, якая адукацыя? Недзе чатыры класы скончылі і — вілы ў рукі... Дык падумайце цвяроза, з кім вы думаеце дужацца?..

Але мужчына яго цяпер зусім не слухаў — штурхаючы людзей сваімі тут недарэчнымі дзіўнымі кошыкамі, ён ішоў да выхада. І тут толькі, гледзячы на спіну мужчыны, Разорчык нечакана не тое што здагадваецца, а — так бывае толькі ў сне — разумее, што мужчына той — ягоны бацька.

Той, якога Разорчык запомніў, калі бацька прыйшоў з вайны. Гэта ж — ягоны бацька! І як бацька мог сюды трапіць, ён жа даўно памёр?!

А потым, калі постаць бацькі знікае сярод людзей, Разорчык зноў глядзіць на адміністратара. Позірк затрымліваецца на вачах адміністратара — яны з нейкім халаднаватым незямным бляскам. Як дагэтуль ён не прыкмячаў гэтага бляску?

І тут Разорчык здагадваецца. Ён пачынае нешта разумець... Зноў і зноў ён параўноўвае твары і постаці адміністратараў, якія зараз саджаюць разгубленую дзяўчыну, якая, па ўсім відаць, нічога толкам не ўсведамляе. Адміністратары аднолькавыя. Як і тыя, што стаялі ля ўвахода ў будыніну, ля залатой скульптуры, на праходзе... Яны ўсе аднолькавыя, як дзве кроплі вады!..

Каб упэўніцца ў сваёй здагадцы, Разорчык хутка прабіраецца на сцэну, падыходзіць да адміністратара і хапаецца рукою за ягоную чыстую белую руку.

Яна халодная. І ў ёй, самае жахлівае, адчуваецца вялізная нечалавечая сіла.

«Дык яны ж...— хочацца крыкнуць Разорчыку пра сваю здагадку, але, як гэта часта бывае ў сне, ён нічога не можа крыкнуць.— Яны ж даўно ашукалі нас. Мы гэтага нават і не заўважылі...»

І тады ён пачынае бегчы да выхада. Ногі таксама не слухаюць яго. Ён павольна, з цяжкасцю, як у вадзе ўсё роўна, перастаўляе ногі і ўсё хоча крыкнуць, папярэдзіць людзей. І ўжо не думаецца, ці будуць слухаць яго людзі, ці захочацца ім слухаць... І ніяк яму не ўдаецца ні крыкнуць, ні хутчэй бегчы.

— Трымай, трымай яго! Ён здагадаўся! — чуецца ззаду гучны голас адміністратара. Зараз гэты голас ужо зусім другі — нешта жорсткае і нейкае нават металічнае паявілася ў ім. Разорчык усім целам адчувае, што дужая халодная рука вот-вот схопіць яго. І ведае Разорчык: калі тая рука схопіць яго, то ўжо ўсё — ніколі і ніяк яму не вырвацца...

Ён стогне. Яму цяжка і жахліва, як ніколі не было наяве...

Куды, куды бегчы? Паварот за паваротам, і ўсюды — адно і тое ж, адно і тое ж: весялосць, грымучая музыка.

І бацька... Хоць бы бацька быў побач! Але яго няма. Нідзе няма. Ты чуеш, бацька, як нялёгка без цябе тут?

— Андрэй, Андрэй, што з табою? — яго тармосіць спалоханая Люда.— Ты захварэў, ці што? Ты такі дзіўны сягоння.

Разорчык ні слова не гаворыць. Ён увесь мокры. Сэрца бухае ў грудзях, як не выскачыць.

Разорчык маўчыць. Паяўляецца дзіўная думка: а што, калі б Люда не разбудзіла? Няўжо вот так у сне і паміраюць людзі? Калі няма побач блізкага чалавека...

Ён паварочваецца тварам да Люды, гладзіць яе валасы і думае, што мо ў ёй і ягонае збавенне...

У кватэру Лена заходзіць усё такая ж, як і тры месяцы назад: з белым нездарова прыпухлым тварам, з ледзь бачнымі пухлінамі ля вачэй,— толькі зараз, убачыўшы на парозе Лену, Макрыцкі думае, што ў яе, відаць, баліць сэрца. А мо і не сэрца...

І плашч, які Макрыцкі бярэ з рук Лены і вешае на вешалку, і постаць яе, і жэсты — настолькі знаёмыя, што, здаецца, ведаў дагэтуль Лену не адзін вечар, а цэлыя гады сумеснага жыцця.

З Ленаю ў яго некалі было адно з тых незапланаваных знаёмстваў, якія пачынаюцца з пустога нязначнага пытання. Тады ж і бывае той позірк адно на аднаго, проста ў вочы, хуткі і смелы, які амаль што ўсё рашае: быць ці не быць?.. Амаль як у Гамлета... І таму, калі «быць», то ўсё далейшае адбываецца запланавана лёгка, як гульня, якая добра вядома абаім: першы вечар — кіно альбо тэатр, пасля якіх павольная прагулянка па цэнтральным праспекце і размова пра нешта агульнае і добра вядомае — калі не пра работу, то хоць бы пра тыя ж інстытуты, якія, аказваецца, стаяць побач і парадкі ў якіх былі некалі аднолькавыя, другі вечар — кафэ ці рэстаран, зноў размовы, зараз весялейшыя, пра тыя ж адпачынкі на поўдні ці на рыжскім узбярэжжы, часцей за ўсё сюды ўплятаецца на цуд лёгкі танец пад прыемны мікрафонны голас, якім нараспеў апавядаецца пра нечаканую незапланаваную сустрэчу і радасць, тую радасць, якой напаўняецца цела ад мяккага дотыку чужой далоні, ад пачутай усясільнай рэстараннай музыкі, дзе энергічны перастук ударніка падштурхоўвае да рашучасці і смеласці...

Але з Ленаю і гэтага не было, усё з ёю было прасцей, нават без гэтай абавязковай гульні, і таму тады,

у той першы і адзіны вечар, Макрыцкі падумаў, што, магчыма, яна яшчэ ці не навучылася гэтай гульні, ці то проста цяпер, у сучасных дваццацігадовых, нават і трохдзённай гульні няма, яны проста і не задумваюцца ні аб чым...

У тую далёкую доўгую ноч, калі белай незагарэлай рукою Лена брала са століка шклянку з віном, яна, здаецца, зусім не п'янела, а толькі ўсё цішэй і цішэй чуліся яе словы. Бы якая малітва...

— Я восем класаў скончыла і паехала з сяла. У тэхнікуме вучылася, а тады во сюды прыехала. У магазін пайшла рабіць. Дзе гародніну прадаюць. У латку з фанеры. А калі — дык і пад адкрытым небам стаім. Восеннюю асабліва, як бульбу прывязуць ці капусту, дык тады цяжка. Дзень, бывае, як пазалееш — саўсім адубееш, пальцы так заходзяцца, хоць плач. Ды яшчэ і скрынкі гэтыя — к вечару ні рук, ні ног не чуеш. Ведама, дзень на нагах. Ды каб толькі гэта, дык яшчэ мірыцца можна было б. Але ж і пакупнікі розныя бываюць. Капрызныя. Прыйдзе каторы і пачынае пальцам торкаць — гэта дай, гэта — адкладзі. А куды я буду адкладваць? Як быццам я вінаватая, што прывозяць бітае ці мятае. Я раз цярпела, цярпела і не выцерпела. Прывезлі нам яблыкі восенню, не надта чыстыя, але браць можна. Ну, усе людзі і бяруць. Маўчаць. А адзін, знайшоўся мне, кажа, адбярыце лепшыя. Я яму кажу: няма з чаго. А за ім чарга назірае. І я ўжо ведаю, калі адзін пачне выбіраць, то і ўсе астатнія таксама пачнуць, і тут ужо такое пачнецца... Я тады яму і кажу: не выбірайце. А ён: не, буду выбіраць, я маю права, як ты са мной гаворыш. Я тады яму: як ты са мной, так і я з табой. У чарзе засмяяліся, а ён збялеў і ў крык: загадчыцу давайце сюды. Прыбягае загадчыца: што такое, няўжо не можаш з людзьмі па-культурнаму? Ну, тут я ўжо не вытрымала, а тым болей — холад гэты, ведама, дзень на вуліцы, кінула ўсё, заплакала. У чарзе і то загудзелі, але ён усё-ткі скаргу ў кнігу напісаў, і прагрэсіўку з мяне знялі.

Розныя людзі бываюць. Бываюць і добрыя. Але і злых многа. Паглядзіш па адзенні — культурная, здаецца, а як падыдзе да прылаўка, як раскрые рот... А то яшчэ бывае, што выручка не сыходзіцца. Вот, здаецца, правільна ўсё робіш, а ў канцы змены падлічыш — не хапае. І не разбярэшся, у чым вінаватая. Старыя прадаўцы дык неяк умеюць рабіць, у іх усё сыходзіцца, а

ў нас, зялёных... Ды і загадчыца, мусіць, умее круціць. Год як да нас прыйшла, а ўжо і футра паспела купіць, і дываны два, і паліто, і пярсцёнкі на ўсе пальцы. Усе аж дзівяцца. Раз у мяне пяці рублёў не хапіла, раз — сямі... А не хапае — тады свае дакладвай. А зарплаты той усяго сотня. Аванс возьмеш, туды-сюды, вот і жыві. А апошні раз у мяне саўсім вялікая растрата выйшла. У палучку нічога не палучыла. Дык я і кажу загадчыцы: не пайду болей за прылавак. І не пайшла. На расфасоўку пайшла. Там хоць і цяжка са скрынкамі, але ж сама сабе... Не люблю я сварыцца.

А ў інтэрнаце мяне малой завуць. Малая, малая... Асабліва так старыя дзеўкі завуць, каторым год па дваццаць сем. Адзін раз, як я яшчэ толькі ў інтэрнат прыйшла, ніякіх парадкаў не ведаючы, паклала я нешта сваё на стол. Дык яны мне скамандавалі: забяры, каб мы і ў вочы тваё не бачылі. Ну, дык пасля таго я і стараюся ў тым інтэрнаце паменей быць.

...А куды пойдзеш? Гады тры ці чатыры ў гэтым інтэрнаце як пажывеш, дык... У кіно часта ходзім ці на танцы ў парк. Гэта летам. Тады лягчэй неяк. Летам і на пляж сходзіш пазагараць, у валейбол пагуляеш на беразе. Ну, а калі дык і з хлопцамі. Цяпер адчайныя дзеўкі бываюць, баявыя. Прыйдуць з работы, збяруцца, рабіць нечага. Ну, а тады па рублю скінуцца, тут жа хлопцы падыдуць. А чаго здзіўляцца — замуж выйдзеш, тады не пагуляеш. Праўда, і замуж цяпер нялёгка выйсці, каторыя дык ужо і не спадзяюцца. Чым хлопцу браць якую старую, дык ён маладую возьме, каторай год семнаццаць, а не дваццаць пяць.

Ён тады слухаў гэты доўгі маналог і ўсё ніяк чагосьці не мог зразумець — усё было настолькі проста і ясна, што ў гэтай прастаце хацелася знайсці штосьці большае, як заўсёды штосьці большае за праўду хочацца знайсці ў праўдзе... Як быццам у яе маналогу не хапала аднаго ці двух слоў, якія б аб'ядналі ўсё сказанае і высвецілі гэтае сказанае яркім балючым святлом...

А потым Лена сцішылася і заснула,— спала зусім па-дзіцячы, прыадкрыўшы рот, здавалася, што і не дыхала. Тады ён зблізку глядзеў на яе белы тварык, на прыпухлыя вусны, яшчэ нейкія зусім дзіцячыя, і ўсё яшчэ чуў яе словы пра залаты пярсцёнак, які яна спадзявалася купіць за бацькавы грошы, але так і не купіла, бо бацька прадаў кабанчыка і ўсе грошы аддаў

малодшай сястры на вяселле. А ў той цяпер, пажыўшы тры месяцы, мужык выпіваць пачаў, сварацца штодня, разводзіцца думаюць. А яна так і засталася без пярсцёнка, во, купіла за пяць рублёў,— і ўся радасць...

А яшчэ пазней была раніца, і яны пайшлі на работу, ён — сабе, яна — сабе... І доўга Макрыцкаму помнілася яе постаць — у чорным паліто на фоне халоднага белага, з сіняватым адлівам снегу, калі Лена стаяла на супынку аўтобуса, які ўжо каціў да яе ў ранішнім прыцемку.

І вось Лена зноў стаіць у пакоі, усё такая ж простая і безабаронная, як сама праўда,— з прыпухлымі вачыма, позірк якіх крыху запаволены і ад якога Макрыцкаму станавілася чамусьці сорамна.

Быццам быў ён у нечым вінен, толькі вот у чым?

— Ну, Лена, распранайся. Пачнём, як мінулы раз, з вячэры,— Макрыцкі з агідаю адчувае сваю ўсмешку і, беручы з яе рук плашч, усё ўспамінае мінулае і думае, што зараз усё, відаць, будзе па-старому. Ён глядзіць на яе вусны, на гэтую ярка акрэсленую гнуткую лінію — відаць, ёсць людзі, у якіх ад нараджэння, як кляймо якое, бачны на твары пакутлівы выраз, куды б і як чалавека ні закідала, але радасці ён знойдзе мала. І гэты выраз — як папярэджанне. У адных ён праяўляецца ў позірку, а ў другіх, як у той жа Лены, у гнуткай тонкай лініі вуснаў.

...Як ёсць і другія людзі, з вечна шчаслівым і вечна вясёлым выразам на твары.

Так, усё было гэтак жа, як і тым далёкім зімовым вечарам: і тая ж вячэра, і той жа мяккі халадок цела, і ўсё той жа глухаваты роўны голас, так падобны на споведзь:

— А я пасля на танцы з дзяўчатамі ездзіла ў адзін гарадок. Гэта недалёка адсюль. І вот там я з ім пазнаёмілася. Цераз сяброўку пазнаёмілася. Яна з адным хлопцам пазнаёмілася, а той і прывёў яго да мяне. Ён быў нічога хлопец, але выпіваў. Ну, але я цярпела гэта, думала, што ён адумаецца некалі. Мы ўжо былі дагаварыліся распісвацца. Але тая сяброўка яму ў вушы ўвяла, што я дагэтуль сустракалася з другімі хлопцамі. Ну і што, калі я сустракалася? І яна ж сустракалася, але ж я нічога нікому не гаварыла. І я была ўжо да яго дамоў ездзіла, з ягонымі бацькамі пазнаёмілася. Я раз прыехала, а яго дома не аказалася. А перад гэтым мы былі

дагаварыліся сустрэцца. Ну, бацькі ягоныя і кажуць: ты пасядзі, пачакай яго. Я чакала, чакала яго, а тады пайшла назад. Я іду па дарозе, а ён з хлопцамі насустрач ідзе. Ідзе і гаворыць, каб хлопцы чулі: а, ты такая-сякая, мне Віцька гаварыў пра цябе такое, я табе зараз як дам... І бачу я, што ён — п'яны, што заўтра ён, можа, і пашкадуе пра ўсё. І хлопцы рагочуць. А я ўжо ведаю, яму не трэба нічога гаварыць, а то яшчэ горай будзе. Ён тады падыходзіць да мяне і кажа: «Ідзі, каб я цябе тут у гарадку больш ніколі не сустракаў». Я маўчу. Ён тады: ладна, ідзі сабе дарогаю. Я і пайшла, слёзы глытаючы. А ён так і да сённяшняга дня не ведае, што я ўжо цяжарная ад яго.

Заняты сабою, так нічога ў Лене не зразумеўшы, Макрыцкі спрабуе ўставіць сваё слова:

— Табе, можа, доктар трэба? У мяне на рабоце Раман Барысавіч ёсць, у яго — паўгорада знаёмых, па любому пытанню. Я перагавару з ім, калі трэба.

І зноў Лена вучыць яго жыццю, усё гэтак жа роўна і ціха, бы малітву чытае:

— Я нікуды ісці не збіраюся. Яно ў мяне жыць будзе. Я цяпер пайду ў бальніцу, а пасля ў мяне саўсім можа дзяцей не быць. У многіх дзевак так бывае цяперака. У маладосці ў бальніцах пабываюць, а пасля, як замуж выйдуць, дык дзяцей і няма шака. У нашым інтэрнаце цяпер тыя дзеўкі, каторыя ведаюць, што замуж не выйдуць — ну, каторым ужо год пад трыццаць,— дык яны знарок дзяцей заводзяць. Хоць ад каго. І жывуць пасля. Вялікія ўжо дзеці па калідоры бегаюць. Мы іх завём бязбацькавічамі. Чым адной старасць сустракаць, дык хай хоць жывое дзіця побач будзе. Навошта ў тую бальніцу ісці, сябе і дзіця калечыць?..

І зусім нечакана пачынае звонка-звонка ціктакаць гадзіннік на стале, якога дагэтуль Макрыцкі не чуў, зноў бачыцца ў акне поўня, усё такая ж, як і мінулай ноччу,— яе нізкае масляна-жоўтае святло ліецца зараз на чорныя заасфальтаваныя вуліцы з доўгімі бліскучымі ніткамі трамвайных рэек, паабапал якіх высяцца шэрыя маўклівыя будыніны са шматлікімі вокнамі, якія цяпер у цемры нагадваюць Леніны вочы, святло поўні ліецца зараз і на кафэ, і на магазіны, і на дахі кінатэатраў, на вялізныя шматгектарныя тэрыторыі заводаў і фабрык. Святло поўні ліецца і на той жа невялічкі луг у парку, дзе недалёка стаяць сосны з прысохлымі вяр-

шынямі і дзе асобнай купаю застылі маўклівымі зданямі замежныя атракцыёны, на цяпер пустыя плошчы з помнікамі,— святло бязгучна ліецца на ўсё гэта, што зараз, без машын і людзей, застыла і стала незразумелым: навошта гэта ўсё, дзеля чаго?

І толькі цвярозае веданне, што праз якія гадзіны ўсё гэта, зараз маўклівае і непарушнае, напоўніцца гулам машын, рухомымі людзьмі, хавала гэтыя пытанні, як быццам у гэтым шуме, гуле і руху машын і быў свой найвышэйшы сэнс, дзеля якога людзі сюды і сабраліся і таму такім прыцягальна-салодкім было гэтае маўкліва-непарушнае, што раскінулася на зямлі на многія-многія вёрсты і малюнак чаго некалі Макрыцкі бачыў: з вуліц, плошчаў, рачных каналаў і сквераў вырысоўваўся чалавечы твар.

Гэткі ж пакутліва прыцягальны, як і любы чалавечы твар.

*І яшчэ адзін дзень закончыўся.*

*Зараз над ціхай цёмнай зямлёю, дзе здаля і зблізку адзін ад аднаго, свецячы зыркімі агнямі, былі раскіданы гарады,— ля берагоў рэк, сярод цёмных лясоў, у бязмежных стэпах,— зараз над зямлёю ўсё ярчэй і ярчэй загараліся мігатлівымі агнямі недасягальныя зоркі. Вялізнай бязмежнай сфераю ахоплівалі зоркі ўсё гэта, што непарушна ляжала на зямлі, і, мабыць, адтуль, з той зорнай вышыні, усё гэта, што было зроблена на зямлі, выглядала зусім не так і ўспрымалася зусім не так, як успрымаецца чалавекам навакольны свет на той жа незаасфальтаванай лясной дарозе ці ў адным з тых шматлікіх мнагалюдных гарадоў, што сваімі яркімі бліскучымі агнямі назусім засланялі ад вачэй святло зор.*

*І ўсё ж як бы там ні было, але ты глядзіш на зоркі не адтуль, зверху, а адгэтуль, з зямлі, і тады, калі доўга глядзіш на іх, адчуваеш, што гэтыя зоркі, як нечыя пільныя вочы прымушаюць думаць не толькі пра тое, чым заняты сярод белага дня, а і пра нешта большае, што, мусіць, ва ўсе часы прымушала чалавека адкладваць убок звыклы занятак і пільна глядзець угору, у той недасяжны, незразумела загадкавы свет, што так прыцягальна цягне да сябе і без якога — ты гэта нечакана пачынаеш адчуваць — ніяк не можаш абысціся.*

*...Як без дабра, надзеі і спачування.*

Гігевіч В.

Г 46 Доказ ад процілеглага: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 199 с.

У пер.: 1 р. 10 к.

Раман, які даў назву кнізе, прысвечаны станаўленню духоўнага свету нашага сучасніка. У цэнтры ўвагі пісьменніка толькі адзін дзень з жыцця калектыву лабараторыі. В. Гігевіч гаворыць пра тыя пытанні, якія ўстаюць сёння перад гараджанінам, аб яго адносінах да свайго чалавечага абавязку перад грамадствам і блізкімі людзьмі.

Г $\frac{4702120200-118}{М 302(05)-85}$ 8—85 ББК 84Бел7 Бел2

*Василий Семенович*

ГИГЕВИЧ

**ДОКАЗАТЕЛЬСТВО ОТ ПРОТИВОПОЛОЖНОГО**

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Е. А. Пяршай
Мастак М. С. Будавей
Мастацкі рэдактар М. Я. Янчук
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар А. Т. Глушчанка

ІБ № 2087

Здадзена ў набор 23.10.84. Падп. да друку 25.06.85. АТ 12240. Фармат 84×100 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 9,75. Ум. фарб.-адб. 9,75. Ул.-выд. арк. 11,06. Тыраж 11 000 экз. Зак. 835. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.